АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСКАЙ ССР
ІНСТЫТУТ МАСТАЦТВАЗНАЎСТВА, ЭТНАГРАФІІ І ФАЛЬКЛОРУ

# ЖАРТЫ, АНЕКДОТЫ, ГУМАРЭСКІ



МІНСК
«НАВУКА І ТЭХНІКА»
1984

ББК 82.3 Бел.-6
Ж 34

Рэдакцыйная калегія:

**В. К. Бандарчык, М. Я. Грынблат, К. П. Кабашнікаў, А. С. Фядосік**

Рэдактар

**В. К. Бандарчык**

Складальнік

**А. С. Фядосік**

уступны артыкул **А. С. Фядосіка,**
каментарыі **Л. Р. Барага** і **А. С. Фядосіка**

У сістэматызацыі твораў і падрыхтоўцы тэкстаў да друку
прымала ўдзел **Г. А. Пятроўская**

**Ж $\frac{4702120100—071}{М316—84}$ 131—84**

# ПРАЗАІЧНЫЯ САТЫРЫКА-ГУМАРЫСТЫЧНЫЯ ЖАНРЫ МАЛОЙ ФОРМЫ

З празаічных гумарыстычных жанраў малой формы найбольшую папулярнасць у народзе атрымалі анекдоты, жарты, гумарэскі, або досціпы — жанры вуснай народнай прозы, якія ўзніклі амаль адначасова з сацыяльна-бытавымі казкамі, развіваліся ў цеснай сувязі з імі, але ў адрозненне ад апошніх больш актыўна бытуюць і зараз. Анекдот (фабліо, шванк, фацэцыі — у Заходняй Еўропе, лаціфэ — у Таджыкістане, Азербайджане і інш.) атрымаў шырокае распаўсюджанне ва ўсіх народаў свету.

Назва «анекдот» паходзіць ад грэчаскага слова ἀνέκδοτος (anekdotos), што абазначае — неапублікаваны. Змест гэтага тэрміна з часам змяняўся: да палавіны XIX ст. пад анекдотам разумелі кароткае камічнае апавяданне пра смешны выпадак з жыцця вядомага гістарычнага дзеяча. Пазней значэнне тэрміна пашырылася — анекдотам сталі называць невялікае вуснае апавяданне жартоўнага характару.

Дакладныя крытэрыі вылучэння сатырычна-гумарыстычных жанраў малой формы з народна-паэтычнай прозы не выпрацаваны. Некаторыя фалькларысты лічылі немагчымым размежаванне гэтых жанраў з казкамі (асабліва бытавымі, сатырычнымі), іншыя ж змешвалі іх з бытавымі казкамі. Вядомы савецкі фалькларыст У. Я. Проп лічыў, што межы паміж бытавымі казкамі і анекдотамі не вызначаюцца [1]. Да іншага вываду прыйшоў сучасны савецкі этнограф і фалькларыст К. В. Чыстоў, які адзначаў, што «небыліцы і анекдоты, з аднаго боку, і казкі і прытчы — з другога,— заўсёды самастойныя мастацкія сістэмы» [2]. М. П. Андрэеў у паказальніку казачных сюжэтаў па сістэме А. Аарнэ аднёс да анекдотаў і шмат казачных сюжэтных тыпаў, у выніку чаго занадта пашырыў рамкі гэтага жанру, не ўлічыў магчымасці бытавання на адзін і той жа сюжэт і казак, і твораў сатырычна-гумарыстычных жанраў малой формы. У артыкуле «Сацыяльна-класавыя матывы ў анекдоце» ён правільна заўважыў, што анекдот ігнаруецца даследчыкамі і ў савецкі час: «Анекдот — пасынак рускай фалькларыстыкі, як частушка — падчарыца» [3]. Між тым анекдоты характарызуюцца велізарным багаццем адлюстравання разнастайных сацыяльных з'яў. Андрэеў слушна адзначаў, што ў творах гэтага жанру значна вастрэй пра-

[1] Пропп В. Жанровый состав русского фольклора.— Русская литература, 1964, № 4, с. 58—60.

[2] Чистов К. В. К вопросу о принципах классификации жанров устной народной прозы.— М., 1964, с. 6.

[3] Рукапісны аддзел Дзяржаўнага літаратурнага музея Грузінскай ССР імя Г. Леанідзе, № 21118, л. 1.

яўляецца своеасаблівасць нацыянальнага і мясцовага матэрыялу, чым, напрыклад, у чарадзейных казках. Ён падкрэсліў, што «характар анекдота дазваляе паставіць у адносінах да яго пытанне пра класавую накіраванасць яго больш акрэслена, чым, магчыма, у адносінах чарадзейных казак або казак пра жывёл» [4].

Вывучэнню сатырычна-гумарыстычных жанраў фальклору на самай справе не надавалася належнай увагі. Апрача артыкулаў А. Пельтцара, М. Сумцова, У. Сідзельнікава і А. Амбайніса [5] не было ніводнай спецыяльнай працы, прысвечанай даследаванню гэтых жанраў.

М. П. Андрэеў упершыню ў фалькларыстыцы адзначаў адлюстраванне ў анекдотах класавай барацьбы. А. Пельтцар жа сцвярджаў процілеглае: «Як расказчык, так і слухач не звярталі ўвагі на маральны бок анекдота, калі такі і заключаўся ў ім. Жарт прымаўся за жарт, не мог наводзіць слухача на сур'ёзны роздум і ў такім выглядзе быў пазбаўлены маралі, якая так або інакш праяўлялася ў казцы. Не іграла ніякай ролі таксама і амаральнасць, якая часта сустракаецца ў саміх матывах і ў большай або ў меншай ступені адпавядае прастаце народных прывычак і манеры выказвання. Народ не саромеўся ні слоў, ні выразаў, калі прадмет, аб якім ён гаварыў, мог узбуджаць яго цікавасць» [6].

Нельга пагадзіцца са сцверджаннем Пельтцара, што змест анекдотаў не выклікаў роздуму. Анекдоты з сацыяльнымі матывамі раскрывалі класавую няроўнасць, якая панавала ў дарэвалюцыйным грамадстве, абуджалі пратэст супраць несправядлівасці і прыгнёту.

Разам з тым Пельтцар правільна адзначаў, што ў анекдотах адкрыта гаворыцца аб крадзяжах, ашуканстве і да т. п. Крадзеж адабраецца. Але ж не ўсякі крадзеж у народных творах ухваляецца. Адабраецца толькі крадзеж у эксплуататараў, якія нажываюць багацце за кошт эксплуатацыі працоўных, вядуць паразітычны спосаб жыцця.

А. Пельтцар не згаджаўся таксама з думкай аб наяўнасці сатырычнай крытыкі ў гэтым жанры: «Што датычыцца сатырычнага элемента, то ў большасці народных анекдотаў яго няма, а калі ён і праяўляецца дзе-небудзь, то праяўляецца ў вельмі слабай форме, хаваючыся за чыста забаўны бок апавядання» [7]. Але не слабасць, а сіла анекдота якраз і заключаецца ў тым, што яго сатырычная накіраванасць мае нярэдка скрыты ў падтэксце характар. «Забаўнасць»

[4] Рукапісны аддзел Дзяржаўнага літаратурнага музея Грузінскай ССР імя Г. Леанідзе, № 21118, л. 1.

[5] Пельтцер А. Происхождение анекдота в русской народной словесности.— У кн.: Сборник Харьковского историко-филологического общества. Харьков, 1899, т. 11, с. 57—117; Сумцов Н. Ф. Анекдоты о глупцах.— У кн.: Сборник Харьковского историко-филологического общества, т. 11, с. 118—315; Сидельников В. М. Идейно-художественная специфика русского народного анекдота.—У кн.: Труды Университета Дружбы народов им. Патриса Лумумбы. Вопросы литературоведения. М., 1964, т. 4, вып. 1, с. 27—50; Амбайнис О. Народный анекдот в латышском фольклоре.— У кн.: Латышские народные анекдоты / Сост. К. Арайс. Рига, 1963, с. 5—20.

[6] Пельтцер А. Происхождение анекдота в русской народной словесности, с. 65.

[7] Там жа, с. 68.

анекдота садзейнічае павышэнню цікавасці да яго зместу, узмацненню смеху, а праз смех — і вастрыні сатыры.

Не распрацавана яшчэ і навуковая сістэматызацыя анекдотаў, жартаў, гумарэсак. Адзначыўшы недасканаласць падзелу анекдотаў на пэўныя групы ў каталогу А. Аарнэ з пункту погляду фармальналагічнай паслядоўнасці і ахопу ўсяго матэрыялу, М. П. Андрэеў выказаў слушныя думкі пра класіфікацыю анекдотаў па знешнежанравай прыкмеце. Ён падзяліў іх на фабульныя і бясфабульныя і сістэматызаваў па адпаведных тэматычных групах. Класіфікацыя і сістэматызацыя Андрэева значна паўней і больш дакладна ахопліваюць велізарную колькасць разнастайных па зместу і форме анекдотаў. У гэтым падзеле пераадолены адзін з важнейшых недахопаў сістэмы Аарнэ — ігнараванне сацыяльнага зместу анекдотаў. М. П. Андрэеў меў рацыю, калі адзначаў, што сістэма А. Аарнэ «амаль зусім (за выключэннем, магчыма, анекдотаў пра папоў) не раскрывае (калі не сказаць хавае) іменна сацыяльна-класавыя элементы ў анекдотах» [8]. Аднак і новая сістэматызацыя анекдотаў М. П. Андрэева мае недахопы: яна не ахоплівае ўвесь матэрыял (невядома, напрыклад, куды аднесці анекдоты, у якіх высмейваюцца людскія заганы — прагнасць, п'янства, гультайства і інш.), у ёй не зусім дакладна вызначаюцца групы анекдотаў.

У сучасным значэнні тэрміна анекдот як жанр блізкі да сатырычнай сацыяльна-бытавой казкі і не заўсёды яго лёгка адрозніць ад яе. Спрабавалі вызначыць анекдот як жанр і адрозніць яго ад казкі Ган, Пельтцар, Саўчанка [9]. Але яны акцэнтоўвалі ўвагу галоўным чынам на неспецыфічных і не на самых важных рысах гэтага жанру. Ган, напрыклад, імкнуўся адрозніць казку ад анекдота па тым, што ў ёй нібы «камічны элемент не адыгрывае ніякай ролі, а ў анекдоце галоўнае месца займае гумар» [10]. Камічнае арганічна ўваходзіць у гэтыя жанры. Функцыя анекдота — насмяшыць — не з'яўляецца спецыфічнай, таму што яе могуць выконваць і творы іншых жанраў. Азначэнне анекдота, дадзенае А. Пельтцарам, не вылучае яго з празаічных фальклорных жанраў: на яго думку, анекдот — «гэта кароткае апавяданне пра выдуманую і сапраўдную падзею або апавяданне большай часткай гумарыстычнае, звычайна без прымесі маралі» [11].

Адной з асаблівасцей анекдота, якая адрознівае яго ад казкі, даследчык лічыць адсутнасць «фантастычнага элемента». Сапраўды, у большасці анекдотаў няма фантастыкі, аднак наяўнасць яе не выключаецца. Таму гэту асаблівасць нельга лічыць адным з важнейшых адрозненняў анекдота. Наяўнасць у некаторых анекдотах фантастычных элементаў не перашкаджае праўдзівасці адлюстравання рэчаіснасці. Можна поўнасцю згадзіцца з Пельтцарам, што ў анекдоце «ўсё жыццёвае і праўдзівае; ён не адхіляецца ад рэчаіснасці. Мы заўсёды адчуваем пад нагамі цвёрдую глебу, цвёрды грунт, пэўны факт, жыццёвы і рэльефны, падхоплены народным гумарам. Праўда, у большасці анекдотаў ёсць пера-

---

8 Рукапісны аддзел Дзяржаўнага літаратурнага музея Грузінскай ССР імя Г. Леанідзе, № 21118, л. 2.

9 Савченко С. В. Русская народная сказка: История собирания и изучения.— Киев, 1914, с. 13.

10 Там жа.

11 Пельтцер А. Происхождение анекдота в русской народной словесности, с. 70.

большанне, але яно ніколькі не перашкаджае жыццёвай праўдзівасці, таму што, грунтуючыся галоўным чынам на выяўленні і вылучэнні смешных бакоў жыцця, анекдот не мог не надаць ім вялікай яркасці, а часам не быў здольны ўстрымацца ад карыкатуры. Павольнасць, спакой, а адсюль расцягнутасць характарызуюць казку; трапнасць выразаў, жывасць і сціпласць адрозніваюць анекдот» [12].

Аднак з многіх правільных пасылак Пельтцар робіць недакладны вывад, у якім няма галоўных прыкмет анекдота: «Сфера казкі канчаецца там, дзе канчаецца фантастычны і маральна-павучальны элемент, а народны анекдот ахоплівае тыя апавяданні, якія адрозніваюцца пераважна гумарыстычным, забаўным характарам» [13]. Маральнае павучанне вынікае з усяго зместу анекдота. Што датычыцца гумарыстычнага і забаўнага характару, дык гэта асаблівасць уласціва і шмат якім казкам — не толькі сацыяльна-бытавым, але і чарадзейным, і казкам пра жывёл.

У. М. Сідзельнікаў вызначыў анекдот як займальнае апавяданне, часцей за ўсё з рэзкай крытычнай накіраванасцю. Разнавіднасцямі анекдота ён лічыў «шчыпкі» — асобы цыкл з малюнкамі, пахабную баечку, сатырычную мініяцюру на палітычныя тэмы, сатырычную (анекдатычную) навелу. Адзначыўшы разнастайнасць анекдота па кампазіцыйных паэтычных асаблівасцях, Сідзельнікаў заўважыў, што часцей за ўсё ён сустракаецца ў выглядзе вострых жартаў, гумарэсак і сентэнцый на ўсякія бытавыя тэмы [14]. Але жарты і гумарэскі маюць і свае асаблівасці, якія даюць права на вылучэнне іх у асобныя жанры.

А. Амбайніс прызнаў, што «сэнсавая накіраванасць народных анекдотаў, бытавых казак і сказаў аднолькавая: крытыка адмоўнага ў жыцці. Калі ж гэта ў гумарыстычным або сатырычным адлюстраванні з'яўляецца ядром расказвання, твор трэба адносіць да жанру анекдота, нягледзячы на тое, што мастацкая форма часта зблізкае яго з бытавой казкай або сказам» [15]. Такое азначэнне анекдота не дазваляе акрэслена вызначыць гэтыя вельмі блізкія па зместу і паэтыцы жанры. Даследчык недастаткова ўвагі звяртае на структуру твораў. Недакладным з'яўляецца і такое азначэнне: «Анекдоты — гэта невялікія па аб'ёму празаічныя творы народнай творчасці, асноўныя рысы якіх — дасціпнасць, баявая непрымірымасць да адмоўнага ў грамадскім жыцці або ў паводзінах асобных людзей» [16]. Змест анекдота значна шырэйшы і больш разнастайны.

Некаторыя даследчыкі, зыходзячы з нацыянальнай спецыфікі фальклору асобных народаў, вылучаюць сюжэтныя і несюжэтныя анекдоты. Г. Карапецян, напрыклад, да сюжэтных анекдотаў адносіць творы, у якіх адлюстроўваюцца «рэальныя падзеі і факты гістарычнага, сацыяльна-эканамічнага і духоўнага жыцця армянскага народа, яго побыту, звычаяў, нораваў і вераванняў» [17].

---

[12] Пельтцер А. Происхождение анекдота в русской народной словесности, с. 65.
[13] Там жа.
[14] Сидельников В. М. Идейно-художественная специфика русского народного анекдота, с. 27—34.
[15] Амбайнис О. Народный анекдот в латышском фольклоре, с. 9—10.
[16] Там жа, с. 9.
[17] Армянский фольклор / Сост. и пер. с арм. Г. О. Карапетян.— М., 1979, с. 11—16.

Польская даследчыца Д. Сіманідас называе народны гумар спантаннай, стыхійнай і бескантрольнай часткай вуснай творчасці. Пры ўсёй разнастайнасці жанраў — ад самых кароткіх прыказак і загадак да аб'ёмістых казак і апавяданняў — яна вызначае як найбольш папулярныя, найчасцей ужывальныя «кавалы» (жарты), фацэцыі, анекдоты, гумарэскі, досціпы, дыктарыйкі (забаўныя гісторыі). Адсутнасць адзінага выпрацаванага тэрміна даследчыца лічыць не выпадковай: камічныя апавяданні не знаходзілі належнага месца ў фалькларыстыцы і ў збіральнікаў, і ў даследчыкаў народнай творчасці. Такія адносіны да гэтага папулярнага жанру фальклору Сіманідас называе дзіўным парадоксам [18].

Вывад Д. Сіманідас супадае з вывадам М. П. Андрэева, заснаваным на назіраннях у рускім і ўкраінскім фальклоры, аб чым упаміналася вышэй, і поўнасцю пацвярджаецца ў беларускай навуцы аб вуснай народнай творчасці. І да сённяшняга часу збіранне, публікацыя і вывучэнне сатырыка-гумарыстычных жанраў малых форм не занялі належнага месца ў беларускай фалькларыстыцы. Няма ніводнага грунтоўнага зборніка народных анекдотаў, жартаў і гумарэсак. Адсутнічаюць і манаграфічныя даследаванні, спецыяльна прысвечаныя гэтым жанрам.

Д. Сіманідас шмат увагі ўдзяляе сістэматызацыі і зместу анекдотаў, але не дае акрэсленага азначэння жанру.

Размяжоўваючы жанры анекдота і бытавой казкі, рускія, беларускія і ўкраінскія фалькларысты ў пасляваенныя гады вызначаюць анекдот як мастацкі твор з нескладанай структурай, сатырыка-гумарыстычным характарам зместу, крытычнай накіраванасцю.

Важнейшымі спецыфічнымі рысамі анекдота з'яўляюцца яго аднаэпізоднасць і нечаканасць развязкі, якая заўсёды бывае камічнай і дасціпнай. Гэта і неабходна перш за ўсё адлюстраваць у азначэнні. Анекдот — гэта невялікае, аднаэпізоднае апавяданне пра незвычайную смешную падзею, сітуацыю, рысу характару чалавека ці ўчынак, якое мае дасціпную неспадзяваную камічную развязку. Для анекдота характэрна непрымірымасць да ўсяго адмоўнага і заганнага ў жыцці, «аператыўнасць» і актуальнасць.

Анекдоты, жарты і досціпы ўзніклі ў выніку імкнення народа па-мастацку асэнсаваць асобныя з'явы рэчаіснасці, паводзіны і ўчынкі людзей, высмеяць адмоўнае ў жыцці. Крыніцай многіх твораў гэтых жанраў былі казкі, прыказкі, народныя афарызмы. Некаторыя казачныя матывы і асобныя эпізоды перапрацоўваліся ў анекдоты, калі яны былі цесна звязаны з рэчаіснасцю і цікавілі грамадскасць. Прыказкі і афарызмы разгортваліся ў дыялогі, у большыя па аб'ёму творы, асноўны сэнс якіх зводзіўся да першапачатковага выразу.

На першы погляд няхітрыя і нескладаныя па структуры анекдоты і жарты заключаюць у сабе дасціпныя сацыяльныя абагульненні, нярэдка акумулююць сатырыка-гумарыстычны зарад вялікай крытычнай сілы. Працэс стварэння анекдотаў загадкавы. В. Сухарэвіч піша: «Гэта толькі на першы погляд гумар — занятак лёгкі і вясёлы. Але я пытаў вялікае мноства самых таленавітых і сла-

---

[18] Księga humoru ludowego. Pod redakcja naukowa D. Simonides.— Warszawa, 1981, c. 5—6.

вутых гумарыстаў-прафесіяналаў, і яны мне ў адзін голас сказалі, што ніхто з іх і ніколі ніводнага анекдота прыдумаць не мог — анекдот павінен здарыцца. Акалічнасці жыцця (падкрэсліваю — жыцця знаёмага, усімі пазнаванага) павінны павярнуцца так нечакана і недарэчна, што гэта міжвольна выклікае смех. Значыць, нават самы малакаліберны твор гумару — анекдот — цуд. Ён заўсёды і абавязкова — нечаканае вынаходніцтва і раптоўнае адкрыццё» [19].

Талент народа-мастака асабліва ярка раскрываецца ў трапнай абмалёўцы ўсяго некалькімі штрыхамі камічных вобразаў і паказе сітуацый, у якія трапляюць персанажы. У анекдотах выяўляецца тонкае валоданне народам-творцам пачуццём гумару, што сведчыць аб яго надзвычай развітым інтэлекце, кемлівасці і дасціпнасці. Праяўленне творчых магчымасцей народа ў анекдоце невычэрпнае. Самыя тонкія нюансы гумару, якія адлюстроўваюцца ў народных анекдотах, багатая мастацкая вобразная сістэма — сведчанне бязмежных мастацкіх здольнасцей народа.

Блізкі да анекдота жарт, асновай якога з'яўляецца апавяданне пра смешнае здарэнне, дасціпная насмешка. У параўнанні з анекдотам, які крытыкуе і сацыяльна-палітычныя з'явы, жарт звычайна незласліва высмейвае бытавыя здарэнні, паасобныя, малаістотныя, але смешныя рысы або якасці людзей, іх дзіўныя ўчынкі, размовы. Як і для анекдота, для жарту характэрна аднаэпізоднасць дзеяння, нечаканасць выніку. Найбольш папулярная форма жарту дыялагічная. У кароткім дасціпным дыялогу выяўляецца асноўны ідэйны сэнс твора, накіраванасць яго насмешкі.

Добразычлівым характарам смеху вызначаецца і гумарэска, або досціп — таксама невялікі апавядальны твор, у якім трапна высмейваюцца прыватныя з'явы, паводзіны людзей. Для гумарэскі неабавязковыя нечаканы камічны вынік, аднаэпізоднасць.

Жанравыя межы паміж анекдотам, жартам, гумарэскай, або досціпам, невыразныя, таму ў даным томе творы гэтых жанраў і не вылучаюцца асобна.

Нягледзячы на шырокую распаўсюджанасць анекдотаў, іх збіранню і вывучэнню не надавалася належнай увагі, асабліва ў дарэвалюцыйны час. Упершыню найбольшую колькасць сатырыка-гумарыстычных твораў малых форм апублікаваў у 1887 г. Е. Р. Раманаў у трэцім выпуску «Беларускага зборніка». У прадмове да гэтага выпуску Е. Р. Раманаў ахарактарызаваў казачнікаў і паказаў іх адносіны да фальклору. Сярод іх былі і такія, якіх радавала сустрэча з фалькларыстам: «І яны спяшаліся перадаць мне свае лепшыя казкі, як бы жадаючы ўвекавечыць іх. Яны зведалі нейкую, не скрытую і ад мяне, радасць з выпадку таго, што іх «старадаўная» казка нарэшце выслухана «дастойным» чалавекам. Па іх заяве, сучасная моладзь адвяргае «старыя» казкі (міфічныя, зразумела), высмейвае іх і, ва ўсякім выпадку, няздольна ацаніць належным чынам перлы беларускай паэзіі, задавольваецца дробнымі, «смешнымі» (г. зн. гумар, і сатырыч. )казкамі» [20],— пісаў Раманаў.

Магчыма, Раманаў вышэй цаніў чарадзейныя казкі, таму што іх запісана і апублікавана ім найбольш. Анекдоты, жарты і гумарэскі ён змясціў пад зага-

[19] Сухаревич В. А юмор у вас есть?— Литературная газета, 1983, 19 янв., с. 3.
[20] Романов Е. Р. Белорусский сборник.— Витебск, 1887, вып. 3, с. 11.

лоўкам «Дробязі» (уключыў сюды таксама і дакучныя казкі; з 41 твора, змешчанага ў гэтым раздзеле, большасць адносіцца да анекдотаў, жартаў і гумарэсак). Раманаў адзначаў, што твораў, падобных апублікаваным, у Магілёўскай губерні мноства. «Яны перадаюцца і вусна і пісьмова. Нам даводзілася бачыць запісы іх і на пераплётах старажытных кніг, і ў сшытках, і на асобных лістах тоўстай, сіняй паперы: почырк часткова стары, прамы. Усе больш або менш сатырычнага зместу, часам кашчуннага» [21],— пісаў ён. Аднак сярод апублікаваных Раманавым твораў мала з вострым сацыяльным зместам. Большасць анекдотаў, жартаў і гумарэсак высмейвае прыватныя з'явы. Выключэнне складаюць тры анекдоты, два з якіх высмейваюць скупасць дзяка і яго няўмелыя спевы ў царкве, і адзін — пана, з якога з'едліва кпіць селянін, прыкінуўшыся бязглуздым.

19 анекдотаў змясціў Е. Р. Раманаў у адрэгаваным ім зборніку матэрыялаў па этнаграфіі Гродзенскай губерні [22]. Галоўным героем рада змешчаных Раманавым твораў выступаў спрытны салдат, які ашукваў някемлівую бабку. У іншых жартах і анекдотах высмейваліся пыхлівая ганарыстасць, хцівасць, п'янства, гультайства.

Некалькі руска-беларускіх жартаў і гумарэсак надрукаваў У. М. Дабравольскі [23]. Але ён не вылучаў іх асобна, а змясціў разам з казкамі («Яраст Яраставіч і Хвораст Хвораставіч» — дыялог тыпу: «Худа, да не дужа», «Калядны госць», «Хлеб-соль!..», «Хімя — дрэнна імя», «Розвісня», «Як поп цяліўся» і інш.). Амаль усе жарты і гумарэскі Дабравольскага адлюстроўваюць нязначныя падзеі і прасякнуты дабрадушным гумарам. І толькі некалькі анекдотаў, напрыклад «Мужык з пана пажартаваў», «Як пан казлом зрабіўся», «Як поп цяліўся», маюць сатырычны сэнс. У апошнім з іх гучыць з'едлівы смех з дурасці духоўнага пастыра. У камічным плане паказваюцца і гаспадары хаты, дзе начаваў і «цяліўся» поп.

У недарэчнае становішча трапляе і пан. Селянін дасціпна смяецца з яго дурасці. Пан сам папрасіў мужыка пажартаваць з яго. Хітры мужык адразу ж зразумеў бязмежную прагнасць пана і сказаў: «Прываліла рыбка к гаці — некаму цягаці». Пан пайшоў да гаці, а там «рыбкі ніводнай нету»: мужык пажартаваў («Мужык з пана пажартаваў» [24]).

Шмат беларускіх анекдотаў апублікаваў П. В. Шэйн у другім томе «Матэрыялаў для вывучэння быту і мовы насельніцтва Паўночна-Заходняга краю» (1893). Тут 39 анекдотаў, многія з іх маюць ярка выражаны сацыяльны характар, выкрываюць падхалімства, папоўскую дурасць, ашуканства ксяндзоў, адлюстроўваюць мудрасць, хітрасць і кемлівасць сялян, іх крытычнае стаўленне да пропаведзяў царкоўнікаў, рэлігійных цудаў, да вучэння аб адзінстве бога ў трох асобах і інш. Асобна вылучаны анекдоты пра хітрых салдат, а таксама пра цыганоў і іншых «інародцаў».

---

[21] Романов Е. Р. Белорусский сборник, вып. 3, с. 435.
[22] Материалы по этнографии Гродненской губернии.— Вильна, 1912, вып. 2, с. 379—383.
[23] Добровольский В. М. Смоленский этнографический сборник.— СПб, 1891, ч. 1, с. 658—713.
[24] Там жа, с. 707, № 18.

Самым багатым зборам сатырыка-гумарыстычных твораў беларускага народа да гэтага часу з'яўляецца трэці том «Люду беларускага...» М. Федароўскага [25]. Анекдоты, жарты і досціпы размеркаваны ім па тэматычнаму прынцыпу. Сярод іх нямала пра паноў, папоў, ксяндзоў, пра адносіны паміж імі і сялянамі. Значнае месца займаюць творы пра палешукоў, мазураў, цыганоў, немцаў, яўрэяў. Характэрнай асаблівасцю многіх анекдотаў з'яўляецца іх вострая сацыяльная накіраванасць. Просты селянін трапна высмейвае пана, папа, ксяндза, часам ашуквае іх: вучыць каня гаварыць, атрымлівае дазвол ксяндза есці ў пост скаромнае. Гучыць нярэдка насмешка і з царкоўнага набажэнства, напрыклад, калі ў час пропаведзі поп перагаворваецца з палюбоўніцай і дзякам; выкрываецца махлярства ксяндзоў у стварэнні цудаў. Героямі некаторых анекдотаў з'яўляюцца вядомыя гістарычныя асобы: Касцюшка, Радзівіл і інш. Нямала ў зборніку Федароўскага твораў фрывольнага зместу.

Некалькі дзесяткаў гумарэсак і анекдотаў змясціў у зборніках фальклорна-этнаграфічных матэрыялаў А. К. Сержпутоўскі. Большая частка іх прысвечана маральна-этычным тэмам і мае дыдактычны сэнс («Кузьма», «Няхай», «Тое, да не тое»). У радзе твораў высмейваецца паразітызм і дурасць паноў («Што майстар, то злодзей» і інш.). Многія творы, запісаныя Сержпутоўскім, не маюць выразных жанравых рысаў, іх можна аднесці і да сатырычна-гумарыстычных жанраў малых форм, і да апавяданняў. Галоўная прычына гэтага — актыўнае бытаванне іх у перыяд імперыялізму, калі значна ўзмацніўся ўплыў мастацкай літаратуры на фальклор. Працэс пераходу твораў з аднаго жанру ў другі пачаўся значна раней. Яшчэ ў запісах М. Федароўскага, Е. Р. Раманава, У. М. Дабравольскага, Ю. Ф. Крачкоўскага шмат якія этыялагічныя і апакрыфічныя легенды страцілі свае жанравыя рысы і сталі анекдотамі. Гумар і сатыра ў іх пераважаюць.

Упершыню асобным выданнем сатырыка-гумарыстычныя творы малых форм былі выдадзены ў 1915 г. У гэтым жа годзе ў Мінску выйшла невялічкая кніжачка «Беларускія жарты», апублікаваная ў якасці дадатку да беларускіх выданняў.

Шмат анекдотаў і жартаў друкавалася ў газеце «Наша ніва», штогодніх беларускіх календарах, якія выдаваліся ў Вільні ў дакастрычніцкі час. Не ўсе яны фальклорныя, многія ствараліся пісьменнікамі, няштатнымі і штатнымі карэспандэнтамі газет, што дасылалі свае творы для друкавання.

Нямала гумарыстычных празаічных твораў запісаў Якуб Колас у час вучобы ў Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі. Але адшукалі гэтыя запісы народнага пісьменніка толькі ў 1950 г. у рукапісным аддзеле Вільнюскага універсітэта. У дванаццаці сшытках было змешчана 130 твораў розных жанраў, у тым ліку многа анекдотаў і жартаў.

І ў паслякастрычніцкі час сатырыка-гумарыстычныя творы не адразу былі прызнаны раўнапраўнымі жанрамі ў народнай творчасці. У першых праграмах-інструкцыях па збіранню вуснапаэтычных твораў галоўная ўвага скіроўвалася на тое, каб запісваць народныя творы ад старых жанчын, а сярод пераліку жан-

[25] Federowski M. Lud białoruski na Rusi Litewskiej.— Kraków, 1903, t. 3.

раў і відаў фальклору анекдоты не называліся [26]. Не вылучаліся яны і ў выніковай табліцы сабраных фальклорных твораў за 1925—1928 гг. [27] ,

Няшмат было апублікавана новых запісаў сатырыка-гумарыстычных твораў у тэматычных зборніках беларускага фальклору, якія выдаваліся ў 1938—1940 гг. [28]

Найбольш значны зборнік народных анекдотаў і жартаў быў апублікаваны ў 1961 г. пад назвай «Народныя ўсмешкі». У ім пераважалі запісы вуснапаэтычных твораў, зробленыя ў савецкі час. У 1970 г. выйшаў з друку зборнік «Беларускія народныя жарты», складзены З. Бяспалым, які выбраў для кнігі анекдоты і жарты з дарэвалюцыйных і савецкіх выданняў.

Вылучае асобна анекдоты вядомы беларускі фальклараст Н. С. Гілевіч у зборніку «Народныя казкі-байкі, апавяданні і мудраслоўі» (Мн., 1983), складзеным з сучасных фальклорных запісаў, зробленых студэнтамі Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна. Укладальнік коратка вызначае асаблівасці анекдота і жарта-досціпа як самастойных жанраў. Н. С. Гілевіч выступае супраць аб'яднання апошніх з анекдотамі, таму што яны бліжэй да прымавак і прыгаворак. Усяго змешчана ім 44 анекдоты дарэвалюцыйнага і савецкага часу. У іх высмейваюцца паразітызм і нікчэмнасць паноў, ашуканства і распуснасць папоў, лянота і нядбайства, п'янства і бязглуздасць, а таксама іншыя заганы людзей.

Шмат анекдотаў, жартаў і гумарэсак друкавалася ў часопісе «Вожык» і газеце «Ніва» (Беласток).

Том «Жарты, анекдоты, гумарэскі» ўяўляе сабой найбольш поўны збор празаічных сатырыка-гумарыстычных твораў малой формы. У зборнік увайшлі тэксты з дарэвалюцыйных і савецкіх публікацый, а таксама з архіўных сховішчаў, прыватных калекцый.

Сістэматызацыя матэрыялаў у томе зроблена ў адпаведнасці з храналагічна-тэматычным прынцыпам. Усе творы размеркаваны на жарты, гумарэскі, анекдоты дарэвалюцыйнага часу і жарты, гумарэскі, анекдоты савецкага часу. Матэрыялы першай часткі сістэматызаваны па важнейшых тэмах умоўна (назвы тэм не абазначаюцца). Перш за ўсё даюцца творы з сацыяльнай тэматыкай: антыпрыгонніцкія, антыпанскія, антыклерыкальныя і антырэлігійныя; творы, накіраваныя супраць заган і хібаў людскіх; пра палешукоў, цыганоў і прадстаўнікоў іншых народаў, дзяцей.

Сатырыка-гумарыстычныя творы савецкага перыяду сістэматызуюцца таксама тэматычна: анекдоты, досціпы і жарты пра стары лад, пра стаўленне народа да рэлігіі, царквы і духавенства, асмяянне гультайства, п'янства, невуцтва, ашуканства і інш.

Змест жартаў, анекдотаў, гумарэсак на сацыяльныя тэмы разнастайны. Як

---

[26] Шлюбскі А. Праграма для запісвання помнікаў вуснай народнай творчасці.— Наш край, 1928, № 4, с. 40—44.

[27] Наш край, 1928, № 12, с. 44.

[28] Дарэвалюцыйная і Савецкая Беларусь у народнай творчасці.— Мн., 1938; Чырвоная Армія і абарона Радзімы.— Мн., 1938; Беларускі народ супраць папоў і рэлігіі.— Мн., 1939; Жанчына ў беларускай народнай творчасці.— Мн., 1940.

і іншыя народныя творы, асабліва сатырычнага і гумарыстычнага характару, анекдоты ў дакастрычніцкі час былі перш за ўсё важным сродкам у барацьбе працоўных з сацыяльным прыгнётам. У іх з бязлітаснай іроніяй і сарказмам беларускі народ выкрываў дэспатызм і жорсткасць, прагнасць і скупасць, крывадушша і карыслівасць паноў, папоў і іншых прыгнятальнікаў. Ворагі працоўнага народа надзяляліся такімі якасцямі, якія прыніжалі іх і выклікалі з'едлівы смех. Вельмі пашыраны ў анекдотах прыём кантрасту, які асабліва часта выкарыстоўваецца пры процівастаўленні дурному пану мудрага, кемлівага і дасціпнага мужыка. Селянін спрытна выкарыстоўваў слабасці свайго класавага ворага, смяяўся і здзекаваўся з яго.

У анекдоце «Мя не руш» зайздроснаму і злоснаму пану, які біў, катаваў сялян, помсцяць тры хлопцы. Яны назваліся яму: Мя не руш, Не чапай і Якая табе справа. Хлопцы добра адлупцавалі пана, раздзелі і прывязалі да дуба. Камізм становішча пана ў тым, што пасля адказу на пытанне, хто яго прывязаў («Мя не руш, Не чапай, Якая табе справа»), сяляне, якія мелі намер адвязаць пана, адыходзяць і асуджаюць свайго ката на яўную гібель.

Мудрасць, кемлівасць і дасціпнасць мужыка выяўляюцца ў анекдотах, якія па форме нагадваюць распаўсюджаныя ў XIX ст. ананімныя гутаркі пана з селянінам. У іх мужык наўмысля прыкідваецца дурнем, каб лепш накпіць з пана.

У «адказах мужыка» селянін здзекуецца з пана нібы не наўмысна, таму што дакладна выконвае загады: на патрабаванне пана збочыць з дарогі «з доўгім носам» адварочвае ўбок нос; калі ж пан патрабуе, каб селянін сышоў з дарогі з канём, выпрагае каня, а сані пакідае і г. д. Нарэшце пан пачынае разумець, што з яго мужык кпіць, раз'юшаны ад'язджае, але сустракаецца з ім на рынку. Камічны дыялог і пры гэтай сустрэчы мае ў сваёй аснове наўмыснае, свядомае ігнараванне селянінам сэнсу пытанняў пана, як напрыклад:

— Мужык! Ты чый?

— Мар'янін.

— А хто Мар'яна?

— Жонка мая.

— А каго ты баішся?

— А паночку, ёсць у Піліпа на дварэ сучка, яе ўсе баімся; хто ідзе, палена нясе.

— А хто ў вас вышэй усіх людзей?

— А ёсць у нас, паночку, Аўдзей — вышэй усіх людзей [29].

Камічны эфект дасягаецца тым, што селянін прыкідваецца прасцяком, хоць на справе ён больш разумны і дасціпны за пана. У гэтым пан пераконваецца тады, калі скардзіцца на мужыка яго гаспадару.

Дасціпнасць селяніна выяўляецца нярэдка ў адной трапнай фразе, у якой канцэнтруецца асноўны ідэйны сэнс твора.

Напрыклад, у адной з гутарак мужык адказвае пану, які абазваў яго дурнем:

---

[29] Шейн П. В. Материалы, т. 2, с. 324—325.

— Паночак, разумных па разумных паслалі, а мяне па цябе.

Бязлітасна высмейвае народ і панскіх памагатых, — войта, аканома, старасту, пісара. У анекдоце «Віншаванне»[30] высмейваецца ўгодлівасць, ліслівасць, падхалімства панскіх лакеяў. З жадання панскай дворні павіншаваць пана з нараджэннем дзіцяці атрымаўся толькі канфуз. Народ асуджаў тых людзей, якія імкнуліся палепшыць свой дабрабыт за кошт падхалімства, дагаджання панам. У другім анекдоце народ высмейвае фанабэрлівасць старшыні, які зрабіўся «такі панаваты, што й падступіцца да яго страшна»[31].

Раскрываецца ў анекдотах, жартах і гумарэсках і цяжкае становішча працоўных. З горкай іроніяй расказвалі бедныя сяляне пра палешукоў, якія не ведалі нават, што такое боты і якое іх прызначэнне, а калі выпадкова знайшлі, то палічылі за божыя вёдры. Гэта хітра выкарыстаў зайздросны поп, які адразу ж знайшоў прычыну забраць боты сабе:

— То ведаеце што, дзеці, я богаў слуга, то й богавы вёдра да мяне належаць!

Да гэто чарап. За тыя боты і пайшоў[32].

У многіх анекдотах востра крытыкавалася свяшчэннае пісанне, раскрывалася шкоднасць рэлігійных абрадаў. На заклік папа прытрымлівацца евангельскіх павучэнняў Ісуса Хрыста, многа не клапаціцца, а жыць, як птушкі, якія не сеюць, не жнуць, а бог корміць іх, селянін саркастычна адказвае:

— Эх, бацюшка! — кажа мужык.— Калі яны нічога не робяць, то гэткае іх і жыццё: ходзяць зімою па дарозе ды памёт дзяўбуць альбо падлу ядуць[33].

Характэрнай асаблівасцю антырэлігійных анекдотаў з'яўляецца наяўнасць у некаторых з іх фантастыкі. Мастацкая выдумка гэтых твораў, якая іменна як выдумка і ўспрымаецца працоўнымі ў процілегласць імкненням царкоўнікаў выдаць усё, аб чым гаворыцца ў біблii, за рэчаіснасць, трапна б'е па недарэчнасцях «свяшчэннага пісання».

Біблейскі міф аб стварэнні богам чалавека ў анекдоце «Аб стварэнні свету, шляхты, селяніна» дапаўняецца апавяданнем аб тым, як былі створаны шляхціцы: іх, расказваецца ў анекдоце, бог ляпіў не з гліны, як Адама, а з пшанічнай мукі. Камічная сітуацыя, якая знарок ствараецца складальнікамі анекдота для больш дзейснага асмяяння, едкім смехам разбурае ўяўленне аб свяшчэннасці біблейскага міфа. Злепленых з пшаніцы шляхціцаў, калі бог адлучыўся, з'еў сабака. Прыходзіць бог, а шляхціцаў няма. «Як хваціць бог сабаку, як дасць аб камень — выскачыў шляхціц і стаў называцца Камінскі, хваціў аб асіну — Асінскі, аб вольху — Альхоўскі...»[34]

У другіх варыянтах гэтага анекдота расказваецца, як сам чорт «тварыў» падобным спосабам паноў. У абодвух варыянтах сцэны набываюць значэнне сацыяльнай сатыры на ганарлівых паноў, прыгнятальнікаў беларускага народа.

---

[30] Шейн П. В. Материалы, т. 2, с. 315.

[31] Материалы по этнографии Гродненской губернии / Под ред. Е. Р. Романова.— Вильна, 1912, вып. 2, с. 380.

[32] Federowski M. Lud białoruski..., t. 3, s. 212. *Чарáп* — ухваціў, схапіў.

[33] Беларусь, 1959, № 1, с. 29.

[34] Крачковский Ю. Ф. Быт западно-русского селянина.— М., 1874, с. 211—212.

Не менш востра і з'едліва крытыкуецца рэлігійнае вучэнне аб раі і пекле, аб замагільным жыцці, аб адзінстве божай тройцы і іншыя рэлігійныя дагматы. У анекдоце «Бедная баба» гучыць саркастычны смех з евангельскага вучэння аб пекле:

— А чаго вы, бабка, плачаце?

— Як жа мне, галубок, не плакаць, калі чыталі ў царкве, што на тым свеце будзе плач і скрыгат зубамі... А чым жа я буду скрыгатаць, калі ў мяне ані аднюсенькага зуба няма? [35]

Народныя анекдоты з'яўляюцца каштоўным матэрыялам для вывучэння светапогляду працоўных, іх стаўлення да рэлігіі, царквы.

В. Р. Бялінскі на падставе народных твораў рабіў вывады аб адсутнасці рэлігійнага фанатызму ў рускага народа, аб яго адмоўным стаўленні да царкоўных абрадаў. Такія ж вывады вынікаюць і з твораў беларускага фальклору.

Яркія сатырычныя малюнкі, дзе насмешка з папа спалучаецца з абсмяяннем усяго царкоўнага рытуалу, даюцца ў анекдотах, у якіх расказваецца, як у боты папа трапляе жар з кадзіла і ён разам з прыхаджанамі падае на падлогу і трасе нагамі («Як у царкве нагамі дрыгалі», «Святое падрыгванне»).

Вострай сатырай адрозніваюцца беларускія народныя анекдоты, якія высмейваюць паразітызм духавенства. Гэтыя творы ўзніклі як пратэст супраць прыгнёту папоў, ксяндзоў і іншых свяшчэннаслужыцеляў. Батрак, што працуе на папа, заўсёды галодны і вымушаны сам браць у яго хлеб, мяса, сала, смятану і гаварыць быццам усё гэта ядуць святыя.

У анекдоце «Папоўскі полудзень» расказваецца, як поп з работнікам грэблі сена. Здаецца, што тут адлюстроўваецца аднолькавае становішча і папа і парабка: абодва працуюць. Аднак невялікая, але значная для ідэйнага зместу дэталь падкрэслівае іх сацыяльную няроўнасць: папу прынеслі на абед бутэльку малака, а работніку — бутэльку вады. Дзякуючы гэтай дэталі анекдот набывае сацыяльную накіраванасць, якая знаходзіць канчатковае выяўленне ў апошніх радках твора, дзе расказваецца, што пасля абеду поп пачаў грэбці сена ў капу, а работнік у ваду.

— Што гэта ты робіш? Куды грабеш? — пытаецца поп.

— А, бацюшка, ты грабеш сваёй кароўцы, а я сваёй [36].

Вялікай вастрыні дасягае народная сатыра ў анекдотах, у якіх высмейваецца распуснасць і п'янства духавенства. Едкім сарказмам прасякнута, напрыклад, «Споведзь шляхціца». У гэтым творы бязлітасна крытыкуецца каталіцкае духавенства, якое павінна было прытрымлівацца цэлібату (абяцанне бясшлюбнасці і цноты), але ніколі яго не выконвала. На споведзі шляхціц прызнаўся бернардыну, што цалаваў чужую жонку. Але дадаў, што рабіў гэта па парадзе людзей ад хваробы вачэй. А бернардын адказаў, што калі б гэта было праўдай, то ён ужо бачыў бы праз сцяну.

Сатырычны смех, з дапамогай якога беларускія працоўныя выкрывалі крывадушша «божых» служак, гучыць у анекдоце «Поп, дзяк і Фядора» [37]. Ва-

---

[35] Беларускія жарты.— Мн., 1915, с. 1.
[36] Беларускі народ супраць папоў і рэлігіі, с. 25.
[37] Federowski M. Lud białoruski..., t. 3, c. 294.

стрыё сатыры накіравана ў гэтым творы не толькі супраць духавенства, але і супраць рэлігіі. Поп і дзяк, расказваецца ў анекдоце,— агідныя распуснікі і ашуканцы ўсіх прыхаджан, якія прыйшлі маліцца, а замест малітвы слухалі перагаворы палюбоўнікаў з палюбоўніцай. Тут жа парадыйна высмейваецца і ўвесь царкоўны рытуал.

Каб узмацніць камічны эфект, нярэдка знарок падбіраюцца такія сітуацыі, пры якіх поп выстаўляецца ў творах ва ўсім сваім «хараστве» на публічнае асмяянне. Такая абмалёўка партрэта ў момант вастрэйшай камічнай сітуацыі павышала сілу сатырычнага асмяяння, рабіла сатыру вострай, з'едлівай.

Папулярнасць такіх твораў з'яўляецца сведчаннем таго, што беларускі народ бачыў усю непрыстойнасць паводзін духавенства і сваім трапным сатырычным словам бічаваў яго.

Рэзкае сатырычнае асмяянне ў анекдотах паноў, папоў і іншых эксплуататараў, выкрыццё сацыяльнай несправядлівасці ў грамадстве з антаганістычнымі класамі, адлюстраванне жорсткай барацьбы паміж імі, бязлітасная крытыка царквы і рэлігіі — усё гэта сведчыць таксама аб тым, што беларускія працоўныя не мірыліся са сваім паднявольным становішчам, а заўсёды змагаліся з усякім прыгнётам — эканамічным, палітычным і духоўным.

Бязлітасна высмейваецца ў народных жартах, анекдотах, гумарэсках гультайства, выхваленне, дурасць, ашуканства, п'янства, зладзейства і іншыя заганы людзей. У некаторых выпадках для больш выразнага паказу адмоўных якасцей чалавека з поспехам ужываецца сатырычнае перабольшанне. У адным з анекдотаў, напрыклад, трапна высмейваецца гультай, які нават тады, калі загарэлася яго хата і яму сказалі аб гэтым, адказаў:

— Ну, і як ты не ляніўся гаварыць?

Не менш разнастайны таксама змест анекдотаў, жартаў, гумарэсак на сямейна-бытавыя і маральныя тэмы. Недахопы выхавання, амаральныя паводзіны, заганныя ўчынкі некаторых працоўных выкрываюцца часцей за ўсё сродкамі гумару, а не сатыры.

Важнейшай зброяй гэтых твораў з'яўляецца смех, вострыня якога залежыць ад аб'екта сатыры: бязлітасна з'едлівы, калі крытыкуюцца класавыя ворагі, добразычліва мяккі, калі крытыкуюцца нязначныя недахопы саміх працоўных. Крытэрый ацэнкі паводзін герояў прама залежыць ад стаўлення іх да працы. Таму асабліва востра высмейваецца народам паразітызм і гультайства незалежна ад таго, да якога сацыяльнага класа належыць персанаж твора.

У сатырыка-гумарыстычных жанрах фальклору яскрава адлюстравана мудрасць, дасціпнасць, знаходлівасць беларускага працаўніка, які спрытна выкарыстоўваў магутную зброю смеху ў барацьбе з прыгнятальнікамі, за маральную чысціню чалавека. Удалы і знаходлівы сялянскі хлопец дасціпна высмейвае сваіх праціўнікаў і выклікае да сябе сімпатыю, нягледзячы на тое што яго ўчынкі не заўсёды вызначаюцца высакароднасцю.

Вялікай папулярнасцю ў беларусаў карысталіся анекдоты пра палешукоў і маркаўцаў, якія атрымалі назву ад мясцовасці, дзе яны ўзніклі (у паказальніку казачных сюжэтаў М. П. Андрэева 150 нумароў займаюць анекдоты пра пашахонцаў, да якіх вельмі падобны беларускія творы пра палешукоў). Героі

анекдотаў пра палешукоў не ўмеюць нічога рабіць і не ведаюць самых звычайных жыццёвых і бытавых ісцін. «Здатны» паляшук, напрыклад, цягне вала на дуб, каб прымераць кульбаку [38]. У аснове гэтых твораў была жартоўная, незласлівая насмешка з сялян суседняй або той жа вёскі. Сведчанняў пра бытаванне такіх анекдотаў у асяроддзі беларусаў дайшло да нас з дакастрычніцкага часу мала, галоўным чынам з-за недаацэнкі іх мастацкай вартасці. Некалькімі анекдотамі з вёскі Маркаўшчыны С. Максімаў падмацоўваў сваю думку аб тым, што ў народзе адлюстравалася разуменне «племянной розніцы... у цэльных апавяданнях і анекдотах аб прастаце і наіўнасці гэтых «цёмных» людзей» [39]. У гэтых творах ён бачыць «злую насмешку і моцную плётку». На самай жа справе насмешка была не такой уразлівай, таму што яна мала закранала важныя грамадскія з'явы і не ўспрымалася як злосная. Праўда, у некаторых анекдотах адлюстраваны і сацыяльныя матывы. Паказаныя ў яўна акарыкатуранай форме недарэчныя ўчынкі маркаўцаў ускосна раскрываюць эксплуататарскую сутнасць царквы ў наступным анекдоце: «Ішлі гэтыя маркаўцы з сенакосу, бачаць: пабудавана царква; такога вялікага будынка не бачылі. Увайшлі ў сярэдзіну, яшчэ больш здзівіліся. Усім захацелася крыкнуць, паспрабаваць, ці рассеецца голас. Пачалі прыставаць — прасіць дазволу.

— Нельга,— гавораць,— гэта дом божы, святое месца.

Зноў прыстаюць:

— Дазволь хоць раз тукнуць.

— Калі будзеце даваць кожны год з кожнай хаты па паўпуду мёду, крычыце.

Згадзіліся. З таго часу для духавенства ўстанавіўся асобы падатак пад назвай «тукаўшчыны» і пагукоўшчыны...» [40]

Падаткі царкве добра дапякалі сялянам. Нездарма анекдот пра «тукаўшчыну» быў запісаны Е. Р. Раманавым і ў пачатку XX ст. Паводле анекдота, маркаўцы плацяць мядовую даніну скітаўскаму манастыру і баяцца, што ім прыйдзецца «плаціць папу і па другому пуду тукаўшчыны» з заканчэннем пабудовы царквы. Парашылі не хадзіць у царкву. «Поп аблажыў іх мёдаваю данінаю за самапраўе: «Хто не ходзіць у царкву, плаці тукаўшчыну». Тады маркаўцы парашылі хадзіць у царкву. А каб не спазніцца да службы і не заплаціць тукаўшчыны, сталі высылаць дзяцей слухаць звон. Дзеці, пачуўшы звон, хутка ўбягалі ў хату і крычалі: «Тата, хутчэй ідзі, а то ўжо тое раве, што два пуды мёду бярэ» [41].

Царква і духавенства найбольш крытыкуюцца ў анекдотах маркаўцаў. Не проста дурным, а безгаловым у літаральным сэнсе слова паказаны поп у анекдоце тыпу «Ці была ў папа галава?» Мядзведзь ад'еў у бацюшкі галаву, а пападдзя на пытанне маркаўцаў, ці была ў яго галава, адказвае: «Раніцай была.

---

[38] Сержпутоўскі А. Казкі і апавяданні беларусаў з Слуцкага павета.— Л., 1926, с. 20—22.

[39] Максимов С. В. Белорусская смоленщина с соседями.— Живописная Россия, т. 3.—СПб; М, 1882, с. 440.

[40] Там жа. Анекдот перадаецца Максімавым у перакладзе на рускую мову.

[41] Беларускі народ супраць папоў і рэлігіі, с. 53.

Я яму бліны пякла, еў помню — і барадой у той час трос! А там жа не ведаю: ці ўзяў ён яе з сабой або ў царкву занёс, а ў хаце паповай галавы няма» [42].

Змест асноўнай масы анекдотаў маркаўцаў быў звязаны з сялянскім побытам. Як і ў пашахонскіх анекдотах, сяляне робяць шмат бязглуздых, недарэчных і адначасова смешных учынкаў. «Яны, каб не ездзіць кожны год у Крым па соль, сыпалі яе ў калодзеж з разлікам зрабіць ваду назаўсёды салёнай. Каб больш радзілася валоў, секлі на дробныя кавалкі аднаго вала і сеялі кавалкі па полі і заворвалі. Каб не таўкці проса, сеялі яго тоўчанае, таму што з-за бязлесся ступ не было з чаго рабіць. Яны ж з'елі «сучку»... [43] і г. д.

Вёска Маркавічы, якая знаходзіцца на адлегласці 40 км ад Гомеля, яшчэ ў дарэвалюцыйны час стала шырока вядомай сваімі дасціпнымі анекдотамі, поўнымі вясёлага гумару, пацешлівай насмешкі: «Вёрст у 17 к паўн.-з. ад ст. Церахоўкі ляжыць в. Маркавічы, якая карыстаецца ў беларусаў тою ж славай, як Пашахонне ў велікарусаў» [44].

Наогул «пашахонскія» анекдоты дайшлі ў актыўным бытаванні да савецкага часу. У 30-я гады нам даводзілася чуць анекдоты пра хваенцаў (в. Хвойня Петрыкаўскага р-на Гомельскай вобласці), якія нібы цягнулі вяроўкай вала на дуб, каб прымераць кульбаку, усцягвалі на страху карову паесці зялёнае жыта, якое парасло ад нявымалачанай саломы, што накрылі хлеў, і інш.

Якімі б кплівымі ні былі насмешкі, сяляне часцей за ўсё не крыўдзіліся і ўспрымалі іх як наўмысна выдуманыя, хоць былі выключэнні, калі ў выніку адмоўнай рэакцыі на занадта калючыя кпіны ўзнікалі спрэчкі і нават бойкі паміж жыхарамі розных вёсак. З развіццём культуры стаўленне да такіх анекдотаў змянілася: імі ганарацца як сведчаннем таго, што іх стваральнікі добра валодалі пачуццём гумару і багатай фантазіяй.

Дасціпны гумар і багатая фантазія народа адлюстраваліся таксама ў анекдотах пра цыганоў, мазураў і інш. Героі гэтых твораў, як і пашахонцы, палешукі, маркаўцы, робяць недарэчныя ўчынкі, трапляюць у камічнае становішча. Смех тут незласлівы, добразычлівы, не мае нічога агульнага з нацыянальнай непрыязнасцю, якую ў дарэвалюцыйныя часы імкнуліся распаліць рэакцыянеры, чарнасоценцы. Беларускія сяляне аднолькава смяюцца з саміх сябе і з людзей іншых нацыянальнасцей. І ў гэтым заключаецца іх мудрасць і інтэрнацыяналізм. Пачуццё гумару існуе ва ўсіх народаў, людзі не крыўдзяцца на камічнае перабольшванне асобных рысаў персанажаў у сатырыка-гумарыстычных творах і нават ганарацца гэтым. Габраўцы вельмі задаволены тым, што іх горад называюць сталіцай смеху не толькі ў Балгарыі, але нават і ў Еўропе. У вялікім музеі смеху ў г. Габрава сабрана шмат экспанатаў з розных краін свету, а больш за ўсё з Балгарыі. Весела пацяшаюцца габраўцы са сваіх герояў, якія, напрыклад, на ноч спыняюць гадзіннік, каб не зношваўся механізм;

---

[42] Максимов С. В, Белорусская смоленщина с соседями.— Живописная Россия, т. 3, с. 440. Падобны анекдот быў запісаны на Случчыне і апублікаваны П. В. Шэйнам (Матэрыялы, т. 2, с. 311—312).

[43] Там жа.

[44] Россия. Полное географическое описание нашего отечества: Верхнее Приднепровье и Белоруссия / Под ред. В. П, Семенова.— СПб, 1905, т. 9, с. 538.

адразаюць хвасты ў кошак зімой, каб за імі хутчэй зачыняліся дзверы і не ахалоджваўся пакой; надзяваюць коням зялёныя акуляры і насыпаюць у яслі драўлянае пілаванне, каб коням здавалася, што гэта нарэзанае сена, і г. д. Гумарыстычная характарыстыка габраўцаў у падобных творах нікольні не абражае іх, таму што яны вельмі тонка разумеюць гумар і трапна карыстаюцца ім. Час ад часу ў горадзе наладжваюцца фестывалі смеху, у якіх удзельнічаюць не толькі габраўцы, але і прадстаўнікі іншых гарадоў Балгарыі і нават многіх краін свету.

Папулярным героем беларускіх дарэвалюцыйных анекдотаў быў салдат (маскаль). Ён паказваецца дваяка: хітры, спрытны і знаходлівы — у адных анекдотах; злодзей і ашуканец — у другіх. Ён варыць суп з сякеры; крадзе ў бабы гуску і хітра апраўдваецца: маўляў, думаў, што гусак; выдае порах за салдацкую ікру; пазбаўляе бабку кажуха, калі ідзе ў «Галадрыгава»; танцуе ў касцёле і да т. п.

Найбольш анекдотаў, жартаў і гумарэсак пра якія-небудзь смешныя выпадкі ў жыцці і побыце людзей.

Анекдот, жарт, гумарэска, або досціп — адны з самых пашыраных жанраў у народна-паэтычным рэпертуары савецкіх працоўных. Дасціпны жарт, смешны выпадак з нечаканым вынікам, забаўная падзея, расказаная цікава, з адпаведнай мімікай, жэстамі і эмацыянальнай інтанацыяй,— усё гэта захапляе слухачоў. Нямала існуе твораў, у якіх расказваецца, як спрытна і знаходліва дзейнічаў герой, трапіўшы ў камічныя абставіны. Аднак і цяпер гэтыя жанры характарызуюцца не толькі цікавым, камічным і дасціпным зместам. У многіх з іх заключаны глыбокі ідэйны змест. Ствараюцца яны, як правіла, на важныя актуальныя тэмы.

Такой важнай тэмай, якой прысвечана шмат беларускіх сатырычна-гумарыстычных твораў, з'яўляецца тэма барацьбы з перажыткамі мінулага ў свядомасці савецкіх людзей. Змагаючыся супраць буржуазных перажыткаў, народная сатыра і гумар садзейнічаюць выхаванню камуністычнага светапогляду ва ўсіх савецкіх людзей.

У сатырычных народных анекдотах востра крытыкуюцца рэлігійныя перажыткі, вельмі жывучыя і шкодныя і ў сучасны момант. Выкрыццё карыслівасці, прагнасці і амаральных паводзін духавенства, крытыка асноўных хрысціянскіх дагматаў, царкоўнага рытуалу, знахарства — вось асноўны змест анекдотаў і гумарэсак, накіраваных супраць рэлігійных перажыткаў у свядомасці працоўных. Пры гэтым крытыка рэлігіі ў сучасных народных творах адрозніваецца ваяўнічым характарам, паслядоўнасцю, навуковай мэтанакіраванасцю.

Сатыра і гумар сучасных беларускіх анекдотаў і гумарэсак накіраваны таксама супраць такіх перажыткаў мінулага, як зладзейства, ашуканства, п'янства, і наогул супраць усяго таго, што перашкаджае нашаму руху наперад да камунізма. Некаторыя ж анекдоты, хоць і не маюць такой крытычнай накіраванасці, але характарызуюцца дасціпным гумарам, дабрадушным смехам.

Сярод анекдотаў савецкага часу вылучаюцца творы, у якіх бязлітасна высмейваліся нямецка-фашысцкія захопнікі.

З народных сатырычных твораў паўстае агіднае аблічча шалёнага фашысцкага фюрэра Гітлера, у якога былі спачатку «валасы залізаны, як у сабакі», а «вочы праваліліся, як у мерцвяка», а потым, як прыціснулі рускія, сталі біць фашыстаў, «і валасы сталі дыбам, і вочы на лоб павылазілі».

Тыпы фашысцкіх ваяк малююцца ў народных творах нярэдка ў іранічна-карыкатурным плане. Вось за якія баявыя «поспехі» чакае ўзнагароды Курт: яго звяно павінна было знайсці і разбамбіць партызанскі лагер, а «забіла... адну карову, астатнія разбегліся» («У яго зноў баявыя поспехі»).

Рабаўніцтва гітлераўцаў часам трапна выкрываецца ў алегарычнай форме:

— Ці не пойдзем мы ў вёску ды ці не сцягнем авечку? — сказаў адзін воўк другому.

— Дарэмныя захады,— адказаў другі.— Там да нас ужо немцы пабывалі («Дарэмныя захады»).

Асабліва многа бытавала сатырычных і гумарыстычных твораў, у якіх ярка адлюстроўваліся баявыя справы беларускіх партызан: дыверсійная дзейнасць на чыгунцы, у выніку якой цэлыя ваенныя эшалоны з гітлераўцамі «адпраўляліся ў рай» («Пекла і рай»); стварэнне паганага «клімату» для фашыстаў у Беларусі («Дрэнны клімат»); напады на карнікаў, ад роты якіх не застаецца і следу («Сляды і людзі»), і інш.

У беларускай паэтычнай творчасці адлюстраваны ўсенародны характар Вялікай Айчыннай вайны, у якой удзельнічалі не толькі дарослыя, але і дзеці. У анекдоце «Бабуля і ўнучак» хлопчык падпальвае нямецкія склады:

— Унучак, дзе ты быў, як гарэў нямецкі склад? Трэба было сысці з воч немцаў, каб дарэмна не прычапіліся, праклятыя.

— Не, бабулька, я тады зусім не быў у іх на вачах, я ў той час другі склад падпальваў.

У развянчанні міфа аб непераможнасці гітлераўскай арміі станоўчую ролю адыгрывалі творы, у якіх фашысцкія ваякі паказваюцца храбрымі толькі ў расправах з бяззбройнымі людзьмі і вельмі баязлівымі пры сустрэчах з партызанамі ці з часцямі Савецкай Арміі. Вось адзін з прыкладаў:

— Якія сілы рускіх вас разбілі?

— Не магу знаць, гер палкоўнік, я не аглядваўся.

Высмейваючы баязлівасць гітлераўцаў, сатырычныя творы выкрывалі таксама ілжывасць гебельсаўскай прапаганды, якая імкнулася ўтаіць ад свайго народа няўдачы і паражэнні на фронце.

Нягледзячы на тое што гітлераўскія галаварэзы не толькі рабавалі і разбуралі нашы гарады і сёлы, але і поўнасцю знішчалі многія вёскі і пасёлкі разам з іх жыхарамі, нашы працоўныя верылі ў неаднароднасць складу нямецкай нацыі, у тое, што і ў Германіі былі немцы, якія спадзяваліся на звяржэнне Гітлера ў выніку паражэння ў вайне («Дарэмна пахваліў»).

Вуснапаэтычныя творы перыяду Вялікай Айчыннай вайны не страцілі свайго значэння і цяпер. Яны дапамагаюць нам зразумець гарачы патрыятызм савецкіх людзей, іх высокі маральны дух, нянавісць да фашысцкіх людаедаў [45].

---

[45] Народная творчасць Вялікай Айчыннай вайны будзе выдадзена ў асобным зборніку.

Прасякнутыя мяккім, незласлівым гумарам беларускія анекдоты, жарты і гумарэскі раскрываюць таксама дзіцячую псіхалогію, паказваюць спецыфіку ўспрымання дзецьмі навакольнага свету, своеасаблівасці разумення імі розных прыродных і грамадскіх з'яў.

Разнастайнасці крытычнага зместу анекдотаў адпавядае багацце мастацкіх прыёмаў і сродкаў увасаблення ідэй, мноства адценняў сатыры і гумару. Як і ў казках, у анекдотах нярэдка вылучаецца толькі адна адмоўная рыса ці якасць персанажа, на якой і канцэнтруецца ўвага. Пры гэтым анекдот адразу ж уводзіць у дзеянне без экспазіцыі, або зачыну, без дэталізацыі.

Вельмі пашыранай з'яўляецца дыялагічная форма анекдота. У такіх выпадках дыялог дае магчымасць зразумець сутнасць канфлікту і асноўныя якасці персанажа. Але незалежна ад формы анекдота кульмінацыя і развязка канфлікту знаходзяцца ў канцы твора.

Важнай асаблівасцю пабудовы анекдота (таксама і жарту) з'яўляецца неадпаведнасць і нават супярэчлівасць паміж апавядальнай часткай яго і заключнай, канцоўкай. Камічны эфект нярэдка і дасягаецца гэтай супярэчлівасцю паміж формай і ідэяй твора. Як правіла, прама выказаная «мараль» у анекдоце адсутнічае. Яна вынікае са зместу твора, сэнс, ідэю якога не заўсёды можна зразумець адразу. Анекдот больш, чым іншыя жанры фальклору, патрабуе актыўнага мыслення, ён заўсёды выказвае не ўсё, а пакідае магчымасць дадумаць, дасказаць і зразумець сэнс твора кожнаму слухачу. Для таго каб зразумець ідэйны сэнс твораў сатырычных жанраў малой формы, асабліва анекдота, трэба валодаць пачуццём гумару, тым больш што вельмі часта сэнс і ідэя ў іх заключаны ў падтэксце.

У анекдотах і іншых сатырычных жанрах народнай прозы шырока ўжываюцца ўсе асноўныя прыёмы і мастацкія сродкі сатыры і гумару: перабольшванне, завастрэнне, гіпербалізацыя, іронія, сарказм, гратэск, кантраст і інш. Выкарыстоўваецца часам і алегорыя, калі ў ролі людзей дзейнічаюць жывёлы («А няхай не сіпіць» і інш.).

Анекдот, жарт, гумарэска, або досціп — жанры фальклору, цікавасць, папулярнасць, актуальнасць і надзённасць якіх не страціліся з часам.

Тэхнічную работу па тому выконвалі А. М. Хрушчова і В. І. Скідан. Паказальнікі склала Г. А. Пятроўская.

*А. С. Фядосік*

## 1. СЦІЗОРЫК ЗГУБІЎСЯ

Адзін багаты пан паехаў за граніцу. Выязджаючы, ён прасіў, каб яму слалі пісьма. Прайшло пяць год. Пан не палучыў ні аднаго пісьма. Едучы дадому, ён прыслаў, каб па яго на вакзал прыехаў фурман. Едучы, пан пытае ў фурмана, што чуваць дома.

— Нічога, паночку, толька сцізорык згубіўся.

— Які сцізорык?

— Сцізорык, пане. Як сабака панскі здох...

— Мой сабака здох?!

— Але, пане, наеўся каніны. Як жарабец панскі здох.

— І жарабец здох?!

— Здох, пане. Натаміўся: па доктара шыбка ехалі.

— Хто ж быў хворы?

— Пані была хвора.

— Пані была хвора?

— Але, пане. Як быў пажар...

— І пажар быў?!

— Быў, пане. Як у паненкі былі радзіны.

— Што, яна замуж пайшла без мяне?

— Не, пане... з пастухом.

## 2. АСЦЯРОЖНЫ ДАКЛАДЧЫК

Два гады пан жыў у горадзе, а сям'я яго: жонка і дочкі — асталіся дома, у маёнтку. Без пана ў двары многа парабілася нядобрага. Сям'я паслала к яму ў горад чалавека пазнаёміць і наказала яму, каб ён зразу дужа не пужаў пана, а расказаў бы ўсё памаленьку. Ён так і зрабіў. Пан як запытаўся ў яго:

— Ну, што чуваць у маім маёнтку, ці ўсё добра?

Той кажа:

— А хвала богу ўсё, толькі ножык садовы панскі зусім затупілі.

— Чаму?

— Гэта як скуру з вогіра здзіралі, уж тады ступілі.

— Чы ж мой вогір паў?

— Ага! Ён вельмі падарваўся, як праводзілі хавяць паню, дык іздох.

— Ай, што ты кажаш!

— А вечны пакой ёй, яна памерла, як двор з палацам гарэлі, надта спужалася, муся.

Тут ужо пан зусім абмяртвеў. Тады чалавек, каб успакоіць яго трохі, кажа:

— Не бядуй пан, не бядуй! Па смутку і радасць будзе: паненка дачушку радзіла — гэта яна дабыла, як афіцэры стаялі.

## 3. ВІНШАВАННЕ

Жыў быў адзін пан і ў яго радзіўся сын. Уся дворня задумала як найлепш пакланіцца пану, а іх аканом так навучае:

— Я буду ісці першы, а гасцінца яму прынясем, я буду на галаве нясці яму поўную карзіну яец, старшына варону, а стараста маслёнку. Як прыйдзем, я буду першы гаварыць. Ты, старшыня, скажы: «са ўсім дваром», а ты, стараста, скажы: «з дзяцьмі і з жонкай», а ты, парабак, скажы: «з усім набыткам».

Яны прыйшлі скора к пану ў пакой. У аканома вяроўка адвязалася ад лапця, і як парабак увайшоў і нагой прыдзяржаў няўмысля вяроўку, аканом паваліўся і крычыць:

— Бадай ты прапаў!

Старшыня не пачуў, што аканом кажа, і кажа:

— Са ўсім дваром!

А стараста кажа:

— З дзяцьмі і з жонкай!

Парабак кажа:

— Са ўсім сваім набыткам!

Пан як **пачуў гэта, прагнаў іх кіем, як** сабак, вон.

## 4. ЗАБЫЎСЯ ФАМІЛІЮ

Прыйшоў мужык к пану і кажа:

— Кланяўся пану пан... няхай яго!

— Ну як жа? Прыпомні.

— Дык неяк пахожа на птушку... а каб яго!

— Можа, пан Сініцкі?

— Не!

— Можа, Вронскі?.. Вераб'ёў?

— Не! Ён, здаецца, жыве ў Вырбанцы, а няхай яго!.. забыўся.

— А уж пэўна Вярбіцкі.

— Ага, ага! каб яго паветрыя! — Ён, ён самый, пане.

— Ах, дурань! Як жа ты казаў, што пахожа на птушку, калі на дрэва?

— Усё роўна, пане, птушка і на дрэве садзіцца.

## 5. КІСЕЛЬ

Паехаў зяць к цешчы. Цешча наварыла кісялю. Мужык не знаў, што гэта. Ён і спрашываець:

— Што гэта?

Цешча кажыць:

— Кісель, кісель.

Едзе ён к жонцы, а дарогай ўсё:

— Кісель, кісель.

Зараз мужык і забыў, як казаў. Вот ён топчыць гразь і ішчыць у гразі. Едзе пан. Пытае:

— Што ты, мужык, ішчыш?

— Ах, паночак, забыўся.

— Экій ты, мужык, дурак, замясіў гразь, як кісель.

— А вой, паночак, кісель, кісель, паночак, кісель! Дзянькую, паночак, дзянькую...

## 6. МЯ НЕ РУШ

Жыў у дзярэўні пан. І такі ён быў зайздросны і злосны, якога свет не бачыў: сялян біў, катаваў, здзекаваўся над імі. І вот задумалі яму адпомсціць. Сабраліся тры хлопцы і пайшлі ў лес. Адзін назваўся Мя не руш, другі — Не чапай, трэці — Якая табе справа.

Едзе куды-та лесам пан. Хлопцы спынілі яго, выцягнулі з карэты і давай лупцаваць. Збілі яго, а потым раздзелі і прывязалі да дуба. Пан просіць:

— Раскажыце хаця, як вас завуць?

Адзін гаворыць: «Мя не руш», другі — «Не чапай», трэці — «Якая табе справа».

Стаіць пан дзень, стаіць два, а камары яго добра такі рэжуць. Ідуць сяляне лесам. Увідзелі гэтага пана і пытаюцца:

— Хто цябе, пане, прывязаў?

— Не руш, не чапай, да якая табе справа.

Павярнуліся сяляне і пайшлі сабе дамоў. А пан стаяў там, пака не раскісся.

## 7. ЯК ПАЛЯШУК ПАНА САБАКАЮ ЗРАБІЎ

Адзін паляшук не бачыў свайго паніча, які выехаў маленькі. Ну, пабываўшы ўсюды, прыязджае ўжо астаркаваты, чалавек сівы, а даведаўшыся, што той чалавек быў добры прыяцель яго бацьку, да і яго, кажа:

— От, Сямён, каб мы дзе і зышліся з табой разам, то ты не ведаў бы, хто я, а я — хто ты.

— А дзе, — кажа,— панічу, я пана пазнаў бы, калі бачыў ящчэ тады, як пан сабакаю быў.

Пан як у агне стаў: «Што гэта ён кажа,— думае сабе,— мяне ўсе за добрага лічуць, а ён сабакаю зрабіў».

Так той Сямён раздумаўся, дый кажа:

— Паночку, не гневайся, я нічога ліхога не сказаў, гэта я процi таго кажу, што пан яшчэ тады на чатырох лапках пад сталом хадзіў. То мы гэта кажам у простасці.

Тады пан усміхнуўся:

— Праўду, брацішка, кажаш!

## 8. АДКАЗЫ МУЖЫКА

Ехаў мужык на рынак торчыць прадаваць. Якраз па дарозе ехаў пан і ўбачыў мужыка, пачаў яму крычаць, для чаго ён яму дарогу заступаець. Пан гукае:

— Мужык! Проч з дарогі з доўгім носам.

Мужык, не знаючы панскага зюкання, мысліў, што трэба нос адвярнуць, і, злезшы з дарогі, адвярнуў рукою нос на старану і сказаў:

— Едзь, пане, хоць к чорту!

Пан бача, што мужык смяецца, крыкнуў:

— Проч ты з канём!

Мужык выпраг каня, а сані паставіў на дарозе. А як гэта было зімой і ў бальшы мароз, дык пан замарозіў сабе ногі, начаў зліцца і крычаць на мужыка:

— Далой саўсім з дарогі!

Мужык пакуль выпраг каня, пакуль з'ехаў, дык пан еле-еле не змёрз саўсім. Вот пан прыехаў у той горад, куды мужыку трэба было. Назаўтра ходзіць пан па рынку, шукаючы аўса. Падыходзіць к таму мужыку, каторага ён учора відзеў, і пытае:

— Чы не чуць тут аўса?

Мужык узлез на воз і нюхае:

— Не, паночку, не чуць!

— Мужык! Чы не ўчарашні ты?

— Не, паночку, матка казала, што даўно радзіла!

— Мужык! Ты чый?

— Мар'янін.

— А хто Мар'яна?

— Жонка мая.

А каго ты баішся?

— А, паночку, ёсць у Піліпа на дварэ сучка, яе ўсе баімся: хто ідзе, палена нясе.

— А хто ў вас вышэй усіх людзей?

— А ёсць у нас, паночку, Аўдзей — вышэй усіх людзей.

— Мужык, чы многа вас такіх дуракоў?

— Тры кадзі буракоў, трэцця капуста.

Пан кажа:

— Як бы я табе, мужык, заехаў!

— Заедзь, паночак, мы і табе накладзем.

Пан бачэ, што з мужыком не згаворышся, плюнуў і пайшоў шукаць таго пана, чый гэта мужык. Найшоўшы таго пана і пазюкаўшы з ім, кажа па-польску:

— Пане, твой мужык кпіць з мне, а я б яму даў сто лоз.

Вот прывялі мужыка ў панскія пакоі. Вядома, як у пана многа дзвярэй, то мужык што ідзе, то ўсе дзверы адмыкае. Пан начаў крычаць:

— Замыкай!

Мужык як замыкаець:

— Му!

А пан усё крычыць:

— Замыкай, дурню!

— Баюся, паночак, гэта дурню замыкаў: «Му!»

Тады пан кажа:

— Ну відзіш, ён і нада мною кпіць.

Пан прыказаў даць мужыку розаг, а мужык так закрычаў, што панскія дзеці іспугаліся. Яго прагналі, і ён пайшоў сабе нічога не мысля.

## 9. ТРАПІЛА КАСА НА КАМЕНЬ

Ехаў мужык дый надта меў нос вялікі, а напроціў яго ехаў Радзівіла, а хоць дарога была абшырна, але Радзівіла хацеў назбыткаваць з мужыка дый крычыць на яго:

— Гэй, на бок з длугім носам!

Утэды мужык пальцам адхіліў нос на бок дый кажа:

— Проша пана ехаць!

Радзівіла паглядзеў, што мужык не дурань, так даў яму жменю грошай дый, змыліўшы сам з дарогі, паехаў. От і мужык у цеме не біты!

## 10. МУЖЫК І ПАН

Едзе раз сабе адзін пан і акурат папала ехаць яму цераз адно сяло, а каля сяла стаіць двор. Пан астанавіўся ў гэтым сяле і пытае ў аднаго чалавека:

— Чалавеку! Хто гэты двор трымае?

— А што,— кажа, паночку, як новы быў, то сам стаяў, а цяпер як стары, то на лісіцы ўзялі.

Пан задумаўся і не ведае, што гаварыць, а пасля і пытае:

— Хто ж у вас старшы?

— Старшы, пане?

— Але! — кажа пан.

— У нас ёсць адна старая баба, ёй, дальбог, ёсць лет ужо з восімдзесят, то яна найстарэйшая за ўсіх у гэтым сяле.

— Не, чалавечку, я не аб том табе гавару, я не аб том цябе пытаю.

— А аб чом жа, пане?

— Я хачу цябе спытаць: каго ў вас слухаюць?

— Ага! Слухаюць? Ёсць, паночку, у нас у сяле адзін хлопчык, лет сямі альбо і дзевяці, то як зачне граць на дудачцы альбо на скрыпачцы, то ўсё сяло збягаецца і слухае.

— Да нех цябе, чалавечку, д'яблы возьмуць, у цябе ніякае праўды не дабіцца. І паехаў пан сваёю дарогаю, а чалавек пастаяў, пасмяяўся з тога пана, дый толькі таго.

На другі дзень прывозіць гэты чалавек дровы ў горад на прадажу, так як бы ў нас да Валкавыска. Прыехаў туды і той пан авёс купляць і, усюды ходзячы, пытае то ў сяго, то ў таго:

— Ці няма аўса, ці не чутна аўса?.. — і вядома, як пытае хто чаго... Ну і якраз напаў на таго чалавека, што дровы прывёз.

— Чалавечку! Ці не чутно тут дзе аўса?

— Аўса?

— Але,— кажа пан.

— Пастой, паночку, зараз!

Узлез чалавек на свой воз, на дровы і ветрыць носам. Паветрыў, паветрыў да й кажа:

— Не, паночку, не чутно!

— Што тут за д'ябал! — кажа пан,— ці не ўчарашні ты, чалавечку?

«Бадай цябе ў роў, паночку, вывалілі!» — падумаў сабе чалавек, а пасля і кажа:

— Што ты, паночку, мне будзе лет больш як з сорак, а ты кажаш, што ўчарашні!

І пасля гэтага яны разышліся і больш не бачыліся.

## 11. ІДЗЕ МУЖЫК ДАРОГАЮ...

Ідзець мужык дарогаю, ідзець шырокаю, а насустрэчу яму пан едзе... Радуйся, сарока, радуйся, варона, гаробча, вялікі чудатворча,— куды я іду? Пытаецца пан у мужыка:

— Мужык, мужык, хто ў вашам сяле высшый?

— Знаю, панок, і ведаю: ёсць у нашым сяле Аўдзей — вышэ за ўсіх людзей!

Радуйся, сарока... і г.д .

— Дурак, мужык! Я ў цябе пытаю: ці ё ў вашам сяле галава?

— Знаю, панок, і ведаю: ё ў нашага пана бугай — галава бальшая, прабальшая!

Радуйся, сарока... і г. д.

— Дурак, **мужык! Я ў цябе пытаю:** каго вы ў сябе баіцеся?
— Знаю, панок, і ведаю: ё ў нашага папа сабака — хто ідзе, каля нясе, я іду — два нясу.
Радуйся, сарока... і г. д.
— Дурань, мужык, заеду ў шыю!
— Заедзь, панок-галубок: ё ў мяне адна дзежка буракоў і дзве гуркоў — накладу хоць вядзерцо...
Радуйся, сарока, радуйся, варона, радуйся, гаробча, вялікі чудатворча — куды я іду?

## 12. ДАГАДЗІЎ

Ідуць лесам пан з лакеем; вось лакей, ідучы спераду, пацягнуў за сабою галіну, што нагнулася над сцежкай, ды тады і пусціў, а яна выпрасталася ды— лясь пана па носе!
— А каб табе добра не было, як моцна б'ецца! — крычыць той.
— Э, падзякуйце, пане, што я яшчэ прытрымаў паскудную галіну, а то бяда была б! — адказвае лакей.

## 13. ГУТАРКА ПАНА З СЕЛЯНІНАМ

— З кёнд, ты, мужык?
— З хаты, мосьпане.
— Чый жа ты?
— Жончын.
— Якога ты пана?
— Гетакага, як ты, ваша... мужыкоў у... паліць, аж дым курыцца.
— Пад кім ты, мужык, жывеш?
— Пад богам, мосьпане.
— Але як твой пан завецца?
— Як быў нежанаты, так звалі панічом, а як ажаніўся,— так ужо ягомасць.
— Каго ты, мужык, слухаеш?
— Дуды, скрыпкі, як зайграюць.
— А каго ты баішся?
— У лесе ваўкоў, а ў сяле сабак.
— Гдзе ж твая хата?
— Проціў ліха на ўзгорку, гдзе ўбогі згубіў торбу парожню.
— А хто ў вас за ўрадніка? Пан аканом!? А хто ж за намесніка?
— Той паніч, што пахаджаець з вялікім бізуном.
— А калі ў вас, мужык, вялікдзень?
— У пятуроўку, калі хлеба нямаш.
— Што ты вязеш?

— Што ў воз улажыў, то я вязу.
— Што ты будзеш прадаваць?
— Што людзі будуць таргаваць, то я буду прадаваць.
— Чы барана?
— Не, не варона.
— Чы ты, мужык, глупы, чы глухі?
— Што?
— Чый жа гэта ў цябе конь?
— Чы ты, ваша, не відзіш, гэта кабылін сын.
— Не ўчарайшы ты, мужык?
— Не ўчарайшы, ужо мне сорак год мінула, як радзіўся.
— А чы ўмееш ты пацеры?
— Чорт — бо за іх стаяў, каб умеў.
— Чы бываеш ты, мужык, у касцёле?
— Быў раз, як хрысціўся — кумы ўняслі, другі раз, як жаніўся — сваты ўвялі, а трэці раз сабакі як апанавалі, так я ледва ў касцёл умкнуў.
— Што ж там людзі робюць?
— Касляюць.
— Што ж ксёндз робіць у касцёле?
— Ат, з хлопцам усё спіраецца: траксім, непараксім, піраксім, непараксім.
— Чы знаеш ты, мужык, катэхізм?
— Чаму я катоў не знаю, у нас у сяле каты ўзімку па ўглам лазяць.
— Чы знаеш ты бога?
— Знаю, да бог не такі, як ты, дурак.
— За што ты мяне лаеш?
— Ты, ваша, выбачай, бо мая такая гутарка.

## 14. АДКАЗ МУЖЫКА

Едзе мужык, наўстрэчу яму пан:
— Куды ты, мужык, едзеш?
— На места, паночак.
— Чаго ты, мужык, едзеш на места?
— Еду, паночак, купляць да мяса закрасы.
— Дурань жа ты, мужык! Якая ж трэба закраса да мяса?
— Эх, паночак, без солі і мяса не смачна.
— Ну, мужык, ты умён, як поп Сямён.

## 15. ХТО ПРА ШТО

Адзін чалавек недалёка ад дарогі капаў яміну. Тудою ехаў знаёмы гэтаму чалавеку пан, дай гаворыць на гэтага чалавека:
— Дзень добры табе, Мікалаю!

— Але, паночку, я яміну капаю.
— А чый гэта фальварак?
— Гэта мая саха і падпалак.

Бачыць пан, што чалавек не знае, што гэта за фальварак, сказаў папросту:

— Чый гэта двор?
— Гэта мой чорны вол, а рыжага пан даў.
— А як яго прозвіска?
— Як з далёка, так і з блізка.
— Ці ты, Мікалаю, глух?
— Але, паночку, я з сынам удвух.
— Ці многа вас такіх на свеце дуракоў?
— Наклаў дзежачку буракоў, а капуста не ўрадзіла.

Пан бачыць, што чалавек смяецца над панам, ён, рассердзіўшыся, паехаў дальш.

## 16. ЯК РАЗУМЕЮЦЬ «ПАНСКУЮ ГУТАРКУ»

Вязе селянін гонты, а насустрач едзе пан.

— Звруць з дарогі! — гукае пан.
— Не, не вельмі дарагі, тры злотых за капу.
— Сконт ты? — пытае пан.
— Але, паночку, за гонты! — адказвае селянін.
— З якей ты всі? — пытае пан сярдзіта.
— Дзе там у чорта ўсё, яшчэ на тры вазы не забярэш!
— З дарогі звярні, даўганосы! — зазлаваў пан.
— Калі ласка! — адказаў селянін і ўзяў свой нос ды павярнуў убок, кажучы: — Едзь, панок, калі табе мой нос перашкаджае.

## 17. АБХІТРЫЛІ ПАНІ

У адной пані касцы касілі траву на сена. Утаміліся і ляглі адпачыць. Ажно і пані едзе.

— Уставаймо, хлопцы, бо дастанецца нам ад пані, — кажа адзін касец.

А другі:

— Ляжыце, хлопцы, і скубіце траву, а я ўжо знайду, што сказаць.

Вось пад'ехала пані і пытае сярдзіта:

— Чаго вылежваецеся, гультаі?

А касец ёй:

— Вось, пані, касілі-касілі ды і дайшлі да такой травы, што каса не бярэ, то мы яе, праклятую, рукамі рвем.

— Гэта іншая справа! — прамармытала пані. — Так і далей рабіце.

## 18. ЯК ХЛОП КАНЯ ВУЧЫЎ

Прыйшоў адзін з войска і зайшоў да пана прасіцца на службу. Пан не мог ніяк адмовіцца і сказаў:

— Служба такая: навучыш майго каня гадаць.

Той згадзіўся навучыць за 50 год.

— Добра.

Так ён, бывала, кожны дзень шэпча і шэпча каню на вуха, але конь, вядома, не разумее. Праслужыў так каля двух гадоў. І пачалі ўжо з яго смяяцца. Так ён кажа:

— Конь 50 год не пражыве, я таксама пад богам, ды і пан не вечны. А для мяне ўсё-такі хлеб і служба.

От які хітры!

## 19. «А МНЕ — ТОЛЬКІ ВУХА!»

У селяніна забалела вуха — пачырванела, распухла. Убачыў яго пан і кажа:

— Ты што, у асла такое вуха пазычыў?

— Так, пане, — адказаў селянін. — Яго ж розум узялі вы, а мне гэта толькі і засталося.

## 20. ВУШЫ Ў НАГАХ

— Ну, а як тамака ваш новы пан? Добры?

— Нічога сабе, толькі бяда, што мае вушы ў нагах.

— Якім жа гэта парадкам?

— А так: калі, гаворачы да яго, не нахілішся ажно да каленаў, дык нічагусенька не чуе.

## 21. ПАНЫ І МУЖЫК

Вёз мужык паноў некуды на гулянку. У панскай карэце. І давай паны хвастацца. Ведама ж, паны. Каб не збрахаць, дня не пражывуць! Адзін пан казаў, што сядзеў дажа на пану, які прыходзіў к яго жонцы, другі казаў, што ў царскім крэсле давялося пасядзець, а тады давай над мужыком смяяцца. Адзін і пытае яго:

— А ты, Лявон, на чым сядзеў, ці не на царскай дочцы?

А мужык сагнуўся, паказаў панам зад:

— Во, на чым!

## 22. ДАВЕДАЎСЯ

Зайшоў селянін да пана, а той якраз паеў і парожнюю міску перавярнуў. Селянін і пытае:

— Пане, а чаму вы як паелі, то перавярнулі міску?

— Гэта значыць, што я наеўся.

— Вось яно што! А я ўсё думаў, было, чаго гэта мая свіння як толькі паесць, дык і перавяртае карыта.

## 23. МУЖЫК І ПАН

Калісьці аднаму мужыку трэба было кудысьці паехаць чыгункаю. Паехаў ён, але на нейкім вакзале, дзе ён перасядаў на другі цягнік, захацелася яму есці. Шукаў, шукаў месца каля стала — ледзь знайшоў, бо народу было шмат.

Толькі пачаў там есці, як ні адсюль, ні адтуль з'явіўся нейкі вяртлявы панок са шклянкаю чаю ў руках. Стаў каля мужыка дый глядзіць на яго, нібы кажа: «А ну ўступі, мужык, месца пану».

Але мужык быў не з баязлівых — есць і ні гу-гу. Тады панок і кажа голасна, так, каб мужык пачуў, да іншых панкоў, што сядзелі кругом:

— А скажыце ж, вяльможныя панове, якая розніца між мужыком і свіннёю?

І, сёрбаючы чай стоячы, глядзіць на мужыка.

А мужык, не доўга думаючы, ды:

— Розніца ёсць, пане!

— Якая?

— Ды такая, што мужык есць седзячы, а свіння стоячы.

## 24. РАСКАЗВАЦЬ ЦІ СЛУХАЦЬ?

Прыехаў у адну вёску пан і спыніўся ў хаце мясцовага панка. А пан гэты любіў перад сном слухаць казкі. Вось ён і звяртаецца да панка:

— Знайдзі мне такога мужыка, каб ён ведаў многа казак.

Гаспадар загадаў прывесці старога млынара, які славіўся сваёй гаварлівасцю.

Вось заходзіць ён у панскія харомы і разгубіўся.

А пан кажа:

— Чаго глядзіш, як баран на новыя вароты? Вось калі б слухаўся пана, дык і сам меў бы такія харомы.

Млынар павярнуўся да панка, што стаяў ззаду, і пытае:

— Пане, вы мяне прывялі расказваць ці слухаць казкі?

## 25. ЗНАХОДКА МУЖЫКА

Улез мужык к пану ў сад красці грушы. А ішоў аконам ды злавіў. Прывялі яго к пану.

— Чый ты? — пытае пан.

— Так і так, — кажа мужык.

— Чаго ты сюды ўлез? Даць яму бізуна.

Набілі мужыка і пусцілі. Ідзе дадому, бачыць: ляжаць часы на дарозе. А ён ні разу не бачыў часоў і не ведаў, што гэта. Узяў ён іх у рукі. Чуе — нешта шчабеча. Паднёс ён к вуху. Часы чыкаюць, мужыку здалося, што яны пытаюцца ў яго: «Чый ты?»

— Ах, трасца тваёй галаве! Дык і ты пытаешся, чый я?

Узяў ён іх да аб камень.

## 26. ГАНАРЫСТЫ ПАН

Пусціў чалавек пасвіць каня. Конь зачасаўся к пану ў авёс. Пан быў дома, угледзеў у аўсе каня і сказаў парабкам, каб яны забралі яго ў хлеў. Увечар пайшоў чалавек па каня. Пан сядзеў на ганку. Мужык нібыта не бачыць пана, ідзе і сумысна гаворыць моцна, каб пачуў пан:

— Калі наш пан з вялікіх паноў, то аддасць так каня, а як з простых мужыкоў, то злупіць тры рубля.

Пан усё гэта чуе. Падыходзіць мужык, знімае шапку, просіць, каб аддаў каня.

— Забірай,— кажа пан, ідзь, пся крэў, да д'ябла.

## 27. ЯК ЛЁКАЙ ПАНА АШУКАЎ

Адзін стары пан меў маладую жонку. Яна, вядома, маладая, знеслася з лёкаем і добра з ім жыла. Аж аднаго разу яна яму кажа:

— Як ты мяне пацалуеш у прысутнасці пана, а пан не загневаецца, то дам табе сто рублёў, часы і новае адзенне.

Так ён кажа:

— Добра, можна і так зрабіць.

Ну, так як пан прыехаў, прыходзіць ён да пакою і ўсё смяецца:

— А чаго ты смяешся?

— Ай, не скажу пры пані!

Пана цікавасць узяла, так гаворыць:

— Выйдзь, душка.

Тады ён кажа:

— А то ў нашым акне такая шыба, што як знадворку глядзіш, то ўсе здаецца, што пан паню цалуе.

— Чы то можа быць?

— Дапраўды, паночку. Няхай пан сам пабачыць.

Пан пайшоў, аж пані ўвайшла, лёкай да яе і давай... цалаваць.

Пан праз акно відзіць — праўда: лёкай паню... цалуе!

Так пан кажа:

— Ідзі мне зараз і пабі то акно!

Так ён пайшоў, як дасць кіем па акне, так і пасыпалася. Але такі ад пані сто рублёў выйграў, бо пан углядаўся, а ён з паняю цалаваўся.

## 28. «ДВАРАНІН»

У хаце вячэраюць. Нехта стукае ў акно.
— Хто там?
— Я. Пусцеце, калі ласка, пераначаваць.
— Хто ж ты?
— Дваранін.
— Ну, ту й спі на дварэ.

## 29. АБЫ НЕ ПАН

— Тату, тату! Чорт да нас лезе ў хату!
— Глупства! Абы не пан.

## 30. ЛЕПШЫХ ПАСЛАЛІ ДА ЛЕПШЫХ

Пасылае пан свайго чалавека к другому пану з пісьмом. На дарозе чалавек гэты сустракае таго пана і падае пісьмо.

У мужыка рукі былі чорныя і запэцкаў імі ўсё пісьмо; да шчэ ж сказаў пану «дзень добры» і не скінуў шапкі. Пан толькі скрыва глянуў. Пасля не ўцярпеў-такі.

— Гм! Ці ж у твайго пана няма лепшага чалавека?

— Чаму, пане, няма! — кажа мужык. — Але ж ён лепшых людзей ту і к лепшым паном паслаў.

## 31. МУЖЫК РАЗУМНЕЙШЫ ЗА ПАНА

Адзін пан заехаў да карчмы да й казаў даць дзесяць яец вараных. Так шынкарка яму і дала. Ён з'еў, да й паехаў, не заплаціўшы ёй. Перайшло ўжо мо лет з колькі, прыязджае той пан. Так шынкарка яго пазнала да й кажа:

— Ну, тут жартаў няма, нех пан плаціць, бо я свайго не дарую!

Так ён ёй даў кілька злотых, да то яна, не ўзяўшы, падала яго на суд. Ажы куды, на судзе аблічылі, колькі гэта было б курэй, колькі яец і нарахавалі яму надта многа. Аднаго разу ён ідзе недзе, анно адзін чалавек кажа да яго:

— Няхай пан падасць другі раз на суд, а я буду за сведку.

— Добра.

Падаў на суд, ажно ў той дзень прыходзіць і той чалавек да чыста апачканы вараным гарохам. Так у яго пытаюць:

— Чаго ты прыйшоў і дзе ты гэтак апачкаўся?

— А гарох вараны сеяў!

— Ля, а ці ж ён узыходзе?

— А з вараных яец, — кажа, — будуць курчаняты?

Так тыя думаюць, праўда, і прапала шынкаркі, а пан вынадгарадзіў яго за гэта.

## 32. МУЖЫК, ПАН І СПАС

Ехалі на базар к Спасу мужык і абяднеўшы пан Свянтоўскі. Быў ужо позні вечар. Раптам стала так цёмна, што хоць вочы выкалі. Вымушаны былі застацца начаваць на паляне ў лесе. Мужык адпрог каня, спутаў і просіць:

— Святы Спас, спасі майго каня і мяне грэшнага.

Пан папрасіў спутаць і яго каня і кажа:

— Спас, пасі і майго каня. Я дам цэлы пачак цыгарак.

Раніцай пан і бачыць, што два ваўкі цягаюць конскія астанкі. Ён будзіць мужыка:

— Іван, Іван, колькі ў вас Спасаў?

— Адзін.

— А чаго ж майго каня пасуць два.

— Ды гэта ж яго ваўкі ядзяць.

— Ай, ай, ай. Кругом жа лес, адкуль жа ваўкі ўзяліся?

## 33. ПРАЗ ТЭЛЕФОН

Адзін панок завёў сабе тэлефон. Ведаеце, штучка гэткая, што праз дудачку гаворыць. Жадаючы пазухаваць перад суседам, панок і кажа яму, стрэўшы яго ў воласці:

— А каб ты ведаў, як прыемна размаўляць праз тэлефон! Вось я табе пакажу. Зараз я скажу сваёй жонцы, каб яна чакала нас на абед.

Далей ён пазваніў да сябе дадому і сказаў:

— Жонка, я зараз прыеду абедаць з панам Хвальком, я запрасіў. Пачакай нас.

І, абярнуўшыся да Хвалька, прамовіў:

— А цяпер прылажы борздзенька вуха да дудачкі і слухай, што будзе адказваць мне мая гаспадыня.

Хвалько прытуліў вуха да дудачкі і пачуў:

— Ах! Ахвота табе, Антоні, клікаць да сябе ўсякую брыдоту!

## 34. МУЖЫК НА СУДЗЕ

Ішла пані ў багатай сукні, а чалавек, збоку ідучы, наступіў на яе, аж яна трэснула. Тая пані падала на яго ў суд. Так суддзя асудзіў заплаціць за сукню сорак пяць рублёў і сукню, штоб чалавек сабе забраў. Так той чалавек кажа:

— Я не маю часу больш па судах цягацца.

І, выняўшы 45 рублёў: «На, — кажа, — пані, грошы, скідай спадніцу!»

Так тая пані застыдзілася скідаць спадніцу пры людзях і пайшла. Толькі яе і бачылі.

## 35. ХІТРЫ ПАСТУХ

Адзін пан пайшоў з пастухом узаклад: пан кажа:

— Ты быдла не напасвіш, а я госці накармлю.

А пастух:

— Не, я і быдла напасу і госці накармлю.

Пан кажа:

— Добра, спрабуемы.

Пастух выгнаў жывіну на добрую траву, накупляў солі, дый па той траве рассыпаў. Так жывёла ела, чуць не лопнула. Прыгнаў дахаты, так каровы ўсе пакладіся, ляжаць, ледзьве здыхаюцца. Пан казаў ім аўса даваць, усяго — нічога не хочуць. Тады пастух набраў за пазуху арэхаў, дый да пакою. Прыходзіць, усе паны там сядзяць за сталом, ледзьве дыхаюць, так ён узяў жменю арэхаў, сыпнуў да пакою, а яны ўсе да тых арэхаў. І той такі заклад выйграў.

## 36. ПАРА ВАЛОЎ

Бедны мужык залажыўся з багацеем, што будзе з панам абедаць.

— Ну, добра, як паабедаеш, дык я табе пару валоў дам!

Прыходзіць да пана, пакланіўся нізенька.

— Пане, я яшчэ нікому аб гэтым не гаварыў. Што б каштаваў во такі кавалак золата? — І паказаў яму на руку...

Той нічога яму не кажа, крыкнуў, каб прынеслі гарэлкі, напаіў яго, даюць абедаць, той сядае і абедае з панам; пан аж гарыць, хацеў бы ведаць, дзе той кавалак золата, дый пытае:

— Дзе ён стаіць, каб яго прынесці?

— Ды што ж, пане, у мяне няма, я пытаю, колькі ён варты, каб яго мець?

— Які дурань!

— Я не дурань, пане, калі гэтым спосабам выйграў пару валоў.

## 37. ТОНКІ НАМЁК

Прыйшоў аднойчы селянін да пана з нейкай просьбай, а з ім і малое хлапчаня прыплялося — яго сын. Пан сядзеў за сталом пад раскошнай ліпай і церабіў вараныя яйкі, снедаў на свежым паветры.

Малы ўбачыў — засоп, захныкаў, тузануў бацьку за клешні, паказваючы пальцам на панскі стол: «Тату, я хачу...»

— Ша, — навучае яго бацька, — не скуголь. Пан не свіння, каб цэлае яйка з'есці, выдзеліць і табе палавіну.

## 38. НЕ РАЗАБРАЎ

Заначавалі ў адным месцы разам яўрэй, пан і селянін.

Ноччу, калі яны ляглі спаць, пан крэпка раскашляўся і не даваў спаць яўрэю. Яўрэй слухаў, слухаў ды пачаў лаяць селяніна.

— Што ж ты кашляеш, мужык, ці ты не ведаеш, што тут пан спіць? А ты, каб цябе шлях трапіў, кашляеш і перашкаджаеш вяльможнаму пану спаць.

Таму стала прыкра, дык ён кажа:

— Што ты там лаешся, гэта я сам кашляю.

— А-а, гэта пан! То выбачайце, пане! Прашу пана кашляць сабе што найбольш, цэлы век без перастанку, ані мінуты не спыняючыся і што раз крапчэй...

## 39. НЕ РАЗГУБІЎСЯ

Аднойчы ехаў пан у госці са слугою. Па дарозе ён вырашыў адпачыць. Пан лёг, а слузе загадаў разбудзіць яго праз тры гадзіны. Слуга сядзіць, а пан спіць, аж храпе. Доўга цярпеў слуга гэтае храпенне, а потым разгневаўся і разбудзіў пана. Той пачаў крычаць.

— Як ты смееў мяне будзіць?

Слуга не разгубіўся і адказаў:

— Я не будзіў, я толькі хацеў сказаць, што вам засталося спаць яшчэ адну гадзіну.

## 40. ВЫНЯТАК З ЛІСТА

Адна пані, муж якое падарожнічаў, напісала да яго засмучаны ліст, дзе была такая частка:

«Усюды адчуваю тваё небыццё, даражэнькі Язэпка! Ці хаджу, ці сяджу, ці на яве, ці ў сне. Прачынаюся і, калі гляну на твой бурнос, што вісіць на цвіку, першы мой уздых з думкаю: «Ах, калі б мой даражэнькі Язэпка вісеў тутака».

## 41. ДОБРА ЗРАЗУМЕЎ

Пані з брыдкім і страшным тварам, наняўшы фурманку, пытаецца ў фурмана:

— Ваш конь не выверне, ён не баязлівы?

— Нічога, сядайце: ён не будзе назад аглядацца.

## 42. ШТО НІ ПАН, ТО САБАКА

Едзе мужык і вязе свінню, а насустрач ідзе пан з сабакам. Пан кажа:

— Што ні мужык, то свіння.
А мужык, доўга не думаючы, адказвае:
— Што ні пан, то сабака.

### 43. НЕ АБРАЗІЎ

У аднаго пана сяляне абраблялі зямлю на палавіне. Вось аднойчы прывезлі снапы да новай клуні і пан выйшаў, дзядзькі сталі закурваць, а адзін з іх не курыць, і пан таксама не курыць.

А адзін дзядзька і кажа:

— Хто не курыць і не нюхае табакі, той не варты і сабакі!

А пан тады:

— Дык гэта выходзіць, што і я не варты сабакі?

А дзядзька:

— Ды не, панок, вы варты двух, ды яшчэ і добрых!

### 44. «ПУЗА ЛОПНЕ, ТО ЎСЮ СТАНЦЫЮ ЗАТОПІЦЬ»

Адзін памешчык ходзіць па станцыі, а невялічкі хлопчык сядзіць і плача. Памешчык пытае:

— Хлопчык, чаго ж ты плачаш?

Хлопчык падумаў і адказвае:

— А як жа мне не плакаць, калі ваша пуза лопне, то ўсю станцыю затопіць.

### 45. АБ СЫТАЙ СВІННІ

Тоўста свіння стала, уся пайшла ў сала, пішчэць і то перастала, а бегаць ёй хочацца горш першага. Пайшла свіння к доктару: «так і так», — кажа.

Доктар загадаў ёй травамі лячыцца.

— Трава, — кажа, — супраць сала здарава.

Стала свіння травамі лячыцца. Ад рання да начы траву жрэ, толькі сала расце.

Пайшла свіння ізноў да доктара: «так і так», — кажа. І доктар загадаў ёй вадой лячыцца:

— Сплыве, — кажа, — сала вадзіцай.

Стала свіння воды піць, вада не таніць, ад вады горш рассыцела.
Пайшла свіння ізноў да доктара: «так і так», — кажа.
А доктар вялеў ёй на сонцы ляжаць:
— Стопіць табе сонейка сальца і мясца.
Пролежні наляжала, а яшчэ сыцей стала.
Што рабіць?
І пайшла тады свіння да знахара. А той ёй і кажа:
— Каб стала ты, свіння, здарова, не вада табе, не трава табе, не на сонцы ляжанка, а пуга ды палка, ды работа да поту, дык сала бы і спала.

## 46. РАХУНАК ШАЎЦОЎ

Шавец, адрабіўшы ў пана, падаў такі рахунак за сваю працу:
«Пану падбіў падноскі і прышыў вушы.
Панскай жонцы паправіў нос і расцягнуў на капыле.
Цётцы прышыў два язычкі.
Наймітцы перашпількаваў падэшвы і перацягнуў заднік».

## 47. У КРАМЕ ВІЛЕНСКАГА МЯСНІКА

Мяснік (*да свайго хлопца*). Ну што, занёс ты прыставу яго цялячую галоўку?

Хлапец. Занёс.

Мяснік. Дык вазьмі цяпер адсячы заднюю нагу палкоўніцы Панамарскай, павесь папоўскую тушу на кручок, а вучыцелевы трыбухі злажы ў карзінку: сам прыйдзе і возьме, не вялікі пан.

Ага! Вось яшчэ трэба перамяніць мазгі таму тоўстаму пану, што жыве на рагу вуліцы, бо тыя ў яго ўжо пратухлі.

## 48. РАЗЫШЛОСЯ, ЯК ЗАЕЧАЕ САЛА

Едуць пан з кучарам. Пан і гаворыць:

— Во, убіў я зайца, дак з яго сала было з цэлы пуд.

А кучар яму:

— Во, пане, будзем ехаць праз мост, дак там чорт брахуноў хапае.

— А далёка той мост?

— Да не, — кажа кучар, — во за гэтым лесам, дзе горка, а там луг, а там ужо зусім блізка.

Як уехалі яны ў лес, пан зноў кучару:

— Каб ты бачыў таго зайца — аднаго сала яго было хунтаў з дзесяць.

Едуць яны далей, праехалі ўжо лес, так пан:

— Ну, можа, не дзесяць, але ж хунтаў пяць з таго зайца сала было.

А як пайшла дарога лугам, дак пан ужо:

— Ну, хоць сала на ім не было, а ўсё ж заяц быў і не такі худы.

Едуць яны далей. Праехалі луг, грэблю, а маста ўсё няма.

— А дзе ж той мост? — пытае пан.

— А разышоўся, як заечае сала.

## 49. І ТАК ДРЭННА, І ГЭТАК ДРЭННА

Была ў батрака Івана прыгожая і добрая жонка Алёна. Яны кахалі адзін аднаго, але тут гэтая Алёна спадабалася пану. Ён яе сілай прымусіў жыць з ім. Іван даведаўся аб гэтым, але што можа

асіліць бедны батрак супраць багатага пана, куды пойдзе скардзіцца?

Пан загадаў Івану месці дарогу перад яго ганкам. Мяце Іван і прыгаварвае:

— І так дрэнна, і гэтак дрэнна.

Пачула гэта пані, пытае, чаму гэта яму і так дрэнна, і гэтак дрэнна.

Адказвае Іван:

— Панечка, пан ходзіць да мае жонкі — дрэнна, выгнаць пана — ён са свету зжыве — дрэнна таксама.

Як пачула гэта пані, як угневалася і кажа Івану:

— Пан ходзіць да твае жонкі, а ты хадзі да мяне.

Так яна вырашыла адпомсціць нягодніку мужу.

Пачаў Іван хадзіць да пані. Аднойчы мяце ён пад ганкам і прыгаварвае:

— І так добра, і гэтак добра.

Пачуў пан і пытае, чаму гэта яго беднаму батраку можа стацца добра.

Іван адказвае:

— Паночку, пан ходзіць да мае жонкі, а я — да панавай.

Як пачуў гэта пан, як угневаўся і загадаў:

— Даць хлопцу сто бізуноў, яму і яго жонцы.

Вось і выходзіць урэшце, што бедняку і так дрэнна, і гэтак дрэнна.

## 50. МУЖЫКІ ПРЫ ГАРМАЦЕ

Убачылі мужыкі ў горадзе гармату — глядзяць і дзівяцца.

— Во, — кажа адзін, — каб яе добра набіць, то, пэўна, на ўвесь горад раўнула б.

Аж праходзіў тут нейкі паніч, ды пачуў, што яны казалі.

— Эх, — кажа, — што гэта за гармата! Вот у Маскве я бачыў гармату, вот гармата дык гармата: у рулю дык з возам сена ўехаць можна.

Адзін мужык падумаў і кажа:

— Што за дзіва! Нашто ў нас у вёсцы было здарэнне, што, пэўна, паніч і не чуў, не толькі не ведаў.

— А што ж такое?

— А, — кажа, — меўся да нас нейкі начальнік прыехаць. Ну, дык як яго спаткаць найлепей? Вот адзін адстаўны салдат і радзіць: «Ёсць у нас гармата старая, ад шведа ці ад француза асталася, дык яе, кажа, вычысцім, а як будзе ехаць начальнік, дык і выстралім на павітанне». А была яна заржавеўшы.

Вот салдат узяў сала, вычысціў добра ў сярэдзіне, памазаў і чакае, набіўшы яе, як выстраліць.

Тым часам, пакуль начальнік прыедзе, разышліся дамоў. А міма бег сабака. пачуў сала, стаў лізаць і ўлез у сярэдзіну. Тут крыкнулі, што едзе начальнік. Салдат падбег і стрэліў. Як стрэліць яна, як выкіне сабаку, як забрэша сабака, дык якраз, як во гэты паніч цяпер.

## 51. САМЫЯ ЛЕПШЫЯ ГРУШЫ

Адзін пан паслаў слугу па грушы і сказаў:

— Купі мне самых лепшых.

Слуга прыйшоў у краму і папрасіў груш. Купец падаў яму. Але слуга сказаў:

— Не, дайце мне самых лепшых.

Купец кажа:

— Паспрабуй адну, тады пазнаеш, што ўсе добрыя.

— Як я пазнаю, — кажа слуга, — што яны ўсе добрыя, калі паспрабую толькі адну?

І слуга паадкусваў патроху ад кожнай і прынёс іх пану.

## 52. ДАСЦІПНЫ

Быў у аднаго пана хлопец на паслугі, ды надта ўжо ласы: за ім нічога ні пастаў, ні палажы. Раз паставіў пан слоік мёду зранку, а ўвечары глядзіць — ужо пусты!

— Дзе мёд? — пытае ў яго.

— Вылізаўся, паночку!

— Ну, тваё шчасце, — кажа пан, — што сягоння святая нядзеля, а то б я табе задніцу вылізаў.

А недалёчка ад двору рэчка была. Хлопец гэта, назаўтра рана ўстаўшы, скінуў парткі ды так шаруе гузно, так шаруе. Пан угледзеў гэта праз вакно і пытае:

— А што ты, блазне, там робіш?

— Гэта, — кажа ён, — паночку, я мыюся, каб чыстым быць, бо пан маніўся сягоння раніцай мне нешта рабіць.

— А цьфу, каб ты прапаў! — сплюнуўся пан.

## 53. ЧЫМ ЧАСТАВАЛІ ПАНА

Аднаго разу прыехаў у вёску пан (можа, і поп) дань сабіраць. Сабраў многа і адправіўся дамоў са сваімі прыслугамі. Але вось пану захацелася піць, і ён сказаў хлопчыку Міхаську, каб той прынёс квасу. Міхаська хуценька збегаў дамоў і ў гліняным чарапку прынёс квасу.

Пан выпіў, хваліць, што смачны, ды пытаецца:

— А ў вас яшчэ многа такога квасу?

— Вой многа. Учора ў квас уваліўся пацук, дык мама лазіла даставаць, то было яшчэ па пуп.

Тут пан як раззлуецца, як топне нагою ды як шпурне чарапок, той і разбіўся. А Міхаська як заплача: «А, дзядзечка, што ж вы зрабілі...»

## 54. СКУПАЯ ПАНІ

У адным двварэ была пані вельмі скупая, да й усё давала людзям жур варыць дзень пры дні; а той зноў пан быў вельмі цікавы, да й гэта раз пайшоў пад акно паслухаць, што слугі гавораць. Ажно якраз парабкі клянуць:

— Учора быў жур і сягоння жур, каб, бог найвышэйшы даў, згарэў гэты двур!

Пан, гэта завярнуўшыся, пайшоў да пані, да й кажа:

— Ты, душко, бардзо зле даеш людзём есць — пшэклінае нас.

Так гэта на другі дзень дала пані грэцкіх круп, сланіны, каб сабе наварылі кашы. Пайшоў пан зноў слухаць пад акно, ажно парабкі кажуць:

— Учора жур, сягоння каша.

Ото добра пані наша!

Так пан гэта пайшоў да й пані кажа:

— От так то так! — тэраз то і я цябе і парабкі хвалё, жэ добра і кохана!

З тых пор пані шмат папраўілася.

## 55. ПАРАДА КУХАРА

Быў вельмі скупы пан. Пасылае пан кухара на базар да й наказвае, каб не траціў дарма грошай.

— Ідзі, — кажа, — ды купі чаго, каб і танна і багата было, а то ты мяне зусім звядзеш!

Пайшоў кухар ды купіў нячышчаных флякаў. Прынёс, так з усім, а пан ужо і напусціўся:

— Ты зноў мяне зруйнаваў! Чаго там накупіў? Кажы!

Не стрымаў ужо кухар, кінуў флякі і кажа:

— Ды з сярэдзіны паясі, а флякі прадасі, то яшчэ і барыш будзе!

## 56. ЯК НАЙМІТ ХАМА ПАНАМ КАЧКУ ПАДЗЯЛІЎ

Спёк адзін пан качку, ды ніяк не мог яе падзяліць паміж сваімі сынамі і дочкамі. А быў у яго наймiт Хама. Пан паклікаў яго дый кажа:

— Падзялі нас!

Узяў Хама качку, адрэзаў у яе галаву і даў пану:

— Гэта вам, пане, бо вы — усяму галава.

Далей адрэзаў шыю і даў пані, бо яна блізка галавы. Адрэзаў крыльцы і даў двом паннам, каб у танцах лёталі, як на крылах. Дзве качыныя нагі даў двум панічам, каб добра вярхом ездзілі.

— А табе, Хамішча, будзе тулавішча! — сказаў сам да сябе. За качку — дый пайшоў, а пан толькі рот разявіў!

## 57. МАЛІТВА БАГАЦЕЯ

Аднойчы бядняк сустрэў у полі двух быкоў. Быкі адбіліся ад статку. Бядняк не ведаў, што з імі зрабіць, могуць ваўкі з'есці. Пагнаў да сябе на двор. Багаты сусед пытаецца:

— Адкуль у цябе быкі?

— Бог даў!

— А дзе бог?

— У полі на дрэве, у лістах захаваўся.

Багацей прыйшоў пад дрэва, разаслаў дыванок і пачаў маліцца. Маліўся, маліўся, падняў галаву ўверх і кажа:

— Бог, падары мне быкоў.

А бядняк залез на дрэва і кажа:

— У цябе і так хватае.

Багацей падхапіўся на ногі і сказаў:

— Калі так, я не буду больш ні маліцца, ні пасціць.

Голас з дрэва адказаў:

— А якая карысць ад тваіх пастоў і малітваў?

Багацей плюнуў і сказаў:

— Вось што табе за быкі! — паказаў фігу, са злосцю ўзяў дыванок і пайшоў дадому.

## 58. СВАЮ СЛУЖБУ ЗНАЕ

Адзін пан пытаецца раз у свайго фурмана, ці той паедзе з ім у вялікую дарогу.

— За вамі, пане, усюды, — адказвае фурман.

— Як гэта ўсюды? Нават у пекла?

— Нават у пекла!

— Але падумай сабе, што ў пекле надта ж горача, агонь.

— Нічога, пане, — кажа фурман, — я сваю службу знаю, высаджу пана ў пекле, а сам, як заўсёды, буду чакаць перад брамай.

## 59. ГРАФ І НАМЕСНІК

Адзін граф зазлаваўся на свайго намесніка і ў злосці кажа:

— Вы вельмі падобны да асла.

А намеснік далікатна адказвае:

— Ці я падобны да асла ці не, то гэтага не ведаю, але ўжо не раз меў гонар заступаць яснавяльможнага графа.

## 60. ПАНІ СУЧАСНАЯ

Паня Панеўская варочаецца з бюро пасрэдніцтва хатняй службы, дзе хацела знайсці сабе новую пакаёўку.

— Ну што, не знайшла пакаёўку? — пытаецца муж.

— Не.

— Няўжо ж у бюро не было кандыдатак.

— Было то іх шмат, але ўсе ўжо служылі ў нас,— адказала, задумаўшыся, жонка.

## 61. КУХОННАЯ «ПАЛІТЫКА»

— Што ў цябе на кухні робіць гэты жаўнер?

— Нічога асаблівага, але пільнуе маю асабістую недатыкальнасць.

— Што за смешкі?

— Якія тут смешкі, калі не магу абараніцца ад пана.

## 62. КРУЦІ ЖОРНА ПІЛЬНА, ТО Й ТУТ БУДЗЕ ВІЛЬНА

Служыла раз дзеўка ў адных гаспадароў да й ёй там цяжка было. Найболей яны яе запіралі да жарон, так ім падзякавала за службу. Так пытаюць у яе:

— А дзе ж ты будзеш?

Так яна адказвае:

— Пайду хіба да Вільна.

Так гаспадар, схапіўшыся, да яе:

— Круці жорна пільна, то й тут будзе Вільна.

От добраму то ўсюды добра.

## 63. СКУПЫ ПАН

— Даў табе, дзедку, грош?

— Даў, пане!

— Дык помні, што даў табе, дзедку, грош!

— На табе, паночку, другі, толькі ўжо не кажы нічога.

## 64. ЯК ГАСПАДАР У ПАРАБКА НАТУРУ ПЕРАГНАЎ

Гадзіўся адзін парабак, да й кажа да гаспадара:

— Анно, каб вы зналі, што ў мяне е такая натура, што як мяне хто будзіць, то гадзіну храпу, гадзіну сапу, а гадзіну абуваюся.

— Няма ніц, — кажа гаспадар, — у мяне е лякарства ад гэтакай натуры.

Добра. Назаўтра будзіць гаспадар яго, так ён давай храпці, сапці і абувацца з гадзіну. Так то на другі дзень гаспадар кажа да бабы:

— Накладзі ж ты дзе на паліцы пабітых гаршкоў і чарапоў усялякіх.

Тая наклала. Ён прыйшоў назаўтра яго будзіць, да й кажа да яе:

— Ой, ой, як мне ў галаве вініецца!

І гэто давай кіем біць тыя гаршкі, а пасля — і па ём! Той гэто калі не выскачыць, ухапіў боты — пайшоў. Пасля, бало, як анно скажа, што ў галаве вінія, так парабак калі ўхопіць боты, так уцечкі, анно закурыць за ім. От і прагнаў натуру!

## 65. ЧОРТ НА ПАГАНАГА НАПАЎ

Пані. А чаму ты адышла з папярэдняй службы?

Наймітка. А ці я ў пані пытаюся, чаму ад вас пайшла папярэдняя наймітка?

## 66. ПАНІ І СЛУЖАНКА

Пані. А ты памыла рыбу перад тым як паставіла варыць?

Служанка. А пашто? Яна ж заўсёды ў вадзе бывае.

## 67. І ГЭТА ПРАЎДА

Мамка *(да пані)*. Цяпер, калі пані адправіла сваю кухарку, я займу яе месца.

Пані. Бойся бога... Як жа з мамкі ды ў кухаркі... Ці ж ты патрапіш?

Мамка. Вось хіба! Калі патрапіла выкарміць малога, дык і вялікіх выкармлю.

## 68. ЯКАЯ З ІХ

— Не, я ўжо не разумею, якая з нас дурная: я ці ты? — гаворыць пані служанцы.

— Думаю, панечка не трымала б у сябе дурной? — адказала служанка.

## 69. ДУРНЫ СЫН

Прасіла ўдава свайго дурнога сына:

— Ідзі, сынку, да пана дый скажы: «Прасіла мама яснавяльможнага пана, каб вы нам далі жэрдак свінцэ хлеў адгарадзіць».

А сын прыйшоў да пана дый кажа:
— Прасіла мама пана, каб вы нам далі вяльможных яснай свінцэ хлеў адгарадзіць!

## 70. КАЛІ СКОНЧАЦЬ?

Пан кліча:
— Пятро, ці ты тут?
— Тут, паночку.
— А што робіш?
— Нічога.
— А ты, Янка, дзе?
— Ды з Пятром, пане.
— А што ты робіш?
— Памагаю Пятру.
— Ну, добра. Як скончыце, падасце мне боты.

## 71. ЗАПРАТАКОЛІЛІ

Старшыня з пісарам, забраўшы за падаткі падсвінка ў адной кабеціны, каторая была другі раз замужам, так запісалі ў пратаколе: «Забралі ў Марысі С. за падаткі падсвінка з першага замужаства».

## 72. ХЛАПЧУК І УРАДНІК

Хлапчук вёў на вяроўцы цяля, якое кідалася ва ўсе бакі. А тут якразураднік праязджаў.
— Ты чаму перада мною шапкі не знімаеш, хам?! — закрычаў ён на хлопца.
— Калі ж мае рукі заняты, пане ўраднік. Злезьце, калі ласка, з воза, патрымайце цяля, а я шапку зніму.

## 73. БЫЎ ЗАНЯТЫ

— Пане! Пане! Я ўчора бачыў, як пан абнімаў маю жонку.
— Даруйце, але я быў гэтак заняты ў той момант, што зусім вас не заўважыў.

## 74. ЧАМУ КАЗАК ПАДОБНЫ ДА ПАНА?

У аднаго пана было шмат маёнткаў. Вось прыехаў той пан нейк у сваю слабаду, а эканом і прыслаў да яго казака з паперамі з другой слабады. Глянуў пан на казака — здзівіўся: маўляў, вылітыі другі ён сам стаіць перад ім. Вось ён і пытае казака:

— Ці не была твая маці прачкаю ў святліцах у майго бацькі?
— Не, ніколі не была, — адказаў казак, — толькі мой бацька восем год тапіў у святліцах печы пры старой пані.

## 75. АДНЫМ ДУРНЕМ СТАЛА МЕНШ

Ураднік, пераехаўшы з правінцыі ў горад, сустрэў там мешчаніна з мястэчка, у якім раней працаваў.
Прывітаўся і пытаецца:
— А што цяпер у вас чуваць, ці заўсёды там гэтулькі дурных, як даўней?
— Не, — адказаў мешчанін, — як вы ад'ехалі, адным дурнем стала меней.

## 76. ПАСМЯЯЎСЯ

Нейк ехаў панок з ярмаркі і сустрэў на дарозе мужыка. Захацеў з яго пасмяяцца. Вось ён і кажа мужыку:
— У мяне ў солі чэрві завяліся. Ці не ведаеш, мужык, што рабіць?
Мужык яму і адказвае:
— А ты, пане, зрабі так: як выпадзе першы снег, вазьмі снегу, перапалі яго і пасып соль попелам, то і чэрві прападуць.

## 77. АДЗІН РАЗ ПАМІРАЮЦЬ

Прыезджы пан звяртаецца да селяніна:
— Што гэта там капаюць?
С е л я н і н. Магілу, паночку.
П а н. Гм, магілу, а я думаў, што ў такой пекнай і здаровай ваколіцы людзі паміраюць не часта.
С е л я н і н. Людзі тут, паночку, не часта, а толькі адзін раз паміраюць.

## 78. У РЭСТАРАНЕ

Пан заказаў качку. Падалі. Пан агледзеў яе і зварочвае ўвагу слугі.
— Але ж гляньце, гэтая качка мае толькі скуру і косці.
— А што пан яшчэ хацеў? Пер'е?

## 79. АДВАКАТ І МУЖЫК

Адзін мужык вылаяў і прыбіў да паўсмерці нейкага чалавека. Прыйшла павестка адміравога, каб явіўся на суд. Бачыць мужык, што будзе дрэнна, ідзе да адваката і просіць яго, каб навучыў, як тут выкруціцца. Адвакат і кажа:

— Прыкінься дурнем, як запытаецца міравы, ты і кажы: «Ну дык што?», як другі раз запытаецца: — «А яшчэ што?»

Мужык так і зрабіў. Яўляецца на суд, яго міравы і пытае:

— Ты такі та а такі та?

— Ну дык што ж?

— Тебя обвиняют в изувечении такога та а такога та.

— Ну, а яшчэ што?

— Дурак, отвечай на вопросы.

— Ну дык што?

Парашылі, што ён дурань, і пусцілі. Спатыкае яго адвакат:

— Ну, бачыш, як я табе памог?

— Ну дык што?

— А варта б за навуку што-кольвечы даць.

— А яшчэ што?

— Як што, ты павінен мне заплаціць.

— Ну дык што ж?

Адвакат плюнуў і пайшоў ад яго, а мужык, ухмыляючыся, вярнуўся дамоў.

## 80. НА СУДЗЕ

У аднаго селяніна пакралі авечкі. Даведаўся ён, хто злодзей, дый падаў у суд.

Пачалі судзіць, ды зладзеі падкупілі суд, і нічога селяніну не прысудзілі. Вось ён падае зноў у суд — зноў не прысудзілі, падае трэці раз...

Выклікалі яго ў суд і робяць допыт. Справа ад селяніна сядзіць старшы абаронца, супраць яго — суддзя, а злева — рабы пракурор.

— Раскажы, дзед, як у вас укралі авечкі? — пытае суддзя.

— Ды як жа? — гаворыць ён,— вось справа (паказвае на абаронцу) стаіць стары млын, проста (паказвае ўбок, дзе сядзіць суддзя) — аўчарня, а злева (паказвае на пракурора) — прывязаны стары сабака.

Вось чую я ноччу, а млын меле дый меле, меле дый меле, а толку няма, а баран у аўчарні (паказвае ўбок суддзі) «бе» дый «бе», а рабы сабака (паказвае ўбок пракурора) усё «гаў» дый «гаў», дый «гаў», а авечкі так і пакралі.

## 81. НЕЧАГА ДАДАЦЬ

С у д д з я. Што вы можаце яшчэ дадаць да свайго апраўдання?

С е л я н і н. Нічога, пане суддзя, бо апошні чырвонец аддаў пісару.

## 82. ДАМОВІЛІСЯ

Прывялі аднойчы бывалага зладзюжніка да ўрадніка. Той змерыў небарака позіркамі і адпусціў паліцаяў.

— І не сорамна табе? — пачаў ураднік.

— Як першы раз краў — было сорамна, а цяпер прывык, — шчыра прызнаўся злодзей.

— Сёмай запаведзі ты не ведаеш, шыбенік! Чужое прысвойваеш, хоць бы пачырванеў.

«Гэта ўжо на чырвоненькую намякае,— падумаў злодзей і памацаў у кішэні чырвонца.— Хопіць з яго і беленькай» .

— Я ад роду бледны,— сказаў ён.

Ураднік прыкусіў вусы і пачаў нешта пісаць.

— Калі ўжо так,— занепакоіўся злодзей,— кіньце свае пратаколы. Я пачынаю зелянець. А сам падумаў: «Давядзецца развітацца з траячкаю».

Ураднік падняў галаву.

— Не ведаеш ты мяне, голубе. Тут і не такія чырванелі.

— Ну, калі так, я ўжо і пасінеў,— злякаўся злодзей, намацаўшы ў кішэні пяцёрку.

— Чырвоны, паганец, і баста. Ты ў мяне так не выкруцішся.

Злодзей палез за пазуху. З твару ён даўно ўжо не быў чырвоны. Вельмі не хацелася яму траціць дзесяткі.

Калі ён палажыў на стол чырвоненькую, ураднік крыкнуў на паліцаяў:

— Га801 яго ў патыліцу, каб духу яго не было. Водзяць сюды розную дробязь. Не могуць злодзея ад парадачнага чалавека адрозніць!

Злодзей за дзвярыма чухаў патыліцу. Ён так і не мог вызначыць, хто ж больш крадзе — ён ці ўраднік.

## 83. АДЗІНЫ РАТУНАК

Ішоў цераз лёд ураднік дый праваліўся. Сабраўся народ. Пабеглі за бусакамі. А ідзе адзін селянін.

— Чаго вы,— кажа,— хвалюецеся? Чаго крычыцё?

— Дык ураднік топіцца!

— А вы яму чырвонца пакажыце, ён адразу выскачыць.

## 84. АКАНОМ І МУЖЫК

У аднаго пана быў надта дрэнны і сярдзіты аканом. Усе яго баяліся, як агню, толькі адзін мужык яго не баяўся і агрызаўся зуб за зуб. Аканома ўзяла злосць. Вот ён і ідзе да пана і жаліцца, што

мужык яго не слухае ды яшчэ «псэм лае́се». Клікнулі мужыка. Пан і пытае:

— Ці праўда,— кажа,— жэ ты аканома называеш — пес?

Мужык адвярнуўся да аканома і кажа са злосцю:

— Сабака ты, сабака, калі ж я на цябе казаў пес?!

## 85. КАРЭТА

Паны і падпанкі вельмі любілі пафанабэрыцца адзін перад адным сваім багаццем.

Вось адзін пан змайстраваў сабе залатую карэту і паказвае ўсім. Паны глядзяць — не надзівяцца. Купіць хочуць, цану набіваюць, столькі грошай даюць, што ў пана аж вочы на лоб лезуць. Але ён яе не прадае, думае: «Чаму ж такую цану ёй даюць толькі багатыя, а не бедныя?» От, едзе ён на сваёй карэце лугам, бачыць— пастух пасе кароў. Кліча яго пан да сябе і пытае:

— Скажы, хлопец, за колькі б ты прадаў маю карэту?

Той пахадзіў, паглядзеў, нават паспрабаваў на вобмацак ды і кажа:

— Нічога не скажаш! Добрая карэта. Залатая. Але, будучы галодным, за кавалак хлеба аддаў бы!

## 86. МУЖЫК-АЛІГАНЦІК

Адзін мужык, але зушок, зрабіў сабе крамное адзенне, прыйшоў да касцёла да й думае сабе: «Хе — пажджы ж — вось і я сяду ў лаўках, бо і я ў крамным адзенні»,— дый сеў каля якогасьці пана. Ажно яму няма спакою, што пан на яго адзенне не пазірае, дык памацаў панавае адзенне дый кажа:

— Паночку, па чом пан плаціў?

Так пан кажа:

— Па чатыры рублі.

— Э, дык пан абшукаўся! Няхай пан памацае: маё шмат таўшчэйшае, а я па восем злотых плаціў!

От прыраўняўся да пана!

## 87. МУ-У!

Зайшоў мужык да пана, а той:

— Ідзь да джві і замыкай!

А той прычыніў дзверы, усунуў галаву і кажа:

— Панок, му-у!

## 88. НА КАГО ПАДОБНЫ

Кажуць, адзін пан дужа любіў хваліцца сваім сынам: маўляў, ён у яго самы здаровы і прыгожы — ва ўсім свеце такога не знойдзеш. Калі ні прыязджалі да яго госці, ён сына выстаўляў напаказ.

І вось аднойчы прыйшла пану ў голаў думка: запытацца ў сваёй чэлядзі, ці праўда, што яго сын такі харошы. Паклікаў ён да сябе лакея і пытае:

— На каго падобны мой сын?

Той думаў, думаў і кажа:

— На льва.

— Адкуль ты гэта ўзяў? Ты ж нікуды не ездзіў. Дзе ты мог бачыць льва?

— А на карціне. Ісус Хрыстос едзе з Ерусаліма.

— Ён там на асле.

— Во, во! Ваш сын на яго і падобны!

## 89. А ТЫ — ЛЫЖАЧКАЙ...

Галодны пан завітаў у леснічоўку — падсілкавацца. Лесьнічыха спякла яечню і паставіла пану.

Пачуўшы незвычайна смачны пах, пяцігадовы Гаўрык клубком скаціўся з печы і палез пальцамі ў патэльню.

— Не руш,— прашыпеў пан, ляпнуўшы нажом хлапчуку па пальцах.

Гаўрык паспрабаваў другою рукою, але атрымаў тое ж.

— А ты — лыжачкай, сынок, а ты — лыжачкай!— гукнула маці ад печы. — Ты ж не пан, каб нажом дзяўбаць.

— А пся крэў, галган! — зароў пан, калі Гаўрык, не зразумеўшы жарту, здзяжыў яму драўлянай бацькавай лыжкай па ілбе.

## 90. КАМУ ЯКІ ХЛЕБ

Мужык маліўся, то казаў:

— Хлеб наш насушны, хоць чорны, але кавалак слушны.

А пан:

— Хлеба нашэго поўшэднэго, хоць кавалэк, але жэбы бялэго.

## 91. БЕЗ «ЦЫРЫМОНІІ»

Стараста нечым дагадзіў пану, і той запрасіў яго да сябе на гарбату.

— Пі без цырымоніі,— буркнуў пан.

Трымаючы шапку ў левай руцэ, стараста адну за другой выпіў

некалькі шклянак пустога кіпеню і нарэшце, паказваючы на цукар, узмаліўся:

— Паночку, дазвольце хоць адну шклянанчку з цырымоняю...

## 92. ЯК ІВАН СТАРАСТУ ПРАВУЧЫЎ

У адной вёсцы жыў скупы стараста. Унадзіўся ён ездзіць з Іванам у горад, бо шкадаваў сваіх коней. Івану абрыдла.

Аднойчы, едучы са старастам у горад, Іван кажа:

— Якое ў мяне гора, пане стараста...

— Што такое, Іван?

— Ды на тым тыдні мяне пакусаў шалёны сабака.

Пасля гэтых слоў стараста адсунуўся на край воза. А калі пераязджалі ўброд рэчку, Іван толькі:

— Гаў!

А стараста — бултых у ваду.

Выскачыў на бераг мокры і кажа:

— Вось, Іван, знайшоў, дзе шалець...

Пасля гэтага больш з Іванам не ездзіў.

## 93. ПАСТУХ І СУДДЗЯ

Стары пастух соцкага назваў дурнем. Падаў той на яго ў суд. Суддзя аштрафаваў старога на сто рублёў. Пытае пастух:

— Дык усё ж завошта гэты штраф?

— За тое, што ты назваў разумнага чалавека дурнем.

— Ага, зразумеў. А калі я дурня назаву разумным, мне нічога не будзе?

— Нічога,— лагодна засмяяўся суддзя.

— Тады які вы разумны, пан суддзя!

## 94. ЯКІ ГАСПАДАР ЛЕПШЫ ДЛЯ БАТРАКА

— Які гаспадар лепшы? — пытае батрак у свайго прыяцеля.

— Мёртвы,— адказвае той.

## 95. АСАДНІК І МУЖЫК

Ехаў асаднік і згубіў торбу. А ў ёй быў хлеб, кавалак сала, і пугай перавязана. Як пабяжыць і як закрычыць:

— Панове, хто зналязл варэцэк, а ў ім хлеб і садла кавалэчэк?

А мужык адзін падняў тую торбу, то кажа:

— Я знайшоў торбу, а ў ёй хлеб і кавалак сала, і пугай перавязана.

То той асаднік кажа:

— Не, цо не мое, то не мое!

## 96. ЯК БАГІ ПАКРАЛІ СМЯТАНУ Ў ПАПА

Жыў-быў поп. У яго быў работнік Кузьма. Ён яму загадваў многа работаць і стараўся, штоб работнік менш з'еў. Кузьма лажыўся інагда не даеўшы, а то і саўсім не вячэраўшы. Кузьма после гэтага ўсяго, як толькі поп і пападдзя палягуць спаць, стараўся чаго-небудзь падабраць і пакушаць ноччу. Ключы ад дамашняга хазяйства і ад царквы ўсягда віселі ў комнаце на сценцы. Кузьма ціхенька ўстаець і на цыпачках пракрадваецца ў комнату папа і бярэць там ключы. Патом забіраецца ў чулан і, штоб поп не падазраваў, ён ад каждага жбаночка панямногу адпіваў малака, самыя вяршкі.

Поп доўга не мог паняць, што гэта тварыцца. Спярва ён думаў, што гэта каты, а потым ужо стаў падазраваць і самога Кузьму.

Адзін раз спрашываець:

— Ці не ты гэта крадзеш смятану?

А Кузьма:

— А божанькі бараиі, бацюшка, гэта ж не можа быць, я знаю, што гэта грэх.

Поп яму верыць і гаворыць:

— Еслі я цябе паймаю, я цябе накажу.

Тады Кузьма надумаўся папа абхітрыць. Узяўшы ключы ад царквы ў ноч з суботы проціў васкрасення, набраў у жбанок смятаны і забраўся ў царкву і ўсім багам панамазваў на губах смятаны. Поп утрам прыйшоў служыць у царкву, увідзеў гэта і са злосці паламаў, пабіў усіх багоў, усе гэтыя іконы. Прыйшлі багамаленцы, а ўсе багі пабіты і маліцца некаму. З Кузьмы грэх зваліўся, Кузьма апраўдаўся.

## 97. СЕЛЯНІН І ПОП

Аднаго разу селянін ішоў із лесу і бачыць: сядзіць поп і адсякае галіну на дубу. Селянін гаворыць яму:

— Ацёц, ты ўпадзеш.

То поп гаворыць:

— Адкуль ты гэта ведаеш?

Селянін гаворыць, што ведае, а той упадзе ўсё роўна.

Сказаў гэта і пайшоў дамоў. Поп сек гэту галіну і ўпаў разам з ёю. Потым ён пайшоў да селяніна і сказаў, што той гаварыў праўду. Ён яго папрасіў, каб памог яму завесці каней. Селянін гаворыць:

— Добра, я гэта зраблю, толькі ты мне заплаці за гэта і дай вялікага гарбуза.

Поп даў яму гарбуза, а сам пайшоў дамоў.

Селянін палажыў гарбуза на зямлю. Гэты гарбуз ляжаў, пакуль не згніў. Тады ён занёс гарбуза да папа і сказаў яму:

— Ты нясі яго заўтра рана і кінь яго ў каноплі.

А сам селянін пайшоў у лес, налавіў зайцоў, прынёс і прывязаў іх так, каб яны адарваліся.

Назаўтра рана поп пайшоў у каноплі і кінуў гарбуза. Зайцы папугаліся, адарваліся і пабеглі. А поп паставіў мяшок і бяжыць за імі і крычыць:

— Кось, кось, кось.

## 98. ПОП І ЗЛОДЗЕЙ

Быў бацюшка багаты, так ён, значыцца, меў брата-аб'ездчыка ў гэтай вёсцы, то і бацюшку сюды прыслалі. Бацюшка кажа:

— Госпадзі, памілуй, памілуй нас грэшных...

А ў царкве ёсць алтар. Адтуль:

— Не памілую.

— Ачысці мяне.

— Ачышчу.

— І брата майго.

— Не ўпраўлюся.

Назаўтра агледзеўся бацюшка, што яго ачысцілі. Бацюшку сказалі, што ёсць руды Мікіта-злодзей.

Перад спасаўкай і другімі святамі людзі ходзяць у споведзь. Пака бацюшка накрываў Мікіту фартушком, той выцягнуў у бацюшкі часы.

Бацюшка кажа:

— Прызнавайся ва ўсім, а то на тым свеце пагана будзе.

Мікіта пытае, ці раскажа ён.

— Не,— кажа бацюшка,— бо валасы мне адрэжуць і язык.

Бацюшка пытаецца, ці браў ён сала і ветчыну. Мікіта кажа, што ўзяў, і нават гаворыць, што ў аднаго бацюшкі часы ўкраў. Адышоўся Мікіта, стаіць перад царскімі варотамі. Бацюшку трэ было паглядзець, калі канчаць абедню, а часоў няма. А Мікіта шмулюе рукою язык, паказвае бацюшку, то бацюшка адвярнуўся і кажа:

— Прыхаджане, Мікіта — самы справядлівы чалавек.

Мікіта кажа:

— Слухайце, наш бацюшка руды, і ўсе дзеці рудыя — гэта ад яго.

## 99. «ДУЖА ДОБРА»

Аднаго дня, калі ксёндз адпраўляў імшу, чалавек прыйшоў да плябаніі. Там нікога на тую пару не было.

Не трацячы ні хвіліны, чалавек палез у печ, выцягнуў мяса з капусты і з'еў. Перад абразамі вісеў капялюш — ён зняў яго, у камодзе былі грошы — ён і іх падзяліў папалам ды і пайшоў на споведзь.

— Ну, якія маеш грахі? — пытаецца ксёндз.
— Адзін грэх, ойча духоўны! Свінню з капусты выгнаў.
— Дужа добра! Так і заўсёды рабі.
— Другі грэх — брыль зняў перад абразамі.
— Дужа добра! Кожны раз трэба знімаць шапку ці брыль перад абразамі.
— Трэці грэх — грошы з ксяндзом падзяліў.
— Гэта таксама не грэх. Заўсёды трэба помніць аб ксяндзу.
Прыйшоў ксёндз да плябаніі, сабраўся падсілкавацца... і тут зразумеў, што злодзей меў на ўвазе на споведзі. Пайшоў ксёндз да суддзі і далажыў аб кражы.
— Ты ўкраў? — пытае суддзя ў чалавека.
— Я, але я сам прызнаўся айцу духоўнаму, і ён хваліў, казаў «дужа добра».
Суддзя адпусціў чалавека, а з ксяндза пасмяяўся.

## 100. НАБОЖНЫ КСЁНДЗ

Быў сабе адзін ксёндз вельмі набожны. Ён раз сказаў усім людзям, што ў другую нядзелю прыляціць у касцёл свенты дух. Ужо ксёндз маліўся цэлы тыдзень, ажно яму прыснілася, што дух свенты не явіцца яму за тое, што ён пахваліўся. Ён не хацеў, штоб у другую нядзелю было гэтак. Паслаў ён свайго парабка на сяло, каб ён купіў белага галубка і ў нядзелю рана занёс яго ў касцёл на гару. А там у столі былі маленькія дзверцы. У нядзелю рана прыйшло да касцёла шмат людзей і паноў. А ксёндз паслаў свайго парабка на гару касцёла і сказаў: «Як толькі я ў касцёле скажу: «Духу свенты, зэйдзь на мене!», дык ты ўпусціш гэтага галубка ў касцёл». Ксёндз пайшоў у касцёл, а парабак палез угору. Там ён паглядзеў, ажно галубка няма, з'еў кот. А тым часам ксёндз у касцёле казаў казанне і, падняўшы рукі да неба, кажа: «Духу свенты, зэйдзь на мене!» А парабак з гары крычыць: «Немаш, дабрадзею, кот з'ядл!»

## 101. ПОП, ДЗЯК І ГОЛУБ

Жыў-быў поп. Быў у яго царкве таксама дзяк. Згаварыліся яны аднойчы зрабіць цуд, каб людзі паверылі, што ёсць бог.
— Ты, дзяча, як я скажу з амбону: «Святы духу, явіся!» — пусці белага голуба.
Узяў дзяк белага голуба ў карман і ў час абедні палез на хоры, але паслізнуўся і ўпаў. А ў гэты час голуб і задушыўся.
Вось поп гаворыць людзям казанне і як крыкне:
— Святы духу, явіся!
Нічога. Ён зноў. Няма нічога. Ён зноў крычыць.
Дзяк раззлаваўся ды як крыкне на ўсю царкву:

— А ну цябе к чорту! Святы дух задушыўся!

Людзі аж анямелі. А пасля зразумелі, засмяяліся і пайшлі з царквы. З таго часу толькі бабулькі, якім пара ісці да цара нябеснага, і хадзілі ў царкву.

## 102. ПОП-ФОКУСНІК

Неяк айцец Парфірый выйшаў на вуліцу. А тут якраз, засопшыся, бяжыць селянін.

— Адкуль ты бяжыш? — спыніў яго поп.

— Адтуль, дзе грошы даюць... Бягу, каб назад не адабралі.

— А дзе іх даюць?

— А вунь каля крамы... Адзін праезджы пан за кожны фокус дае залатую пяцёрку.

— Які ж ты фокус паказаў?

— Ды я, ойча, злавіў вераб'я, схаваў яго за пазуху і кажу таму пану: «Каб ты, паночку, жыў, жыў, жыў»... А затым дастаў з-за пазухі вераб'я і выпусціў са словамі: «Жыў, жыў і па-а-ляцеў, як гэтая птушка!»

Сказаў гэта селянін і пабег. А поп стаіць і развважае: «Калі гэты дурны мужык змог абдурыць пана, дык я ж разумнейшы...»

Але як поп ні стараўся, не мог прыдумаць нічога цікавага. А на грошы святы айцец быў ласы, як кот на каўбасы. «Трэба ж хоць пяцёрку выманіць у пана,— падумаў поп.— Зраблю так, як мужык».

Злавіў ён хуценька вераб'я, пераапрануўся ў рыззё, каб людзі не пазналі, вераб'я таго — за пазуху і пашыбаваў да пана. Падбягае і крычыць:

— Каб ты, паночку, жыў, жыў, жыў, жыў, жыў...

Поп, спяшаючыся, сарочку ззаду ў штаны на ўвабраў — верабей і выпырхнуў па дарозе. Пашукаў ён за пазухаю і кажа:

— Жыў, жыў,— і маючы на ўвазе вераб'я,— не ведаю, дзе дзеўся...

— Ах ты, галган! — закрычаў праезджы пан і сцебануў бацюшку пугаю.

## 103. ТРЫ КСЯНДЗЫ

Даўней ксяндзы валачыліся па свету да дурылі людзей, каб яны слухалі паноў, шчыра рабілі да давалі на хвалу божую. А дзе там тое бог бачыў. Людзі дадуць, а ксяндзы да паны сажруць. От раз сышліся разам тры ксяндзы: езуіта, барнадын да капуцын. Блізка не было двара, каб наесціся да напіцца ў пана. Ведамо, паны заўжды ксяндзоў паважалі да частавалі. Няма чаго рабіць, трэба цярпець. Пайшлі яны разам да й заходзяць пасілкавацца ў адну кар-

чомку. Зайшлі ў алькерык да й казалі сабе даць гарэлкі да закускі. Карчмар быў бедны да на той час апрача гарэлкі ў яго нічога не было. Бо, ведамо, у малых карчомках заўжды нічога няма. Мужыкі п'юць гарэлку да закусваюць языком, а хто хоча, канешне, закусіць, то з дому прынясе з сабою ў кішэні ці за пазухаю галоўку кіслае капусты, акраец хлеба, таран, агурок або абы-што. От ксяндзы лыкнулі мо па адной ці па другой чарцы, а закусіць нечым. Бачаць яны: аж на двары каля абозні ходзіць курыца. Давай яны яе лавіць. Бегаюць ксяндзы, падняўшы полы, а курыцы не могуць злавіць. Бегала яна, бегала туды-сюды, а за ею ксяндзы; нарэшце згубіла яйцо да й залезла дзесь пад абозню. Схапілі ксяндзы тое яйцо да й вялелі гаспадыні яго зварыць. Зварыла да падала гаспадыня яйцо. Не ведаюць ксяндзы, як яго падзяліць. Рыхтавалі яны, рыхтавалі, але нічого не ўрадзяць. Нарэшце атаўбаваліся на тым, што той з'есць яйцо, хто лепш другіх прыкажа. Узяў першы капуцын яйцо, пачаў яго лупіць да й прыказвае:

Ачысць яго ад шкарлупы няпраўды.

Толькі ён хацеў палажыць тое яйцо ў рот да праглынуць, як вось з яго рук бярэ барнадын. От узяў ён яйцо, пасыпае яго соллю да прыказвае:

— І пасалі яго соллю мудрасці.

Сказаўшы тое, хацеў ён палажыць яйцо ў рот да з'есці. Але вось бярэ тое яйцо ў яго з рук апошні ксёндз езуіта. Ён зірнуў на сваіх таварышоў да й кажа:

— Ачысціўся ад шкарлупы няпраўды, абсыпаўся соллю мудрасці, дык увайдзі да хвалы твайго пана.

Пры гэтых словах езуіта ўнёс яйцо ў рот да й праглынуў. От з тых часоў годзі капуцыны і барнадыны таварышаваць з езуітамі.

### 104. ПОП І БАТРАК

Поп наняў сабе батрака. Але быў такі скупы, што чуць з голаду не замарыў свайго работніка. Батрак задумаў абхітрыць папа. Вось прыбягае ён у царкву і хаваецца ў алтары. Потым прыходзіць поп і пачынае малітву:

— Госпадзі, памілуй мяне грэшнага.

А батрак ціха кажа:

— Не памілую.

Поп перапужаўся і зноў моліцца:

— Памілуй і абрадуй, божа, мяне грэшнага.

А батрак зноў:

— А чаму ж ты, кудлаты, батрака не корміш?

Прыйшоў поп са службы і пачаў частаваць батрака хлебам і вадою. Наеўся батрак ад пуза. Ён рады і гэтаму.

## 105. ПАЛЯШУЦКІЯ ПРОПАВЕДЗІ

Даў адзін мужык сына на папа вучыць. Пабыў ён недзе колькі гадоў, у бацькі грошы набраўшы, ажаніўся дый прыехаў дадому. Тым часам мужыкі паставілі царкву і такія радыя, што свайго папа маюць. Ну, заказаў жа ён ім у нядзелю на пропаведзь прыходзіць. Папрыходзіў народ, ён выйшаў з кніжкай дый пытае:

— Людзі, людзі, ці вы ведаеце, што ў гэтай кніжцы напісана?

— Не,— кажуць,— не ведаем, ойчэ духоўны.

— То вам і казаць нечага, калі вы такія дурні,— ды і сам пайшоў за райскія дзверы і больш не паказваўся. Пастаялі людзі, пастаялі, пажурыліся і разышліся... На другую нядзелю зноў наказвае прыходзіць на пропаведзь, так ужо мужыкі сышліся пад царкву, дый урадзілі, як адказаць бацюшку. Увайшлі ў царкву, ажно і поп выходзіць.

— Людзі, людзі, ці вы ведаеце, што ў гэтай кніжцы напісана?

— Ведаем, ойчэ духоўны!

— То што,— кажа,— буду язык аб зубы біць, калі вы самі ведаеце,— дый завярнуўся і пайшоў. І зноў мужыкі пастаялі, як мыла з'еўшы. Потым, выйшаўшы з царквы, пабедавалі, што занадта папа разумнага маюць, бо ўжо і невядома, як цяпер яму адказваць, дый тым абышлося.

## 106. КПІНЫ ШЛЯХЕЦКІЯ З ХЛОПАЎ

Раз вёз адзін чалавек двух клерыкаў да семінарыі, а шляхціц пытаецца ў яго ў карчме на папасе:

— А каго ты вязеш, мой саколіку?

— Кнурыкаў,— кажа,— да свінарыі, мой паночку.

Вот як людзко спільшчыў!

## 107. АБ ПАПУ, ШТО КАЛЯД ЗАБЫЎСЯ

У адным месцы пазбіраўся народ на коляды да царквы — ждуць-паждуць папа, а папа няма! Ужо і слонка ўгару падышло — папа няма! Ідуць ужо яны да клябані глядзець, што такое з папом сталася. Калі прыйдуць, ажно поп сабе, седзячы, лапця пляце, а пападдзя хусты мые! Угледзеў іх поп дый пытае:

— А вы чаго, мужыкі, пазбіраліся?

— Ля, да царквы,— кажуць,— бацюшку, то ж сягодня коляды.

А поп:

— Дзе,— кажа,— вам сягоння коляды?

Да й давай па пальцах лічыць дні, дый не дайшоў толку, дый кажа на жонку:

— Давай ксёнжку, недзе ляжыць пад лаваю!

Пападдзя ксёнжку падала з-пад лавы, поп паглядзеў:

— Ля, але праўда коляды!

Да й гэто плясь жонку па с... ксёнжкаю, што не напамянула, да й кінуў зноў назад пад лаўку, а сам пайшоў гэта хутчэй да царквы, подбегам. От і папоўскі лік!

## 108. ЯК ПОП КАРТЫ РАССЫПАЎ

Адзін поп дужа любіў гуляць у карты, і так загуляўся адну ноч пад нядзелю, што гуляў да самай утрані. Сторож званіў, званіў, а папа ўсё няма. У царкву ўжо і людзі прыйшлі маліцца, а папа ўсё няма. Ужо і дзячок прыйшоў, а папа ўсё няма.

Вось сторож кінуў званіць, ды прыйшоў к папу ў хату. А той з гасцямі гуляе ў карты і ніяк не хоча адарвацца. Вось сторож пачаў яго прасіць. Поп са зла схапіў карты, ды не паклаў іх у кішэню, а засунуў у рукаў і так прыбег у царкву. Апрануўся ў свае рызы, забыўшыся, што ў рукаве карты.

Адслужыў утрань. А потым выйшаў на амбон да людзей і пачаў казанне. Казаў, казаў, ды як размахнецца рукой і як пасыплюцца з рукава карты па царкве. Дзеці і падлеткі давай збіраць тыя карты, ды піхацца, ды біцца. Папужаліся людзі, а папу стала сорамна. Дык ён вось што выдумаў. Падышоў да хлапчука і кажа:

— Ты карту падняў?

Хлопчык кажа:

— Я.

— Пакажы мне яе!

Хлопчык паказаў.

— А ну, скажы мне, як гэту карту завуць?

Хлопчык кажа:

— Пікавая дама.

— А богу маліцца ты ўмееш? — пытаецца поп.

— Не,— кажа хлопчык.

Вось поп узяў гэту карту, узышоў на амбон, падняў карту ўверх, ды як закрычыць:

— Сорамна вам, людзі, за такія вашы ўчынкі. Якія ж вы бацькі, што вашы дзеці такія распусныя. Паднялі ў царкве такую вайну. Я рассыпаў карты наўмысля для таго, каб выведаць вашых дзяцей. Аж гэта не дзеці, а авечкі; такія ж і вы бацькі, як вашы дзеці. Богу маліцца не ўмеюць, а карты ведаюць. Значыцца, хутка канец свету.

Вось так поп змог адурыць у царкве людзей, яшчэ і накрычаў на іх ды напужаў канчынай свету.

## 109. ПАПЯЛЕЦ

Поп прыйшоў у госці да ксяндза. Ксёндз кажа:

— Сёння доўга не будзем гаварыць, бо заўтра папялец.

Поп:

— Так і мне дай трохі папялку, я і сваім пасыплю нямножка.

Дамоў прыйшоў, штаны зняў і павесіў, а ў кішэні ў яго той попел.

Адзеў назаўтра другія штаны і паспяшаўся ў маленную (гэта быў стараверскі поп).

Ксёндз сваіх благаславіў папялком. А поп жа забыўся ў штанах. Як стаў благаслаўляць ужо, то апомніўся, што ў штанах астаўся попел. Дык сказаў:

— Я вас завочна благаслаўляю, у мяне ёсць свянцоны попел, сёння папялец.

Усе падыходзілі, і поп благаслаўляў:

— Вот табе тое, што ў штанах, вот табе тое, што ў штанах.

Бабы сталі ўцякаць.

## 110. ПАПОЎСКАЯ ПРОПАВЕДЗЬ

У адным месцы прыхаджане падалі на папа скаргу, што не ходзіць на казанне. Прыйшлі да первасвяшчэннага, каб хадзіў без адкладу штонядзелі на казанне. Так ужо выходзіць поп на казанне ў нядзелю і кажа:

— Ну, што вы, сукіны сыны, знаеце, як на бацюшку скаргу падаваць?

Яны маўчаць.

— А знаеце, што я вам буду казаць?

Маўчаць.

— От стаіць кабыла сівая на чатырох нагах. Ну што гэта? Ногі? Гэта ногі — стаўбы, а кабыла сівая — гэта свет! А пад хвастом у яе што? Гэта ад! От вас, сукіных сыноў, за пятроўку, філіпаўку, вялікі пост усіх — кабыліцы пад хвост!

## 111. КАЗАННЕ

Аднойчы ксёндз пачаў сваё казанне гэтак:

— Ад шчырага сэрца гавару вам, дарагія прыхаджане, што тонеце ў грахах, як закрышка ў баршчу, і за гэта будзеце галасіць, сквярчыць, як вераб'і на крышы, і жарыцца, як скварка на патэльні, а да царства нябеснага вам не дайсці, бо ў галаве ў вас усяго поўна, толькі пра збавенне не думаеце.

## 112. АБ ХІТРЫМ ДЗЯКУ

Украў поп з дзякам карову, падзяліліся яны ўсім, толькі скурай не маглі падзяліцца, так пабралі ў зубы да й цягнуць: поп не вытрываў, пусціў, а дзяк бэнц аб сцену галавою і забраў скуру. Тут зараз погаласка пайшла, што хтосьці карову ўкраў, так дзяк прыходзіць да папа да й кажа:

— Я не вытрываю, мушу сказаць!

— Што ты, здурэў, ці што?

— Калі ж надта сумленне грызе!

— На табе грошай, колькі хочаш, толькі не выказвай нікому.

Назаўтра ён зноў прыходзіць да й кажа:

— А ей, не вытрываю.

Так поп яму яшчэ больш грошай даў, каб толькі не казаў. Вечарам назбіралася да папа ўсялякіх гасцей і згаварыліся аб карове, так дзяк кажа:

— А гэта я з папом украў гэту карову!

Так поп яму яшчэ больш грошай даў, каб толькі не казаў. Вечарам назбіралася да папа ўсялякіх гасцей і згаварыліся аб карове, так дзяк кажа:

— І ўсім, здаецца, падзяліліся, толькі скуры не далі рады, так я ўзяў адзін канец у зубы, а яны другі і цягнулі. Яны пусцілі, а я бох! аб сцену галавою, так і прачнуўся. Такім спосабам дзяк ні граху не меў, бо прызнаўся, і ўсе грошы ад папа забраў. От хітры, ліха яму!

## 113. ПОП І ДЗЯК

Поп з дзяканам укралі карову. Так поп узяў да не падзяліў, схаваў яе. Вот абедня ўжо, людзі сабраліся ў цэркаў, моляцца, моляцца, так гэты дзякан выйшаў да:

— Пасматрыце,— кажа,— на тую гару, украў поп карову, госпадзі памілуй.

Так поп ускакуе з алтара да:

— Дзяча, дзяча, багата не вяча, каравіна-ялавіна будзе і табе палавіна-а-а!

## 114. СПОВЕДЗЬ ШЛЯХЦІЦА

— Чы спавядаўся? — пытае ксёндз,— чы быў на велікоднай споведзі?

— Не, не быў, ксёнджа пробашчу.

— Цо тобе до тэго! Гавары, чы спавядаўся?

— Не, не спавядаўся, ксёнджа пробашчу.

— Дурань! Што яшчэ?

— Дзевак абнімаў, ксёнджа пробашчу.

— Ой жа дурань! Што табе да ўсяго. Што яшчэ?

— У карты іграў, ксёнджа пробашчу.
— Вучыў цябе — гавары пра сябе. Што пра сябе скажаш?
— Напіваўся, ксёнджа пробашчу.
— Сказана, што гэта цябе не тычыцца!
— Дровы ў лесе краў, ксёнджа пробашчу!
— Цо то, то юж не праўда! Брэшаш! Ніколі нічога такога не было!

І прагнаў яго, як сабаку.

## 115. СПОВЕДЗЬ ШЛЯХЦІЦА

Спавядаўся шляхціц перад бернардынам і гаварыў пра тое, пра -та, аж, нарэшце, кажа:

— Цалаваў чужую жонку,— але ў сваё апраўданне дадае, што не рабіў бы гэтага, ды людзі яму дарадзілі, што гэта ад хваробы вачэй памагае.

А бернардын на тое кажа:

— Не вер, калі б то праўда была, я ўжо праз сцяну бачыў бы.

## 116. СВАІХ ХАПАЕ

Пайшоў малады мужык у касцёл на споведзь. Ну, вось ксёндз і пытаецца:

— Грашыш? Не? Можа, па чужых бабах ходзіш?

— Ай, ксёндз-пробашчу, навошта так гаварыць на чалавека. Сваіх жа баб у мяне хапае: швагерка ў хаце жыве ды і кума пад бокам.

## 117. ГЭТА НЕ ДЗЯТЛЫ!

Адзін праворны хлопец нагледзеў дзятлы ў дубе за гародам суседа, а пятроўка яшчэ не кончылася. Таму пайшоў да папа да й пытае:

— Чы можна, бацюшка, вырубаць дзятлы, хаця яшчэ пятроўка не кончылася?

— Не можна, дзеткі,— бог накажа, бо і пост і грэшна катаваць маленькія птушачкі. А дзе ж тыя дзятлікі?

— У дубе за гародам дзядзькі Фёдара, да і дупло не вельмі ысока, можна ўзлесці поўзкі.

— Ну, ідзі, сыну, дадому, а за дзятлы і не думай.

Хлопец, маркотна вярнуўшыся, да так перад змеркам пайшоў бу паслухаць, як цвіркаюць дзятлянята, калі старая прынясе зячка або мушку. Яшчэ не дайшоў, аж бачыць: з лесу выходзіць ошка з сакеркаю.

— Што ж гэта ён будзе рабіць? — падумаў.— Давай прысяду.

Прысеўшы за кусцікам, глядзіць, аж бацюшка высек астрову, ыставіў к дубу, палез, рассек дупло так, каб руку прасунуць, і

давай кідаць дзятлянята дадолу адно за адным. Злез, пазбіраў, стаптаў усе ў сваю папоўскую кішэню, сказаў:

— Восім.

Да, забраўшы астрову, пайшоў у лес.

— Пастой жа, — сказаў хлопец сам да сябе,— я ж на цябе нешта выдумаю, калі ты такі разумны.

Цераз скольві дней, мо цераз тыдзень, прыйшоў ён к папу да й стаіць моўчкі ля парога.

— А што ты, дзеткі,— пытаецца поп,— скажаш?

— Я прыйшоў к вам, бацюшка, папытацца: есцяка цяпер у нашом сяле чужастаронная дзеўка, да такая харошая, што проста вады напіцца... Дык ці можна з ёю саграшыць?

— Што ты сабе ўздумаў! — крыкнуў поп, а вочы загарэліся, як бліскавіца.— Без вянца нельга, а вянчаць цябе яшчэ таксама нельга, бо годы не выйшлі. А тая ж,— пытаецца, аблізваючыся, — гэта сваячаніца, гэтая дзеўка, і дзе яна?

— Эге, бацюшка, гэта не дзятлы!

## 118. ПОП-П'ЯНІЦА

Быў у нас поп і такі п'яніца, што не ведаю, як яго зямля трымала. І ні сумлення, ні сораму яму не было! Хрысцілі мы дзіця майго брата і паклікалі папа. Звалі яго Лагіза. Пахрысціў ён дзіця. Выпіў столькі, што на карачках папоўз. Назаўтра чуць свет прыбягае з сваёю літроваю кружкаю.

— Марк Францавіч, зуб баліць, наліце ў карэц.

— Ідзем у хату.

— Не, не. Налівайце тут.

Выліў бацька цэлую кварту. Бацюшка выжлукціў тут жа, нават губы не выцер, такі быў п'яніца.

Так ён служыў і ў царкве. Пазбіраюцца людзі, а ён прыходзіць п'яны, ледзь на нагах трымаецца. Але, каб ашукаць нас, трымае платок каля рота, быццам зубы баляць.

— Парах-парахвіяне! З мілаю душою, але... але... зу-зубы баляць,— прагаворыць ён языком, які ледзь варочаецца, і пойдзе. Ідуць людзі без малебна.

## 119. ШТО ПАПУ БЫЛО ЗА ЧУЖУЮ ЖОНКУ

Поп хадзіў да жонкі аднаго гаспадара, а яна мужыку сказала. А мужык быў хітры: навалок у каморку дзе якое меў жыта і папастаўляў у мяхах за жоран, дый кажа да жонкі:

— Я быццам паеду, а ты яго пакліч сюды, а як падыду, скажы, каб ён жыта малоў у каморцы.

А сам узяў і паехаў.

Поп гэта прыбягае, а тут муж над'язжае. Жонка і шэпча папу:

— Ідзі ў каморку і мялі жыта, ён будзе думаць, што сусед, прыйшоўшы, меле.

Той і пабег. Так меле, так меле, а мужык сабе прыйшоў, лёг спаць, праспаўся, устаў, пасядзеў і чуе, што пусты камень барабаніць,— гэта поп так круціць. Вось быў у добрым вырабе.

## 120. ПОП, ДЗЯК І ФЯДОРА

Да аднае маладзіцы хадзілі поп і дзяк, і яны ведалі адзін аб другім. Прыйшоў у суботу нанач дзяк да яе, а яна прырэкла ёй да папа на тую ноч і кажа:

— Чаго вы прыйшлі, калі я мушу ісці да бацюшкі.

Так ён кажа:

— Байкі! — то мы бацюшку падманем.

Ждаў поп, ждаў усю ноч — няма Фядоры! А дзяк навучыў яе, як яны ўжо будуць казаць. Так поп ужо выйшаў на абедню, зірнуў па царкве, бачыць стаіць Фядора, так пачынае спяваць:

— Фядора, Фядора, а чаму ты не прыйшла ўчора звячора?

Так дзяк падхапіў:

— Пакі, пакі, бо баялася сабакі!

Так поп зноў:

— То ж я сабаку прывязаў і кусок хлеба з маслам даў!

А Фядора, б'ючыся ў грудзі кулаком:

— А я, грэшна, не ведала!

## 121. СКУПЫ ПОП

Жыў поп. Ён быў вельмі скупы. У яго было сала, мяса, калбасы, сыр, масла. Усё гэта ён трымаў у царкве, бо баяўся, каб у двары не паелі яго работнікі. Адзін работнік дагадаўся і папрасіў старасту, каб той запёр яго ў царкве на час які, а пасля выпусціў.

Узлез на званіцу і схаваўся там. Як толькі скончылася абедня, ён пачаў есці. І паеў усяго, і ў мех наклаў. А потым узяў ды Міколу вусны вымазаў малаком, Пятру — салам, каля Паўла паклаў мяса кусок. Усіх надзяліў. Прыйшоў стараста, набралі яны там, чаго хацелі, і пайшлі.

Праз некаторы час прыходзіць у царкву поп. Бачыць, што яго дабро пакрадзена. Калі ён паглядзіць — а ў Міколы вусны ў малацэ. І стаў яго лаяць:

— Ах ты сякі-такі! Стары, а ласун.

Падышоў к Пятру-Паўлу, а там сала і мяса. Ён іх лаяў, лаяў:

— Ну, няхай жа Мікола паеў, а вы і паелі і з сабою яшчэ забралі.

І прынёс усё ў двор.

## 122. ЯК ПОП ЦЯЛІЎСЯ

Поп піў малако сільна. Ён пайшоў у баню. Пападдзя і гаворыць папу, калі ён з бані прыйшоў:

— Бацюшка, не пейце малако, а то вы целіцесь, када будзеце піць болей.

Поп не [ў]няўся, а, прышэдшы з бані, стаў яшчэ болій піць малако. Забурчэло ў яго ў жываце. Тады поп спужаўся:

— Пайду ў чужое сяло; а то стыдна будзе, калі цялюсь у сваім сяле. (Поп падумаў, што спраўдзіцца, што пападдзя сказала.)

Бегшы, поп найшоў на задаўленніка, а сапагі ў тога задаўленніка такія чудзесныя. Давай скідываць сапагі — не лезуць; тады поп узяў і адрэзаў іх з нагамі, увярнуў іх у расу і прыходзіць на дзярэўню.

Мужык пусціў папа нанач; поп палез на печку, распрануўся і лёг спаць. У то ўрэмя ў іх карова цялілась ноччу: поп ужо ўснуў, када к яму палажылі цялёнка.

Ноччу ён прашнуўся, відзіць ля сябе цялёнка і дзівіцца: «І не замеціў, як цяліўся!»

Прыбегшы дамой, і гаворыць:

— Во, матушка, цяліўся —і не ўчуў!

А тут хазяева ўсталі і гаворуць:

— Што ета папа нашага не слышна!.. Ідзе ж ета наш поп?

І гаворяць:

— Што ета ногі ляжаць ля цялёнка? Цялёнак, ета нашага бацьку з'еў?

А цялёнак:

— Мі, мі!

— Нет, не мі, а ета ты нашага бацьку спатрабіў, някаянны!

## 123. ЦІ БЫЛА Ў ПАПА ГАЛАВА ЦІ НЕ?

Раз адзін чалавек пасеяў жыта на палянцы. Жыта не ўрадзіла. На другую вясну прыехаў чалавек да пасеяў грэчку — і грэчка не ўрадзілася. Стаў ён і гадаець: «Што гэта за месца такое, што не родзіць?» От ён пасеяў солі — і соль не вырасла. Раз прыходзіць ён на палянку і ўгледзеў сляды мядзведзя і кажа:

— Што гэта казулька пераходзіць, за тым нішто не родзіць.

От яны пазвалі папа, каб ён адправіў малебен. Поп, едучы, угледзеў гняздо мядзведзя, пазваў людзей і кажа:

— Гэта тая казюлька, што пераходзіць цераз поле. Забіць яе трэба. Лезьце! Біце!

Ніхто не хоча. От палез сам поп у дупло, толькі ўніз галавою, прылез к самаму мядзведзю, а мядзведзь узяў да папу галаву адкусіў. Ждуць людзі папа час, ждуць другі — няма іх папа. Сталі

яго цягнуць за ногі з дупла, выцяглі, зірнулі — ажно няма ў папа галавы. Адны кажуць, што казюлька адкусіла, а другія кажуць, што ён гэтак прыехаў з дому. От яны заспорылі да і падраліся. Пайшлі спрашываць у хурмана, які вёз папа, хурман кажа:

— Я хоць вёз, да не знаю, як ён быў, але, здаецца, без галавы, а можа, і з галавою. Папытайцеся ў наймічкі: яна знае, яна ўчора часала яму косы.

Яна кажа:

— Я хоць часала яму косы, але забыла.

Так нашы мужыкі ўсё пыталі да пыталі, а толку не дабралі: ці была ў папа галава, ці не? Так і асталіся не ведаўшы.

## 124. КАВАЛЬ І ПОП

Поп надта каваля хваліў і гаворыць:

— От, няма нікому лепш, як гэтаму кавалю: стук-грак, так і давай пятак.

А каваль атвячае папу:

— Няма нікому лепш, як гэтаму папу: трарара́-трарара́, ды давай паўтара.

## 125. ПАПОЎСКІ ПОЛУДЗЕНЬ

Поп з работнікам грэблі сена. Прынеслі ім абедаць: папу бутэльку малака, а работніку бутэльку вады.

Паабедалі яны і пайшлі зноў грэсці. Поп жа грабець сена ў капу, а работнік грабець у ваду.

— Што ты гэта робіш? Куды ты грабеш? — пытаецца поп.

— А, бацюшка, ты грабеш сваёй кароўцы, а я сваёй.

## 126. ХІТРЫ ПАРАБАК

Служыў у папа парабак, ён быў добры хітрак, а пападдзя была надта скупая: бывала дае есці, то з мужыковага боку кладзе больш скварак. Парабак, гэта сцікаваўшы — падаждж ы ж! Раз яна паставіла місу грэцкай кашы. Так парабак давай паказваць:

— Як шведы, — кажа, — прыйшлі да Польшчы, то так зачалі біцца і мяшацца з палякамі, то так, — кажа, — як гэтыя скваркі з грэцкай кашай! — да й гэта ложкай змяшаў усё, скалаціў і давай тады есці.

З тае пары нябось ужо і ён zараўно еў.

## 127. КАЗКА ПРА ПАПА І ПАРАБКА

Жыў поп і парабак. Поп хацеў, каб парабак век яму працаваў, як чорны вол, а карміць, дык як папала. Цярпеў, цярпеў парабак, а потым і кажа, што ён галодны не можа працаваць, а калі поп не

верыць, то няхай паспрабуе не то араць, а, не еўшы, дзён два паспяваць.

Поп рашыў даць парабку булку хлеба і сказаў, каб хлеб быў заўсёды цэлы, а парабак сыты. Думаў, думаў парабак, а пасля і прыдумаў: выняў увесь мякіш, а верхнюю скарынку быццам цэлую булку паклаў на стол. У нядзельку прыйшоў поп у царкву, пачаў махаць кадзілам і спяваць:

— Падай, госпадзі!

Парабак жа, залезшы на кліpoc, адпявае ў адказ:

— Не падам, госпадзі!

— А чаму не падасі?

— Таму што з парабкам не ясі.

Дыбам узняліся валасы ў палахлівага папа. Прыбег ён дадому і з тых пор пачаў лепш карміць парабка.

## 128. ЯК ПОП ПАРАБКАЎ КАРМІЎ

Жыў-быў поп. Ён быў вельмі зайздросны. Усё капіў багацце. Меў у сябе многа быдла і птушак. У святкі ён многа збіраў з сялян падаяння. Па калядзе, калі ездзіць, то кожны павінен даць яму пару калбас і рэшата аўса. А на пасху, пасвянціўшы сявалкі, браў у кожнага краюшку белага, краюшку чорнага хлеба і пару яец. А гэтымі краюшкамі карміў быдла і птушак. У яго былі два работнікі, каторых ён запугваў грахамі, што ад бацюшкі многа трэбаваць нельга, бо гэтага бог не просціць.

Адзін раз на свята матушка пытаецца ў бацюшкі:

— Бацюшка, з чым сёння работнікам суп варыць?

Поп падумаў і сказаў:

— А будзем сабе яечкі варыць, ну і звары іх у супе.

Матушка так і зрабіла. У абед поп і пытаецца ў работнікаў:

— Ну як, сёння жырны суп?

— Да не, бацюшка, зусім посны.

— Да як посны, у ім матушка варыла дзесяць яец, павінен быць жырны.

Так карміў поп сваіх работнікаў.

## 129. СВЯТЫ СПАС, ІДЗІ ДА НАС

Быў у аднаго папа парабак, а поп вельмі шкадаваў яму есці; так раз дабраўся той да смятаны: еў, еў, еў, еў, а што засталося, так вынес Спаса з царквы, абрабіў яго таею смятанаю да, на грушу пасадзіўшы, сам залез за хоры дый слядзіць. Ажно ўваходзіць поп і спявае:

— Святы Спас, ідзі да нас, падай яго божа нам!

А парабак кажа:

— А калі ж не падам!

Так поп:

— Чаму не падасі?

— Таму, што ты з парабкам хлеба не ясі!

Калі поп уваходзіць у сад, ажно ля! — Спас на грушы сядзіць, смятанаю абмазаўшыся! Так ад таго часу заўсёды ўжо еў разам з парабкамі.

## 130. ПАПОЎСКАЯ ПРОБА

У аднаго папа наёмнікі малацілі жыта, дый то поп усё з іх смяяўся, што злёгка прыбіваюць. Дзе быўшы, як адыходзілі на палудзень, так поп кажа да сябе:

— Улезу я пад пасад дый пакажу ім, што я выдзержу іх малацьбу.

Ажно адзін наёмнік прыастаўся, дый усё гэта выслухаў. Ну, так папалудняўшы, як ішлі да гумна, так ён ім і сказаў, што поп пад пасадам. Так гэта, як узяліся за цапы, так той маргнуў на іх дый кажа:

— Зразу, хлопцы, памаленьку, бо патомімся.

Яны гэто, як дадуць жару, а поп калі не стане скавытаць нялюдскімі галасамі, так яны, бы то папалохаўшыся, яшчэ добра па разу далі дый скочылі набок. Ажно глядзяць: поп вылазіць з-пад пасаду. От табе і напрабаваў!

## 131. ЯК АРГАНІСТЫ ГЛАДКА КСЯНДЗА АБАБРАЎ

Быў у аднаго ксяндза арганісты і не меў ён з чаго жыць, так кажа да ксяндза: так і так, каб большу яму пенсію прызначыў:

— Га,— кажа,— калі не маеш з чаго жыць, то ідзі сабе, анно яшчэ работнікі парасстаўляй.

Ён пайшоў у поле, парасстаўляў, ідзе назад, бачыць, ажно ксёндз сядзіць каля стала перад акном. Акно адчынена, а на стале ўсё горбы грошай. Так ён гэто хутчэй пабег, улажыў кажуха навыварат, папрычапляў рогі, зрабіў бараду, умазаўся ў сажу, падышоў пад акно да й кажа:

— А то, ксёндз, мае грошы лічыш!

Ксёндз гэто як угледзеў яго, да думаў, што чорт, да ўцекі! А ён грошы згарнуў, занёс дахаты, выехаў стуль і жыў сабе добра.

## 132. ПОП І ЖУРАЎЛІ

Унадзіліся к папу ў авёс жураўлі. А нехта параіў яму намачыць у гарэлцы аўса. Поп гэтак і зрабіў. Жураўлі як наеліся таго аўса, дык паўпіваліся і ляжаць на полі, як нежывыя. Узяў поп вужышча,

набраў аборак і пайшоў на поле, дзе ляжалі п'яныя жураўлі. Бачыць поп цэлае стада, капы, можа, тры. Давай ён ім звязваць ногі. Вужышча завязаў, закруціў за сябе і ўсё прывязвае жураўлёў. Пакуль ён звязаў, яны працвярэзіліся, залапаталі крылламі, узняліся і паляцелі, і панеслі разам з сабою прывязанага за вужышча папа.

Ляцяць яны над балотам. Поп неяк развязаўся і бух у гразь.

Гэта рабілася на Палессі. А якраз недалёка адтуль сек паляшук дровы. Чуе ён, крычыць нехта. Нідзе нікога не відаць, а крычыць. Давай ён шукаць і знайшоў у гразі папа. Сядзіць поп, не можа вылезці.

— Хто ты? — пытае паляшук.

— Я — свяшчэннік.

— Ты не поп, а чорт.

Поп божыцца, клянецца, што ён свяшчэннік. Паляшук паверыў і дастаў яго.

— Хоць ты кажаш, што ты не чорт, але я не пасаджу цябе на воз, а прывяжу ззаду.

І прывязаў паляшук папа ўсё роўна, як мяшок сена, ззаду за воз, а сам пайшоў сячы дровы. А нехта напалохаў мядзведзя. Мядзведзь як бег са сполаху, заблытаўся за паляшуковыя аборкі, ды з возам і з папом. Прыбягае паляшук.

— Я і казаў, што ты чорт. Калі чорт, дык — па-чартоўскі.

## 133. ПОП-ХАБАРНІК

Жыў у нашай вёсцы шавец, бедны чалавек, ды к таму яшчэ ад свайго горкага жыцця і выпіваў калі-нікалі. Пахварэў ён крыху ды і памёр.

Трэба пахаваць чалавека. Паклікалі папа з суседняга сяла. Прыгледзеўся ён, што чалавек бедны, нічога з яго не возьмеш, і гаворыць ён да людзей:

— А што мне дасцё?

Людзі да яго і так і сяк:

— Мы вас адвязём і прывязём.

Ну, нарэшце, згадзіўся ён. Пахавалі чалавека, а поп усё прыглядваецца, ці не можна ад пакойніка што ўцягнуць. Людзі гавораць:

— Гляньце, бацюшка, быў ён бядняк, асталося шылля ды капылля толькі.

Ажно дзіву даліся людзі. Узяў поп у торбу гэтае шылля ды капылля і паехаў. І ні сораму яму ніякага. Так і прыказка кажа: поп і з жывога і з мёртвага дзярэ.

## 134. ЯК ЧАЛАВЕКУ Ў ДЗЕСЯЦЬ РАЗ ВЯРНУЛАСЯ

Аднаго разу поп за пропаведдзю сказаў людзям, каторыя былі ў царкве:

— Хто дасць мне карову, таму бог вясной назад зверне дзесяць.

Пачуў гэта адзін селянін, прыйшоў дахаты і гаворыць жонцы:

— Вось што, жонка. Сёння нам бацюшка гаварыў, калі хто дасць папу карову зараз, то вясной бог у дзесяць разоў болей зверне. Ёсць у нас карова апошняя, давай завядзем яе. А можа, будзе ад бога праўда.

Згадзілася жонка аддаць апошнюю кароўку. На другі дзень, ледзь золак заняўся, прыводзяць яны карову на папоў двор і гавораць:

— Вазьмі вось, бацюшка, толькі малі бога, каб даў вясной у дзесяць раз болей.

Заіскрыліся вочы ў папа ад жаднасці — ну, думае, удалося мне адурачыць іх. Узяў поп карову сялянскую і далучыў яе да сваіх, а селяніну абяцаў богу маліцца шчыра.

Вясною выпусцілі кароў на пашу. Стала хутка жарка і авадні пачалі кусаць кароў. Тыя пабеглі ў кусты, а селяніна карова па прывычцы пабегла да свайго дому, а за ёй пабеглі дзевяць папоўскіх кароў.

Селянін убачыў гэта, вельмі ўзрадаваўся, зачыніў іх у хлеў, а сам пайшоў хваліцца суседзям.

Дачуўся пра гэта поп і пайшоў да селяніна, каб аддаў ягоных кароў, а селянін яму і гаворыць:

— Ты ж, бацюшка, гаварыў: «Калі мне хто аддасць карову, то таму бог па вясне верне ў дзесяць раз болей». Не век жа гараваць.

## 135. ДАНІНА НА ЦАРКВУ

Маркаўцы забыліся аб мядовай даніне скітаўскаму манастыру і ўспомнілі аб ёй толькі тады, калі пабудова царквы ўжо была скончана. Спалохаўшыся, што прыйдзецца плаціць папу і па другому пуду тукаўшчыны, парашылі не хадзіць у царкву. Поп аблажыў іх мёдаваю данінаю за самапраўе:

— Хто не ходзіць у царкву, плаці тукаўшчыну.

Тады маркаўцы парашылі хадзіць у царкву.

А каб не спазніцца да службы і не заплаціць тукаўшчыны, сталі высылаць дзяцей слухаць звон. Дзеці, пачуўшы звон, хутка ўбягалі ў хату і крычалі:

— Тата, хутчэй ідзі, а то ўжо тое раве, што два пуды мёду бярэ.

## 136. ЯК ЖА НЕ ПЛАКАЦЬ

Паганы ў нашым сяле дзяк быў: не ўмеў ён пець ні каліва. Як запяе, бывала, дак і слухаць нельга, хоць з царквы ўцякай. Якся раз пеў ён вельмі жалобна. Пяе, а сам аглядаецца: ці не разжалобіць ён каго? Аж і бачыць: стаіць чалавек ля бабніку дый плача. Па шапачным разборы падыходзіць дзяк к таму чалавеку і пытае:

— А што ты, чалавек добры, сёння плакаў?

— Ай, дзядзечка! Як жа мне не плакаць: ты сёння якраз так пеў, як мая козка бляяла, калі яе ваўкі рэзалі.

## 137. ДЗЯК І БАБА

Калі ў царкве дзяк іжа спявае,
Баба ў куточку з жалю падыхае.
Пачуўшы яе, дзяк у яе пытае:
— Чаго плачаце вы так?
— А як жа мне не плакаць? —
Гэтак баба кажа, —
Ваш жа голас мяне за сэрца вяжа,
Калі ж мая казліца так на лёдзе крычала,
Як ваўчыца козку грызла-разрывала.

## 138. НА СПОВЕДЗІ

Пайшла баба да споведзі, і поп пытае:
— Чым ты грэшна?
А яна:
— Я ў новай спадніцы прыйшла.
А той:
— А я пытаюся цябе, чым ты саграшыла?
А яна кажа:
— Але, але, была, — кажа, — вялікая, ды я перашыла.
А поп ізноў:
— Глухая ты цяцера.
А баба:
— Калі няма часу цяпера, то я заўтра прыйду.

## 139. АРХІРЭЙ ЕДЗЕ

— Яўхім Несцяроў! Яўхім Несцяроў!
— Чаа ты?
— Бі званы!
— Навошта?
— Хурхурэй едзе.
— А дзе ж ён?

— Пыл бачно!
— Вяроўка пераламілася!
— Дручком бі, набіць твае вока!

## 140. ЁН ВЕДАЎ

Поп, едучы ў дарогу, схаваў пад сядзенне перакуску, што пападдзя яму падрыхтавала. Мужык, які вёз папа, намацаў яе ды з'еў. У дарозе, захацеўшы перакусіць, поп падняў сядзенне, але нічога там не знайшоў.

— Ох, Цімох, Цімох, я гэтага не люблю, — сказаў ён з дакорам мужыку.

— Я ж ведаў, бацюшка, што не любіце, таму сам і з'еў, — адказаў кемлівы мужык.

## 141. НІЧОГА НЕ ЧУВАЦЬ

Заўважыў ксёндз, што арганіст — хітрэц і хапуга.

— Хадзі, — кажа яму, — выспавядаю, а то на тым свеце чэрці цябе ў смалу па вушы засадзяць і гарачую патэльню лізаць прымусяць.

— Ну што ж. Спавядацца — дык спавядацца. Сеў ксёндз у спавядальню, а арганіст ля акенца ўкленчыў. Вось ксёндз і пытае:

— Касцельнае віно выпіў?

— Не чутно нічога, — адказвае арганіст.

— З касцельнай скарбонкі грошы выбраў?

— Зусім нічога не чуваць, — кажа ізноў арганіст.

— З маёй каморы кілбасы выцягнуў?

— Ну, анічагусенькі не чуваць, — адказвае арганіст. — Не верыце, дык вось хадзіце сюды і праверце самі.

— Што за ліха? — кажа ксёндз. — Дай праверу!

Памяняліся месцамі. Арганіст сеў у спавядальню, а ксёндз ля акенца ўкленчыў.

— Да маёй бабы начаваць хадзіў? — пытае арганіст.

— Да тваёй бабы?.. Паслухай, сыне мой. Тут сапраўды нічога не чуваць, — збянтэжана замармытаў ксёндз.

## 142. У КАСЦЁЛЕ

От цёткі ходзяць да касцёла і ўсе чытаюць кніжкі. Адна кажа да другой:

— То ты дагары кніжку дзяржыш.

А тая атвячае:

— А, то дзеці дома перавярнулі.

## 143. ВАЛАЧОБНІКІ І КСЁНДЗ

Пайшлі ў хрыстос валачобнікі з дудой. Прыйшлі да ксяндза ў плебанію і давай яму пяяць пад акном. Ксяндзу не спадабалася, выскачыў з кіем.

Усе разбегліся, а дуда вывалілася надзьмутая, то ён палкай па дудзе — а яна гвалту. Тады ксёндз зжаліўся:

— Пане дудару, вярніся, вэзь сваё рыкало.

## 144. ЗЛОДЗЕЙ

Калісьці жыў вельмі спрытны злодзей. Неяк дачуўся ён, што ў аднаго пана ёсць многа грошай, і рашыў іх украсці. Днём ён залез на гарышча і каля бэлькі ў столі прасвідраваў дзірку, каб было відаць, дзе пан гэтыя грошы хавае.

От пан і пані павячэралі і да сваіх грошай: глядзяць, ці не ўзяў хто. Пасля пан стаў маліцца:

— Госпадзі, ачысці душу маю!

— Ачышчу! — кажа зверху злодзей.

— Госпадзі, ачысці душу жонкі маёй!

— Ачышчу! — абяцае злодзей.

— Госпадзі, ачысці душу сына майго!

— Ачышчу! — кажа злодзей.

— Госпадзі, ачысці душу майго суседа!

— Не ўпраўлюся...

А калі назаўтра пан прачнуўся, у хаце было пуста — ачысціў іх злодзей да ніткі.

## 145. ПОП З БАРАДОЙ

Пасля уніі папу прыказалі запусціць бараду і вусы.

Вот едзе ён неяк зімой, а сказалі яму:

— Здароў, Ахроім! (Карчмар такі быў, прынялі за яго.)

Заплакаў поп, абідзеўся.

## 146. АБЯЦАННЕ

Згубіўся ў чалавека вол. Шукаў ён яго, шукаў, строс весь лес, нігдзе няма! Бяда чалавеку! Дома работы па вушы: трэба араць, сеяць, дый час праходзіць. Кепска! «Калі знайдзецца вол, то дам у цэркаў саракоўку», — кажа сам сабе чалавек. Не выгаварыў яшчэ ён гэтага, бачыць, стаіць вол.

— А каб цябе ваўкі задушылі! Гэта ж трэба! Чуць саракоўкі як у печ не ўкінуў!

Узяў ён паплеціну ды калі пацягне ёю вала!

— А дадому, каб ты здох, каб ты!

## 147. СВЕЧКА З КАБЫЛІНУ НАГУ

— Як бы кабыла знайшлася, — казаў паляшук, — то б паставіў святому Юрыю здаровую свечку, бальшую, з кабыліну нагу...

— А што б цябе, — крыкнуў, абярнуўшыся па-за сабой к палянцы, дзе кабыла грызла траву, — ваўкі з'елі, падла ты! чуць-чуць чорт знае за што не зглуміў воску больш, як ты варта.

## 148. ШТАНЫ ЎСІМ СВЯТЫМ

Панёс адзін чалавек да краўца штаны, каб пашыў к «усім святым». Праз нескулькі там урэмя наказаў яму кравец, што заказ гатоў. Прыйшоў заказчык, а той яму і паказвае многа маленечкіх штанікаў і адны большыя. Спужаўся чалавек і пытаецца:

— Нашто ты мне пашыў гэтулькі штанікаў? Я ж прасіў толькі адны.

— Як адны? Ты прасіў пашыць штаны «усім святым». Вось я і пашыў: вось гэтыя маленькія — святому Міколу, гэтыя —святому Яну, гэтыя — святому Пятру і гэдак на ўсіх святых. Толькі вось гэтыя большыя — самому богу.

## 149. ПРА ПАПА

Сустрэліся дзве набожныя жанчыны.

— Наш бацюшка, — кажа адна, — чалавек вельмі набожны. Перад тым як кульнуць чарачку, заўсёды перахрысціцца і скажа: «Дай божа, каб не апошнюю...»

## 150. ДВУМ ПАМАГЛО

Не было даходу ў папа. Вось ён зрабіў дошчачку, на дошчачку паставіў свечку, прымацаваў іконку «Божа мацер» і пусціў па цячэнню рэчкі. Яна плыла-плыла ды к берагу прыстала. Людзі знайшлі гэта, пазвалі папа і паказалі, у якім месцы з'явілася «Божа мацер». Поп сказаў, што на гэтым месцы трэба паставіць капліцу і кожны год у гэты дзень маліцца тут богу, браць з рэчкі ваду. Яна будзе памагаць людзям. Паставілі капліцу. Кожны год поп у гэты дзень прыязджае, прывозіць карчмара і пачынаецца торг. Людзі дань нясуць богу, бяруць цалебную ваду і пытаюцца ў карчмара, ці памагае людзям. Ён адказаў:

— Як я ведаю, то памагае. Асабліва двум і вельмі памагло: мне і папу.

## 151. ПРА ПАПА І КАВАЛЯ

Заходзіць поп у кузніцу заказаць кузняцу здзелаць для яго нож. Каваль і кажа яму:

— Падымі, бацюшка, вот гэта жалеза і дай мне яго.

Поп нагнуўся, ухапіў жалеза рукой і ажог руку. У эта ўрэмя заходзіць у кузніцу мальчык. Кузнец задумаў паказаць, што мальчык умней папа.

— Падай, мальчык, жалеза вось гэта мне, — гаворыць каваль.

Мальчык падходзіць і на жалеза плюнуў, і яно зашыпела. Тады мальчык і кажа:

— Не, дзядзенька, бяры сам яго, яно гарачае.

Поп, стоя, думае: «Чаму ж я такі дурны, што не дагадаўся плюнуць на жалеза. Цяпер мяне ніхто не абманіць»,—і, прыйшоўшы дамоў, сеў есці. Суп жонка падала гарачы і жырны, пар з яго не ідзе. Поп тады і думае: «Не паняць яго, гарачы ён ці не». І ўспомніў, як мальчык дзелаў у кузніцы. Нагнуўся і плюнуў у суп, але суп не засіпеў, як жалеза. Тады поп зачэрпнуў цэлую ложку і хапіў у рот, а рот так увесь шкваркамі і пабраўся.

## 152. КОЛЬКІ МОЖА ВЫПІЦЬ ПОП

У аднаго папа спыталі:

— Бацюшка, колькі можна выпіць гарэлкі?

— А з закуссю, аль без? — пытае поп.

— З закуссю, з закуссю, бацюшка.

— Пры матушцы, алі без онай? — зноў пытае поп.

— Без онай, бацюшка, без онай.

— З блудніцамі, алі в адзіночастве?

— З блудніцамі, бацюшка, з блудніцамі.

— У такім разе выпіць можна прэвялікае множаства, да бесканечнасці, — адказаў поп.

## 153. КОЛЬКІ МОЖА ВЫПІЦЬ ПОП?

Сабраліся «святыя айцы» за сталом, адзін пытаецца:

— Колькі можа выпіць чалавек?

— Пры атсутствіі нашых матушак і ў такой кампаніі можна піць да бесканечнасці і яшчэ паўлітра, — кажа адзін.

— А нашто паўлітра?

— А гэта на пахмелле.

## 154. АПОСТАЛЫ-П'ЯНІЦЫ

Быў поп п'яніца. У вялікае свята маліўся богу, хадзіў па царкве, махаў кадзілам, а ў кішэні яго портак была паўлітра самагонкі. Пе-

рад усімі іконамі поп шчыра маліўся, кланяўся. А перад іконай «Тайная вячэра» асабліва поп маліўся, махаў кадзілам і нізка кланяўся, што з кішэні аж выпала паўлітра. Кругом стаялі праваслаўныя людзі і глядзелі, што здарылася. Але поп не разгубіўся і, паказваючы на ікону, кажа: «Вы вячэрацы павячэрайце, але на падлогу бутэлькі не кідайце», — і забраў бутэльку ў кішэню.

## 155. НЕЗАКОНЧАНАЕ КАЗАННЕ

Адзін ксёндз любіў піць гарэлку, дык аднойчы перад мшою паслаў рызнічага ў карчму, каб узяў гарэлкі ў крэдзіт. Рызнічы пайшоў, а яўрэй сказаў:

— Ну, я без грошай не дам, бо ксёндз ужо і так многа набраў.

І не даў. А таго яўрэя звалі Давыдам. Вярнуўся рызнічы, уваходзіць у касцёл, а ксёндз якраз гаварыў казанне пра караля Давіда і гэтак гаварыў людзям:

— І што ж на тое адказаў кароль Давід?

А рызнічы, пачуўшы гэтыя словы, думаў, што гэта ксёндз у яго пытаецца, дык адказаў:

— Давыд гаворыць, што болей гарэлкі без грошай не дасць, бо ксёндз і так у вялікім даўгу!

Дык ксяндзу стала сорамна.

— А ты, — кажа, — дурань! Гэта ж не пра таго Давыда размова!

І гэта з амбоны і на плябаню, не скончыўшы нават казання!

## 156. ПОП-НЕВУК

У адной палескай вёсцы не было папа. Тады пачаў правіць малебен хітры Мікіта. Ён не ведаў граматы, малітваў, таму кожны раз спяваў: «Адна дзірка, дзве дзіркі, тры дзіркі» і г. д. Палешукі абурыліся. Запрасілі біскупа.

Поп паклаў торбу з грашыма, каб яе ўбачыў біскуп, і запеў:

— Отчэ, владыко, пацягні за лыко, там атлычано сем коп, штоб я быў поп!

Біскуп пацягнуў да бачыць, што цяжко, думае, много грошай, і сказаў:

— І ны, і прысном во векі веком, ек быў, так і будзь папом!

## 157. ЯК ПАПА ВЫБІРАЛІ

Даўней трэба было папа выбіраць. Гаманілі, гаманілі. Каго? Якога? Рашылі так: трэба ўзяць барану, зачапіць паясамі і цягнуць папярок палосак. На чыёй паласе абарвецца, той і поп. Добра. Зачапілі, пацягнулі. У самага бяднейшага на паласе абарвалася.

— Выбіраем цябе за папа. Будзеш правіць у царкве. Дачакаліся нядзелі. А новы поп не ведае, што рабіць. Жару ў кадзіла накідаў і махае ім. Жар за галянішча папаў. Ён нагамі трасе. Усе перапужаліся і паляглі. Тады і ён, як усе чыста паляглі. Пасля гэтага ўсе гаварылі пра тое, як новы поп адпраўляў службу:

— Новы поп — новыя парадкі. Былі патаптайлы ды папрыгайлы.

## 158. ЯК У ЦАРКВЕ НАГАМІ ДРЫГАЛІ

Быў у нашай вёсцы поп, ды такі п'яніца, што прапіў усё да рэшты і сам з гарэлкі прапаў. Засталіся мы без папа. Нам дык што — лішняя капейка ў кішэні залежыцца. А вось стараста царкоўны ды яго памагатыя вельмі былі засмучаны. І падбілі яны сялян сабрацца на сход і накіраваць пасланца да архірэя, каб той папа прыслаў.

Пасланцом абралі Яўхіма Гарэліка. Самая падыходзячая кандыдатура: балбатаць умеў добра і чарку любіў. Сабралі яму грошай, сала, хлеба і пайшоў Яўхім да архірэя ажно ў Тураў.

Праз тыдзень які вяртаецца ён і гаворыць, што архірэй сказаў, каб самі папа выбралі. Найбольш кемлівыя пасмейваліся, бо ведалі, што далей суседняй воласці Яўхім не зайшоў. Але рашылі зрабіць так, як архірэй нібыта раіў.

Сабраліся зноў на сход і пачалі думаць, каго папом паставіць. Усе аднекваюцца, адмахваюцца рукамі і нагамі. Тады рашылі так... У Нупрэя Канцавога была зброддівая свіння, па ўсіх дварах бегала. Дык вось і дамовіліся прывязаць той свінні да хваста гарбуз і ганяць па вёсцы. Каля чыйго двара гарбуз адарвецца, той будзе папом.

Трэба ж так здарыцца, што гарбуз адарваўся якраз насупраць халупы Мікіты, пастуха.

Гоніць пастух з поля статак, а яго, быццам святога, сустракаюць, некаторыя нават руку спрабуюць пацалаваць. Здзівіўся Мікіта, адну занадта набожную бабу нават пугаю сцебануў. Але яго паззваў да сябе стараста, напаіў гарэлкай, і Мікіта пачаў у ролю ўваходзіць.

Надышла нядзеля, час для набажэнства. Стараста выкупіў у карчмара Моўшы рызу, што прапіў яго папярэднік, замест кадзіла чарапок з гаршка на вяровачках прымайстравалі, вугольчыкаў туды наклалі, смалы яловай з воскам укінулі, каб, значыць, боскі смурод быў. Мікіта ж ні чытаць, ні пісаць не ўмеў, дык яму стараста даў у рукі рэшата і загадаў на малітоўны лад дзірачкі ў ім лічыць.

Набілася людзей поўна, усім цікава, як Мікіта набажэнства спраўляе. А ён ходзіць па царкве і ва ўвесь голас дзірачкі лічыць:

— Адна дзірачка, дзве дзірачкі-і-і, тры дзірачкі-і, госпадзі-і-і-і памілуй, чатыры дзірачкі-і-і-і!

Хадзіў так Мікіта і кадзілам памахваў, пакуль вугольчык не

скаціўся за халяву бота. А як прыпякло добра, бразнуўся аб зямлю, задраў ногі ўгару і давай трэсці імі, каб вугольчык выскачыў. Пярэднія багамольцы думалі, што так і трэба маліцца богу, таксама пападалі на дол і давай нагамі дрыгаць. Вэрхал, гвалт падняўся ў царкве. З таго часу і пайшла пра нас слава, што калі молімся, дык абавязкова нагамі дрыгаем.

## 159. ЯК ПАЛЕШУКІ ДЗЕДА ПАПОМ ЗРАБІЛІ

Ішоў дзед, жабруючы, знайшоў на дарозе папову шапку і сутану, схаваў у торбу дый думае сабе: прадам у мястэчку, то будзе хоць хлеба з кусок. Зайшоў да сяла нанач, ажно там палешукі, у яго торбе агледзеўшы, падумалі сабе, што ён поп, дый давай яго прасіць, каб ён у іх застаўся папом. Дзед спачатку прысягаўся, што ён не поп, да не мог ніяк адкараскацца, дый застаўся ў іх папом. А, вядома, не ўмеў, як імшу правіць, так усё ходзіць па царкве дый спявае:

Ішоў я дарогаю,
Знайшоў я паповую шапку і сутану,
Людзі мяне пазнавалі
І за папа абралі!

## 160. СВЯТОЕ ПАДРЫГВАННЕ

Пайшлі нашы людзі ў заработкі дзесь вельмі далёка да й папалі там расколаў. Ведама, у будзённыя дні жылі сабе ў лесе, пушчалі дзерава да рабілі клёпку, а ў нядзельку пайшлі ў вёску паглядзець, як там жывуць людзі. Прыйшлі яны раненька да й паглядваюць сюды-туды. Вёска як вёска. Шырокая вуліца, паабапал хаты, а на канцы стаіць вялізазная хата з крыжам на даху. Пачалі туды збірацца тамашнія людзі да й кажуць, што гэта царква. Прыйшоў якісь сівы дзед, адчыніў царкву, вынес адтуль жалезную штабу, павесіў яе на гвозд да й давай па ёй лупіць малатком. Звініць штаба, аж глушыць, а людзі здымаюць шапкі да хрысцяцца. Дагадаліся нашы дзецюкі, што гэта ў іх такі звон. Улезлі яны ў царкву. У царкве ўсё як трэ: канастас, пратэсы, абразы. Прыйшоў поп да й кажа:

— Дзелайце тое, што я буду дзелаць.

От пачаў ён хрысціцца да адбіваць паклоны. Хрысцяцца й людзі да грукаюць ілбамі аб памост. Запеў поп. Падхвацілі тое й людзі да й паюць, баццэ ў лесе пастухі галёкаюць. Нарэшце, узяў поп чарапок з жарам, насыпаў туды ладуну да й пачаў кадзіць. Кадзіў ён, кадзіў, аж анучы на нагах закурыліся. Валіць дым ад папа, баццэ з коміна. Пазіраюць людзі да грукаюць ілбамі аб памост. Тым часам поп кінуў з рук чарапок да давай тупаць, тушыць агонь. Убачылі тое людзі да як пачалі ўсе тупаць, дак аж царква трасецца. Але ось перабіраў, перабіраў нагамі поп, нарэшце, не вытрымаў,

6 Зак. 109

мабыць, яму такі добра прыпякло, от ён пакаціўся долу да давай дрыгаць нагамі. Зірнулі людзі да ўсе раптам грым на памост, да давай дрыгаць нагамі. Паскідаў поп з ног лапці да анучы, забраў іх у ахапку да тым і кончыў службу. Пачалі людзі расходзіцца з царквы, от наш чалавек і пытае тамашняга старога, што гэта ў іх за свята й што гэта яны рабілі ў царкве. А той і кажа:

— Сёння святога Дрыгуна, от мы й рабілі святое падрыгванне.

Падзівіліся нашы людзі да й думаюць:

— Што край, та абычай, што сяло, та нораў, а што галава, та розум.

## 161. ЦЫГАН І ПОП

Дагаварыўся цыган іскасіць у папа сенакос. Папілі магарычы. Назаўтра паехаў цыган з парабкамі к сенакосу. Цыган і кажыць:

— Нум, папалуднуем!

— Давай! — сказалі парабкі.

Папалуднавалі.

— Ну, аддышылісь. А калі будам касіць?

Цыган і кажа:

— Вы толькі то дзелайце, шчо я буду дзелаць, дак усё будзе добра.

От яны ляглі спаць і праспалі да вечара. Вечарам цыган і кажа:

— Нум, шчо папалуднуем!

Папалуднавалі.

— Нум, цяпер ехаць дамоў!

Прыехалі. Цыган і кажа:

— Ну, бацюшка, ужо траву пакасілі, давай атправу.

От бацюшка заплаціў, шчо следавала, і даў цыгану пірог. От цыган і кажа:

— Дай, бацюшка, шчэ і сала.

— За шчо ўжо табе сало?

Не даў.

— Ну, бацюшка, не даў сала, шчоб табе трава ўстала!

Назаўтра бацюшка паехаў на луг із граблямі — аж уся трава стаіць. От поп і кажа:

— Ах, божа мой! Луччай бы я даў кусок сала, чом мая трава ўстала.

## 162. СКУПЫ ДЗЯК

У ваднаго дзяка было многа парабкаў. Пазваў раз у будні дзень дзяк сваіх парабкаў снедаць:

— Паснедуйце-тку, а после пайдзяцё на работу!

Тыя селі і снедаюць. А дзяк стаіць ды глядзіць. Стаяў, стаяў і надумаўся.

— Ці ведаеце што, мальцы? Вы ўжэ за'адным разам і паабедайце!

Парабкі ізнова селі і пачалі абедаць. А дзяк, стоючы, шчэ надумаўся:

«Няхай-тку разам і павячэраюць: з'ядуць ужо патроху, а тады цэлны дзень работаць будуць!»

Павячэраўшы, парабкі кажан знаець сваё дзела, каму, павячэраўшы, трэба коней весць на начлег, тэй збіраець аброці, зманіець сабак; а тыя пасля вячэры разувацца сталі: спаць класцісь. Дзяк глядзіць і спужаўся:

— Што гэта вы робіце? Трэба ж на работу йсці!

— Во, дак якая ж работа, павячэраўшы?..

І кладуцца спаць. Дзяк і так і гэтак... Ды давай парабкаў гарэлкай паіць ды прасіць. Згатовіў ім другі абед і другую вячэру.

## 163. ЯК БОГ П'ЯНІЦУ Ў РАЙ ПРАПУСЦІЎ

П'яніца знаў, што на тым свеце ў рай не папасці, і ён папрасіў перад смерцю суседзяў пакласці яму пад падушку бутылку гарэлкі, каб было што выпіць на тым свеце, усё роўна ж сем бед, адзін атвет. Так і было зроблена. І вось п'яніца пасля смерці на тым свеце. Стаіць ён, чакае сваёй чаргі да бога і трасецца: ведае ж, што бог адправіць яго ў пекла. Нарэшце, падышла яго чарга. Убачыў бог бутылку і пытае:

— А што гэта ў цябе?

П'яніца адказвае:

— Гэта тое, што я піў, пакуль папаў сюды.

Бог адкрыў бутылку, пакаштаваў ды як плюне, а потым зноў пытае:

— І многа ты выпіў гэтай поскудзі?

П'яніца адказвае:

— Кожны дзень я піў, божанька.

Бог пакруціў галавой, падумаў і вырашыў:

— Калі ты на белым свеце так адмучыўся, п'ючы такое кожны дзень, то жыві ты на тым свеце ў раі.

І адправіў бог п'яніцу ў рай.

## 164. ЯК АНТЭК З МАНЬКАЮ ПАПАЛІ Ў РАЙ

Памерлі Антэк з Манькаю і пайшлі ў рай. Падышлі яны да райскіх дзвярэй і не асмеляцца стукаць. Пасылае Антэк Маньку. Пятро адамкнуў ключом дзверы і пытае, хто там.

— Гэта я, Манька!

— А хто ты?

— Батрачка.

— Такіх сюды галапузых не пускаем.

Прыйшла яна да Антона з плачам. Пайшоў Антон. Пятро пытае яго, хто ён такі.

— Батрак.

— А такіх чарнамазых не прапускаем.

Адышоў і Антэк. Думае: «Як жа прабрацца?»

Ідуць палкоўнікі — іх адразу ж прапускаюць. Бачыць Антэк: ідзе старэнькі генерал. Ён барджэй верхнюю спадніцу Маньцы на галаву завязаў, абкруціў ногі, каб не відаць было, ускінуў на плечы і панёс за генералам. Пятро яму:

— Стой, ты куды?

— А я багаж генерала нясу!

Прабраўся Антэк з Манькай у рай, а адтуль ні Пятро, ні Гаўрыла, ні бог яго не выкурылі. Так і застаўся ён у раі.

## 165. ПАПОЎСКАЕ КАЗАННЕ

Гаварыў поп у царкве пропаведзь. Наракаў усё людзей, каб многа не клапаціліся.

— Паглядзьце,— кажа ён,— як жывуць пціцы і звяры, нічога не робяць: не сеюць, не жнуць, а бог корміць іх.

— Ах, бацюшка! — кажа мужык,— калі яны нічога не робяць, то гэтакае іх жыццё: ходзяць зімою па дарогах ды памёт дзяўбуць альбо падаль жаруць.

## 166. ЯК ПРОПАВЕДЗЬ НЕ ЎДАЛАСЯ

Аднае нядзелі поп кажа да людзей:

— Прыйдзеце ў другую нядзелю, адно каб не было між вамі католіка, то я вам пропаведзь скажу.

Тыя — добра. Прыходзяць на другую нядзелю, але і каталікоў колькох між імі, паслухаць тае пропаведзі. Так поп кажа:

— На пачатку света не было ні кала, ні двара, ні тычыны, ні ляшчыны, так бог зляпіў з гліны Адама і паставіў пад плотам сушыць.

Ажно адзін з каталікоў кажа:

— Скуль жа той плот узяўся, калі нічога не было?

Поп ужэ нешта так кажа:

— От і зг... пропаведзь! Я ж вам казаў, каб вы з сабою ні аднаго католіка не мелі. Прыйдзеце ж заўтра, адно прынясеце кожан па свечцы, так як па качарзе, то я вам скажу лепшу.

І гэто пайшоў з царквы.

## 167. ЯК ПОП ІМШУ АДПРАЎЛЯЎ

Адзін поп пасылаў дзяка красці. Да й раз паслаў яго з возам красці гаўцу, а сам да царквы пайшоў. Анно ж людзі набеглі. Вылупілі добра, колькі ўлезла, і забралі каня. Той уцёк і не аглянуўся аж да царквы. Згарнуўся каля парога і стаіць, а поп, як імшу адпраўляў і неяк было яму запытаць, а цікава, ці многа накраў, так пачаў спяваць на царкоўну ноту:

— Дзяча, дзяча, а дзе тваё бэ?

А дзяк:

— За бэ, то забралі і ві-га-га!

А поп:

— Чаму то так?

А дзяк:

— А бо набеглі людзі і не было як!

Ну, і такім спосабам разгаварыліся, а людзі думалі, што яны моляцца. Ад тае пары поп ужэ не пасылаў яго красці. О, ужэ годзі!

## 168. ЯК МУЖЫК КСЯНДЗА АБШУКАЎ

Адзін чалавек ніяк не хацеў пасціць. Што тут рабіць? Ага! Пайшоў ён да споведзі да й кажа:

— Ці можна падарожнаму каўбасу есці?

Ксёндз кажа:

— Чаму не, можна.

Ён гэто прыйшоў дахаты, зараз гэто набраў каўбас, выйшаў да лесу, з'еў і так штодзень рабіў і граху не меў. От не жарт, які хітры, і ксяндза абшукаў!

## 169. ЯК МУЖЫК ЛЮДСКА КСЯНДЗА АБШУКАЎ

Адзін чалавек на споведзі папытаў у ксяндза:

— Ці можна тое з'есці, што па запусках у зубах пераначуе?

А ксёндз кажа:

— Можна, душачка, не грэх.

Так чалавек гэто, прыждаўшы запусак, як кладаваўся спаць, так узяў цэлага кумпяка ў зубы і потым сабе ў посце еў па кусочку і не баяўся граху, бо кумпяк у яго начаваў у зубах.

## 170. МЯСА Ў ПОСТ

Раней людзі пасцілі, асабліва ў той вялікі пост. Але быў адзін чалавек надта хітры. Ён думаў-думаў і надумаўся. Якраз у запускі, перад вялікім постам, пайшоў ён да ксяндза і пытаецца:

— Войчанька, а што трэба рабіць з тым мясам, што пасля ночы ў зубах застаецца?

А ксёндз і кажа:

— Што ж ты зробіш з ім, трэба з'есці, ужо за гэта не будзе граху.

Гэты чалавек узяў на запускі ў зубы цэлую ўсмажаную ў сале гусь і заснуў. А назаўтра прачнуўся, сеў на ложку і давай уплятаць гусь. У яго пытаюцца:

— Што ж гэта ты ў пост мяса ясі, гэта ж грэх вялікі!

А ён і кажа, што яму ксёндз дазволіў тое з'есці, што ў зубах застаецца пасля начы.

## 171. БІСКУП І САБАЧКА

У адно мястэчка да касцёлу прыехаў біскуп. Дачулася старая бабка, сабралася, адзела новыя панчохі, лапцікі, новую спадніцу і падалася да касцёлу, каб паглядзець біскупа. Хадзіла, хадзіла, і ў касцёле была, а біскупа не ўбачыла. Засмуцілась бабка ды і рашыла ісці дахаты, ды раптам бачыць: стаіць карэта запрэжана двумя канямі, дый важны кучар на козлах сядзіць, падышла бабка дый пытае, ці праўда, што біскуп прыехаў, а фурман кажа, што праўда.

— Як бы гэта хаця паглядзець на яго? — пытаецца бабка.

— Ну, што ж,— кажа фурман,— паглядзі.

Укленчыла бабка каля карэты дый пачала маліцца, а ў гэтай карэце сядзеў сабачка біскупа, адчыніў фурман дзверцы, сабачка выскачыла дый да бабкі. Глядзіць бабка на сабачку дый кажа:

— А, мой жа ты фурманок, ці грэх, ці два, ці грашу, ці брашу, а біскуп, як сабачка.

## 172. ЯК ХЛОПЕЦ СПАВЯДАЎСЯ

Прыйшоў хлопец да споведзі, сёе-тое сказаў, а потым кажа:

— Яшчэ адну рэч ведаю, але хіба не скажу.

Тады ксёндз кажа:

— Мусіш сказаць, не можна затаіць: не бойся, ксёндз нікому не скажа, бо як ксёндз скажа, што слышаў на споведзі, то яму язык выражуць.

— Ну, калі так, то скажу: я агледзеў у альшыне на ольсі вароны вядуцца, ест іх чвора, але няхай ксёндз нікому не кажа, бо хто пойдзе і выбера.

Ну што рабіць, надышла нядзеля, ксёндз выйшаў на казанне і давай на людзей крычаць:

— Якія ж то з вас бацькі, калі не ўмееце нават дзеці да споведзі прыгатаваць!

От прыходзіць такі гаўрон і спавядаецца, што ён агледзеў у альшыне на ольсі вароны!

Так хлопец, пачуўшы, як крыкне на ўсёй касцёл:

— А ксёндз казаў, што нікому не скажа, бо ксяндзу язык адрэжуць — ота ж пайду і выберу!

Да й як скочыць з касцёла, так аж у алешыне апыніўся і хутчэй то ўлез, вароны выбраў і панёс дадому.

## 173. ЯК КСЁНДЗ ПАДЗЯЛІЎСЯ ГРЭХАМ

Аднаго разу прыйшоў чалавек да споведзі, спавядаўся, пра што меў, і кажа:

— Адзін грэх такі маю, што не магу ксяндзу сказаць.

— А гэтак нельга, павінен сказаць, бо такая споведзь нічога не варта, яшчэ большы грэх — утойваць.

А ён кажа:

— Калі ж ніяк не адважуся сказаць ксяндзу!

Дык ксёндз кажа:

— Ну, то ў такім разе гавары, то я гэты грэх палавіну вазьму на сябе.

— Ну, мяне,— кажа,— замкнулі ў званіцы, прыперла мне, не меў дзе падзецца, і штосьці там пакінуў.

— То ідзь, дурню, з'еш!

— А калі з ксяндзом папалам!

Добры падзел, чаму не!

## 174. ПУЖАЦЬ, ДЫК ПУЖАЦЬ

Царкоўны стараста абходзіў усе двары і загадваў:

— Ідзіце папу жаць! Папу жаць!

— Каго папужаць? — перапытаў вясковы бабыль Ігнат, вясёлы чалавек.

— Матушка загадала: папу жаць.

— Добра, я зараз! — сказаў Ігнат і, вывернуўшы кажух, пабег да пападдзі.

— Давай сюды папа! У пекла панясу!

Пападдзя ўмлела ад страху, пралепятала:

— А што ж са мною будзе, пане чорт?

— І цябе ў той жа мех забяру!

— А вой-вой,— запішчала матушка.

— Не хочаш, грэшніца? То бяры хутчэй серп і ляці ў поле: сажнеш да вечара ўсё папова жыта, то можа і збавішся ад пекла...

І пападдзя пабегла з сярпом у поле.

## 175. У ШКОЛЕ

П о п. Скажы, Данілка, хто на свеце самы весялейшы?

Д а н і л к а. Вы, бацюшка!

П о п. Чаму ж гэта я?

Д а н і л к а. Таму што калі мая мама памёрла, дык усе плакалі, а вы спявалі.

## 176. НЕСУМЛЕННЫЯ ЖАРТЫ

На імянінах папа ў адной госці ўкралі залатую бранзалетку. Гаспадар, каб пазбегнуць непрыемнасці, заявіў:

— Я прапаную, дарагія госці, паставіць пасярэдзіне хаты паднос і на некалькі секунд патушыць святло. Той, хто гэтак няўдала пажартаваў, будзе мець магчымасць палажыць бранзалетку на паднос, не запляміўшы сваёй годнасці.

Калі зноў запалілі святло, дык на агульнае здзіўленне выявілася, што знік і срэбны паднос.

## 177. ЦЯЖКАЯ ПРАЦА

— Гэй, куме, што цяперака робіць ваш швагра?

— Ён нічога не робіць. Ён — вельмі багаты чалавек.

— А скажыце, як гэта — адразу багаты?

— Зусім не адразу. Ён на гэта вельмі цяжка працаваў. Ён мусіў два разы падпаліцца, тры разы збанкрутаваць і чатыры разы ажаніцца.

## 178. У СУДЗЕ

— Дык пані вінаваціць мужа ў тым, што ён на паню падняў руку?

— Не, рэч ідзе аб тым, што муж наўперад падняў руку, а потым яе на мяне апусціў.

## 179. У СУДЗЕ

Касавокі суддзя да першага з трох сведкаў:

— Як вы завяцёся?

На гэта другі сведка адказвае:

— Тахвіль Наско.

Суддзя да Наска:

— Я не вас пытаю.

А трэці сведка:

— Дык я ж нічога не кажу.

## 180. ДВА СВЕДКІ ПРОЦІЎ СТА

Суддзя *(да абвінавачанага).* Прашу не лгаць перад судом. Гэтыя два сведкі прысягнулі, што ў тую пару вас там бачылі.

Абвінавачаны. Пане суддзя! Якая ж гэта справядлівасць! Што могуць значыць два сведкі проціў ста асоб нашай вёскі, каторыя мяне зусім не бачылі ў тую пару.

## 181. ХТО ВЕДАЕ НЕПРЫСТОЙНЫЯ ПЕСНІ

— Ведаеш, я з гэтым Адольфам не магу быць — ён знае ўсе непрыстойныя песні.

— Няўжо ж ён пры табе іх пяе?

— Не, не пяе, але заўсёды свішча.

## 182. МОДА

— Хацела б купіць сабе наймаднейшы капялюш...

— Дык трэба пачакаць хвілінку, бо цяпер акурат змяняецца мода.

## 183. ВЫРВАЛАСЯ

Купец, вядомы дрэнным абыходжаннем са сваімі слугамі, лаяў стоража:

— Ты, шэльма, ты — зладзейскі слуга.

— Цікава,— адказвае спакойна сторраж,— гэтулькі гадоў я ў вас, а толькі сягоння даведаўся, у каго служу.

## 184. У АПТЭЦЫ

Клiент. Паночку, якую ж вы мне далі памаду, усе валасы павыпадалі на галаве.

Аптэкар. Ці ж я вінаваты ў гэтым: без волі бога ніводзін волас не спадзе з галавы.

## 185. АШЧАДНАЯ

Яна. Даражэнькі, цяпер мусім жыць скромна і больш ашчаджаць.

Ён. Ну дык што! З сённяшняга дня і пачнем.

Яна. Не, не, пачакай яшчэ тыдзень, другі. Мушу сабе купіць капялюш і модную сукенку.

## 186. НЕЧАКАНЫ КАЛАМБУР

Старшыня *(да судовага каморніка)*. Чаму ў ліку рэчавых довадаў няма акрываўленых парток абвінавачанага?

Каморнік. Па сканчэнні судовага следства парткі былі звернуты па прыналежнасці.

Старшыня *(да пракурора)*. Пане пракурор, вашае заключэнне .

Пракурор. Я думаю, што суд можа весці пасяджэнне без парток.

## 187. ПАЛІЦЭЙСКІ САБАКА

— Ну, як наш новы паліцэйскі сабака? — пытае паліцэйскі ў сышчыка.

— Вельмі добры... Ужо пазнаў усіх мясцовых зладзеяў і ўсім сходзіць з дарогі.

## 188. ГАРАДАВЫ

Прыйшоў адзін наймацца у гарадавыя. А сам быў малы такі, куртаты. Дык яму кажуць:

— Ну, куды ж табе ў гарадавыя, такому маломуʔ

А ён:

— Не глядзіце, што малы, але гадасць я магу зрабіць вялікую.

## 189. МАЙСТРЫХА

Жонка майстра дала чаляднiку хлеба з маслам. Чаляднік паглядзеў і кажа:

— Пане майстар, я хіба аслеп, бо не бачу масла на хлебе.

Майстар крыкнуў на жонку і сказаў даць скібку сыра. Калі жонка дала, пытае майстар чаляднiка:

— Ну, цяпер бачыш?

— Бачу,— кажа чаляднік,— і так добра бачу, што мог бы чытаць праз гэты сыр.

## 190. АКУРАТ ПАПАЎ

Пётр пасварыўся з Паўлам і пайшоў да адваката. Той і пытае:

— Ці пробаваў паразумецца з праціўнікам?

— А як жа! — кажа Пётра.— Нават некалькі разоў. Але апошні раз выкінуў мяне за дзверы і сказаў, каб я пайшоў да чорта. Ну дык вось я і прыйшоў да вас, пане адвакаце.

## 191. ВЫНІКІ БЕСПРАЦОЎЯ

Падарожны *(да хлапчука)*. Бяры гэты куфэрак і нясі за мною... Але ж, аднак, колькі за гэта хочаш?

Першы хлапчук. Ды што ласка, пане.

Другі *(падбягаючы)*. А я за палову!

## 192. ВАР'ЯЦТВА

— Ці чуў ты, што ў Бразіліі кідаюць у мора каву?

— Чуў.

— А ці чуў, што ў нас кідаюць бульбу ў ваду?

— Немагчыма! Ну, гэта ўжо вар'яцтва.
— Але ж так! Бо як жа іначай можна зварыць яе?

## 193. ЗАЛАТЫ ВЕК

— Калі быў залаты век?
— А тады, калі людзі не ведалі золата.

## 194. УДАЛЫ КАМПЛІМЕНТ

Паня ў рукавічках да маладзёна, што тарнаваўся пацалаваць яе ў руку:

— Але ж, прашу, не цалуйце рукавічкі.

— Што ж гэта шкодзіць,— адказвае маладзён,— вельмі часта рукавічка бывае чысцейшаю за руку.

## 195. БЯДАК І АПТЭКАР

Бядак, беручы ў аптэцы лякарства, пытае, як часта яго ўжываць.

Аптэкар. Тры разы ў дзень, пасля кожнай яды.

Бядак. Калі ж я ем толькі раз на дзень і то не заўсёды.

Аптэкар. Ну, то пакуль будзеш прымаць лякарства, старайся есці тры разы.

## 196. УРЭЗАЎ

Старэнькі мужычок, прыйшоўшы ў горад, заходзіць у нейкі парадны магазін і пытае:

— Ці не тут прадаюцца хамуты?

— Не, стары! — адказваюць быўшыя там два франты-прыказчыкі.— Тут прадаюцца дурні.

— Ба-а-ч! — круцячы галавой, дзівіцца мужычок. — Відаць, і торг добра ідзе, бо толькі два і асталіся.

## 197. МУЖЫК І ПАНСКІ ЛЯСНІК

Вёз мужык у горад гонты прадаваць. Лес у той час належаў пану. І за парубку яго вельмі многа штрафавалі. А гонты былі зроблены з дрэва з гэтага лесу. Сустракае яго панскі ляснік да пытае:

— Сконт ты?

Мужык вельмі спужаўся і не разабраў яго слоў і адказвае:

— Але, паночку, гонты, гонты.

Ляснік пытае:

— З якой всі?

— Ды не, яшчэ не ўсе. Яшчэ дома ў падпаветцы аставіў.

## 198. АДРАЗУ ПАЧНЕ

— Нешта наш конь захварэў, не п'е зусім.

— Дык вы яго ў валасныя старшыні выберыце, адразу піць пачне.

## 199. НЕ ПАЗЫЧАЙ, БО КЕПСКІ АБЫЧАЙ

Адзін чалавек пазычыў кабылу другому, а яна была жаробна. Запрог ён яе ўжэ да свайго воза, анно яна ажарабілася ў аглаблях. Тады ён аддае назад кабылу, а жарабяці не дае, кажа:

— У маіх аглаблях ажарабілася, то гэта маё жарабя.

Так пайшлі яны да пана на суд: як пан асудзіць, так і будзе.

Пан думаў, думаў, урэшце кажа:

— Увядзеце вы кабылу ў аглоблі і жарабя, да й папхнеце воз: кабыла няхай ідзе ў адзін бок, а воз — у другі, за чым пойдзе жарабя, таго яно будзе.

Прыйшлі яны дахаты, зрабілі так, як пан казаў, ажно жарабя, вядома, пайшло за кабылаю. Тады той, узяўшы кабылу, да й жарабя, завёў дахаты і ад гэтай пары нікому ўжэ не пазычаў.

## 200. БЯДА

— Як жа муж, ці здароў?

— Здароў, але мае клопат з жыватом.

— Што яму, не можна есці?

— Вось у тым і бяда, што есці можа, але няма чаго.

## 201. ЦЫГАН У ГАСЦЯХ

Паклікалі раз паны ў госці цыгана. Цыган троха выпіў ды кажа:

— Ах, здаецца, каб я быў панам! Еў бы сала з салам (цыганы ўсе любяць сала).

Узялі паны ўпаілі цыгана, як барана, раздзелі яго і адзелі ў панскую адзежу, занеслі ў пакой і палажылі на дыван. Праспаўся троха цыган. Устаў. Пазірае ён вакруг, разявіўшы рот, да дзівіцца. Зараз прыходзіць к яму ўпраўляюшчы, аканом, кланяюцца, называюць вяльможным панам. Прыходзіць кухарка, пытае, а што варыць на абед.

— Сала ёсць?

— Ёсць.

— Крупы ёсць?

— Ёсць.

— Ну, дык навары крупніку з салам.

Зараз паслалі к яму паноў. Давай іх цыган частаваць. Паны ізноў упаілі цыгана, вынеслі яго на сметнік і адзелі ў цыганскае плацце. Прачынаецца цыган. Глядзіць — ізноў бедны цыган.

— О божа, божа,— кажа ён,— пажартуй шчэ хоць раз са мною.

## 202. ЯК БОГ ЛЯПІЎ ЧАЛАВЕКА

Бог першага чалавека вылепіў з гліны да, паставіўшы пад плотам, штоб сох, сам кудысь пайшоў; тады прыбег чорт да з тое гліны, што асталася, вылепіў такога самесенькага другога чалавека да й кажа сам да сябе:

— Як жа я пазнаю, калі бог ажывіць абодвух, каторы яго, а каторы мой? Трэба неяк свайго адзначыць.

Зірнуў ён кругом, чы няма якой ламакі, да не знайшоў нічога, а тут чуе, што бог падходзіць, дык скарэй плюнуў сваёй лепленцы ў лоб да й пабег. Бог прыйшоў ажыўляць да бачыць, што стаяць дзве лепленкі як адна, значыцца, дзве кроплі вады.

— Хіба ж,— кажа,— я дзве вылепіў? Здаецца, адну... а мо і дзве? Не прыпомню.

Узяў да й ажывіў абедзве, а як яны заварушыліся, то з божай выйшаў хадзяін-пахар, а чортавае нейкае благароддзе ў казённай шапцы, з кругленькаю бляшкаю, акурат на тым месцы, дзе чорт плюнуў. Тады хадзяіну бог сказаў:

— Ідзі да гасподы, а благароддзю, узяўшы за шыварат, да й каленам..., значыцца, выгнаў, не даўшы ніякага спосабу.

## 203. САТВАРЭННЕ ЕВЫ

На шосты дзень свету бог сатварыў Адама і кажа яму:

— Жыві, радуйся, карыстайся ўсімі благамі.

Адам спачатку і жыў, як сказаў бог, але потым засумаваў. Хацеў паскардзіцца богу на яго несправядлівасць, але не мог папасці да яго на прыём, таму што бог быў заняты далейшым сатварэннем свету. Але аднойчы бог усё ж сустрэў Адама і пытае:

— Як табе жывецца? Чым ты не задаволены?

Адам і кажа:

— Усе жывёліны па пары. Адзін я адзінокі.

Бог сабраў майстроў і сказаў, каб усыпілі Адама і зрабілі з яго рабра для яго пару — Еву.

Вось аднойчы, калі Адам спаў, з яго вынялі рабро. Але калі бог закладваў дзірку, падбег сабака і ўхапіў рабро. Бог хваціўся, а рабра няма. Бачыць, што сабака яго абгрызвае. Бог пачаў лаяцца і пагнаўся за сабакаю, але паймаць не змог. Пад канец схваціў яе за хвост, а хвост адарваўся.

Бог і гаворыць майстрам:

— Калі Ева не выйшла з рабра, то будзе з сабачага хваста.

## 204. НЕБА І ПЕКЛА

Ведамо, маскаль нічого не баіцца, бо якіх страхаў яму не давялося на сваім вяку бачыць, якой бяды перабыць. Паслалі маскаля ў чужы край. Ішоў ён, ішоў да й заблудзіўся. Падыходзіць ён да таго месца, дзе канчаецца зямля. Нельга ісці далей.

— Дай паначую,— думае маскаль.

Убіў гэта ён у неба гвоздзь, павесіў свой клунак, наклаў агню, лёг і пакурвае люльку. Чуюць у небе, што хтось стукае ў сцену (а гэта маскаль гвоздзь заганяў), і паслалі двух анёлаў пабачыць, хто там. Спусціліся два анёлы па тэнчы на зямлю і падыходзяць да маскаля. А маскаль тым часам трохі прыкурхнуў. Бачаць анёлы, што маскаль ляжыць на голай зямлі, падлажыўшы камень пад галаву; шкада ім стала маскаля. Давай яны яго будзіць. Вось збудзілі анёлы маскаля і павялі яго ў неба. Прыходзяць яны ў неба. Пазірае маскаль ва ўсе куткі: ніколі ён такога дзіва не бачыў. Расчухаўся маскаль, ужо і спаць не хоча; пайшоў ён аглядаць неба. Доўга хадзіў маскаль, глядзеў: вельмі ўсюды гожа. Толькі захацелася яму закурыць люльку; хапіўся ён, аж люльку і цюцюн згубіў, як ішоў у неба. Просіць маскаль у анёлаў цюцюну, а тыя кажуць, што ў небе кураць толькі ладунам, а такога паганага зелля, як цюцюн, што вырас на магліцах, у небе няма.

— А гарэлка ёсць? — пытае маскаль.

— І гарэлкі няма,— кажуць анёлы,— бо і гарэлку чорт выдумаў.

Пахадзіў, пахадзіў маскаль па небу, бачыць, што святыя не кураць люлек, не п'юць гарэлкі, не смяюцца, песень не пяюць, і моташна яму стала. Ведамо, не можа чалавек ціхенька сядзець, бы намалёваны святы. І пайшоў маскаль шукаць таго месца, дзе весела. Ішоў ён, ішоў, заглядзеўся і ўпаў з раю ўніз. Доўга ён ляцеў, але вось зачапіўся на асіне за сук і павіс. Хацеў маскаль адчапіцца да й упаў далоў. Чуць не забіўся ён: ляжыць, бы пласт. Вось падыходзіць да яго якісь паніч.

— Ці няма чаркі гарэлкі? — пытае маскаль.

— Ёсць,— кажа паніч і прынёс маскалю цэлую пляшку. Глынуў маскаль і не лыс. Усхапіўся ён да й пытае, ці няма цюцюну і люлькі.

— Ёсць, усё ёсць.

— Дзе гэта я? — пытаецца маскаль.

— У пекле.

— А ўжэ ж гэта пекна, бо ўсё ёсць: і цюцюн, і люлька, і гарэлка, а вунь смех і песні. Вось гэта дык пекна!

І астаўся маскаль у пекле, не хоча ў неба, бо там вельмі ўсё святое, а чалавек грэшны.

## 205. НА ЗЯМЛІ ЛЕПШ

Канец зямлі дзесь далёка за морам, там, дзе зямля стыкаецца з небам. Кажуць, што толькі адзін салдат быў раз аж на краю зямлі, ён там убіў у неба гвозд і павесіў свой клунак. Ці праўда, ці не — ён нават хадзіў на неба, але яму там не спадабалася, бо на небе не знайшоў ні тытуну, ні гарэлкі.

— А святыя,— кажа,— от так і пазіраюць, насупіўшыся, як іх малююць на абразах.

Напрыкрала яму там. Кажа:

— Нідзе няма такога дабра, як дома на сваёй роднай зямельцы, да калі яшчэ рады ў гады трапіцца якая-небудзь шчарбатая кватэрка гарэлкі.

## 206. ХТО Ў ПЕКЛЕ

— Ну ж, брат Андрэй, і папаспаў ж[illegible]гы!
— Вот галава! Ці ж той свет пад бокам?
— Ці ж ты быў на тым свеце?
— Быў. Бачыў рай і пекла.
— Што ж ты бачыў у пекле?
— Што бачыў? Нашага брата ні аднаго не бачыў там.
— Ну, а каго ж?
— Паноў ды папоў.

## 207. ЯК МІКОЛА З ПЯТРОМ НАВУЧЫЛІСЯ Ў ЧОРТА ВОДКУ ГНАЦЬ

Ішоў бог са святымі па зачаццi свету; відзяць яны, што курыцца аганёк. Бог і пасылае Міколу з Пятром паглядзець, што гэта такое.

Прыйшлі, глядзяць: чорт водку гоніць.

— Хаціце — паспрабуйце!

Паднёс ім водачкі з жалудовай чашачкі. Спадабалась — выпілі па другой. Харошая водачка была ў чорта, заматаліся святыя, толькі што бардацца, вусы свае прыгладжваюць.

Прыйшлі к богу, хоць і не гаварацъ, што паспрабавалі трохі чортавай водачкі, ну бог гэта харашо знае.

— Чорт водку гоніць.

— Ну, ладна! Ідзіце сабе к яму, пахмяліцеся.

Пахмяліліся. Назад к богу ідуць ужо бодра, весела; панаўчыліась, як водку гнаць, і кажуць:

— Устроім і мы такую штуку, як чорт, штоб водку гнаць.

## 208. ЦІ ВЕДАЕШ, ШТО ГЭТА ТРОЙЦА?

Ішоў мужык на святую тройцу ў цэркаў, а насустрач яму ідзець пан і спрашываець:

— Куды ты ідзеш, мужычок?

— У царкву, маліцца богу.

— Якое сягоння свята?

— Тройца.

— Ці ведаеш, што гэта тройца?

— Не, паночку мой, не ведаю.

— Вот я табе расталкую.

Пан зняў з галавы шапку і кажыць:

— Бачыш: шапка маець верх, сяродку і падкладку, так і адзін, да ў трох ліцах. Ці паняў?

— Паняў.

Пайшоў мужык далей, сустрэўся яму другі пан і спрашываец таксама, як той, што ўперад ехаў.

— Куды ідзеш?

— У царкву, маліцца богу.

— Якое сягоння свята?

— Святая тройца.

— А ведаеш ты, што гэта тройца?

— Чаму не ведаю? Як панава шапка.

## 209. ШТО ТАКОЕ РАЙ

Рай — гэта такі садок вішнёвы, дзе на зялёнай траўцы пад грушаю ляжыць мужык у белай сарочцы, у белых штанах, чэравам даверху, а каля яго рэчкаю плыве смятана. На грушы вісяць варэнікі (піражкі з сырам), да адзін за другім падаюць паачарэдна, перш у смятану, а адтуль да роту мужыка, каторы, добра наеўшыся, спіць, колькі хоча.

## 210. БОГ ПАМЁР

Ішло два чалавекі: адзін з ярмаркі да господы, а другі з гасподы на ярмарку да й сустрэліся.

— А што там у месце чутно?

— Ой, ліха чуваць, вось што: стары бог памёр.

— Ох, мне на ліха! А хто ж цяпер будзе багаваць?

— Кажуць, што мацер бож'я.

— Ну, то трэба ж ісці дадому да й сабе паміраць, бо ўсё адно жыцця не будзе, як бабскі лад завядзецца.

## 211. ЯКОМУ ТЫ Д'ЯБЛУ СТАВІШ?

Купіў адзін беларус свечку ў царкве, але з-за мноства молячыхся ніяк не мог праціснуцца да вобраза святога Мікалая, каб там паставіць свячу.

Вось ён шле свячу праз другіх і просіць, каб паставілі святому Мікалаю, а сам сочыць, куды перадаюць свячу.

Заўважыў ён, што свячу яго ставяць перад вобразам якогасьці іншога святога, толькі не Міколы, і на ўвесь голас крыкнуў:

Якому ты д'яблу ставіш, Мікалаю пастаў!

## 212. КАЗКА ПРА АДНАГО ДЗЕДА І МІКОЛУ

Прыйшоў стары дзед у царкву, купіў свечку, але яшчэ не рашыў, каму свечку паставіць. Пастаяў ён, пастаяў дый пайшоў шукаць якую-небудзь найбольш палезную ікону, а свечку ў карман палажыў. Пастаіць дзед на каленях перад адной іконай, памоліцца і далей ідзе. Так дайшоў ён да Міколы. Стаў дзед на калені, моліцца і думае: «Ну, Міколе свечку і пастаўлю». Палез ён у карман, а свечняма. Раззлаваўся дзед ды як крыкне на Міколу:

— А ты, стары чорт, за чым глядзеў? Вось табе хвіга, а свечку ўкралі.

## 213. ЯКОГА МЯНЕ СТВАРЫЎ, ТАКОГА МЯНЕ МАЕШ

Упаў шляхціц у стол алтара і думае, што яго ніхто не слышыць, пачаў ад такіх слоў малітву сваю:

— Пане, вот я есць твой слуга, к таму ж яшчэ шляхціц. А хтось за алтаром тым часам, стоячы, гаворыць:

— Хоць шляхціц, але дурань!

Тады шляхціц думае, што там сам пан бог адмаўляе, гаворыць:

— Пане, якога мяне стварыў, такога мяне маеш!

## 214. МУЖЧЫНА ЗА МУЖЧЫНУ ЦЯГНЕ

Адна баба хацела даць на імшу да пана Езуса, каб пан Езус караў яе мужыка, што ён з яе здзекаваўся. Ну, так ідзе ды спатыкаецца з кумою, ды кажа так і так, а кума кажа:

— Не давай,— кажа,— да пана Езуса, лепш да найсвентшай маткі, бо такі вядома, што мужчына за мужчыну цягне.

## 215. МУЖЧЫНА ЗА МУЖЧЫНУ ЦЯГНЕ

Прыйшла ў цэркаў баба. Купіла яна за чатыры грошы свечку.

— На, панічык,— кажа яна дзяку,— пастаў свечку каля абраза святой Магдалены.

А там не было дзе паставіць: свечкі ўсюды гарэлі. Дзяк узяў свечку ды ставіць яе каля абраза святога Мікалая.

— Не, панічык,— кажа баба,— не стаў тут: ён — мужчына, а мужчына і цягне за мужчыну.

### 216. ЗА ШТО?

Настаўнік пытаецца вучня ў школе:

— За што бог выгнаў Адама і Еву з раю?

— За тое, што яны з'елі зялёнае яблычка, а зялёнага няможна е́сці, бо жывот забаліць.

### 217. ДОБРЫ АДКАЗ

Раз ма́лой дзяўчынкі пыталіся:

— Ці доўга Адам з Евай жылі ў раю?

— Пакуль яблыкі паспелі,— кажа яна.

### 218. НЕ ДАРАВАЎ

— Ці праўда, што бог забраў сабе тваю ўжо трэцюю жонку?

— Праўда, браце. Але я ўзяў сабе чацвертую: бярэ бог, бяру і я.

### 219. У ШКОЛЕ

Настаўнік. Скажы мне, Пятрусь, чаго Ной узяў у каўчэг чыстых сем пар, а нячыстых дзве пары?

— Нагавіцаў (штаноў),— адказаў вучань.

### 220. КІМ БЫЎ СВЯТЫ ПАВЕЛ

Вучыцель. Кім быў святы Паўла?

Вучань. Не ведаю.

Вучыцель яму падказвае: Ап-Ап-Ап.

Вучань. Апцекарам?

### 221. БЕДНАЯ БАБА

— А чаго вы, бабка, плачаце?

— Як жа мне, галубок, не плакаць, калі чыталі ў царкве, што на тым свеце будзе «Плач і скрыгат зубамі»...

А чым жа я буду скрыгатаць, калі ў мяне ані аднюсенькага зуба няма?

## 222. БЯДА

— Што ж ты, кума, так зажурылася?

— Э, дай мне спакой! На споведзі за пакуту загадалі мне аж сем айчэнашаў адмовіць, а я толькі адзін умею.

## 223. «ШАНАВАННЕ» АБРАЗОЎ

— Чаму ж у цябе, кумка-галубка,— гаворыць, прыйшоўшы ў госці, суседка,— так мала багоў?!

— Э, кумачка, е яшчэ адзін Мікола, два нейкіясь другія і адна святая маладзіца, здаецца, святая Параксімка, чы мо святая Варка. І рамачкі ўжо пароблены, да няма шкла. Хацела было так павешаць, да пабаялася, штоб мухі не а...

— Няма лепш, як абраз на дошцы,— гаворыць другі госць,— як ужо пасядаюць на такія абразы мухі..., дык узяў да й выцеο мокраю анучкаю і чыста, пакуль зноў не а...

## 224. АБРАЗ І ТАБАКА

— Быў на кірмашы, куме?

— Быў. Абраз купіў.

— А ну, пакажы.

— А бадай жэ цябе, куме... не магу развязаць: рукі памерзлі.

— Дык цягні, куме, с капшука табаку — закурым.

— Давай бардзей.

## 225. МАСТАК І ІКОНЫ

Раз у Лоеве на кірмашы маладзіцы зайшлі да маляра, што малюе і прадае багі, да й сталі выбіраць святых. Адна просіць, каб даў ёй святога Міколу.

— Вось табе,— кажа,— святы Мікалай-цудатворац.

— Мікола ж,— кажа маладзіца,— стары, з белаю барадою, а гэта нейкі безбароды блазнюк.

— Пагаліўся, так і без барады, ды, між іншым, чорт з ім, зараз яму падмажам бораду, а ты не гавары так бязбожна пра святога ўгодніка, а то глядзі, грэшна табе будзе.

Папляваўшы святому ў морду, выцер нейкаю караўкаю да, памазаўшы белым бораду, паставіў вобраз на сонцы, каб сох.

— Цяпер,— кажа,— калі высахне, будзе сапраўдны святы цудатворны ўгоднік; тады бяры і цягні дамоў.

Другія выбіралі, выбіралі, а маляр, што прынясе абярэмак, да хваліць, хваліць, а далей, як маладзіцы не спадабаюць ніводнага або не сыдуцца на цэну, бразне аб зямлю да й ідзе за новымі. Насіў ён так насіў, да як ужо вельмі апастылела, то крыкнуў з усёй сілы:

— Да ну вас к чорту з вашымі святымі!

І, паказваючы нагою на ворах абразоў, гаркнуў на свайго хлопца:

— Убяры гэту сволач!

## 226. ДЗЯК

— Дзячэ, дзячэ! чаго твая сям'я плачэ?

— Не ўсім жа пяяць.

## 227. БЕЗ ГРОШАЙ ТО Й ЗБАВЕННЯ НЯМА

Аднаго разу ксёндз з амбону запытаў людзей:

— Без чаго чалавек не можа быць збавёным?

І прасіў, каб адказалі. Падумалі людзі і гавораць:

— Без грошай!

Так ксёндз:

— А чаму ж то так без грошай?

— А таму,— кажуць,— што як не дасі ксяндзу два злоты, то не ахрысціць дзіцяці, не дай рубля — не дасць шлюбу, а не дай паўрубля,— то не пахавае. От чалавек без гэтага не можа быць збавёны.

## 228. ВІНАВАТА ПОШТА

Калісьці адзін бедны чалавек, не маючы дзе раздабыць грошай, надумаў з адчаю напісаць богу ліст і папрасіць у яго сто чырвонцаў.

Поштмайстар, надыбаўшы на ліст з адрасам «Да бога», здзівіўся вельмі і аднёс яго ксёндзу. Прачытаў ксёндз ліст, пасмяяўся, а тады і вырашыў узмацніць сярод сваёй паствы веру ў бога і ўзяў дый надаслаў у канверце пяцьдзесят чырвонцаў таму чалавеку, напісаўшы на адвароце «Ад бога».

Праз два тыдні пошта зноў прынесла ксяндзу ліст, адрасаваны богу. Разарваў ксёндз канверт дый чытае: «Дзякуй табе, божа, за грошы. Я веру, што ты палажыў у канверт сотню, але ў нас на пошце сядзяць зладзюгі і палавіну ўкралі».

## 229. ЯК ПОП МАЛІЎСЯ

— Панамар, панамар! Узыйдзі-тка на званіцу, паглядзі-тка, ці не ідзець к нам хто, не нясець нам што?

— Віжу, бацюшка, ідзець якаясь баба, нясець на паніхіду стопку бліноў і чарку мёду.

— Падай, госпадзі!

— Дзякан, дзякан, годзе табе вякаць, узлезь на званіцу, падзівіся, ці не ідзець хто, ці не нясець нам што?

— Віжу, бацюшка, ідзець мужычок і нясець дубінку на папову спінку!

— Табе, госпадзі!

## 230. ДЗЯДОЎСКАЯ ХІТРАСЦЬ

Дзяды, што пад касцёлам сядзелі, у бога не верылі; абы ім толькі грошы давай, дык яны пра ўсякае ўздумаюць.

Адзін дзед сеў пад касцёлам, зайграў на ліру і спявае (калі людзей няма):

Ой, я граю на леру,
Ой, я ў бога не веру.

Адзін чалавек кажа:

— Дзеду, дзеду, пані ідзе.

Тады дзед спявае на святую ноту:

Ой, святы, святы Мікалаю,
Правадзі маю душу да самага раю.

Вось які хітры.

## 231. КОЛЬКІ ЁСЦЬ БАГОЎ?

Раз пытаўся ксёндз у хлопца:

— Колькі ёсць багоў?

А хлопец думаў, што бабоў, дык кажа:

— Была поўна каробка, і тую свіння Пракопава з'ела.

## 232. ГЛУХІ Ў КАСЦЁЛЕ

Летам на свята глухі пайшоў памаліцца ў касцёл. Прыйшоў. Стаў побач з самым губатым чалавекам, каб здагадвацца па губах аб тым, што ён гаворыць. А ў губатага губы ўсё складаюцца, нібы ён свістаць сабіраецца. Прыгледзеўся глухі да гэтых губ ды плясь кулаком па тоўстых губах!

— А навошта ў касцёле свішчаш!

## 233. САЛДАТ У КАСЦЁЛЕ

У час богаслужэння зайшоў салдат у касцёл. Сталі іграць на арганах. Салдат пайшоў у пляску. Падыходзіць стары паляк і гаворыць:

— Цо ж ты, глупый, робіш, тож імша (абедня) ідзе.

— Чорт з ёю,— гаворыць салдат.— Мне інша не трэба. Мне і гэта хароша.

І прадаўжае далей.

## 234. БАЦЬКА І СВЯТЫ МІКОЛА

Бацька з сынам паехалі ў панскі лес, зрэзалі хвойку і едуць дадому (гэта ночы, канешне, было). Уехалі ў балота, і конь заграз з возам. Бацька й кажа:

— Святы Мікола-чарадзей, дапамажы з балота выехаць, дык пастаўлю табе свечку, як дышаль.

А сын і кажа бацьку:

— А дзе ж мы столькі воску возьмем?

Бацька патрос пальцам на сына і кажа:

— Маўчы, смаркач, абы толькі з балота выехаць.

## 235. КАЛІ ВЯЛІКДЗЕНЬ?

Пан пытае:

— Калі вялікдзень?

А мужык адказвае:

— Тады вялікі дзень, як есць нечага.

## 236. ЯК ЗЛОДЗЕЙ АЧЫСЦІЎ ЖАНЧЫНУ АД ГРАХОЎ

Жыла ў адным сяле вельмі набожная жанчына. Аднаго вечара ўкленчыла яна каля лавы і давай пацеры гаварыць. А ў пацерах яна прасіла бога, каб ачысціў яе ад грахоў. А пад лаваю сядзеў злодзей, і як толькі яна сказала:

— Божа, ачысці мяне ад грахоў!

То злодзей:

— Ачышчу, ачышчу!

Яна з радасці, што бог з ёю гаворыць, глядзіць на абраз і кажа:

— І яшчэ, божа, мае дзеткі ачысці.

— Добра, добра. Як успею, то ўсіх ачышчу!

Калі ўсе пакладаліся спаць, злодзей вылез, усё пабраў, што змог, ачысціў гладка і сам пайшоў!

Жанчына раніцай прачнулася, глядзіць: аж нічога няма — няма за што рук зачапіць!

Вось якая боская літасць!..

## 237. ЧАМУ НЕ ХОДЗІШ У ЦАРКВУ?

— Чаму гэта, куме, не ходзіш у царкву? Як табе не брыдка?

— О, то ж мая жонка, як прыйдзе свята, заўсёды крычыць на мяне за гэта, але я за яе крыкам не магу пачуць, калі зазвоняць.

## 238. «НАБОЖНЫ» БАЦЬКА

— Пойдзем, куме, у царкву!

— Э, ці хто яго! Я не такі набожны, каб так часта хадзіць у царкву... От бацька мой, дай, божухна, спакой яго душачцы, быў надта набожны! Бывала, калі царква і зачынена, то ён або падкапаецца, або акно выдзярэ, а ўсё-такі ўлезе.

## 239. ХТО ГОРШЫ

Жанчына дае бацюшку на абедню і просіць яго:

— Ойчанька, памаліся, каб бог даў смерць майму мужу, бо вельмі лядачы.

На гэта поп:

— Добра, добра, я буду маліцца, але бог сам над вамі зробіць суд, і хто з вас горшы, той хутчэй памрэ.

Жанчына пастаяла, падумала і кажа:

— Дык, ойчанька, дайце ўжо спакой гэтай малітве, мой муж, можа, і без гэтага паправіцца.

## 240. ДЗІВА

— Гэта дзіва, як тыя вучоныя ўсё знаюць, нават зацменне сонца могуць прадказаць.

— Вось штука! Гэта і я патраплю, бо гэта з кожнага календара можна даведацца.

## 241. ДОБРЫ ПРЫХАДЖАНІН

Уміраў стары селянін і, паклікаўшы ўсіх сваіх сыноў, пачаў дзяліць гаспадарку паводле іх заслугаў. Калі бацька ўсё падзяліў, адзін з сыноў пытаецца:

— Але ж, тата, яшчэ маем адну ялаўку, якая ўчора недзе прапала?

Стары падумаў і сказаў:

— Калі б тую ялаўку знайшлі, то няхай будзе Юрцы, а калі б не знайшлі, то аддаю яе на патрэбу прыхода.

## 242. РАССУДЗІЎ

Па дарозе ідзе дзядок з мяшком на плячах. Яму цяжка. Абганяе яго з возам селянін.

— Гэй, дзядок, садзіся, падвязу.

Узлез. Мяшок трымае на плячах.

— Дзедка, палажы мяшок на воз. Аддыхні.

— Дзякуй, добры чалавек, але сказана: не крыўдзь скаціны і не ўтруджай. Няхай ужо конік вязе мяне з табою, а мяшок-то я патрымаю на плячах — на што каню лішні цяжар.

## 243. ВЫЯСНЕННЕ

— Чаму злачынцаў, пакараных смерцю, называем беднымі грэшнікамі? — пытаецца ксёндз у малога Янкі.
— Бо... бо багатых грэшнікаў смерцю не караюць.

## 244. НЯМА ЧЫМ БІЦЬ

Сядзіць селянін на станцыі — чакае цягніка. А есці хочацца — аж жывот зводзіць. Недалёка ад яго панкі закусваюць. Падыходзіць да іх селянін дый кажа:
— Давайце згуляем у карты.
— Давай,— згадзіліся панкі.
Палез селянін у адну кішэню, у другую.
— Вось ліха на яго,— кажа,— няма карт. Ну, добра, давайце згуляем у новую гульню...
— Давай,— зноў згадзіліся панкі.
— Хадзі хлебам,— кажа селянін аднаму панку.
Потым да другога:
— Бі салам!
А да трэцяга:
— Крый маслам!
Схадзілі панкі ды да селяніна:
— Хадзі ж цяпер ты!
А селянін:
— У мяне няма чым біць.
Я, мабыць, пацягну...
Забраў усё і пайшоў сабе прэч.

## 245. НЕ СМЕЙСЯ З ЧУЖОЙ БЯДЫ, БО З ЦЯБЕ ГОРШ НАСМЯЮЦЦА

Нейкія паны былі на паляванні. Заблудзіўшы, зайшлі да стражніка да й просяць, каб ён ім што з'есці даў. А той быў надта дасціпны, да й кажа:
— А мо паны елі б каўбасу смажану?
— А добра, дай!
— Ах! Калі бяда, што няма яе! А мо паны елі б малако?
— Ну, то дай!
— Ах, калі няма яго.
І так сабе нажартаваўся. Дык тыя: пастой!
— Выведзь, — кажа, — нас на дарогу.

Ён вывеў. А яны, гэта шворы з сабак зняўшы, як пачнуць яго аплятаць. Б'юць, б'юць, потым пытаюць:

— А можа, цябе жонка бараніла б.

— Ой, паночкі, бараніла б! Да бяда, што няма яе.

І зноў б'юць:

— А мо цябе дзеткі баранілі б?

— Ой, паночкі, баранілі б! Да бяда, што няма іх!

Дый гэта папалупілі, якваўка, да й пайшлі.

## 246. АБ ПАНУ, ШТО ДЗЕДА ЗНАХАРАМ ЗРАБІЎ

Быў сабе адзін багаты пан, і ён заўсёды з бедных смяяўся. Аднаго разу спатыкае ён дзеда дый кажа:

— Ну, калі хочаш, то я цябе навучу розныя хваробы замаўляць: як прыйдзеш да хворага, то скажы: «Бегла сучка цераз мост, чатыры нагі, пяты хвост!»

Той дзед падзякаваў і пайшоў. Ідзе, так ідзе, ажно ж так чалавек енчыць — жывот зняў. Так той, падышоўшы, сказаў гэтак, а ён то як бач! устаў здаравюсенькі. Ну, дзед ужо годзе жабраваць да людзей лечыць да лечыць. Ажно якраз трэба таму пану захварэць, слугі кажуць:

— Е тут такі, паночку, дзед, што замаўляе.

Ну, пан паслаў па яго.

Ён зараз то прыехаў, стаў над ім і кажа:

— Бегла сучка... і г. д.

Так пан як га! устаў і пазнаў яго.

— Я, — кажа, — з цябе хацеў накпіць, каб цябе добра папалупілі, як дзе гэтак скажаш, а тым часам от як! мусіць, гэта бог так даў.

Узнагародзіў яго і ўжо ад тае пары з бедных не смяяўся.

## 247. ЯК МАЗУРКА ДАЛА САБЕ РАДУ

Раз старыя мазуры выбіраліся на хрысціны. І дачка, канешне, настойвала, каб і яе ўзялі з сабою. Дык бацька ёй і талкуе:

— Не можна, мая дочухна, бо ты ж яшчэ не акабецілась!

Ды гэта і пайшлі сабе, а дзеўка засталася, плачучы. Ажно прыбягае парабак, выслухаў яе жалабу дый кажа:

— А чаго гэта ты плачаш?

А яна:

— А таму, што бацькі не ўзялі мяне з сабою, бо не кабета.

— А дык я цябе акабечу.

— А добра, мой любы!

Бацькі сабе гуляюць, ажно прыходзіць дочка. Дык бацька падбег да яе, даў ёй грымака ў карак дый кажа:

— А чаго ж прыйшла, калі табе бацька і матка не дазволілі?
— А дык я ўжо кабета, мяне Валік акабецiў.
А тут цэла грамада: га-га-га!

## 248. МАЗУР ТОЛЬКІ НА ГУЛЯННЕ ЗУХ

Раз мазур, будзячы сына, кажа:
— Устань, сыначку, паедзема ў лес па дрэва!
— Кайся, бардзо спаць хцэ!
— То ўстань, сыначку, паедзема на вяселле!
— А дзе то мае боцікі?
От, як на гулянне, то й мазур ахвотнік!

## 249. ЯК МАЗУР СЫНА НА КСЯНДЗА ВЫКІРАВАЎ

Адзін мазур аддаў сына да школкі і хацеў, каб ён выйшаў на ксяндза, а той хлопец не хацеў вучыцца, усё ўцякаў дадому. Раз прыходзіць, аж пытае яго татка:
— А цо, сынку, юж се научыл?
— Научыл, татулю.
— Но, то гадай мі па лаціне.
— Уцякантуе із скалянтуе, сядантуе ў канаплянтуе, мархвянтуе, скрабантуе, ядантуе.
А відзеў ён на дарозе індыкі і козы, так яшчэ кажа:
— Ендыкум кулдыкум, козум брукум, а з коміна дыма курыс.
— Но, пекне, сынку, пекне! — кажа.
Потым пайшлі яны да гумна, а там стаялі граблі каля сцяны адваротне ўніз зубамі, так хлопец наступіў на зубы, а грабліско — трах! яму па лобе. Так тата пытае:
— А як гэта назваць па лаціні?
— На стэмпуе на грэбуе, так датус па лэбус!
Потым паслаў той мазур па ксяндза, каб ксёндз разведаўся, ці будзе з яго сына ксёндз, і кажа:
— Слухай, сынку, як ягамосць прыедзе, каб па лаціне да ніх мувіў.
— Добра, татулю.
Ну, прыехаў ужо ксёндз, так падходзіць той хлопец і кажа:
— Лятал Езус Хрыстус! — так ксёндз тыле паглядзеў і кажа:
— От, дурань ты естэс разам з тваім сынам! — і паехаў.

## 250. НЕ ЛЮДЗІ

Спаткаліся раз беларусы з мазурамі. Вось мазуры і пытаюцца:
— Хто вы такія?
— Мы — мужыкі, — адказваюць беларусы.
— Ага, музыцы. А адкуль ідзеце?

— Ад Буга.

— Ага, ад бога. А што ж вы нясеце на кіях?

— Пасталы.

— Ага, апосталы.

— Бачыш, — звярнуўся, нарэшце, адзін з мазураў да сваіх, — я добра казаў, што гэта не людзі. Гэта апосталы і музыканты ад бога.

## 251. МАЗЎРСКАЯ КАСЬБА

Касіла двох мазуроў — бацька з сынам. Бацька што падкосіць, то памянціць касу, а сын — не. Так бацька кажа:

— Сынальку, а ты чаму касы не мянтосіш?

— А на цо, — кажа, — татулю ё мянтосіць, калі яшчэ косіць? І не хацеў мянтосіць, да ўсё касіў.

Ну, як ужэ слонка зайшло, так ідуць яны з касьбы дахаты: бацька ідзе паперадзе да й нясе касу на плячах, а сын астаўся далёка ад яго і валачэ касу па зямлі. Так бацька абярнуўся да й кажа:

— Сыналю, а чаму то касы на плячах не нясеш?

— Калі сілу д'яблы ўзялі, татулю!

## 252. ЯК МАЗУР ЛІТАВАЎСЯ НАД ПАНАМ ЕЗУСАМ

Едэн мазур прыйшоў да касцёла, укленчыў прэд абразам, цо матка боска на асліцы ехала з панам Езусам; рукі злажыў і кажа:

— Ой, жаль мне цябе, мой ты Езуленьку, жаль, але і не жаль! А потым другі раз і трэці, а потым:

— Ты, цо так ушысткім такія пекныя коні даеш — па сто, па дзвесце і па трыста рублі, а сам едзеш на гэтым осліку: дырду, дырду, дырду!

## 253. ЯК МАЗУР ЛАВІЎ НА ДЗЕРАВЕ ЗАЙЦА

Ішло праз лес двох мазуроў. Угледзелі вавёрку на дзераве. Так адзін кажа да другога:

— О бац, браце, а тоць заяц па дрэвіне скача, трэба яго злапаць. Ты, браце, духам бяжы дадому па гаршок, а я буду лапаць.

Менчыўся, менчыўся мазур, ловячы вавёрку, аж, нарэшце, вавёрка з хвойкі на хвойку пераскочыла, а мазур кажа:

— О ты, пся крэў! То ты такі малы, а так далёка джыгнеш, а я такі велькі не?

І, гэта кажучы, джыгнуў, але не на хвойку, толькі аб корч галавою і насмерць забіўся. Ляжыць, вышчарыўшы зубы, аж прыбягае той другі з гаршком. Убачыў, што кум ляжыць, так думае: ён, мусіць, кпіць з мяне. І кажа:

— А ты, пся крэў! То ты зайца з'еў і зубы яшчэ вышчараеш!

І трах яму ў зубы тым гаршком. Потым, калі ўбачыць — аж ён не жывы. Дык падумаў, што гэта ён кума забіў, і сам павесіўся на хвойцы.

## 254. ЯК МАЗУР СПРЫТНА РУБАЎ ГАЛІНУ

Сядзеў мазур на галіне і тую самую рубае. Ажно ідзе мужык, дый, угледзеўшы мазура, кажа:

— Мазур, упадзеш!

— А скэнд ты веш, жэ я ўпадне — хіба ты згадца сен?

— А ведаю, далібог, ведаю!

Утым мазур грым! на зямлю, дый то, схапіўшыся, кажа:

— А то ты, мусіць, згадца сен! Одгадній жа, колькі ў мяне кароў, то табе будзе дзесята.

— Ля, дзесяць!

— А, згадаў. Але калі так, то скажы мне, як маю Марысю завуць? Дык дам табе бочку піва і каня сівага.

— Ля, а то ж Марыся.

— А то ці пся крэў, як згадаў адразу.

## 255. ЯКІЯ ПРЫПАДКІ МАЗУРУ СТАЛІ

Адзін мазур паехаў у лес па дрова: пад'ехаў пад грабчака, каторага меў сцяць, і каня не выпрагшы, да й так падстасаваў, каб якраз на воз зваліўся. Рубаў, рубаў, а нарэшце граб — тарарах! — да й зваліўся вярхом на каня і забіў. Так гэта мазур, угледзеўшы, плюнуў, шапкаю аб зямлю грымнуў да й кажа:

— А то ці, пся крэў, д'яблы накіравалі. От зебы цлек ведзял, тобы ўдому седзял!

Потым пастаяў крыху, падумаў, узяў сякеру і пайшоў. Прыходзіць да ракі, ажно шчупак такі вялізны ляжыць каля берагу! Так мазур, падняўшы сакеру, хацеў яго забіць, ажно сакера выслізнула з рук да й бульт! у ваду, а шчупак шморг! — і пайшоў.

— А то ці,— кажа,— чыста скаранне боске! Юсці то нячыста сіла ў тым бестыі-шчупаку!

І гэта скінуў адзежу, павярцеў каля галавы і палез у ваду даставаць сакеру.

Тым часам адзежа з галавы неяк акруцілася да й панесла вада. Выцягнуў мазур сакеру, да зноў адзежы няма, так пачухаўся ў галаў да й кажа:

— Пся крэў! Не така ці мі шкода таго адзетку, як тэй табакеры!

Пабедаваў, пабедаваў да й пайшоў дахаты, голы, як маці радзіла. Уходзіць у вёску, а тамака як аступяць яго сабакі, а адзін глам! — і я... адарваў.

— От насці бабо пляцэк!

Убег ён, небарака, у сёнкі да й глядзіць крэз шчылінку, ці каго чужога няма, ажно жонка як парне яму ў вока нажом, так і выпарала! Мазур, як ужо крыху вычухаўся з сваіх бедаў, так злажыў торбу і пайшоў пад касцёл жабраваць. Сеў сабе небарака на цментары і спявае:

Ой, граб каня з'яд,
А адзетак шчупак з'яд,
Псы я... абарвалі,
Людзіска се насмявалі,
Жонка вока выкаліла,
І мне з хаты выганіла,
Змілуйцеся, ой людзі!

## 256. АБ ПОЛЬСКІМ КРАЎЦУ

Аднаго разу палешукі пайшлі купацца, ажно на бах угледзелі рака. Як пойдуць яны з вады пярэкідам! Паўбягалі на бераг дый давай дзівіцца.

— Шчо гэта, — кажуць, — за скуза няшчасная? Кравец ні кравец, шавец ні шавец?..

А адзін кажа:

— Мой сын быў у дарозе за мілю, то ён павінен ведаць.

Зараз гэта заклікалі яго сына і пытаюць:

— Ты бывалы чалавек, скажы, шчо гэта?

Ён пастаяў, паглядзеў, паглядзеў, дый:

— Гэта, — кажа, — польскі кравец, занясіце да гумна стол, лампу і сукна палажыце, то паглядзіце — усяго вам панашывае. Так яны гэтак і зрабілі. Занеслі стол, палажылі на ём таго рака, сукно, запалілі лампу дый самі пайшлі. Ажно адзін закраўся, дый праз шчылінку глядзіць, як той кравец шыць будзе. Рак стаў поўзаць па тым сукне, дый усё лапамі грабае,— так ён пабег да сваіх і кажа:

— Кравец ужо кроіць!

Рак за гэты час перакінуў лампу на салому, салома загарэлася, дый усё сяло згарэла. Ну, на заўтрашні дзень знайшлі яны свайго краўца недзе на вуліцы і кажуць:

— А шчоб на цябе! То ты нам так накроіў, шчо нам цяпер нечага есці? Хлопцы, панясемо яго ўтапіці!

Занеслі, ляпнулі на воду, а рак бульт і схаваўся.

— О браткі, шчо мы зрабілі, ён будзе жыці — трэба дастаці.

Так адзін стаў на беразе дый нагнуўся, каб злавіць, а бераг быў высокі, так гэта бабах у воду, дый стараматыкам у калі. Тые гэта ў воду, выцягнулі яго, глядзяць — ажно нежывы.

— А табе, — кажа, — шчо за ліха? І краўца гыцля не злавіў і сам захлыснуўся!

От табе польскі кравец! Каб яго бяда ўзяла.

## 257. ПАЛЯШУЦКАЯ ЗА́БАУКА

Аднае нядзелі пазбіраліся палешукі і няма ім з чаго які смех зрабіць, так узялі злавілі ката, прывязалі да яго гарошыну дый запалілі. Кот як ні пойдзе, крычачы, паміж гумен, тут неяксь страха загарэлася, дый ляснула ўся вёска, як свечка. От як палешукі ўмеюць смех зрабіць!

## 258. ПАЛЯШУЦКАЯ ЛАЦІНА

Аддаў адзін паляшук свайго сына да навукі. Ён там вучыўся, вучыўся, прыходзіць дахаты, такі ўжо бацька рад.

— А мой ты, сынку, скажы ты мне штокольвек па лаціне.

А ён кажа:

— Што ж вам сказаць?

Так бацька кажа:

— Як гэто называецца па лаціне студэнт?

А ён кажа:

— Скубэнт!

Так бацька зноў кажа:

— А як гэто называецца агонь?

А ён кажа:

— Жыгата, — па лаціне ўсё іначай!

Так бацька зноў яго пытае:

— Скажы ты мне, як гэто кот?

А ён кажа:

— Маркітун!

Так бацька пытаецца:

— А як гэто качарга называецца па лаціне?

А ён кажа:

— Кацуба!

Узяў гэто ён галавешку, прывязаў кату да хваста і кажа:

— Тату, тату, узяў маркітун жыгату да й панёс на высату!

А кот той ускочыў на гару, як зачаў ганяцца дый запаліў хату.

А бацька кажа:

— А бадай ты, сынку, ні даждаў і з сваёю навукаю — як жа ж ты вывучыўся!

## 259. АБ ХЛОПЦУ, ВЕЛЬМІ РАЗУМНЫМ

Адзін чалавек аддаў свайго сына да навукі, а ён быў гультаяваты, але дасціпны вельмі і ўсе яго мелі за разумнага. Вярнуўся ўжэ ён з навукі, аднаго разу наступіў на граблі, а граблі яму бенц па лобе, так ён у гарод, вырваў моркву, улез у каноплю і з'еў. Прыйшоўшы дахаты, кажа:

— Настэмпус на грэбус, дастантус па лэбус, вырвантус марквянтус, улестус у канаплянтус і з'естус.

А татко думаў, што ён ужэ па лаціне ўмее, так прымусляў накіраваць яго на ксяндза і давай пробашча прасіць, жэб рабіў якое старанне. Так пробашч кажа:

— Добра. Як заеду па календзі, то выэкзаменую хлопца, ці знае па лаціне.

Ну, так прыехаўшы, уходзіць у хату і кажа:

— Лаудэтур Езус Хрыстус!

А хлопец на тое:

— Казёл з казлом!

Так ксёндз толькі рассмяяўся да, гэта завярнуўшыся, паехаў.

## 260. ПАЛЕШУКУ БОТЫ — ТО ВЯЛІКАЕ ДЗІВА

Аднаго разу ішло двох палешукоў, дый знайшлі на дарозе два боты, дый кажуць адзін на другога:

— Што гэта такое?

— Не ведаю, мажа, гэта мера ад бога.

А другі кажа:

— Не, братко, мусіць, гэта насоўка на сякеру.

А той зноў кажа:

— Ці я ведаю, а мажа, гэта трубы?

І так сумуюць, стоячы, асёж канец канцоў дадумаліся:

— Гэта, — кажа, — мусіць, вёдра з неба пападалі на землю.

— А ведаеш, — кажа той другі, — мусіць такі, вёдра, бо унь дзе і вушы ест.

Так зара гэта клікнулі бабу з каромыслам, каб брала дый несла дахаты. Ідуць так усе грамадою (бо за бабаю шмат людзей назбягалася), асёж наткнуўся поп на тое:

— А вы гэта, дзеці, шчо нясеце?

— Не ведаем, ойча духоўны, мусіць, богавыя вёдра.

— То ведаеце што, дзеці, я богаў слуга, то й богавыя вёдра да мяне належаць!

Да гэта чарап! За тыя боты і пайшоў.

## 261. ПАЛЕШУКУ ТО Й СЕРП ДЗІВА

Ішло сабе двох палешукоў дарогаю. Ажно глядзяць: ляжыць серп. А не ведалі, што гэта такое. Так пасталі і давай дзівіцца. После адзін з іх, крыху адважнейшы, узяў, залажыў на плечы і пайшоў хутчэй, каб паказаць людзям гэто дзіва. Падышоўшы крыху, узяла яго цікавасць і хацеў зняць серпа. Пацягнуў крышачку, а той серп ушчаперыўся за адзежу і не даецца. Ён у крык:

— О ей! Братко, што гэта за гадына? Ратуй, бо з'есць!
Той прыбег і хацеў бaржджэй скінуць серпа. Тым часам як пацягнуў, так галава таму і зляцела. От табе і маеш!

## 262. ПАЛЯШУЦКАЯ ГУТАРКА

У нас людзі то гэтак паткпіваюць з палешукоў:
— Скуль ты?
— З Астрога.
— Чый ты?
— Папоў слуга.
— Як цябе завуць?
— Янка.
— Чы еў бы ты?
— Дай іно!
— Чы еў бы ты капусту?
— Ой-ёй! — Абы тлуста!
— А гарох?
— Ох! Ох! Ох!
— А піў бы ты піва?
— Гм. Ото дзіва!
— А чы жаніўся б ты?
— Хоць зара!
— А ўмееш пацеры?
— Не лезь у вочы!

## 263. ЯК ПАЛЯШУК НА ЛОСЕ ЕХАЎ

Ішлі з Труханавіч палешукі, да й недзе каля Пагарэлага надышлі на ласі. Тыя калі скочылі на лёд, да й адзін скоўзнуўся, упаў і ляжыць. Палешукі гэто на яго наваліліся ўсе чыста. Лось калі ні схопіцца, анно тыя па лёдзе забуркацелі! А адзін уляпіўся за рогі. Так то лось калі ні панясе яго! Тыя крычаць:
— Рамане! Рамане! Дзяржы за рогі!
А той Раман бразь і распляшчыўся.

## 264. ЯК ПАЛЕШУКІ ЛОСЯ ДА САХІ ПРЫКЛАДАЛІ

Злавілі палешукі маладога лося, ну так яго крыху падгадавалі да й кажуць:
— Трэ яго ў соху прыкладаты!
Але, ведама, звер — зверам — не асвойчыўся. Так знайшоўся ў іх разумнейшы да й кажа:
— Ным да сахі, трэ на вяровачцы паганяць.
Ну, так гэто нексь закінулі на рогі вяроўку, а той разумны за-

круціў сабе адзін канец на рукі і выводзіць з хлява. А лось, калі выйшаў, калі ні пойдзе! Тыя крычаць:

— Сямён, Сямён! Закруці за пень, за пень!

А ўжэ таго анно косці па пнёх бразкацяць! От і прыламалі да сахі лося.

## 265. НА ПАЛЕССІ ТО Й МЯДЗВЕДЗЬ КСЯНДЗОМ

Паехаў паляшук у лес па дрова, паставіў каня, сам пайшоў, а мядзведзь гэто на воз. Конь як аглянецца, як ні выскачыць, як ні пойдзе! А мядзведзь чысто зумеўся і сядзіць. Ажно каля дарогі стаіць крыж, ужэ збытлеўшы. Мядзведзь хацеў на крыж ускочыць. Хапіў лапамі за крыж, крыжа вырваў, дзяржыць у лапах! Конь уляцеў у сяло. Палешукі ўсе павыбягалі да й кажуць:

— Ляньцеся! А то ж ксёндз з панам богам едзе!

Ажно конь недзе зачапіўся, а мядзведзь з воза — пайшоў! От табе на Палессі то й мядзведзь ксяндзом.

## 266. ЖАРТЫ СА ШКОЦЯЎ

Раз на Шкоцях гаварылі паміж сабой дзве дзяўчыны:

— Ля, ці знаеш Мітрука з Багушоў?

— Чаму не, знаю!

— Але ж гэто дзяцюк быў, дык дзяцюк, — толькі памёр!

— Эх, памёр, — шкода! Бывала, як вазьме мяне, як пайдзе галубца, то аж іскры з-пад ног сыплюцца! Ай, шкода, што памёр! Былі ў яго пастальцы з дванаццацьмі вушкамі і раменныя аборы, да была ў яго і люліца з протычам, і капшук з пацеркамі і чырвоным шнурцом — і такі памёр.

— А памёр!

— Шкода!

## 267. НЕМЦА І ПТУШКІ НАСТРАШАЦЬ

Адзін немец украў вала да й вёў праз лес. Анно ж варона села да й кажа:

— Кра! Кра!

А ён думаў, што яна кажа:

— Украў, украў!

Анно ж прыляцела зязюля да й пачала кавадь:

— Ку-ку! Ку-ку!

А ён кажа:

— Праўда, душачка: купіў.

Вядзе далей, ажно крук лятае і усё кажа: птру! птру!

А ён, гэто думаючы, што яго даганяюць і крычаць на коні: «тпру!»

Вала кінуў, а сам уцёкі. От дурны быў.

## 268. ЯК НЕМЕЦ ЖАРАБЯ ВЫСЕДЗЕЎ

Адна баба прадавала гарбузы, аж падходзіць немец дый кажа:

— Што то такога?

— Ля, — кажа, — а то ж кабыліны яйца: трэ на ём сядзець дзве нядзелі, то жарабя будзе.

— А колькі за яго просіш?

— Два рублі.

Ну, так гэто выняўшы грошы, заплаціў і панёс гарбуза дахаты. Адсядзеўшы дзве нядзелі, калі гляне — аж там мало чэрві не завядуцца!

— От, — кажа, — шэльма баба, абшукала! — дый то, узяўшы гарбуза, як дасць аб корч, а заяц з-пад карча калі ні выскачыць, калі ні пойдзе! Заяц у лес, а немец за ім, дый крычыць:

— Ксю! Ксю! Ксю! — я твой матка!

Аж там стаяў стралец, дый бенц! І забіў зайца. Немец да яго:

— На цо ты, пся крэў, забіл мой жрэбец?!

— Дурны ты, — кажа, — немча, а то ж гэто заяц! Што табе?

— А то было, — кажа, — я шкода заплаціць!

Так то стралец з немца выткпіў, выткпіў, дый то прывязаўшы зайца да торбы, пайшоў дахаты.

## 269. ЯК ПАРАБАК НЕМЦА АБІДЗЕЎ

Адзін немец казаў на парабка:

— Ідзь, зарэж аўцу.

— Пане, — кажа, — не ведаю, катору.

А немец:

— О, дурны хлоп, рэж тую, што на цябе глядзіць!

— Добра.

Уходзіць у хлеў, аж усе ўглядаюцца на яго. Так ён завінуўся і, колькі было авец у хляве, усе парэзаў.

Прыходзіць немец.

— А жэ б цябе мільён д'яблаў! Цо ты зробіл, дурны хлоп?

— Пане, калі ўсе ўглядаліся на мяне.

От табе і вырабіў штуку!

## 270. У НЕМЦА ЦІ ПАРОСІЦЦА, ЦІ ПРОСІЦЦА, ТО УСЁ ЗАРОЎНА

Немец адзін казаў на парабка забіць свінню. Парабак пайшоў да хлява, паглянуў, аж яна паросіцца. Так прыходзіць да пана і кажа:

— Няможна, паночку, забіць свінню, бо яна паросіцца.

А немец:

— От, — кажа, — дурань хлоп! — а нех она ўкленча, а ты яе бій!

Так парабак пайшоў і закалоў. Потым немец прыходзіць, забачыў, жэ ест парасята, так заламаў рукі.

— Ото, — кажа, — дурны хлоп! — не пофедзял, жэ она мале дзяткі профадзі, але муфі гунцфот, жэ она просіцца! А свінні ўжэ няма!

## 271. МУЖЫК У ШЛЯХЦЯНКІ Ў СВАТАХ

Адзін мужык упадабаў надта шляхцянку, а не ўмеў па-польску а ні бэ, так узяў свата шляхціца да і кажа:

— Наўчэце мяне па-панску гаварыць.

— А, — кажа, — што цябе ўчыць, на гэто многа часу не трэба, анно помні, як у цябе будуць што пытацца, то ты кажы: «Так ест».

Добра. Паехалі яны. Пытаецца той шляхціц па-польску:

— А які ў пана ўраджай? Колько набытку? Ці не хварэе які ўмалот?

А ён усё кажа: «Так ест».

А гэто ў нас, ведамо, кажан, як едзе ў сваты, белага кажуха кладзе. Так і ён меў на сабе белы, да й сеў перад фізычнаю печкаю, а бляшка была надта напалена, так кажух пачаў гарэць. Ну, так той гаспадар кажа:

— Панскі кажух палісе!

А ён не разумеў і кажа:

— Так ест!

Так зноў гаспадыня падышла да й кажа:

— Кажух пану палісе!

А ён вывернуў на яе бельма і кажа:

— Так ест — палісе!

Так ужэ сват кажа:

— Пане Яне, кажух палісе!

А ён усё сваё: «Так ест».

Тады сват ужо не ўцерпеў і кажа:

— А то ж кажух гарыць!

Ён то схапіўся, глянуў, полу падняў.

— А, — кажа, — каб цябе халера ўзяла! То ты да гэтай пары нічога не казаў, а то ж я мусіў гэтулько на яго папрацаваць! А каб вас усіх тут выкаціло! А маёй долянцы! У чом жа я цяпер хадзіць буду? Чорт бо ведае ля! Якая печ, я думаў, што гэто сцяна гэтака. А каб вас выкаціло! — Пачухаўся бедны цый пайшоў. От табе і сваты!

## 272. ЦЫГАН СВАТАМ

Адзін хлопец быў неякі няўдалы і недабачыў добра, так праз гэта не мог ажаніцца, дзяўкі за яго ніяк не хацелі іці. Цыган гэта прыслухаў гэту гутарку, што ён бядуе, да й кажа:

— Чуеш, бацьку, я паеду з табою ў сваты, то хутка ажэнішся — я хіба табе ўсватаю.

Той гэта кажа да другога:

— Ведаеш, такі цыган добра гаворыць, хто як хто, а ён усватае.

Дзе быўшы, узялі гэта яшчэ аднаго чалавека за свата, а цыган бы то так сабе дзеля прыклёпу паехаў з імі. Ну, прыехалі ў сваты, той гэта сват дзеўку намаўляе, а цыган нібы то тое, сват усё гаворыць:

— У яго і гаспадарка добра, і хата людзка, і сям'я невяліка, і волікі нязгоршыя, а і...

А цыган кажа:

— Не то нязгоршыя, але і зусім добрыя і усё добра, не трэба лепей, на што вымышляць!

Так зноў сват кажа:

— І кароўкі нязлыя...

А цыган:

— Калі добрыя каровы, ужо лепшыя быць не могуць!

А той сват, нібы не чуючы:

— І коні, — кажа, — да пацягу нягоршыя ў яго ёсць, усё дзякаваць богу ёсць.

— Калі, — кажа цыган, — і добры конь, на што тое гаварыць!

Так зноў сват:

— Анно, — кажа, — уся гэта прычына, што ён крышачку бы то недабачыць, але гэта глупства — ён рабіць усё можа.

А цыган:

— Калі зусім сляпы, ён ніц не бачыць, на што тая гутарка!

Як возьме сват тагды гэта бізуна, як зачне цыгану даваць сватаўство, ледзьве цыган трапіў, дзе дзверы, да то, лобам адчыніўшы, да дай бог ногі!

От і займіся з цыганом.

## 273. ЦЫГАН-КІРАЎНІК

Прыехаў на вёску да маткі сын з горада. Матка вельмі рада, убачыўшы сына, якога не бачыла ўжо тры гады, матка яму стараецца як найлепей усё рабіць, а яму ўсё дрэнна: тое брудна, тое неакуратна, тое не так, на стол падана не так і шмат інш. Муштруець сын матку на кожным кроку, а часамі і тухань у плечы ўлепіць. Разгневалася яна на сына і пайшла пажаліцца пану (гэта было ў паншчыну). Пажалілася яна пану. Пан сказаў:

— Добра, прывядзі яго сюды, а я яму раду дам.

Матка згадзілася з гэтым і пайшла дамоў.

Як даведаўся аб гэтым сын, перапрасіў матку і матка яму даравала, вядома, у маткі сэрца мяккае да дзяцей. Цяжкае цяпер маткі-

на становішча: трэба ісці да пана і прасіць яго, каб ён адклаў тую кару, якая была прысуджана яе сыну (гэта было 25 розаг!).

Яна ведала, што пан не адменіць кару і ёй прыйдзецца вынесці ўсё на сабе. Ну, але матка адважылася, заплакала, перажагналася і пайшла да пана. Ідзе яна і плача, аж па дарозе сустракае цыгана.

Цыган і запытвае:

— Чаго, васпане, плачаш?

— Як жа мне не плакаць, — адказвае баба, — пан назначыў майго сына за кіраўніка ў двару, а ён для гэтае справы невучоны, вось я і плачу, што яму будзе дрэнна.

Цыган, нічога не скумекаўшы, кажа:

— Завядзі мяне да пана і скажы, што я твой сын, ён і прыме мяне замест твайго.

Ідуць яны, а цыган сам сабе і думае: вось будзе добра, як што, а сала дык наемся і сямейцы сваёй накраду.

Так і пайшлі цыган з бабай да пана...

Прыйшлі да пана.

Пан пытае:

— Што, гэта сын твой?

— Так, паночку, — адказвае баба, а самую смех бярэ, але яна не смяецца.

— Ну, добра, — кажа пан, — схадзі прынясі там пук розаг.

— А на што? — пытае цыган.

— Гэта не твая справа, — адказвае пан.

Пайшоў цыган за розгамі і думае:

«Мусіць, розгі патрэбны, каб вымесці пакой, дзе я буду жыць».

Аж не паспеў ён прынесці розгі, як яго падхапілі тры дужых хлапцы і давай уплятаць розгамі.

Тут цыган і пра сала забыўся, і пра пакой, дзе будзе жыць, а як вырваўся, дык без агляцкі паляцеў...

І цяпер яшчэ памятае, як у пана за кіраўніка быў.

## 274. ЦЫГАНСКАЕ ГАРТАВАННЕ

Адзін мужык малаціў зімою жыта, да й ляжала салома на двары, а цыган прыйшоў, усадзіў сваё дзіця ў тую салому да й сам пайшоў на сяло. Потым, калі мужык гляне, ля, ажно дзіця ў саломе! — так гэто хутчэй, узяўшы яго, занёс дахаты і стаў хукаць. Ажно прыходзіць цыган да й пытае:

— Ці не бачыў ты тут майго дзіцяці?

— А то ж, — кажа, — я ўзяў з саломы — чысто здубянела: ось ляжыць на печы.

Так цыган кажа:

— О, што ты гэто мне зрабіў? Я загартаваў, а ты адпусціў — забірай цяпер сабе яго — на што здыхляк мне здаўся!

Так гэто мужык даў яму яшчэ добру асьміну жыта, анно каб ён забраў і адчапіўся.

## 275. ЦЫГАНСКАЯ ХІТРАСЦЬ

Адзін пан, маючы многа работнікаў, выйшаў і кажа:

— Ну, дзецюкі, хто будзе водку піць?

А цыган, збоку стоячы, падскочыў наперад пана і кажа:

— Я, паночку!

— А хто будзе каўбасу есці?

— Я, паночку!

— А хто мне пойдзе сёння касіць?

— Дзецюкі, адзывайцеся, а то, далібог, мне аднаму ўжо цяжка — усё я да я!

От хітры!

## 276. ГАСПАДАР БАЦВІНКУ, А ЦЫГАН СЛАНІНКУ

Аднаго разу прыйшоў цыган да гаспадара і просіць акрасы, а гаспадар вызверыўся на яго:

— О, каб ты, цыган-гультай, здох! Мала табе даць бульбы ці буракоў.

— О мой гаспадарыку, дарагенькі, мей, — кажа, — увагу да беднага цыгана, ды дай жа акрасы, бо сам бачыш, што да каго пadыходзіць: гаспадару бацвінку, а цыгану сланінку!

## 277. ЯКОЕ У ЦЫГАНА МЯККАЕ СЭРЦА

Быў адзін цыган вельмі бедны і аднаго разу кажа жонцы:

— Я пайду ў карчму, а ты прышлі якое дзіця, каб мяне паклікала дамоў.

Пайшоу ён, прычапіўся да нейкага чалавека, селі есці. А ў таго было цэлае парася на стале. Аж прыбягае цыганачка, стала пад вакном і кажа:

— Тату, тату, казала мама, каб вы ішлі к возу!

— Пайшла прэч!

Тая зноў прыходзіць. Потым зноў. А на трэці раз як схапіў цыган парася за ногі, як кіне яго на яе. Тая за парася і пайшла. Дык сусед кажа:

— Каб ты, цыган, згінуў, на што ты парася кінуў!

А цыган:

— Бачыш, чалавеча, якое ў мяне сэрца не мяккае: я што схаплю, тым і шпургаю!

Цыганачка занесла парасё да воза, яны з'елі, а чалавеку... трасцы!

## 278. ЦЫГАН НА ДРЭВЕ

Цыган ідзе і дзівіцца, а мядзведзь узлез на дрэва да мёду, да вулля: выбірае і есць мёд. Цыган думае, што гэта чалавек выбірае мёд, і кажа да яго:

— Дзядзьку, дай мёду!

А мядзведзь як злякаўся, та як гукне аб зямлю і чысто пабіўся на кавалкі. А цыган сабе думае: «От, каб мне дастаць мёду, то паставіў бы свечку!»

Палез ён на дрэва і, наеўшыся мёду, стаў злазіць і думае пра сябе: «Я так сабе казаў паставіць свечку, а я не настаўлю».

А ў гэты час ён як гупне з дрэва! І пайшоў цыган сабе плачучы.

## 279. ЦЫГАН І МУЖЫК

Прыходзіць раз к аднаму мужыку адзін цыган. Мужык абедае. Цыган і кажа:

— Хлеб да соль!

А таму, звесна, трэба казаць:

— Просім з намі абедаць!

Ну, цыган за ложку і садзіцца. І стаў учашчаць к таму мужыку, і кажан раз абедае. Саўсім апрыкрыў мужыку. Вот, прыходзіць адзін раз зноў цыган у абеды.

— Хлеб да соль! — кажа.

А мужык гавора:

— Добрае, — кажа, — дзело, у каго ё!..

Годзі з тых пор цыган хадзіць к мужыку.

## 280. ЧЫЕ СПРАВЫ ГОРШЫЯ

Ішлі разам мужык і цыган і разгаварылісь пра сваё дзела. Цыган кажа:

— Добра, бацю, ваша дзела: ары, мялі, еж! Не то, што наша!

Узяла злосць мужыка: цыган больш мужыка робіць!

— Ну, калі ж так, — кажа, — бяры ты мяне за чуба, да скажы сваё дзела, а тагды я табе буду казаць сваё!

— Ну, добра, бацю!

Узяў цыган мужыка за чуба, дзярэ да й прыказуе:

— Плахое, бацю, наша дзела: ідзі паперад на базар — да украдзь там чаго-небудзь — да прынясі ў шацёр — да сам не знаеш, што з ім здзелаць: ці самому есці, ці дзецям аддаць!

— Ну, усё?

— А ўжэ ж усё!

Тагды мужык згроб цыгана за касмотнішчы да й пачаў:

— А я наша дзела: дак пакасі ўлетку сена — а сам дзёр — да прывязі дамоў — а сам ізноў дзёр — да пракармі ўзімку скаціну —

а сам усё дзярэ — да сабяры гной — да вывезі яго вясной на поле — да раскідай — да ўзары — раз — да другі — да паскародзь — адылі пасей — вырасце, дак сажні — да павяжы ў снапы — да перавязі ў гумно — да змалаці — да адвязі на вятрак — да змялі — да дома правей — да замясі — да дастань дроў — да натапі печку — да пасаджай — спячы — вынь — разрэж — да тагды й еж!

Надраў таго цыгана так, што ў таго вочы на лоб палезлі.

— Э-э! Плоха, бацю, і ваша дзела.

## 281. ЧЫЙ СОН ЛЕПШЫ

Касілі так умесце чалавек і цыган. Прыйшло абеддзя, зжарылі яны сабе парася на абед. Бача цыган, што аднаго парася мала на двох такіх маладцоў, от ён і кажа хадзяіну:

— Слухай-ка, бацю, што я скажу: давай мы паперад аддыхном! Каму луччый сон прысніцца, таму й парася есці!

— А добра ты кажаш, лягом аддыхном!

От і паляглі. Цыган туды-суды павярнуўся і заснуў. Тады чалавек той устаў, за тоя парася да й з'еў. А тады ўжэ лёг сабе да й спіць. Прашнуўся цыган:

— Уставай, хадзяін! Што табе снілась?

— Кажы ты ўперад!

— Быў я,— кажа цыган,— у бога ў ва сне. Еў я там гусь і парася; еў і ўсё на цябе, бацю,ківаў, штоб і ты йшоў ка мне есці!

От хадзяін тагды і кажа:

— Да я,— кажа,— бачыў, як ты еў і на мяне ківаў. Мне й здайся, што ты кажаш: «Еж парася! Бач, я тут ем!..» Да ўзяў і сам стаў есці!

— Дак ці ты з'еў?

— Да з'еў жа!

От цыган і кажа:

— Смутку я еў, пячаль я еў!..

## 282. МУЖЫК І ЦЫГАН

Шоў мужык з цыганом. Абодва галодныя. Ні ў аднаго, ні ў другога нічагутка няма ў торбе. А ехаў пан ды згубіў жаранага гуся. Як шоў мужык з цыганом, та і найшлі. У абодвух аж сліна з рота пацякла. Цыган хоча, каб аднаму з'есці ўсяго гусака.

— Слухай, бэцю: мы не наямося гэтага гуся, калі будзем есці ўдвух. От мы як зробім: ляжам спаць, і хто лепш сасніць сон, то той няхай і есць усяго гуся.

— Добра,— кажа мужык.

Звярнулі яны з дарогі, зайшлі ў лужок і ляглі пад кусток, а гуся палажылі каля сябе.

Цыган зараз і захроп, нібыта спіць, а сам усё думае, як лепей салгаць. Мужык ціхенька ўстаў, за гуся, адышоўся троха і з'еў усяго, а после лёг сабе і задувае храпака. Цыган прачынаецца.

— Ну, уставай! Слухай, які я сніў сон. Каб ты і тры годы спаў, та гэтакага ні сасніў бы. Слухай жа. Бачыў я драбіны да высокія-высокія, але пад самае неба. Я гэта, здаецца, па драбіне лезці, да лезці, узлез, здаецца, на неба. Бачу: бог сядзіць, ангялы вакруг.

— Эй, цыган,— кліча бог,— сюды йдзі!

Я іду. Прыйшоў,— брат ты мой! Самавар стаіць, булкі, сала.

— Еш, цыган! — кажа, здаецца, бог.

— А! А я і бачыў, як ты лез на неба, як еў там сала, піў гарбату. «Чаго ён,— думаю,— пойдзе сюда? Не бачыў гэтага гусака». Дык я, брат, узяў ды з'еў яго і табе нічога не пакінуў, і драбіны шчэ прыняў.

## 283. МУЖЫК І ЦЫГАН

Жыў сабе ў адном сяле мужык і цыган. Вот той цыган і пазваў мужыка к сабе хрысціць. Мужык перахрысціў у яго і даў поп таму цыганёнку імя Сідар. Прайшло дні са тры, як ён радзіўся, прыходзіць цыган к мужыку да і кажа:

— Кум, а кум! Твой хрэснік высуне галоўку із люлькі да і кажа: «Тата, а тата! Я мёду хачу».

Мужык даў вялікі кусок. Во цыган і пайшоў, а далі прыходзіць і на другі дзень да і прося яшчэ. Мужык дагадаўся, што ета цыган сам есць. Вот ён і кажа:

— Хадзі, кум, сам у пасеку да і вазьмі, скалькі табе трэба.

Цыган пайшоў, а там у пасецы былі ў адном вуллі восы. Мужык паставіў лесніцу і кажа:

— Лезь сам да і кушай.

Толькі цыган узлез, а мужык узяў да і прыняў лесніцу.

Цыган адчыніў вулля да і глядзіць: ажно тамака мёд. Вот ён карпануў нажом, а восы як выляцяць, да як сталі яго кусаць, ён тагды кажа:

— Кум, падай скарэй вон тое!

А мужык яму падае то саломінку, то былінку, а цыган усё крычыць:

— Не тое, а вон тое,— а сам не знае, як завуць. Во а далі яго ўзяла немач, ён і ўпаў. Мужык тагды і пытае:

— Кум! Можа драбіну?

— Ай, кумок, дай ужо цяпер грабіну, да глядзі ўжэ маю дзяціну.

## 284. ЦЫГАН І ГАСПАДАР

Адзін цыган улез да аднаго гаспадара ў камору, каб што-небудзь там украсці. Лазіў ён там, лазіў і найшоў там сала і давай яго есці, але як ён выходзіў з каморы, то папаў у хату гаспадара. Як тут ён убачыў, што будзе бяда ад гаспадара, то прыдумаў хітрасць, як выйсці з бяды. Вот сказаў так гаспадару:

— Пане гаспадару, на табе сала! Чорт яго прыслаў многа табе.

Той гаспадар злякаўся і сказаў цыгану:

— Калі табе даў чорт сала, то і нясі яго сабе.

Той цыган зарадаваўся, да давай бог ногі. Толькі яго і бачылі, усё раўно, што яго чорт панёс.

## 285. ХІТРЫ ЗЛОДЗЕЙ

У ваднаго хадзяіна было багата сала і вісела яно ў сенцах. От ноччу прыйшоў злодзей, ускарабкаўся, атарваў сала да і сам бракнуўся і з салам аб зямлю. Пачуў хадзяін стукат, увайшоў у сенцы, аж злодзей і кажа:

— Ці не купіш сала?

— Нашто яно мне? У мяне,— маўляў,— свайго багата.

— А я думаў, што ты купіш. Штоб знаў, так ба не нёс сюды такі цяжар, вельмі ўмарыўся, трэба несці і к другому, падсоб хоць паднесці.

## 286. ЗАЕЗДЗІШ!

— Не,— кажа цыган дзецям сваім, лежачы ў цяньку, — я пайду на кірмаш, куплю кабылу. Кабыла прывядзе нам жарэбчыка...

— А я буду ездзіць на ём! — крычыць цыганоў сын.

Цыган плясь яму па мордзе!

— А заездзіш!

## 287. ЦЫГАН

Прычапіўся к мужыку цыган.

— Дай мне, бацю, сала, дай мёду, дай круп.

Бярэ цыган у мужыка ўсё, што ні ўбачыць. Нельга аткасацца ад цыгана, слепнем у вочы лезе.

— Няма ў мяне сала,— кажа мужык,— няма ні мёду, ні круп. От хіба калі ўжо ты так пражэшся лізнуць мёду, та хадзем ткале падглядаць пчолы.

— Хадзем, хадзем, бацю,— кажа цыган.

Узяў мужык ліпаўку й зубленку, й пашлі яны з цыганом у лес. Сонейка стаяла на паўдні. Пячэ, як у печы.

— Ото ж смаліць,— кажа мужык,— і давай падолам сарочкі выцірань лысіну.

От падышлі яны к дубу. На дубе высока ўсцягнуты улей. Мужык прыставіў астрогу.

— Ну, лезь,— кажа цыгану,— падглядваць пчолы.

Палез цыган. Узабраўся к улью, прывязаў сябе поясам к ралу й давай адчыняць доўжэнь. Толькі ён прыадчыніў, а адтуль як высыплюць шаршне да пачнуць цыгана пякці, круціцца цыган, бы ўюн у гаршку.

— Бацю, падай тэе! — крычыць мужыку.

Мужык узяў ліпаўку й хоча лезці па астрозе.

— Не, падай тэе!

Мужык узяўся за сакеру.

— Не, бацю, падай тэе! — немым голасам крычыць цыган.

Тут шаршне рэжуць яго, бы нажом.

— Бацю, жыў не буду,— крычыць цыган,— падай тэе!

Ён хацеў, каб мужык скарэй падаў зубленку, але забыўся, як яна называецца.

— А чарты цябе ведаюць,— кажа мужык,— што табе трэз,— і ўзяўся за зубленку.

— Тэз, тэ... — крыкнуў цыган і грымануўся далоў, чуць печанцы сабе не адсадзіў.

Насілу ачухаўся цыган. Але як мінулася боль, та й забылася. І цыган астаўся цыганом: што ўбачыць, тое цягне, а калі не даюць, то слепнем у вочы лезе.

## 288. ХАЛАТНАСЦЬ ЦЫГАНА

Цыган украў кабылу, яго злавілі і пасадзілі ў турму. У камеры ён нікому не прызнаецца, за што сядзіць. Толькі ўсё губамі цмокае. Турэмшчыкі і пытаюцца ў яго:

— Чаго ты ўсё губамі цмокаеш?

— Каб не забыцца, як есці.

— А што табе прышылі, бацю?

— Ды халатнасць нейкую.

— А як гэта?

— Ну як. Кабылу, значыць, я ўкраў, а жарабя пакінуў.

## 289. ЦЫГАН

Ведама, цыган валочыцца па свеце, свайго хазяйства не мае, а тое ўжывае, што дзе запарве або выдурыць. А як нічога не дастане, то й голадам падыхае.

«От,— думае цыган,— каб да каняку ад яды адучыць, то добра было б на свеце жыць. Сам туды-сюды пахістаўся, дзе кусочак

сальца, дзе сарваў каўбаску, дзе блінцы або аладкі,— от і налізаўся. А каняцы толькі і дбай да штодзень сянцо, бы руту, падавай. Да й то яшчэ рагоча — аўса хоча. Пачакай, я розуму вазьму, каняку ад корму адвучу».

І давай цыган мудраваць, сваю каняку ад корму адвучаць. От ён дзень і два не дае каняцы ні жмені сена, ні аўса. Сам цыган сяготаго назбіраўся, выпіў квасу, аблізаўся да й клопату не мае, што каняка галадае. А яна зубамі звоніць да грызе салому.

— Эй, цыган,— смяюцца людзі,— бач: твая кабылка ржэ, рагоча, можа корму хоча.

— Няхай прывыкае,— цыган бае.

От з нядзелю каняка нічога не ела, а потым і сакалела.

— От, калі б яшчэ з дзянёчак пажыла, то прывыкла б і заўжды без корму была б, да здохла,— цыган сказаў і з каняки шкуру садраў.

## 290. ШТОДЗЕНЬ САЛА З САЛАМ ЕЎ БЫ

Цыган казаў:

— Каб я быў царом, то штодзень сала з салам еў, боты ў дзёгаць ставіў, а конь стаяў бы пры мне.

## 291. ЯК МУЖЫК З ЦЫГАНОМ ДЗЕНЬГІ СЕЯЛІ

Как жыў адзін мужык сільна багаты, і было ў яго сільна многа пчол. Потым ён і завёў дружбу з адным цыганом. Радзіла яго хазяйка, ён узяў яго кумам, потым часта ўгашчаў яго мёдам, а такжа і водачкай, адным словам, як браты радныя. Ну, у цыгана, как не кум, как не пабрацім, а ўсё дурацкія мыслі, а ўсё думаець, как бы мужыка абдзелаць. Адзін раз і прыходзіць к мужыку.

— Здрастуй, кум,— гаворыць цыган.

— Здрастуй, здрастуй! — гаворыць мужык куму свайму цыгану. Потым цыган і гаворыць куму свайму мужыку:

— Во, брат-кум, што я ўздумаў,— гаворыць цыган свайму другу,— давай мы з табой займемся адным дзелам.

— Какім?

— А во какім: будзем мы з табою сеяць дзеньгі.

Мужык і гаворыць:

— Ну, **давай пасеем!**

Потым дажыдаець ён цыгана. Чэраз нескалькі ўрэмя прыходзіць цыган к мужыку і гаворыць:

— Ну, брат-кум, во выбраў я ўрэмя: ежэлі мы пасеем мерку дзенег, то будзець дзве ілі тры.

Вот яны пасеялі прэждзі нямнога, а потым цыган узяў да сваіх яшчэ прыбавіў столька. Назаўтра прыходзіць цыган к мужыку і гаворыць:

— Ну, кум, пойдзем выбіраць дзеньгі.

Вот яны пайшлі выбіраць дзеньгі: пасеялі адзін гарнец, а выбралі тры. Потым мужык і гаворыць цыгану, свайму куму:

— Ну, брат-кум, спасіба табе. Падажджы цяпер: пасеем болей!

А цыган гаворыць:

— Ну, кум, дажыдай мяне!

Мужык стаў ажыдаць, пакуда прыйдзець цыган. Прыходзіць цыган і гаворыць:

— Ну, брат-кум, сягоння будзець ноч харошая: как няможна болей пасеем.

Вот мужык устаў такі рады: вынес усю сваю казну — во і пасеялі. А цыганоў уж жывот забалеў, і гаворыць мужыку:

— Брат-кум, сматры сам, а мая уж немач: траханула мяне ўсяго ў дрож.

Потым мужык лёг спаць, а цыгану уж паздаровіла: пайшоў да дзеньгі еты падабраў. Назаўтра мужык устаў і гаворыць:

— Нешта майго кума не слыхаць.

Прыходзіць цыган і гаворыць:

— Ну, брат-кум, кажацца, што нашы дзеньгі прапалі. Сягоння усю ноч такая сухавеіца. Пайдзём-ка пасмотрым.

Пайшлі яны сматрэць, а дзенег нет ні капейкі. Мужык завыў і загаласіў і гаворыць цыгану:

— Ну, брат-кум, во здзелаў ты мне! Што цяпер дзелаць? Вазьму ўдаўлюсь ілі ўтаплюсь!

Мужык і жысць сваю кончыў, а цыган паехаў дамоў, стаў жыць да пажываць, да ў мужыкоў вараваць.

## 292. СВОЙ ЦВІК

Ішоў цыган па дарозе. Спатыкнуўся ён, пляснуўся на зямлю і ўбачыў цвік.

— Каб не ўпаў, дык і цвіка не знайшоў бы.

Паклаў цыган цвік у кішэнь і накіраваўся ў вёску. Зайшоў да аднаго селяніна і папрасіў есці. Той накарміў яго.

— Грошай у мяне няма,— кажа цыган селяніну,— вазьмі за абед хоць цвік.

— Навошта мне той цвік? — пацiснуў плячыма селянін.

— Вазьмі, браток, мо спатрэбіцца,— не адступаў цыган.

— Не трэба ён мне...

— Тады я заб'ю яго ў сцяну, няхай тырчыць,— стаяў на сваім цыган,— а мо калі спатрэбіцца ўсё ж...

— Ну, як хочаш,— сказаў селянін, абы хутчэй адчапіцца.

Забіў цыган цвік у сцяну і пайшоў.

Аднойчы цыган захацеў есці. А ў самога ж нічога няма. Успомніў ён цвік і пайшоў да селяніна:

— Зайшоў, браток, да цябе, каб глянуць на цвік,— і дадаў:

— Усё ж такі лепей жыць, калі ў цябе ёсць свой цвік... Дазволь я пасяджу каля яго.

Дазволіў селянін. Пасядзеў цыган каля цвіка ды заадно і паабедаў з селянінам.

Праз нейкі час цыган прывёў каня, прывязаў лейцы за цвік і кажа:

— Бачыш, як добра, калі маеш хоць цвік. Ёсць за што і каня прывязаць.

А яшчэ праз нейкі час цыган прывёў сваіх дваіх дзяцей і гаворыць селяніну:

— Няхай, браток, і дзеці пасядзяць каля цвіка...

Ды так і перабраўся цыган на зіму да селяніна.

## 293. ЛІШНІ РАЗ УКУСІЎ

Ішлі галодныя цыган і мужык. Знайшлі пірог. Пачалі дзяліць. А нажа ў іх не было, каб на роўныя палавіны разрэзаць.

Тады цыган і кажа мужыку:

— Давай так зробім... Ты адзін раз укусіш — я раз укушу, ты раз — кусь, я раз — кусь, ты — кусь, я — кусь, кусь...

Пасля апошніх слоў мужык як трэсне цыгана па патыліцы.

— За што ж ты мяне? — узвыў цыган.

— А за тое, што два разы кусаў.

## 294. ЦЫГАН

Частаваў гаспадар цыгана падсмажанай каўбасой і лёгкімі. Цыган увесь час есць то саланіну, то каўбасу, а лёгкага не чапае. Тады гаспадар кажа:

— Еш, цыгане, лёгкае!

— Калі, татуля, і каўбаса не цяжка,— адказвае цыган.

## 295. БАЦЬКА ЦЫГАНА

— Цыган, твайго бацьку злавілі!

— Дзе?

— У каморы.

— Вось дзіва! У каморы кожнага зловіш. А вы яго ў поле пусціце і тады лавіце!

## 296. ЦЫГАНСКІ ВЫКРУТ

У аднаго гаспадара загарэлася хата. Людзі збегліся ратаваць, а цыган стаў дый крычыць на ўсё горла:

— Гасіце, людзі, гасіце!

— А ты ж чаму не памагаеш? — пытаюцца яго.

— Э, яшчэ скажуць, што я ўкраў нешта.

## 297. ЯК МАСКАЛЬ СПАВЯДАЎСЯ

Адзін маскаль украў карову, так яго завялі да папа, каб выспаведаўся. Так поп пытае:

— Што ўкраў?

— Вяроўку!

— А пры вяроўцы што было?

— Рогі.

— А пры рагах?

— Карова!

## 298. ЯК МАСКАЛЬ УКРАЎ, А ПОП РАССУДЗІЎ

Аднаго разу быў перагляд маскалёў. У аднаго не было парцянак. Бачыць, вісіць кашуля на плоце нечыясь, так атадраў падолак аж да самых рукавоў, а пярод пакінуў і зноў павесіў на плоце. Прыходзіць жонка знімаць кашулю:

— Ля, што за ліха! Адно самы пярод вісіць!

Яна, што робячы,— зараз да папа, каб поп рассудзіў, што гэта такое. Поп прыйшоў, паглядзеў і кажа:

— Гэто чортава работа — ось бачыце, адарваў якраз да таго месца, дакуль крыж вісіць. Вазьміце ж вы гэту сарочку кійком і закапайце, бо гэто не можно рукамі браць!

Яны думалі, што і праўда, да й зрабілі, як поп казаў, а маскаль, узяўшы парцянкі ў кішэнь, пайшоў, смеючыся з папа.

## 299. НЕ ЗАЎСЯГДЫ, ЯК НА «ДЗЯДЫ»

Ішоў салдат у водпуск дадому і зайшоў да бабы. А якраз «дзяды» былі. Ну, яна прыгатавала там укуснага ўсякага. «Дзядам» гатовіла, яна ж думала, «дзяды» прыдуць да яе. Зайшоў салдат, салдата баба ўгасціла. Салдат пасядзеў, паеў, пераначаваў у бабкі, пайшоў назаўтра. А пяшком у то ўрэмя хадзілі. Адбыў водпуск свой, ідзе назад. Заходзіць да гэтай бабкі ў хату, апяць просіцца нанач. Бабка пусціла нанач. Паставіла ўжо толькі боршч яму на стол.

— Еш,— кажа,— саколіку. Чым маю, тым угашчаю.

Ён кажа:

— Дзякуй, бабка.

Мо разоў два-тры ўзяў баршча таго да ўжо і сядзіць.

— Еш,— кажа,— саколіку, у мяне больш няма нічога.

— Не,— кажа,— бабка, дзякаваць, я не галодны.

Бабка ўстала ды і прыняла боршч са стала. Салдат сядзеў, сядзеў, ажыдаў, ажыдаў, што баба больш што-небудзь падасць. Не падае баба. А есці хоча салдат. Цярпеў, цярпеў, да кажа:

— Вараці, бабушка, боршч назад, а то, мабыць, не заўсягды, як на «дзяды», астануся галодным.

## 300. ЯК МАСКАЛЬ БАБУ АШУКАЎ

Раз прыйшоў да аднае бабы маскаль. Лядзіць, аж такая добрая сакера ляжыць пад лаваю, да нeяк яе ўкрасці, бо баба ў хаце; так, падумаўшы, кажа:

— Вары, баба, есці!

— Што,— кажа,— я табе, маскаліку, звару?

— А мне што за дзела, вары сабе хоць сакеру!

Так яна ўлажыла сакеру ў гаршчок да й варыць, ажно: тра-ра-ра і затрубілі. Так маскаль кажа:

— Вымай скарэй!

— Ля, а то ж,— кажа,— яшчэ цвёрда!

— Э, нічэво,— кажа,— маскаль з'есць і цвёрду!

Да й то цап за сакеру, да торбы, да й у ногі за сваімі. От тады і баба па пары агледзелася!

## 301. САЛДАТ ДА БАБА

Сядзіць салдат, насыпае порах. А старая баба гэтага-тога дзіва не бачыла да й пытаецца:

— А шчо то,— кажа,— служба?

— А это ікра салдацкая,— брэша салдат,— з энтаво ў нас, бабка, выходзяць салдаты!

Толькі салдат з хаты, а баба:

«Пастой жа, бісаў сыну! Не дам я вашай ікры выплуважыватыся!»

Та як ухопіць той порах, та ў печ яго! Як бухне він — так печы моў не було. От, тады баба:

«Чы не дыво ж салдатамі? У ікры шчэ салдатыня, а дывысь, што вырабляе!»

## 302. НЕ ГУСАК, А ГУСКА

Начаваў пераходны салдат у бабы, а як ішоў, то гуску ўкраў. Наздаганяе яго баба:

— Служба, падажджы!

— А что, бабушка, мне скажаш?

— Та гуску маю аддай!

— Ах, ты бог мой! Это гуска разве? Экой я дурак! Вазьмі, бабка: ей-ей, думал, что это гусак!

## 303. МАСКАЛЬ-КАСАР

Ішоў маскаль на касавіцу. Ідзе і сабачку з сабою вядзе.

— Маскалю, куда йдзеш?

— Касіць! — вясяленько кажэ.

— А сабачку ж на шчо бярэш?

— Вот! Што сам не з'еш, то сабачка з'есць!

Вяртаецца касар — ледзьве ногі валачэ. Не гаразд, мабыць, касілася.

— Маскалю, касіў?

— Касіў, чорт мяне насіў! — і голасу не адвядзе.

— А сабачка ж дзе?

— З'еў!

## 304. САЛДАТ І МАЛАНКА

Ішоў салдат ноччу, захацеў есці, ну, залез у чужы гарод, стаў гуркі шукаць. А ноч цёмная, хоць вока выкаль! Маланка не-не, ды і выбліснe. Салдат і кажа:

— Маланушка, маланушка, выблісні, я табе агурок дам!

## 305. САЛДАЦКІ СОН

Бывала, салдат, як лажыцца спаць, дык:

— Ой, яшчэ б дзесяць год служыў.

А як уставаць:

— Ой, сёння б у запас пайшоў.

## 306. ДУМАЎ, ШТО ГАРОХ

Пайшоў салдат па месту і відзіць: ляжыць мяшок з жытам; ён узяў яго і панёс. А той, чыё жыта, увідзеў і гаворыць:

— На што ты ўзяў рож?

Тагды салдат кажэць:

— Калі рож, дак на! Я думаў, што гарох,— і бросіў рож.

## 307. САМЫ МУДРЫ

Стаялі салдаты ў сяле. У палкоўніка паў жарабец; ён паслаў дзеншчыка пазваць каго зняць скуру. Дзяншчык пабег на сяло і дзе ні запытае, каб хто йшоў здзіраць скуру, кажды адмаўляецца, што не ўмеіць.

— Во спрасі,— кажуць,— аканома нашага, той на гэта мэт: здзярэць так, што люба.

Думаў гэта дзяншчык: што тут рабіць? Узяў на хітрась, пайшоў у другі канец сяла і першага ўстрэчнага пытае:

— Хто тут у вашым сяле ёсць самы мудрэйшы? Палкоўнік хоча яго наградзіць.

Той кажа:

— Здаецца, акрамя мяне нікога, брат, не найдзеш, хіба Сымон? Але не! За мяне, здаецца, мудрэй няма.

— А добра, брат, пойдзем скарэй.

Прыйшлі ў полк, а там яму нож у рукі:

— Лупі скуру!

Пасля уж ён ніколі не называў сябе мудрым.

## 308. ГАЛАДРЫГАВА

Ішла баба, а за ёю салдат. Ён яе дагнаў і гаворыць ёй:

— Ці была ты ў Галадрыгаве?

— Нет! Ці далёка яно?

— Нет, недалёка. А ў Пацяеве ці была?

— Нет.

Тагды салдат кажа:

— Ну, пойдзем разам!

Яны і пайшлі. Баба была ў шубе і ў сярмязе, а ён у адной шынелі, ды ён азяб, а баба ўпацела. Дык салдат і кажа ёй:

— Дай ты мне, бабушка, шубкі, хоць нямножка прайду, пака нагрэюся,— і тагда я табе аддам.

Баба і аддала яму шубу. Ён надзеў і пайшоў так скора, што баба ні справіцца ісці. Яна стала крычаць:

— Абажджы, служба!

А ён ёй кажа:

— Нет! Ты ўжо скора прыйдзеш у Галадрыгава.

І так салдат уцёк ад бабы з шубай.

## 309. САЛДАТ СЛУЖЫЎ У ГУСАКОЎСКАГА

Ішоў адзін прахожы салдат і зайшоў к аднаму хазяіну на ноч. У таго хазяіна жонка пажарыла на снеданне гусака і ўлажыла яго ў латушку, вынесла вон, а салдат слядзіў за гэтым. Назаўтра хазяін пайшоў малаціць, а хазяйка яшчэ спала. У гэта ўрэмя салдат пайшоў да ўзяў гусака, а туды палажыў два лапці. Потым, адхадзя. сам сабе думае: «Нужна зайсці, хазяіну паспасібкаваць за начлег». Зайшоў ён у гумно, гдзе яны малацілі, і стаў благадарыць. А хазяін стаў яго спрашываць:

— Адкуда вы, служывы?

А ён і гаворыць:

— Я сначала служыў у пана Гусакоўскага, а пан жыў у Латкевічах, а цяпер перайшоў у Тарбевічы, а ў Латкевічах пасяліліся два брата Лапцюганы. Да свідання.

Мужык жа нічога не знаў, што салдат узяў гусака сабе ў торбу, а ў латушку палажыў два лапці. Прыйшоўшы снедаць, хазяйка жалуецца хазяіну, што салдат украў гусака. Тагды хазяін дагадаўся, што гаварыў яму салдат, да была ўжэ позна.

## 310. ШТОТЫДЗЕНЬ

Пытаўся беларус маскаля:
— Калі ў вас вялікдзень?
— У пятроўку,— кажа маскаль.
— Не, не тое. Калі ў вас васкрасенне?
— Эльва! У нас штотыдзень васкрасенне бывае.

## 311. ДЗЕ САЛДАТ БЫЎ

— Ох, бабушка! Вездзе, вездзе я был,— кажа салдат бабе.
— Ох, салдацік! Вшэндз (всюды) ты быў.
— Нет, бабушка, вездзе я был, а в Шэндзе не был.

## 312. ЯК РАСЕЯЦ РАЗГАВАРЫЎСЯ

Зышоўся мужык з расейцам. Да той расеяц надта хвалько быў. Да ўсё кажа:

— Знаеш, дурная галава, я і там быў і там быў.

Усё талкуе яму, як называюцца тыя мяста, сёла..., а мужык, хоць знае, што ён лжэ, да ўсё яшчэ дзівіцца, да ўсё патурае яму. Як ужэ той скончыў, так кажа:

— Ну, ну, праўда, што вы ўсюдачкі былі.

А расеяц:

— Не, зямляк, я ва Усюдачках не быў. Пажалуйста, скажы, какой ето губерніі?

## 313. КАЗЁННАЯ РЭЧ

Украў салдат у чалавека з хлява авечку; завязаў ёй на шыю папружку дый валачэ.

— Што ты, бязбожнік, робіш? — крычыць чалавек.

Салдат спалохаўся ды выпусціў з рук авечку разам з папругаю. Авечка пабегла і папружка на шыі. Чалавек пабег лавіць яе і кліча:

— Шутка мая, шутка! Шут, шут, шут, шут!

— Ах ты, чорт лазатый! Какая тут шутка? Казённую вешч унесла, а яму шутка!

## 314. ЗНАХОДЛІВЫ ДЗЯНШЧЫК

Служыў у аднаго царскага афіцэра дзеншчыком мужычок з Палесся па прозвішчу Мацачок. Служыў ён сумленна, гарэлкі ў рот не браў. І афіцэр любіў Мацачка. Аднаго толькі ніяк не мог дараваць —надта ж той любіў паспаць. Так любіў, што дзе сядзе, там засне. Колькі разоў спрабаваў афіцэр падпільнаваць свайго дзеншчыка, як кажуць, на месцы злачынства і пакараць, але яму гэта

не ўдавалася. Варта толькі было сказаць: «Ну што, зноў спіш, Мацачок!» — як дзяншчык падхопліваўся на ногі і выпальваў:

— Ніяк не, ваша благароддзе. Над жыццём сваім гаротным думаю...

Аднойчы афіцэр убачыў, што Мацачок заснуў на стайні, і на шыю яму надзеў хамут. «Ну,— думае,— цяпер ты ў мяне не выкруцішся!» Адышоўся крокі на два, ды як гаркне:

— Гэй, Мацачок, ты зноў спіш?

Дзяншчык падхапіўся на ногі, і як ні ў чым не бывала, адрапартаваў:

— Ніяк не, ваша благароддзе. Над жыццём сваім гаротным думаю...

— А хамут чаму на шыі? — ужо са зларадствам спытаўся афіцэр.

— Хамут... — глянуў сабе на шыю Мацачок,— хамут я зашываць сабраўся, каб вашаму благароддзю можна было сёння да дзевак у брычцы паехаць.

І на гэты раз не пакараў свайго дзеншчыка афіцэр, бо вельмі ж любіў ён знаходлівых і дасціпных людзей.

## 315. МОРА ЧОРНАЕ

Маскаль, адслужыўшы сваю службу, вярнуўся ў родную вёску.

— Ці добра ж,— пытаюцца,— служыць было?

— Добра. Блізка ўсю Расею абхадзіў, усялякага дзіва нагледзеўся. От, прымерна, на Чорным моры... Мора дзіўнае!

— Чым жа гэта?

— А тым, што чорнае. Ботаў чысціць не трэба. Такое яно чорнае, што боты толькі спаласні ў ім — і ў той час вымай, гатовенькія, усё роўна як вычышчаныя самай лепшай ваксай.

— Бачыш, а-а-а!

## 316. ТРОШКІ ПАСПАЛА

Была баба лянівая. Прыйдзе ў поле жаць — паглядзіць, паглядзіць навокал, і здаецца ёй, што няма чаго тут рабіць. «Вось гэта заўтра зраблю, а гэта потым. А на сёння няма чаго рабіць. Лягу я лепей спаць».

Легла яна галавою да сонца і праспала да самага вечара, а калі ўстала — бачыць, што сонца ўжо ў яе нагах. Здзівілася яна, пайшла дахаты і пытае:

— Юрка, а Юрка, ты быў у полі?

— Не, не быў.

— А хто ж тады мяне ўвярнуў? Лажылася ж я галавой да сонца, а ўстала — яно ў маіх нагах.

## 317. ЯК МАЛАДЗІК ГУЛЬТАЙКУ НАЎСТЫДЗІЎ

Адна гультайка надта хвалілася, што яна такая работніца, такая гаспадыня... а меўся прыехаць да яе маладзік. Ну, дзе быўшы, і прыязджае. Так гэта ўжэ маці хваліць, так хваліць сваю дачку, а яна кажа да яго:

— Што дзень — то кудзеля, а ў суботу — то і дзве!

А ён быў надта хітры да разумны, так кажа да се: «Ну, пажджы, калі ты такая работніца!»

Так як ужо меўся ад'язджаць, так гэта ўзяўшы выняў ключы з кішэня, дый уваткнуў у кудзелю. Ну, так гэта ў тыдзень ці два, прыехаўшы, кажа:

— А мо я тут у вас ключы згубіў?

А тыя кажуць:

— Э, не, не відно было!

— А мо,— кажа,— у прасніцы? Бо я тут світу клаў.

Так давай глядзець, асё ж яны і сядзяць, дзе ён уткнуў! Так анно заткпіўшы з іх, больш ужо не паехаў.

От табе і работніца!

## 318. ГУЛЬТАЯВАТА ЖОНКА

Была ў аднаго гаспадара жонка, надта ўжо вяліка гультайка. Надышло лета, так мужык паслаў яе на гоны жыта жаць. Яна то, пашэдшы, нажала адзін сноп, паставіла, легла ў цяньку і давай спаць. Спала, спала, аж покуль слонка зайшло. Увечары прыходзіць дахаты, так мужык пытае:

— А што, колькі ж нажала?

А яна:

— Стоі сноп!

Ён жа думаў, што сто і адзін сноп, так давай выхваляць на вёсцы жонку:

— Аго,— кажа,— мая жонка работніца: сто і адзін сноп нажала!

Назаўтра таксама нічога не нажала. Анно праспала да вечара, а прыйшоўшы, кажа:

— Стоі сноп!

Так гэто ў тыдзень, мужык наняў нешта з дзесяць фурманак, ужо гэтыя снапы вазіць! Прыязджае, анно ж стаіць сноп і яна, як карова, выцягнулася каля яго, спіць!

— А каб це так і гэтак!

Калі не вырве кала, калі стане яе лупіць, анно косці траскацяць!

## 319. ГУЛЬТАЙКА

Цяжка для чалавека прыдумаць горшае пакаранне, як у жонкі даць яму гультайку.

Такі лёс напаткаў майго дзядзьку Банадыся, калі ён быў яшчэ малады. Пакутаваў ён страшэнна. Заўсёды хадзіў абарваны, галодны. Жонка ўсё збіралася сама наткаць палатна і пашыць дзядзьку кашулю і порткі, але ёй заўжды нешта замінала.

Аднойчы, калі Банадысь збіраўся ў поле, жонка папрасіла ўзяць яе прасніцу на страху.

— Там хутчэй напраду нітак,— сказала яна.— Выведу такую нітку, што хопіць табе і на штаны, і на кашулю.

Залезла на страху Уліта (так звалі жонку Банадыся), уселася на самым вільчаку і пачала прасці. Толькі павяла верацяном, а яно — коўзь і вырвалася з рук. Пакацілася па страсе і звалілася на зямлю.

Позна ўвечары вярнуўся з поля Банадысь. Гукнуў Уліту, а яна са страхі голас падае.

— Чаго ж ты сядзіш там так позна?

— Цябе чакала, бо баялася злезці.

— Напрала нітак?

— З табой хіба напрадзеш? — адказала Уліта.— Каб ты дома быў, падаў бы верацяно, то і напрала б. А так вось цэлы дзень прасядзела, цябе чакаючы. Заўтра не хадзі ў поле, Банадыська, падасі верацяно, калі яно зноў з рук вырвецца.

## 320. УСЕ БАБЫ, ЯК БАБЫ

Жыў дзед з бабай. Ды гультаяватая баба была. Людзі лён сеюць, а яна яшчэ спіць. Людзі лён палоць, а яна языком малоць. Людзі ткаць, а яна толькі праць. Глядзіць дзед, як другія бабы ткуць пасцілкі ўзарчатыя, і яму захацелась, каб жонка што саткала. А стаў у яго бабы і нямаш. Во дзед і кажа ёй:

— Слухай, сатчы-ка і ты што!

А тая і гавора:

— Добра, родненькі, а ты ідзі ў лес і здзей мне ставы, а то на чым жа ткаць?

Дзед у лес, а баба за ім. Узадралась баба на ёлку, глядзіць за дзедам, як ставы ён дзелае. А тады давай на лес глотку драць:

— А хто ставы капае, у таго жонка памрэць! А хто ставы капае, у таго жонка памрэць!

Дзед слухаў, слухаў, дый думае:

— Гэта ж і мая жонка можа памерці.

Кінуў ставы і дамой. А баба к яму:

— А йдзе ж твае ставы?

Дзед і кажа ёй:

— Чуў я ў лесе ні то птушку, ні то бабу, аднекуль з неба, што хто ставы капае, у таго жонка памрэ. Во я і кінуў ўсё.

А баба і кажа:

— А згарадь яны, гэтыя ставы, жылі дагэтуль, пражывём і далей.

## 321. ГУЛЬТАЙСТВА

Жыла сабе матка з дачкою, мелі засеяно загонаў з некалькі сачэўкі і прыйшла пара яе рваць. Аж матка кажа:

— Не пойдзем, донька, сачэўкі рваць: я старая памру, ты пойдзеш замуж і не трэба нам гэтай сачэўкі.

І не пайшлі. Прыйшла зіма, есці не было чаго, маладая не пайшла замуж, а старая мусіла памерці. Ну, людзі прыйшлі яе хаваць, вынеслі на воз везці, няма чым прыкрыць, так накрыўшы сваімі гарохавінамі:

— Ото ж, — кажуць, — была гультай святая святошка: ні світы, ні сарочкі...

Завезлі і пахавалі. От ніколі не шкадаваўся той, хто працуе, але той, хто лянуецца.

## 322. СЫН ХВЯДОС

Быў у бацькі сын Хвядос. Бацька хацеў яго жаніць, паехаў у сваты, а сыну сказаў паставіць снапоў у восець, каб, знача, раніцой можна было змалаціць. Пайшоў Хвядос стаўляць снапы ды ўвесь ток і спаліў.

Прыязджае ноччу бацька, будзе Хвядоса:

— Пойдзем малаціць!

Той адказвае:

— А чым, калі цапы пагарэлі?

— Як пагарэлі?

— А так.

— Няўжо ж хто зрабіў, сам згарэў і цапы папаліў.

Нечага рабіць. Бацька пабедаваў, пабедаваў, а потым думае: «Ажаню яго, тады можа паразумнее».

Паслаў гэта Хвядоса к папу ў споведзь. Па дарозе ён спатыкае чалавека, той пытае:

— Куды, Хвядос, воліш?

— Жаніцца буду, у споведзь іду!

— Дай бог шчасліва!

— Так і будзець, — адказаў Хвядос.

Прыйшоў у клібанію. Поп пытае:

— Ты жаніцца хочаш? А ці ўмееш пацяры?

Хвядос кажа:

— Не, я іх ніколі не чуў і не бачыў, а есць Кандрат, меншы брат — во дык той на пацяры, як гад!

Ну, поп хацеў ужо яго прагнаць, аж бача: ён нешта трымае.

— Што гэта ў цябе пад палой?

— А гэта я, бацюшка, гасцінца прынёс, троха із быдла, а трохі із збожжа, — і палажыў вянок цыбулі і курыцу.

Паслаў поп Хвядоса са сваёй кабылай на начлег.

— А заўтра, — кажа, — я з табой распраўлюся.

Назаўтра рана прыходзіць Хвядос к папу, надууся і стаіць у кутку.

Поп кажа:

— Чаго ты надууся, Хвядос?

— І ты б надууся, каб на начлезе быў.

— А што там?

— А тое, што тваю кабылу воўкі ўкусілі.

— А ці многа ўкусілі? Будзе жыва?

— А дзе там, застаўся толькі хвост ды грыва.

## 323. НЕ ЗДЗІВІЛА

Жонка будзіць мужа:

— Іван, чуеш: пеўні спяваюць. Уставай!

— Няхай сабе спяваюць, калі ім не спіцца, — адказаў муж, пераварочваючыся на другі бок.

## 324. ДВА ЛАЙДАКІ

— Ты што робіш?

— Нічога.

— А ты што?

— Яму дапамагаю.

## 325. ГУЛЬТАІ ЛАПЦІ СУШАЦЬ

Чатыры гультаі сабіраліся на сенакос. Жонкі выйшлі іх праводзіць. Дайшлі да ракі, а лодкі, каб пераехаць, няма, толькі бервяно паблізу плавае. Нядоўга думаючы, усе чацвёра селі на яго, а каб не перакуліцца, знізу прывязалі сябе аборкамі ад лапцяў. На сярэдзіне ракі бервяно перавярнулася, і ўсе гультаі апынуліся ў вадзе. Адна жанчына доўга ўзіралася, а потым і кажа:

— Зірніце, жанкі: мужыкі нашы яшчэ і да берага не даплылі, а ўжо лапці сушаць!

## 326. ГУЛЬТАЙ

У адной вёсцы жыў гультай. Усё жыццё ён не працаваў, прыкідваўся хворым. Суседзі спачувалі яму і дапамагалі, хто чым мог. Нарэшце, надаела ім карміць суседа. Якая з яго карысць: не працуе, а толькі цэлымі днямі ляжыць на печы, а летам — на сонцы. І вырашылі пахаваць яго жывым. Змайстравалі яны труну, паклалі ту-

ды суседа і панеслі на могілкі. Насустрач ім цар едзе. Здзівіўся ён, убачыўшы ў труне жывога чалавека. Спыніліся людзі і ўсё расказалі цару.

— Няхай ідзе да мяне жыць, — кажа цар. — У мяне ёсць мяшок сухароў, дам яму — няхай есць.

Пагледзеў гультай на цара і пытае:

— А сухары мочаныя?

— Не, — адказаў цар.

— Ну, тады лепш хавайце мяне, — раздаўся голас з труны.

І пахавалі гультая.

## 327. ГУЛЬТАЙ

— Быў калісь у нашым сяле вельмі ляны чалавек, гультай, каторага за тое дражнілі дуб'ём. Раз, калі ён ляжаў на печы не то сумны, не то задумаўшыся, загарэлася хата, а сусед прыбег да й крыкнуў:

— Дубей, твая хата гарыць!

— Ну, — адказвае, — і як ты не ляніўся гаварыць?

## 328. НОВАЯ ХАТА

Жылі-былі тры браты.

Аднойчы іх напаткала вялікае гора: памерлі бацька і маці. Бацькі пакінулі ім адну-адзіную хатку, дый тую старэнькую.

Сумуюць браты, не ведаюць, што рабіць, хата вось-вось разваліцца.

— Э, ды чаго тут бедаваць, — стаў супакойваць сваіх братоў старэйшы, — стук-грук — і вось табе новая хата.

— Цяп-ляп — і печ што трэба стаіць, — заўважыў сярэдні.

— І сапраўды здорава! — схамянуўся самы малодшы. — Здаровы, браты, у новай хаце!

## 329. НЯХАЙ

Алёкса быў вельмі нядбалы, гультаяваты мужык. Суседзі кажуць яму:

— Алёкса, што ты не залапіш дзіркі ў страсе? Бачыш — хата цячэ!

А Алёкса смокча сабе люльку да й кажа:

— Няхай цячэ.

Ці кажуць:

— Алёкса, бачыш — свінні лазяць у агарод.

— Няхай лазяць, — кажа Алёкса.

Пайшоў раз Алёкса ў лес драць луцце, забраўся ў гушчэчу, дзярэ і не бачыць, што стражнік крадзецца. А стражнік ціханька пад-

краўся ззаду да й хап Алёксу за рукі. Круціўся, круціўся Алёкса — нічога не йме: трымае стражнік, як кляшчамі. Давай Алёкса зневажаць стражніка на чым свет стаіць. Слухаў, слухаў стражнік, перш маўчаў, але як стаў Алёкса праклінаць яго матку, не вытрымаў, прывязаў гада да дзерава і ну яго дубасіць луццямі. Паласаваў, паласаваў да й кажа:

— Ну, гад, здыхай тут у лесе, а калі хто трапіць, дык скажы, што цябе прывязаў Няхай.

Пайшоў стражнік, а Алёкса паспрабаваў адвязацца, але нічога не зробіць: вельмі моцна яго ўкрампаваў стражнік. Пачаў гэта Алёкса крычаць на прамілы бог. Ішлі тут дзецюкі, пачулі, што хтось крычыць, і пайшлі па голасу цераз гушчэчу. Падходзяць да Алёксы, пытаюць, хто яго прывязаў, а ён кажа:

— Няхай прывязаў.

Плюнулі дзецюкі і пайшлі далей. Стаіць Алёкса, плача, а тут камарэча апанавала — вочы выядае. Давай Алёкса зноў крычаць, зваць людзей на дапамогу. Пачулі пастухі, думаюць, што мо' каго мядзведзь дзярэ; бягуць туды, бачаць: стаіць Алёкса пад дзеравам ды толькі галавою матае. Зірнулі яны бліжэй, ажно Алёкса прывязаны да дзерава.

— Хто цябе, дзядзьку, прывязаў? — пытаюць пастухі.

— Няхай прывязаў, — кажа Алёкса.

Хацелі ўжо й пастухі пакінуць Алёксу, але ён зноў пачаў крычаць:

— Ратуйце, хто ў бога верыць, адвяжыце рукі!

— Хварэць жа тваёй мацеры, — кажуць пастухі, — чаму ж ты не хочаш, каб цябе развязалі, да ўсё кажаш, што няхай прывязаў.

Адвязалі гэта пастухі Алёксу; ухваціў ён сваю сякерку да й сунуў да гасподы, як воўк. З той пары годзе Алёкса казаць за кожным словам «няхай».

### 330. ПРАЦАВІТАЯ

— Чаго ты ўсё ляжыш і ляжыш на печы; узяўся б за якую работу, гультай ты! — кажа Наталля на свайго мужа.

— А што ж табе шкодзіць, што я ляжу.

— Шкодзіць, не шкодзіць, але калі ты нічога не робіш, дык і мне ападаюць рукі і рабіць не хочацца.

### 331. МАЛО ЕСЦІ

— Ты, бісова сына дочка, па дзесяць разоў на дзень ясі! І хлеба табе не настачыш!

— Дзе ж там па дзесяць разоў! Усяго па тройчы.

— А злічы, сякая-такая!

— Снедала, абедала — раз ела; палуднувала, падвячоркавала — два ела; вячэрала, павячорківала — тры ела. От і ўсё.

## 332. КАБ ЕСЦІ

— Уставайце, дзеткі-галубяткі, уставайце!

— А што там, татка: ці снедаць, ай кашку есць?

— Да не, дзеткі, на яллё трэба!

— Гэ! Яшчэ заранка не зарала, а ён ужо на яллё прэ, каб яму грудзі выперла.

## 333. ТРАФІЎ СВОЙ НА СВАЙГО

Адзін хлопец узлез на гару, з'еў кілбасу, прыйшоў, усё п'е ваду і кажа:

— Цо то за бяда, цо так п' еццa вада?

А брат яго чуў і дамысліўся, так пайшоў, з'еў палову кілбасы і, прыйшоўшы, кажа:

— І мне хочацца вады, бо і я з' еў паўбяды!

## 334. ЯК ЧАЛАВЕК БАБЕ ПРЫЧЫНІЎСЯ

Нясла адна баба яйца ў хустачцы і панчоха ей упала, так гэто ўзяла хустачку з яйцамі ў зубы да й насаджывае, ажно ідзе нейкі чалавек да й пытае:

— Што, бабка, нясеш?

А яна кажа:

— Яйца.

І як разявіла рот, так яйца ўпалі да й пабіліся. Так баба давай клясці, а чалавек пайшоў смеючыся!

## 335. ІГНАЛЁВА СЯКЕРА

Прыйшоў да пана мужык Ігналь прасіць аддаць яму сякеру, каторую адабраў ад яго ляснік дворны, злавіўшы з хвойкай у панскім лесе. У сенцах яшчэ зняўшы шапку і абцёршы нос, уходзіць у канцылярыю, дзе пан нешта пісаў і з пакорай, чуць пераступіўшы парог, кажа:

— Пахвалёны Езус!..

— На векі... А хто там?

— Гэта я, паночку, Ігналь, той самы, што летась прыходзіў з кабылаю абгорваць бульбу, як панская Сіўка кульгала.

— Добра, добра! А чаго ж гэта, што скажаш?

— Хай панская ласка будзе не гневацца, — гэта я, паночку, прыйшоў да пана, як да збаўцы — ужо такі ўсю праўду вылажу, як на талерачцы...

— Ну, добра, добра! Дык чаго ж ты хочаш? Кажы!

— Паночку! Дапраўды, і сам не ведаю, як гэта пачаць, каб не збіцца з панталыку...

— А бадай цябе!.. Гавары бардзей, бо, бачыш, часу не маю!

— Няхай і так будзе! Каб гэта, паночку, хоць калі, каму хто, што і як, знарок, ці не, малавеля, якое, сякое, такое падумаў, сказаў ці зрабіў, дык яшчэ яно ведама было бы, як скуль, калі што і да чаго; але, паночку, каб я ні тых, ні сіх не аглядаў, ніхто, нішто, ніяк, ніколі, нікаму, нічога, ніякага! А ён мне праз нішто, праз ніякае вунь што!.. І за што, паночку, усё тое?..

— Але што і да чаго ўсё гэта?

— Ці пан яшчэ не зразумеў?..

## 336. ЦЕСЦЕВЫ ДАРЫ

Як ажаніўся я, то даў мне цесць у прыданэ торбу з сям'ю перагародкамі, на хлеб і на выхлеб, на пшано і на выпшано, на сіль і на высіль... Та даў яшчэ кабылу таку, шчо як палажыць на воз сем мяшкоў парожніх, то з гары шчэ й бяжыць!

## 337. ГАЛАШЭННЕ ПА ЦЕШЧЫ

У аднаго чалавека памерла цешча. Паехаў ён з жонкаю на пахаванне. Жонка галосіць каля маці, а гаспадар яе стаіць сабе так збоку. Тады жонка і кажа яму:

— Ды паплакаў бы ты па маме, пагаласіў. Няўжо табе не шкода яе?

Падступіў чалавек да нябожчыцы ды давай галасіць.

— А матухна мая, матухна. Бывала ж як прыеду я да цябе са сваёю Маланкаю, дык ты Маланцы сыр са смятанкаю, а мне сыро-ват-ку-у...

— Ну то годзе ж ужо. Чаго ты гэтак разгорніўся?..

## 338. ЗЯЦЬ У ЦЕШЧЫ

Прыехаў зяць да цешчы ў госці. Пасадзіла яна яго за стол, каб пачаставаць. Паставіла гладыш сыроваткі і палажыла іголку. Мачае зяць іголку ў сыроватку і аблізуе. «Вось, — думае цешча, — зяць у мяне добры і пачаставаўся і ўсё цэлае».

Другі раз зноў прыязджае зяць у госці. Цешча паставіла міску смятаны і зноў палажыла іголку і лыжку. Ну, вядомая справа, зяць узяў лыжку. І давай хлястаць смятану. Бачыць цешча, што ўжо канчаецца смятана, дык яна і гаворыць:

— Зяцёк, міленькі, конік паехаў.

А зяць адказвае, не аднімаючы лыжкі ад міскі:

— Хай сабе едзе.

І з'еў усю смятану. На гэты раз зяць перахітрыў цешчу.

## 339. І ТОЕ І ДРУГОЕ

Аднойчы да хцівай гаспадыні прыйшоў госць. Стала яна думаць, як бы эканомней яго пачаставаць. Нарэшце дадумалася: «Спытаю ў яго, што б падрыхтаваць. Магчыма, з-за сціпласці наогул адмовіцца ад пачастунку?»

— Што вам падрыхтаваць: кашу або смажаніну? — спытала яна.

— Ай, падрыхтуйце і тое і другое, не прападзе, — адказаў госць.

## 340. НЕ ЛІЧЫЦЬ

— Еш, кумок, клёцкі. Я ж іх не лічу — сама гатавала.

— Дзякуй, кума, ужо і так чатыры з'еў.

— Няпраўда, кумок, — шэсць.

## 341. ХТО ЗЛОДЗЕЙ?

Жнуць жнеі жыта. Ідзе чалавек.

— Памагай бог усім, — кажа ён, — апроч злодзея!

Устае адна жнея.

— А ліха тваёй мацеры чалавек! — кажа яна. — А ці ты бачыў, як я крала?

## 342. ЖАРТАЎЛІВЫ ЧАЛАВЕК

Быў сабе адзін чалавек, да надто жантурлівы, — пайшоў раз да аднаго сяла і ўчыніўся краўцом. Папрасілі яго ў адну хату, дзе была работа, — накармілі, напаілі дый прынеслі яму сукно — рабіці сярмягу. Ён узяў тое сукно, монтае, монтае дый сам да се гаворыць:

— Што тут рабіць? На два замала, на адзін замнога.

Так гаспадар кажа:

— Пане майстру, гэтага сукна якраз на сярмягу.

А кравец:

— А, дык вы хочаце, каб я сярмягу пашыў? А я думаў — мяшок, бо я сярмягі не ўмею.

Дый гэто за свайго локця, за крэйду дый пайшоў з хаты, не падзякаваўшы, што наеўся і напіўся. От і накроіў!

## 343. АДГАВАРЫЎСЯ

Антось злавіў у сваім свірне злодзея, які выкладаў з кубельца сала. Гэта быў сусед Нупрэй.

— Нупрэй, што ты тут робіш? — спытаўся гаспадар.

— Ката шукаю!

— Якога ката?

— Ну, свайго. Я думаў, што ты яго тут зачыніў, каб мышэй вылавіў.

## 344. «ПОЎЗАЙ!»

Прыйшла адна баба ў карчму. Там за сталом сядзелі п'яныя хлопцы ды гулялі ў карты. Гэта баба ні разу не бачыла карт. Чуе яна, што хлопцы, гуляючы, крычаць «козыр!» — кідалі карту. Выйшла баба з карчмы, перахрысцілася ды кажа:

— Ах, божачка, твая воля! Што цяпер на свеце робіцца! Гэта ж трэба! Возьмуць божачку за ножачку ды плячамі аб столік! «Поўзай!» (козыр).

## 345. ТАННАЯ ШАПКА

Едзе бацька на кірмаш.

— Купі мне, татачка, шапку, — просіць сын.

— Добра, сынку!

Прыязджае бацька з кірмаша. Сустракае сын яго за брамаю.

— Ці купіў, тата, шапку?

— На табе шапку!

— А татачка, а галубчык! Вот хіба шапка! Колькі ты за яе даў?

— Саракоўку.

— Няхай яна згарыць, калі саракоўку!

Узяў сын ды кінуў шапку.

## 346. СОН ПРА ГАРОХ

Адзін мужык вельмі любіў гарох. Сніў ён сон ды сасніў гарох, такі харошы, жоўты, як яечка, да не было чым есці: не было ложкі. Назаўтра, як лажыўся ён спаць, узяў ён пад голаву ложку. Ляжыць ён, і сон не бярэ, усё пра гарох думае. А гароху ўсё няма. Мужык падумаў, што гарох не сніцца, што ложку ўзяў пад падушку.

— Пане грух, пане грух, — кажа ён, — далі бук ложкі няма!

## 347. ПРЫЙШЛА КУМКА ПА МУКУ, А ЖЫГУЛЬКА ЗА РУКУ

Прыйшла кума да кумы, каб памагла вязаць жыта, бо ўжо было не рана, сонца заходзіла, а дома работы гібель: трэба ў печы паліць, свіней карміць, есці варыць, дый дзеці плакалі.

— Памажы, — кажа, — кумка, звязаць жыта.

— Я ж, нябож, галубка, памагла б, але ж калі жыгулькі вельма колюцца.

І не памагла. І зімою прыходзіць яна к куме.

— Дай, — кажа, — кумка-галубка, мукі.

— Ага! Прыйшла, кумка, па муку, а жыгулька за руку!

## 348. ДОБРА, ШТО НЕ Ў ВОКА

— Карусь, Карусь! Бяда! Вятрак забіў твайго хлопца!

Прыбег Карусь. Ляжыць яго сын забіты насмерць.

— А, шчэ дзякуй міленькаму богу, што ні ў вока: сляпым бы трэба было класці ў труну, — сказаў, паглядзеўшы, Карусь.

## 349. КАБ ЦЯБЕ ВАЎКІ З'ЕЛІ!

Ехаў чалавек на поле араць.

— Ну-у-у! — крычыць ён на каня. — Ну-у! Каб цябе ваўкі з'елі!

Толька што ён сказаў гэта, выскаквае з лесу воўк. Схапіў каня за горла і задушыў.

Пабедаваў чалавек, пабедаваў, ну, на том і кончыў. Купіў ён другога каня. Запрог яго ў воз — кепска цягне.

— Ну! Каб цябе... але не скажу!

## 350. НЕ БОЙСЯ

Ідзе шавец. Устрачае ён чалавека. А чалавек той заікаўся.

— Скажы ты мне, браце, куда ідзе гэта дарога? — пытае шавец у заікі.

— Гггэта дарога...

— Дурны ты: ты мяне не бойся, гавары са мною, як з простым чалавекам.

## 351. КРАВЕЦ КАНДРАТ

Ідзе п'яны кравец. Ідзе ён да ніяк не знайдзе свае хаты.

— Скажы, брат, дзе тут жыве кравец Кандрат? — пытае ён у другога чалавека.

Той пазірае яму ў вочы. Думае, што кравец с ума сышоў.

— Ты ж сам Кандрат-кравец.

— Я не пытаю ў цябе, хто я. А ты мне скажы, дзе я жыву!

## 352. ХОЧАШ ГАДУЙ, ХОЧАШ ПАСІ

Купілі нейк суседзі маленькае парася на кірмашы і дамовіліся, што гадаваць яго будуць разам, а калі заколюць, дык падзеляць мяса і сала па-роўнаму.

Вось прыйшоў адзін пасля нейкага часу і кажа:

— Чуеш, Мікола, ты як хочаш: хочаш гадуй сваю палавіну, хочаш пасі, а я сваю палавіну калю.

## 353. ДАМОВІУСЯ

Прыехаў дзядзька з вёскі ў горад. Захацелася яму ў мяккай каламажцы праехацца. Падыходзіць ён да рамізніка і пытаецца:

— Колькі возьмеш за дзве вярсты праезду?

— Чатыры грыўні.

— Ці ты здурнеў? Дай я сяду на тваё месца, дык і бясплатна цябе павязу.

## 354. БАЧЫУ, ЯК ПАН ЕУ

— Абаранкі, — кажа хлопец, — з параным малаком вельмі смачныя.

— Хіба ж ты еў?

— Я сам не еў, але дзядзька казаў, што бачыў, як пан еў.

## 355. «ПАКАШТАВАУ»

Селянін прыехаў з гораду і кажа свайму суседу:

— От жа ў горадзе смачныя булкі!

— А ты каштаваў?

— Ды не, я якраз бачыў, як адзін паніч еў.

## 356. ШВАЧКА

— Шыеш, дзяўчына?

— Шыю!

— А пароць хутка будзеш?

— Ды вось толькі нітачку дашыю!

## 357. БЕЗ ЗМЕН

— Дзядзька Ігнат, як ваша здароўе?

— Дзякуй. Хоць мне і пад семдзесят, а здароўя не страціў. На гародзе ў мяне ляжыць камень, якога трыццаць год таму не мог падняць і цяпер не магу.

## 358. РАЗВАЖЛІВЫ ПАХОМ

У нашай вёсцы пра Пахома гаварылі, што ён на пуза плячысты. Любіў ён пасядзець за сталом, ды не за пустым.

Хоць марозіла ўжо добра, але снегу яшчэ не было. За садамі адразу пачыналася возера. Там малады і роўны лёд свяціўся, як люстранае шкло.

— Дзядзька Пахом! — ускочыў у хату суседскі хлапчук Моцька. — Ваша рагуля расчахнулася на лёдзе. Ляжыць і раве.

— Хутчэй, Пахом! — закрычала жонка, ды сама з хаты бягом.

— Калі яна ўжо расчахнулася, то няхай сабе паляжыць, — разважліва сказаў Пахом. — Трэба даснедаць, а то пакуль збегаеш на тое возера, то і бульба астыне...

## 359. НА КІРМАШЫ

Баба ў падзёртай вопратцы:

— Колькі каштуюць гэтыя гусі?

— Навошта пытаешся? Усё роўна не купіш.

— Няўжо беднаму чалавеку і запытацца не можна? Нават гэтай прыемнасці перад святам не даюць.

## 360. ТРЫ БРАТЫ

Жыло сабе тры браты, так багаты яны былі — і не ўмелі яны папанскаму балакаць, а як бажалася ўмець! От, і пайшлі яны да панскага будынка слухаць, як паны балакаюць. Найменшы брат падбег пад вакно, та й пачуў два словы:

— Это мы!

Сярэдні падбег, пачуў багато:

— Ні за сё, ні за то!

Старшы падбег, пачуў:

— Так таму і быць!

От і пайшлі яны. Ідуць — аж мёртвы чалавек на шляху ляжыць. Сталі і дзіўляцца на яго. Калі тут станавы ідзе та зараз да іх:

— Цэ вы, — кажэ, — убілі чалавека?

А браты й думаюць: «Як жэ з ім балакаць? Ужэ ж з станавым трэба па-панскаму?» Зараз меншы і пачынае; знаў ён толькі два словы, зараз іх і кажа:

— Это мы! — кажэ.

А станавы:

— За шчо ж вы яго ўбілі?

Сярэдні брат кажэ:

— Ні за сё, ні за то!

А станавы як крыкне:

— На Сібір жэ вас!

А старшы брат:

— Так таму і быць!

І паправадзілі тых братоў на Сібір.

## 361. ЖАЛАСЛІВЫ КАНАКРАД

Трапіў канакрад у турму. У яго спыталі:

— Ну, за што ты сюды трапіў?

— За жаласлівасць. Было ў гаспадара два кані. Адзін — слабы, а другі — добры. Дык я не захацеў гаспадара крыўдзіць і забраў яго слабога каня. А ён сеў на добрага і дагнаў мяне.

## 362. РАЗУМНЫ ХЛОПЕЦ І НЕДАГАДЛІВЫ ЗЛОДЗЕЙ

У аднаго маладога хлопца, лет, можа, асімнаццаці, укралі каня. Ён пайшоў на кірмаш, думаючы, альбо можа найдзе таго, што ўкралі. Прыйшоўшы на кірмаш і доўга выглядываўшы, найшоў свайго каня. Тут ён схапіў яго за грыву і спытаўся:

— Чый гэта конь?

Адзін адазваўся (той самы, што ўкраў), што то яго конь. Тады хлопец закрыў вочы каню і сказаў:

— А дзе ж ты яго ўзяў?

А ён кажа, што купіў.

— Калі ж ты яго купіў, то скажы, на якое вока ён сляпы?

Злодзей, яшчэ не ўспеўшы разгледзець каня, сказаў, што на лева. Хлопец адкрыў каню левае вока. Злодзей спахваціўся і сказаў, што ён абмыліўся і што конь сляпы на правае вока. Хлопец адкрыў правае вока і паказаў, што конь быў не сляпы. Тады людзі, быўшыя тут, узялі злодзея пад арэст, а хлопцу, пахваліўшы за яго растаропнасць, аддалі каня.

## 363. У СУДЗЕ

С у д д з я. Ці ведаеш, што гусі дрэнна красці?

З л о д з е й. Але, ведаю, пане суддзя! Яны вельмі крычаць.

## 364. У ФЕЛЬЧАРА

— Вось, цётка, будзеш даваць гэта лякарства свайму старому па дзесяць лыжак у дзень.

— А божа ж мой! Дзе ж я вазьму столькі лыжак. У мяне іх толькі чатыры.

## 365. НА ХВІЛІНКУ

Перад святам гарадавы заўважыў нейкага дзіўнага чалавека, які ад раніцы да вечара стаяў перад магазінам моднага адзення.

— Хто вы такі? — падазрона спытаў гарадавы.

— Я — спакойны чалавек.

— Дык чаго стаіце цэлы дзень каля магазіна?

— Чакаю жонку. Зайшла на хвілінку па капялюш...

## 366. СЛАБЫЯ ЗУБЫ

— Мусіце прымаць жалеза,— радзіць доктар.

— Ах, пане доктар! — кажа, збедніўшыся, хворая.— Я маю такія слабыя зубы, што ледзьве хлеб магу жаваць.

## 367. САКРЭТ

Ішоў адзін чалавек, а насустрач яму кум.

— Што вязеш, куме?

Кум злез з воза, падышоў і на вуха шэпча:

— Авёс.

— А чаму ты мне па сакрэту гаворыш?

— Каб конь не пачуў.

## 368. ПАВЕДАМІЎ

Ідзе хлапец ля става, пасвіствае. Калі бачыць — нейкі незнаёмы рыбу ловіць.

— Дзядзька! — гукнуў хлапец.

— Цыц. Не лякай рыбы!

Недзе праз паўгадзіны хлапец зноў:

— Дзядзьку!

— Я каму кажу, змоўкні. І так не клюе.

Мінула гадзіна, другая. Нічога і не злавіў рыбак. Ужо збіраючыся дамоў, спытаў у хлапца:

— А што ты хацеў мне сказаць?

— Ды хацеў сказаць, што ў гэтым стаўку ўжо дзесяць год рыбы няма.

## 369. ДБАЙНЫЯ КУМЫ

Паехалі два кумы ў канцы зімы на кірмаш. Аж тут раптам дождж. А яны ў кажухах. Ну, хоць плач, так ім адзежы шкода. Раптам адзін крыкнуў:

— Кум, я прыдумаў! Давайце памяняемся кажухамі. Вось тады вам не будзе шкода майго, а мне вашага...

## 370. «ГЭТА НЕ МАЕ НОГІ...»

Адзін чалавек купіў на рынку новыя боты і зараз жа абуў іх, скінуўшы старыя атопкі. Па дарозе дамоў заглянуў у піўнушку і замачыў пакупку, як след, а потым падаўся па дарозе дахаты. На паўдарозе яго зусім разабрала і ён зваліўся спаць, выцягнуўшы ногі на дарогу. Неўзабаве на дарозе паказалася падвода.

— Прымай ногі з дарогі, бо перадушу,— крычаў фурманшчык п'янаму.

Той прыўзняў галаву, глянуў на свае ногі і сказаў:

— Едзь смела, гэта не мае ногі, мае ногі ў ботах, а гэтыя босыя.

## 371. ЯКАЯ КУПЛЯ, ТАКАЯ І ПЛАТА

Увайшоў мужык у краму дый гукае да крамара:

— Ану, падай мне во той слоік з цукеркамі.

Той падаў. Мужык панюхаў-панюхаў ды:

— Не, не такі! Падай во той!

Той мяняе. Мужык зноў, панюхаўшы, не адобрыў.

— Падай вон аж во той! — зноў гукае.

Крамар ужо раззлаваўся, але перамяніў і трэці. Не данюхаўся і адсюль нічога мужык, паставіў слоік ды выходзіць з крамы. Узяла злосць крамара, што дарма траціў колькі часу, дый крычыць на мужыка:

— Куды ж ты, а грошы давай!

— За што? — пытае мужык.

— А за тое, што нюхаў!— адказвае крамар.

Мужык вярнуўся, дастаў грошы з кішэні дый стукае аб пол. Пастукаў, пастукаў дый схаваў. А крамар тады:

— Навошта ж ты схаваў грошы?

— А як жа,— адказвае той,— якая купля, такая й плата: я панюхаў, ты паслухаў, вось і квіты!

## 372. ЯКІ СЁННЯ ДЗЕНЬ?

— Іван, які сёння дзень? — спытаў сусед суседа.

— А чорт яго ведае! Давай палічым: у панядзелак мы аралі, у аўторак у нас валоў пакралі, у сераду мы іх шукалі, у чацвер не знайшлі, у пятніцу ў карчму зайшлі, а ў суботу дамой прыйшлі. Дык, бадай, нядзеля...

## 373. СВЕЖАЯ КАПЕЙКА

— Быў на базары?

— Быў.

— Што ж ты купіў?

— Казу.

— Колькі даў?

— Сем коп.

— Дзе ж яна?

— Да прадаў.

— А за колькі?

— За пяць коп.

— Навошта ж столькі страціў?

— Нічога, што страціў, абы свежая капейка.

## 374. ПРА КУМА І КУМУ

У адной вёсцы жыў кум Дзям'ян і кума Алена, а кумову жонку звалі Тэкля. Аднаго разу кум Дзям'ян дагаварыўся з кумой Аленай, што ён прыйдзе да яе нанач. Алена сагласілася. Яны дагаварыліся сустрэцца ў паветцы на сене. Алена рашыла ашукаць Дзям'яна. Яна пайшла да Тэклі і аб усім расказала. Калі наступіў вечар, Дзям'ян, павячэраўшы, сабраўся на начлег, а пра сустрэчу з кумой Аленай таксама не забыўся. Выехаў Дзям'ян на вуліцу, коні аддаў хлапчукам, якія навыперадкі ехалі за вёску, а сам да кумы. Дзям'ян пайшоў вуліцай, а Тэкля, яго жонка, агародамі ды ў паветку на сена. Дзям'ян узяў з дому торбу круп, мукі, добры кавалак сала і кола каўбасы. Усё гэта ён падрыхтаваў заўчэсна. Прыйшоў у паветку і шукае кумы Алены, а яна спіць сабе дома з сваім Габрусём і ў вус не дуе, а ў паветцы спіць яго жонка Тэкля. Тэкля спіць х-х-х, а ў паветцы цёмна-цёмна. Вось Дзям'ян адшукаў сваю жонку Тэклю, а думае, што гэта кума. Аддаў ён плату і прыступіў к дзелу, гладзіць жонку па голых нагах і прыгаварвае:

— Кумачка мая, любачка мая.

Калі Дзям'ян скончыў, жонка ў яго пытае, змяніўшы голас:

— Ну як, ці лепшая як у тваёй жонкі?

Дзям'ян кажа:

— Кумка мая, любка мая, у маёй жонкі дык і ў першую ноч такая не была, адны толькі косткі.

А жонка слухала-слухала ды і загаварыла сваім голасам. Дзям'ян выйшаў з паветкі і пайшоў на начлег, а Тэкля дамоў, забраўшы заработак.

Раніцай Тэкля ўстала, напякла бліноў, спякла каўбасу і чакае Дзям'яна, а Дзям'ян прыехаў з поля, ходзіць па двара, а ў хату не ідзе. Тэкля пазвала яго снедаць. Дзям'ян сеў есці і шапку не здзеў. З'еў трошкі і ўздыхнуў, а Тэкля кажа:

— Ешця, ешця, я ж зарабіла.

## 375. «ЦУД»

Бабулька Тэкля расказвае пра вялікі цуд, які яна сама бачыла:

— Было гэта даўным-даўно. Сяджу аднойчы адна дома і раптам з'яўляецца старац. «Я,— кажа ён,— цудатворац і магу вам сказаць, што праз некалькі хвілін загарыцца ваш дом». Я перапалохалася. «Што хочаш бяры, толькі зрабі, каб гэтага не здарылася». І што ж вы думаеце — дом не загарэўся...

## 376. НЕ СТРЫЖАНО, ДА ГОЛЯНО

Была ў еднаго мужыка жонка вельмі праціўна, здумалі сабе праціўіцца. Яна ўсё кажэ: стрыжэно, а ён усё, цо голяно.

Выйшло яму з цярпення, дзе трэба ёй пераходзіць па кладцэ рэчку, ён узяў, падрэзаў кладку, чы, як яна ўпадзе ў воду, будзе праціўіцца, чы не? Баба ішла, кладка зламалася, яна бухнула ў воду і топіцца, а ён выскачыў і крычыць:

— Голяно, голяно!

А яна высадзіла руку з вады і стрыжэ пальцамі на знак, што стрыжэно, і ўтапілася. От якая баба ўпарчыва: топіцца заўсім, а такі сваё.

### 377. УПАРТАЯ ЖОНКА

Прынесла жонка есці мужыку, а ён касіў. Ён кажыць:

— Ідзі, тапіся, але выгаліў.

А яна кажыць:

— Як выстрыг, а не выгаліў.

Ну і гэтак паспорылі. Яна сказала, што пайду ўтаплюся, але як выстрыг.

— Ідзі, тапіся, але выгаліў.

Яна пайшла ў балота, залезла па пояс у балота і крычыць:

— Выстрыг!

А ён:

— Выгаліў!

Яна залезла яшчэ глыбей, аж з галавой схавалася, алі падняла два пальцы і паказвае, што выстрыг, а ён крычыць:

— Выгаліў!

Дык яна ўзяла ды ўтапілася. А ён не пайшоў яе ратаваць.

### 378. ВЯЛІКІ ЧЫН

— Твой сын у маскалёх? — пытае дзед старой бабы.

— Але! І не простым ён салдатам служыць, а такога чыну дабіўся, што ўсе яго слухаюць.

— Значыць, ён унтар?

— Куды вышэй!

— Фальдфэфель?

— Э, яшчэ вышэй: барабаншчык.

### 379. «ДОБРА БЫЛО Б...»

Ішоў адзін чалавек ноччу дамоў. А мароз на дварэ страшэнны. Зайшоў ён у адну хату пагрэцца. Бачыць, ляжыць бабка на печы. Чалавек і кажа:

— Ну і мароз на двары.

А бабка з печы гаворыць і кашляе:

— От каб да гэтага марозу ды вецер, добра было б.

Чалавек, не доўга думаючы, адказвае:

— От каб да твайго кашлю ды колькі ў бок, вось добра было б.

## 380. ЦІ ПАІЎ КАНЯ?

— Ці паіў ты каня?
— Паіў.
— А чаму морда сухая?
— Бо вады не дастаў.

## 381. У ЯКУЮ СТАРАНУ?

Адзін дзядзька не ўмеў запрагаць каня, узяў ды паставіў яго задам напярод у аглоблі, мордай да воза.

А другі кажа:
— Ты ж няправільна запрагаеш.
Дык той:
— Адкуль ты ведаеш, у якую старану я паеду?

## 382. БАЦЬКАВЫ ШТАНЫ КАРОТКІЯ

— Чаму ты не арэш?
— Бо малы.
— А чаму штаны кароткія?
— Бо бацькавы.

## 383. ЧЫМ ЧАСТУЮЦЬ НЯПРОШАНАГА ГОСЦЯ

Няпрошаны госць просіцца ў госці:
— Пазаві мяне ў госці.
— Прыходзь.
— А чым пачастуеш?
— Чым вароты падпіраюць.

## 384. ПРА МАРКУ І ВАРКУ

Улетку заўсёды працы многа, трэба і палоць, і жаць, і касіць. Дак усе людзі працуюць, сена нарыхтоўваюць, а Марка не спяшаецца. Прыйшла зіма, запрог ён каня ў сані і паехаў пад чужы стог. Паймалі яго людзі і вязуць, а ён апраўдваецца:

— Я сам Марка, а жонка мая Варка. Дык мне касіць жарка, а зімой мароз, дык я паклаў воз і павёз.

## 385. ДАЧКА І МАЦІ

Дачка да маці: «Добра табе, мама, было замуж за тату ісці, а мне патрэбна за чужога чалавека».

## 386. ЯК МУЖЫКІ Ў ГОРАД ЕЗДЗІЛІ

Заехалі ў горад, паглядзець горада, ніколі не былі. Ну, заехаўшы ў горад, значыць, зайшлі ж і ў цыятр. Там абіз'яну ўгнявілі, угнявілі абіз'яну, яна ім фігі надавала.

— Ай,— кажа,— брат ты мой, пайдом. Во грошы заплацілі, дрэнь была, дрэнь і будзе і яшчэ фігаў надавалі.

Ідуць, сядзіць генерал стары, адстаўной, сівы.

— А,— кажа,— бачыш, там фігі давала і тут сядзіць.

За пугу і давай шалёстаць гэтага генерала. Генерал у свісток, гарадавыя сюды, забралі, у суд. Ну, суд прысудзіў. Генерал гэты, значыць, зная, што гэта дзеравенскія мужыкі, піша суду, што я прашчаю гэтым дураком. Суд аб'яўляе, што генерал такой-то і такой прашчаіць вам дураком.

— А што, брат ты мой, вам казаў, дрэнь была, дрэнь і будзе. Но і пойдзем.

— Стой, калі так. Назад.

Па трыццаць усыпалі.

— Ну,— гаворацць,— цяпер ідзіце.

— Во, брат ты мой, я і казаў.

— А што?

— Дрэнь была, дрэнь і будзе. Во, кажу па двох узялі і пойдзем.

## 387. «МУДРАСЦЬ» ГАРАЧУКА

Ехаў гарачук з Пінска, падвозіў падарожнага. Заставалася да яго хаты кіламетры два. Ён звярнуў убок, расклаў агонь і пачаў варыць абед. Падарожны здзівіўся, што ён збіраецца абедаць тут, а не дома, і гаворыць яму:

— Чаму ж вы хочаце абедаць тут, а не дома?

— Эх, дарагі панок. Мала што можа дома быць. А калі хата згарэла, быдла здохла, жонка памерла? Тады ж будзе не да абеду. А як цяпер пад'ем, дык будзе добра, лепш жа, чым галоднаму.

## 388. БАБУЛЯ І ПОЕЗД

Вёз дзед бабу ў горад. А яна яшчэ далей сваёй вёскі нідзе не была, нічога ў свеце не бачыла. Якраз ішоў поезд. Баба, як пабачыла, здзіўлена запытала:

— І куды ж гэта сяло пераязджае?

## 389. ЗНАХОДКА БАБКІ

Адной старэнькай бабцы стукнула сто гадоў. Які ўжо ў яе розум? Здзіцянела, ведама.

Аднойчы гуляла яна з дзецьмі ў вяселле. А там якраз ехаў па-

ніч і згубіў грошы. Бабка падняла партфель, павымала грошы і пачала клеіць іх на сценку; намочыць паперку і прыклеіць, паглядзіць, што хараша (а грошы новенькія), і далей наклейвае.

Спалохаўся паніч і пачаў шукаць грошы, падняў на ногі паліцыю. Прыходзяць да дзяцей і пытаюць:

— Вы не бачылі, хто знайшоў грошы?

— Бачылі, наша бабуля.

Прыйшлі яны да бабкі.

— Калі ж ты, бабка, знайшла грошы?

— А тады, як было вяселле маё.

Пагдядзелі яны на бабку, падумалі, што гэта было яшчэ ў яе маладосці, і пайшлі.

Так і засталіся грошы ў бабкі.

## 390. ПРА БАГАЦЦЕ І БЕДНАСЦЬ

Ішоў чалавек бедны. Глядзіць — заяц! Не меў чым нажыцца — думае: «Я зайца злаўлю, прадам да свінню куплю. Свіння прывядзе дванаццаць парасят — дванаццацера шчэ па дванаццаць. Тады свінню закалю, мяса насалю — буду жаніцца! Шмат мяса! Будзе што есці. Да жонка народзіць два сыны. Яны будуць сабе мець падданых — наказываць будуць, біць людзей. А я скажу — не рушце, не бейце! Бо нам кепска даўней было».

Як гукнуў, так зайчык усхапіўся і ўцёк. І багацце яго пабегло.

## 391. ДУМЫ МУЖЫКА-СТРАЛЬЦА

Быў стралец. Прыйшоў ён у лес, глядзіць — заяц на кусце спіць. Дастаў ён з кішэні сваю табакерку дый трасець на руку табак, а сам думаець: «Што я з гэтым заінькам здзелаю? Вазьму я яго заб'ю, кожу з яго здзяру, гавядзіну ў дзежку, кожу прадам. То не малыя дзеньгі будуць, вялікія. Што я за тыя дзеньгі куплю? Куплю я курачку, тая курачка нанясець яец. Пасаджу курачку, йна выведзець цыплянятак: то не малыя дзеньгі будуць, вялікія. Петушкоў пакаплуню, а курачак так папрадам: то не малыя дзеньгі будуць, вялікія. Што я за тыя дзеньгі куплю? Куплю я авечку і барана. Тая авечка акоціць ягнятак. Барашак спакладаю, авечак так прадам: то не малыя дзеньгі будуць, вялікія. Што я за тыя дзеньгі куплю? Куплю я семя і лёну і кораб, паеду на мора купчаваць. Куплю я вотчыну і буду подаці браць. Прыйдзе мужык атпрашываць, скажыць:

— Паночак, будзь, пан, ласкаў! Падажджы — аддам з падзіньчаваннем.

— Вон, мужык,— да выкрыкнуў так, што заяц іспугаўся і ўшоў.

## 392. БЕЗ ПРАТЭКЦЫІ

У Віленскую гарадскую думу прывялі барана, каторага злавілі, як бадзяўся па вуліцы. Калі яго ўводзілі ў браму, сабралася гэтакая грамада народу на вуліцы, што ажно дагэтуль сонны гарадавы схамянуўся:

— Чаго пхаешся,— крычаў ён,— не бачылі барана!

— Так то так,— адказвае на гэта адзін панок з грамады,— але гэта першы баран, каторы трапіў сюды без пратэкцыі.

## 393. ХІТРА БАБА

Прадавала адна баба масла, а было яно такое бруднае, што аж рабое. Падыходзіць да яе нехтась дый пытае:

— Чаму гэтака рабое масла?

— Ляньцеся! — кажа.— Бо ад рабой каровы! От пытае, бы то сам не знае!

## 394. ДОБРАЯ РАДА

— Ах, як я люблю дзяцей, але чужых.

— Ну, то ажаніся са Скакушанкай, то яна ўжо пастараецца, каб было іх у цябе поўна.

## 395. У ВАРАЖБІТКІ

— Дык я буду мець багатага мужа?

— Але, але. А калі дабавіце залатоўку, дык муж будзе яшчэ багацейшы.

## 396. ДОБРЫЯ ДЗЕЦІ

— Пане, вашы дочкі — гэта праўдзівые анёлчыкі.

— Так, так, кожны з вас гэтак кажа, а чаму ніводзін з імі не жэніцца?

## 397. ВЫКРУТ

— Мой дарагі, пазыч мне 5 рублёў.

— З ахвотай даў бы, але не маю пры сабе.

— А дома?

— Дзякую, усе здаровы! І... бывайце здаровы.

## 398. НА ВЫБАРАХ

— Ваша бродзіе, куды класці шарык-то?

— Пагадзі, барада, будзе сказана!

## 399. ЯК СТАРЦЫ ЗА МАЛАКО БІЛІСЯ

Ішлі па грэблі два старцы. Бачаць: хатка за лазняком.

— Зойдзем вунь у тую хатку,— паказвае кіем на саламяную страху адзін старац,— там мне дадуць малака. Ну і вып'ю ж!

— А вось і не вып'еш, я вазьму ды пасалю тое малако,— кажа другі.

— Пасоліш?

— Пасалю!

— Дык я цябе вось гэтым кіем тады!

— А я ўцяку.

— Я даганю.

— Не, ты не дагоніш, бо я маладзейшы.

— Ах, не даганю,— раззлаваўся старац,— дык я апераджу цябе пакуль ты не ўцёк,— і з усяго маху перацяў свайго дружбака кіем па спіне.

Дружбак не стрымаўся і даў здачы. І такая бойка завязалася на грэблі між старцамі, што людзі ледзьве іх разбаранілі.

Зайшлі старцы ў тую хату, што за грэбляй відна была, а там у гаспадара і каровы няма.

## 400. КРУГЛАЕ СЛОЎЦА

Аднаго дурнаватага жаніха сваты доўга вазілі з вёскі ў вёску, нідзе не маглі нявесты яму высватаць. Варта было жаніху толькі слова сказаць, як бацькі маладухі бачылі, што перад імі сапраўдны дурань і давалі сватам ад варот паварот.

— Ты не мялі языком абы-чаго,— павучалі сваты жаніха перад чарговым сватаннем.— Як зойдзеш у хату, рукі з кішэняў вымі, падумай дый скажы што-небудзь такое, ведаеш, круглае, каб і дзеўцы спадабалася, і бацькам яе. Тады і сватанне лёгка пойдзе.

Жаніх паслухаўся сватоў. І калі зайшлі ў хату да новай нявесты, зрабіў так, як яго павучалі — рукі з кішэняў выняў і пачаў паважна па хаце пахаджваць. Паходзіць, падумае, дый слоўца круглае скажа.

— Кола... Пярсцёнак... Абруч... Сіта...

Глядзелі-глядзелі бацькі нявесты на жаніха дый далі сватам зноў ад варот паварот.

## 401. НЕ ЗМОЎЧАЛА

Да адной картавай дзяўчыны, якую доўгі час абміналі ўсе жаніхі, нарэшце прыехалі сваты. Былі яны з другой вёскі, а таму і не ведалі, чаму дзяўчыны гэтай замуж ніхто не бярэ. Каб раней часу сваты не даведаліся пра дзявочую ганьбу, бацькі загадалі дачцы маўчаць, рота нават не раскрываць. Дзяўчына і маўчала цярпліва,

аж пакуль з запечча не выціснулася курыца і не ўзляцела на шастак, дзе віселі дзявочыя ўборы. Убачыла гэта дзяўчына і на бацькоў наказ забылася. Закрычала:

— Акыш, каб ты здохра!

Успомніла, што бацька наказваў ёй, каб маўчала, і пачала тут жа апраўдвацца:

— Кот градышкі паабарачваў, я маўчара. Мышы мяшок з жытам прагрызры, як маўчара. А як курыца на ўборы мае стара, я не змаўчара...

Сваты засмяяліся, забралі свае пірагі — ды з хаты.

## 402. ШЫЛА Ў МЯХУ НЕ ЎТОІЦЦА

Было ў шляхты тры дочкі. Яны брыдкую вымову мелі. Раз мелі прыехаць да іх сваты. Дык маці кажа:

— Вы, дачушкі, нічога не гаварыце. Я за вас усё буду гаварыць.

Ну, добра. Яны паселі. Анно ж прыязджаюць сваты. Маці гаворыць, гаворыць, потым выйшла, а кот малако давай піць. Так найстарша кажа:

— Апстрык!

А сярэдняя:

— А то ж табе маці казала, каб ты мірчала!

А найменша, ужо знябожыўшыся, кажа:

— А я мірчу!

— Хай вас,—ка,— ліхо пабярэ, не мы будзем браць.

Да й параз'язджаліся. От табе і намаўчалі доўга. Праўду людзі кажуць, што шыла ў мяху не ўтоіцца.

## 403. МАНТУЛЮ, КОТ ПЯЧЭННЕ МЯНТУЕ

Было сабе ў аколіцы дзвюх дзяўчат. От такіх, як той казаў, што «ні гловы ні мовы». Ну, так то аднаго разу мелі да іх прыехаць сваты. Маці кажа:

— Вы не адзывайцеся, дзяўчата, я ўжо за вас усё буду гаварыць.

— Добра.

Тыя прыехалі. Спякла яна пячэнне, паставіла на шафцы, недзе адхілілася, а кот гоц! І давай тое пячэнне аплятаць. Так адна кажа:

— Мантулю, мантулю, кот пячэнне мянтуе!

А другая:

— А я бенда мінчала, мінчала, жэб менжа достала!

Дык тыя гэта сабраліся да й паехалі.

## 404. КАРТАВЫЯ ДОЧКІ

Былі ў мацеры тры дочкі, да вельмі няўдалыя да яшчэ і картавыя, так што ніхто не хацеў іх браць замуж. От адзін раз прыехалі к ім сваты. Маці спякла яечню частаваць свата, а дочак пасадзіла на печ і сказала, каб яны нічога не гаварылі, і сама выйшла ў сенцы. А кот прыбег да і стаў есці яечню. От большая і закрычала:

— Маці, а маці! Кот мяркечню есць.

А другая гаворыць:

— А падла, а табе маці казала мярчаць.

А трэцяя гаворыць:

— А я добрэ істо і ўмярцала.

Услышаўшы гэта, ушлі і паследнія сваты.

## 405. ЮРКА-ПІСАР

Сышліся хлопы і зачалі гаварыць, каб на аканома скаргу напісаць да пана, а адзін адазваўся, што ўмее пісаць. Узяў паперку і зачаў пісаць, а другі глядзіць і кажа:

— Юрка! Юрка! Кепска будзе, не так пішаш, як аканом: ён, як на авёс піша, так дробна садзіць, а як на вала ці на барана, то піша, піша і закруціць; піша, піша і закруціць. Ой, Юрка! Юрка! Кепска будзе, нядобра будзе.

Як пачуў аканом гэта, так сеў на каня і паехаў да пана і пераказаў усё пану.

Прыйшлі да двара, шапкі паздымалі, а пан, як убачыў іх, так выйшаў на ганак. Яны зачалі рукі, ногі цалаваць пану і падалі паперу гэту. Пан глянуў на паперку, што нічога ж няма напісана, так кажа на аканома:

— Як ты іх добра знаеш, іхняе пісанне, то, можа, пазнаеш, што яны тут пішуць?

Так аканом узяў паперку ў рукі і зачаў чытаць, што Юрка прывядзе вала пану гасцінца, што Юзук барана для пана даруе, Янук карову прывядзе для пана гасцінца, Вінцук дзесяць фунтаў воўны прынясе для пана дараваць, што Імпаліт піроғ прынясе.

А пан усё да кожнага адвернецца і пытае, ці праўда, а кожны кажа, што прывядзём, прынясём; пан кожнаму дзякуе.

Як ужо ж выйшлі хлопы за варота, як накінуцца на Юрку, што ён сказаў, але не сабака брахаў, што ўсё піша, піша і закруціць, піша, піша і закруціць, што гэта на вала і на барана так аканом піша.

— Як ты пішучы закруціў, каб так цябе закруціла!

## 406. ХТО ПІСАРАМ?

Сяляне адной вёскі рашылі вылучыць на пасаду валаснога пісара чалавека са свайго асяроддзя. А дзе адукаванага ўзяць? Быў адзін,

які паўзімы хадзіў у царкоўна-прыходскую школу. Звярнуліся да яго.

— Ды я ж і чытаць не навучыўся ў той царкоўнай школе,— адмаўляецца хлопец.

— Гэта нічога, што чытаць не ўмееш,— кажуць сяляне,— галоўнае, каб пісаць мог.— Ты ж пісарам будзеш.

## 407. МУЖЫЦКАЯ ЗАГАДКА КАРАЛЮ

Аднаго разу чалавек вёз фуру дроў, напаткаў яго кароль і пытае.

— Дзе павязеш?

— Вязу прадаваць.

— А што ты за іх возьмеш?

— Дваццаць грошы.

— Што ты з іх зробіш?

— Пяць аддам, пяць пазычу, пяцьма жонку жыўлю, пяць у воду пушчу.

І раз'ехаліся. Кароль надумаўся, што та за загадка, наззываў сваіх падданых, але яе ніхто не адгадаў, аж знайшоў таго самага чалавека, і той яму растаўкаваў:

— Пяць,— кажа,— на радзіны, пяць на дзеці, пяць для сябе і для жонкі, а пяць на падатак.

## 408. КУПЕЦ І ЗЛОДЗЕЙ

Усім вядома: злодзей хоча больш украсці, а купец за дарэмна купіць.

...Справа была ноччу.

Злодзей украў авечку і прыпёр яе купцу.

— Вось табе авечка! Толькі грошы на месцы!

— Мо заўтра? — сказаў купец.

— Не, толькі сёння, ты сам разумееш, украдзеная.

— А колькі?

— Ды тры рублі.

— На! А дзе авечка?

— У сенцах.

Назаўтра купец паглядзеў. У мяшку быў папоўскі вялікі сабака. Сустрэўшы злодзея, купец сказаў:

— Аддай грошы, ты ж сабаку мне прынёс.

— Я табе авечку прынёс. Трэба было глядзець добра. Дурні ў жарты не гуляюць,— сказаўшы так, злодзей пакрочыў сваёй дарогай.

## 409. ЛЯЧЭННЕ ДЗЯЖЫ

У адным сяле жыў гаспадар, а ў яго жылі краўцы. Адзін кравец, а другі вучань. Яны шылі кажухі гаспадару і гаспадыні. Якраз у гэты дзень гаспадыня пякла хлеб. І краўцы, убачыўшы дзяжу, заспорылі между сабой.

Кравец казаў, што гэта дзяжа гліняная, а вучань казаў, што драўляная. Доўга яны спорылі і не маглі адзін другога пераспорыць.

Потым гаспадыня падказвае вучню, што твая будзе праўда, бо дзяжа драўляная, таму што як прыйшла я сюды замуж, то былі знаць і яшчэ абручы. Яна бядуе, што ў ёй надта ж не ўдаецца хлеб і для гэтага трэба якую раду ўжываць.

У гэты дзень якраз ездзіў поп па калядзе, дык яго і нанялі памаліцца над дзяжой, каб удаваўся добры хлеб.

Ну й пачаў поп шаптаць, матацца, над дзяжою маліцца ды свае песні спяваць, а нарэшце, стаў казаць:

— Дзяжа, дзяжа, табе трэба вада,— кажа.

А тады як пачаў нажом выскрабаць, то знайшоў 2 скаварады, кружку і апалонік стары. І вось такое было лячэнне дзяжы.

## 410. ДУРНЫ Ў СВАТОХ

Прыехаў адзін маладзік у сваты, а ён быў троху дураваты і ў такую гутарку ўкінуўся, што яго разам са сватам прагналі. Так сват кажа:

— Бачыш, як паедзем у другое месца, то як штурхну цябе пад бок, то каб ты дагадаўся.

— Добра, дзядзюшку!

Паехалі яны ўжо, прынялі іх, селі яны есці зацірку ці што, тыя панаядаліся і паадыходзіліся, а ён тую зацірку соўвае, седзячы, да соўвае; потым і дранка патухла, а ён, няма ніц, есць, не заўважае. Так сват штурхнець яго пад бок, а ён думаў, што кажа: «хутчэй», так гэта хацеў нагном з міскі есці — узяў міску, заміж да губы, на голаў! Усё сабе зліў: тая зацірка дзюрр, па ім цячэ, а ён шэпча:

— А што, дзядзюшка, такі я дагадаўся!

Калі засвецяць агонь, ажно ён сядзіць, як намаляваны — на галаве горба зацiркі, твар цэлы ўпэцканы! Ну, так, вядома, пазналі, што дурны, да й то, яшчэ насмяяўшыся, адправілі. От табе і дагадаўся!

## 411. ШЛЮБ ДУРНОГА

Быў сабе хлопец надто нядойдала. Як ехаў да шлюбу, так маці вучыць яго, каб ён слова ў слова за ксяндзом гаварыў.

— Добра,— кажа,— буду.

Прыехалі да шлюбу, так ксёндз кажа:

— Бяру.
Хлопец. Бяру.
Ксёндз. Сабе.
Хлопец. А няўжэ ж!
Ксёндз. Які ты дурань!
Хлопец. Які ты дурань!
Ксёндз. Які ты асёл!
Хлопец. Які ты асёл!
Ксёндз. Які ты балван!
Хлопец. Які ты балван!
Так ксёндз чыста раззлаваў і прагнаў маладых, не даўшы г… бу.

## 412. ШЛЮБ ДУРНОГА

Неякісь дурань жаніўся. Так на шлюбе ксёндз пытае:
— Бярэш?
— Няўжэ ж!
— Сабе жонку за мальжонку?
— Няўжэ ж,— кажа,— табе!
— За жонку?
— Няўжэ ж,— кажа,— за дзеўку?
— А не пакінеш?
— Не.
— Аж да смерці?
—Ля, а то це прычапіўся!

## 413. ДУРНЫ ЛЯПНЕ, ТО Й НЯМА ЧАГО УСЛУХАЦЦА

Быў сабе адзін пан, а ў яго быў сын дурнаваты. Аднаго разу прыехаў да яго неякісь пан у гасціну, тай сын сабе сядзіць у куточку, а старыя сабе гавораць нештось. Ажно той сын выхапіўся да й кажа:
— Мой айцец псючка забіў!
Так бацька да яго:
— А ты до чэго то пшыпёў?
Так ён кажа:
— Відламі до плоту, а булавой у ленб!
Сам сабраўся і пошэд.

## 414. БЕДНЫ ГІРШ

Быў бядняк яўрэй, але вялікі шут, звалі яго Гірш. Аднойчы ідзе яго знаёмы вуліцаю і бачыць, што ён ляжыць днём на сырой зямлі. Пытае ў яго знаёмы:
— Гірш, чаво ты здзесь лажыўся?

...казвае яму Гірш:

— Чуў я, што гэты пляц прадаецца, і я спадзяюся сабраць грошай і купіць яго. Пастаўлю тут дом. Па маёй планіроўцы выходзіць, што тут павінна быць спальня, таму і рашыў тут адпачыць.

## 415. НАСТАЎНІК

Аднойчы яўрэйскі настаўнік моцна збяднеў, але ён быў вельмі ...зумны. Стала яму вельмі цяжка, што не было за што пражыць. ...е ён дарогаю і сустракае багатага пана.

— Як жывеш, Бэрка, чым займаешся зараз? — пытае той.

А Бэрка адказвае, што вучыць птушак размаўляць.

— Можа б ты ўзяўся навучыць 50 маіх індзюкоў. І каб даклад... навучыў к маім імянінам.

Бэрка згаджаецца. Вот пан аддае яму індзюкоў, паслаў яму воз ...ня (на корм), грошай. Забраў усё сабе Бэрка і давай рэзаць па ...аму індыку ў дзень, а за кормам штодзень ездзіць нібы для іх. ...іж тым ён даведаўся, што памешчык любіў сваю гувернантку, што ...чыла яго дзяцей. Але пра гэта не ведала пані. Ён усё атрымлівае ...орм, а індыкоў ужо і на свеце няма. Прыйшоў час імянін памешчы... Пан пытае:

— Бэрка, ці гавораць мае індыкі.

Бэрка адказвае, што гавораць, але бяда, што адзін намаўляе астатніх, што трэба ўсім памешчыкам расказаць, што пан кахае настаўніцу. Памешчык пачуў гэтыя словы і кажа Бэрку:

— Парэж іх, галубчык, штоб я ў глаза іх не відал.

От Бэрка і пайшоў сабе прыпяваючы.

## 416. ЯК БЫЧОК ПАГОДУ ЎЗНАВАЎ

Да аднаго мужыка зайшлі на ноч доктар і астраном. Сонца закатывалася ўжо. Прыходзіць мужык з поля, тут яго госці спрашываюць, ці можна ім переначаваць. Мужык кажа:

— Можна, начуйце.

Прыйшоўшы з работы, мужык адрэзаў сала, выпіў з паўлітра чы літар вады з калодзежа, а доктар глядзеў, глядзеў да і кажа, што ён заўтра умрэ. Збіраюцца спаць. Доктар і пытае ў астранома, ці будзе пагода ўначы.

— Калі будзе пагода, то ляжам на дварэ.

Астраном паглядзеў, паглядзеў і гаворыць, што будзе пагода, а мужык кажа:

— Ідзіце альбо ў клуню, альбо ў хату: будзе дождж.

Астраном пытае:

— Адкуль ты знаеш, што будзе дождж?

— А стада прыйшло з поля і бычок сярод двара лёг. Калі прыйдзе бычок і ляжа сярод двара — будзе дождж.

На гэта астраном з доктарам пасмяяліся:

— Як гэта бычок можа пагоду знаць?

Ляглі спаць на дварэ, а ноччу як даў дождж, дык тыя з рассветам сарваліся і давай ухадзіць, а астраном доктару гаворыць, што бычок больш за іх знае.

## 417. НАВУЧНЫ ГАСПАДАР

Адзін чалавек купіў сабе каляндар. Чытаў ён яго, чытаў, дачытаўся, што будзе дождж. А ён анно што сена скасіў. Гэто зара каляндар кінуў, да хутчэй да на балота, да давай у копы класці. Так людзі:

— Ля, што ты гэто робіш? Здурэў хіба?

— А бачыце,— ка,— што будзе дождж.

А тут на небе ані хмаркі няма. А ён так завіхаецца. Злажыў, пайшоў дахаты, сеў у вакне да й цешыцца, як суседзі сена пагнояць. Ажно тут такая пагода, што лепшай не трэба. Людзі сваё сена павысушвалі, а яго чыста спарылася і згніло. Так людзі давай з яго смяяцца, а ён гэто калі не схопіць бізуна, калі не паложыць каляндар на калодцы: біў, біў, біў, аж чысто пабіў у дробныя шкументы, а потым яшчэ ўзяў у печ укінуў і попел з ветрам пусціў.

## 418. АСІНА АСІНУ ПАВАЛІЛА...

Асіна асіну паваліла, Пятра забіла. Ляжыць ён дзень да вечара, есць яму нечага. Ссылаюцца к яму тры пасланцы: камар да муха, да трэці клешч. Муха-драмуха прынесла сыру камок, а камар-піскун піва жбанок. Вот ён пад'еў і напіўся. Узялі яго за валасы і панеслі на той свет. На тым свеце не так, як у нас: стаіць цэркаўка з кулачок, з пірагоў злеплена, папранікамі накрыта, каўбаскай замкнута. Стаіць дзячок, талакняны лабок, пузца масленае, сам саламяны. «Бацюшка-дзячок, што ў нас сёння за свята?»

— Шынкі-бінкі, пячыце, дзеткі, блінкі! Паслалі Луку па муку, Кіта па сіта, цыганку па смятанку. Няма ні Лукі, ні мукі, ні Кіта, ні сіта, ні цыганкі, ні смятанкі...

## 419. У ДУРНОГА ТО Й МЛЫН КАСЦЁЛАМ

Выправілі дурнога да касцёла, ён не ведаў, дзе касцёл і зайшоў да млына. Ну, так зняў шапку, глядзіць — камень так гучыць:

— Пэўна,— кажа,— гэта бог, трэ яго пацалаваць.

І, падышоўшы, прыткнуў губы, а камень як замеле, так яму чыста паабдзіраў губы. Ён у енк, да дахаты.

— А што,— кажуць,— як?

— Ат, матка боска, усё,— кажа,— кле, кле, а бог учуў, а такі

фанабэрысты, ні жарты, хацеў пацалаваць, то дзе, адвярнуўся,— гаворыць,— не даўся, чыста мне губы паабдзіраў невядома за што. І ўжэ на той раз нігдачкі да касцёла не хадзіў.

## 420. ЯК БАБА СТАЛА СТАРАСТАЮ

Адзін мужык прыйшоў з карчмы позна, так жонка яго пачала караць, чаго ён доўга так сядзеў.

— Ля,— кажа,— бо там сягодня старасту абіралі дый не далі рады.

Так яна пытае:

— А як вы абіралі?

— Ля,— кажа,— уласна ты не ведаеш як?

— Дальбог жа, не!

— Ото гэтак: каторы заложыць ногу за голаву, то таго абіраюць на старасту.

Ну, яна — пажджы ж — палезла ў пограб па капусту, ну ж прабаваць: села, залажыла ногу і якраз папала; назад турзала, турзала — не дала рады адшчаміць — і сядзіць так. Дзеці агледзеліся:

— Дзе мама? Дзе мама?

Потым адно пабегла ў пограб дай, агледзеўшы, бяжыць бягом да бацькі:

— Тату, тату,— кажа,— мама ў пограбе і неяка страшна казука ўчапілася за маму!

Ён гэта пайшоў хутчэй.

— Ля, а ты што гэто зрабіла?

— А то ж хацела папрабаваць, як вы старасту абіраеце.

— Ля, а каб ты марна прапала! Чуць галавою не налажыла.

Дый гэта зараз адчапіў, а баба папаўзла, раскарачыўшыся. От, з бабы дурной закпіці, а яна і напраўду зробіць!

## 421. ЯК МУЖЫК З ЖОНКАЮ ГАСЦІЛІСЯ

Мужык з жонкаю жылі сабе пекна, потым урадзіліся:

— Зрабем па-дзіцячаму,— кажа,— будзь ты ў мяне госцем, я цябе буду частаваць, а потым я ў цябе.

— Ну, добра.

На другі дзень мужык сабе ўбраўся і сеў за сталом, сядзіць, сабе пытае:

— Ці вы здаровы? Ці жывы? Што ў вас чуваць? Ці ўсё добра ідзе?

А жонка ўсё прыносіць яму есці, піць і частуе яго пекна, як госця. Ну, на другі дзень ужэ жонка госць. Так то мужык зараз з самага рана зарэзаў курыцу і гуску, упёк, а жонка ўбралася, села за сталом, залажыўшы рукі, і распытваецца:

— Што ў вас чуваць? Як у вас гаспадарка? Ці ўсё добра?

А мужык усё стараецца каля пячэні, прыносіць мёду, піва... Потым выняў гуску з печы і паставіў на лаве і забыў дзвярэй зачыніць, а сам адвярнуўся больш глядзець чаго, аж тут сабака ўляцеў, цап за гуску —і на двор, а жонка кажа:

— Пане гаспадару, ваш пёс вашу гуску ўхапіў!

А ён:

— А ты,— кажа,— не відзела?

— Чаму, відзела!

— А ты,— кажа,— халерніца, падла ты, відзела, што сабака гуску ўхапіў, не магла крыкнуць на яго!

Як возьме папружку, як зачне жонку біць — прапала і цэла гасціна.

### 422. НАЧНАЯ ЗЯЗЮЛЯ ПЕРАКУКУЕ ДЗЁННУЮ

Была сабе адна ўдава, мела сына, потым ажаніла яго, ён жонку любіў добра, а маткі не так. Аднаго разу прыходзіць з поля і просіць:

— Дайце есці.

Матка ўліла баршчу ў міску, паставіла на стол, ён пакаштаваў і кажа:

— От, мацершча, наварыла бацьвіншча!

А матка кажа:

— Ціха, сынку, то твая Гануля!

— А,— кажа,— дайце, мама, солі, то і будзе добра!

Так, значыць, як маці наварыла, то і не смашна, а як жонка, то смашна! От такі праўду людзі кажуць: начная зязюля перакукуе дзённую.

### 423. А КЫШ НА НЯВЕСТКУ!

Адна свякроў цёнгле прасіла бога смерці, так мужык прынёс саву і пасадзіў на градзіцы над галавою. Яна, сочыўшы, пытае:

— Што гэто?

Так ён кажа:

— Ля, цёнгле смерць спамінаеш, то й прыйшла!

Яна ж гэто голаў акруціла ў радно, да ўсё шэпча на тую саву:

— А кыш на нявестку! А кыш на нявестку!

### 424. ГУТАРКА МАЛАДЫХ СУСЕДАК

Кажа адна маладзіца да другой:

— От як табе добра, што твой свёкар умёр, а я свайго ніяк не збуду. Спяку хлеб, то ўжэ, здаецца, так высушу, што сама мала зубоў не паламлю ў скарынках, а ён, знаеш, сяструнько, накрышыць

у місу, налье стравою, распарыць і напрэцца, як воўк, хоць зубоў не мае.

Так тая ёй адказывае:

— І сёстро, ты то не так рабі: ты пячы хлеб, каб анно цеста абудзілася — няхай ён сабе будзе, як гліна, зусім мяккі, бо і я свайго гэтакім спосабам збыла, а ад твайго ён яшчэ здароўшы будзе і даўжэй жыціме.

От якія нявесткі-дабрадзейкі!

## 425. ЯК ХЛОПЕЦ ПРАЗ КАТА ЗБАГАЦЕЎ

Адзін чалавек, уміраючы, кажа да сына:

— Помні, сынку, як паедзеш першы раз па маёй смерці да места, то, што ўперад угледзіш, тое купі.

Ну, так паехаў да места, ажно баба нясе ката тапіць. Так ён:

— Стой, не тапі!

І купіў яго за дзесяціну. А той кот чыста, як сабака, усюдачы за ім бегаў. Пайшоў ён у свет, ідзе, так ідзе, ажно прыйшоў у такое месца, дзе катоў не зналі. Заходзіць ён да аднае хаты, ажно там садзяцца есці, дый розгі каля сябе кладуць. Думае ён сабе: на што гэта? Ажно як высыплюцца пацукі, мышы, яны іх б'юць, а яны лезуць проста не адагнацца! Так ён пытае ў гаспадара:

— Чаму гэта?

— Ат, намножылася гэтай брыды!

— А я маю такога,— кажа,— звера, што гэту брыду выдушыць.

І як пусціць таго ката, калі пачне кот пацукі душыць! А гаспадар гэта яму гаршчок золата ў лапу за таго ката, і жыў ужо ён шчасліва.

## 426. ЯК МЯДЗВЕДЗЬ МУХІ ГАНЯЎ

Адзін мядзведнік лёг спаць, а мядзведзю казаў, каб мухі ганяў. Ганяў ён, ганяў, аж адна муха, што ён згоніць, то зноў на твары мядзведніку сядзе. Ну, так яго злосць парвала, хацеў тую муху забіць; як замахнецца, як высмаліць па твары, так і забіў муху разам з мядзведнікам. Ён так узрадаваўся, што муху забіў, але потым глядзіць: ажно чалавек не сапе, так падумаў сабе і давай варочаць, дый будзіць. Ажно як ужо зміргаваў, што не жыве, так ланцугом аперазаўся, дый пайшоў да лесу. От людска муху забіў.

## 427. ЯК БАБА З ДЗЕДАМ МУХУ БІЛІ

Быў сабе дзед з бабаю, як ні стала ім хлеба, пайшлі ў свет жабраваць. Жабравалі, жабравалі, і выжабравалі адно зярнятка круп. Варочаюцца яны да сваёй хаткі. Прыйшлі, баба распаліла ў печы, паставіла ў вялізным гаршку ваду, укінулі тое зярнятка, дай ужэ

будуць кашу варыць. Тое зярнятка плавае паверсе, ажно прылятае муха: хапець тое зярнятка, села на дзедавай лысіне і есць. Дзед у крык:

— А е-е-ей, бабка! А е-ей, падай таўкача!

Баба як усхопіцца, як хваціць таго таўкача:

— Я табе, муха, дам!

І як трэсне з цэлай мочы дзеду па лысіне, так і бенц на зямлю, а муха з-зы, дай пераляцела на бабін лоб. Дзед крыху адышоў, глядзіць — муха тая самая сядзіць на бабіным лобе. Так спалохаўся чыста: як хваціць таго таўкача, да й яшчэ мацней жонцы па лобе заехаў. Баба брык дагары нагамі, а муха ўзнялася да й паляцела!

## 428. БАГАТЫ І БЕДНЫ НА КІРМАШЫ

Аднойчы багаты і бедны прыехалі на кірмаш купіць каня багацею. На рынку зайшлі ў шынок. Багаты купіў цэлы бутэль гарэлкі. Напіліся да ачмурэння і пачалі скандаліць, біць вокны, посуд. Суседзі па сталу звязалі іх, набілі, адабралі грошы і выкінулі на вуліцу.

Раніцай багаты пачаў прасіць беднага:

— Ты ж глядзі, жонцы не гавары. Калі яна што запытаецца, скажы: нічога такога не было.

— Добра,— згадзіўся бедны.

Калі вярнуліся дадому, жонка багацея пацікавілася, чаму ён каня не купіў.

Той і рот не паспеў раскрыць, як бедны заступіўся за яго:

— Марцечка, мы бутля гарэлкі не пілі, вокан у шынку не білі і посуд не таўклі, ды і грошай у нас не адбіралі і з шынка ніхто нас не выкідаў...

Жонка багацея загаласіла і пачала малаціць мужа па свежых сіняках.

— Не разумею, як яна ўсё ўведала,— наглядаючы за ёю, здзівіўся бядняк.

## 429. ДЗЕД І БАБА

Пытаецца пан у аканома:
— Ці няма дзеда ў дома?
— Не, — кажа, — нямаш,
Паехаў на кірмаш.
— А чаго ён паехаў?
— Павёз усе тавары,
Пойдуць выпіць сівай чары.
— А што яны павезлі?
— Баба павезла пук ядлаўцу,

А дзед — апошнюю аўцу.
І баба павезла воску пунт,
А дзед грыбоў бунт.
Распрадалі ўсе тавары,
Пайшлі выпіць сівай чары.
Як напіліся даволі,
Забыліся купіць солі.
Дзед упаў на парогу
І выкруціў сабе ногу.
— На, бабка, лейцы і пугу,
А я лягу спаць нядугу.
Пакуль баба не спала,
То кабылку паганяла.
Як сплюшчыла баба вочы,
Стала кабылка ў балоце.
Ішоў маскаль па дарозе,
Знайшоў кабылку ў возе.
Забраў кабылку з хамутом,
Пакінуў бабу з кнутом.
Баба не верыць ешчэ,
Па аглоблі пугай плешча:
— Но кабылка! Но гнядзенько!
Но дадому паскорэнько!
Прачхнулася: «Ой, дзеду, дзеду!
Чым я на ярмалак паеду?»
— А бадай ты, баба, згарэла!
Дзе ты кабылку падзела?
Цяпер, хто кабылкі не мае,
Пехтам дадому дыбае.

### 430. ПАКВАПІЎСЯ

Купіў селянін бычка на базары. Вядзе яго на вяровачцы і радуецца: танна купіў.

На захадзе сонца селянін падыходзіў да лесу. У прыдарожнай канаве, бачыць, бліскучы хромавы бот з левай нагі ляжыць. «На ліха мне няпарны бот? — разважыў селянін. — Хіба ў агарод на пудзіла?»

За наступнай паваροткай убачыў бот з правай нагі. «Прыбытак сам ідзе ў рукі», — падумаў селянін. Прывязаў бычка да лазіны, балазе, нікога не было на дарозе, і кінуўся назад. Аблазіў канаву, але бота не знайшоў.

Якім жа было яго здзіўленне, калі і на старым месцы не ўбачыў бота з правай нагі. Быццам схрумстаў бычок разам з халявай. А

урэшце, дзе ж гэта ён, шырокалобенькі? Сляды капытоў і абцасаў вялі ў лес.

— Собіла ж мне, — плакаў селянін, успамінаючы бычка-гадавічка, — купіць так танна, а аддаць задарма!

## 431. НЕПАДСУДНАЯ

Суседкі пасварыліся, і Акуліна дала Агаце дулю. Агата падала ў суд. Але не «падмазала». Суддзя сказаў:

— За дулю не судзім.

— Не судзіце?.. То на ж і табе, пане суддзя, на і табе, падсудак, на і табе, член! — абдзяліла Агата ўвесь суд фігамі і пайшла дамоў.

## 432. ШТО Ж Я ЦЯПЕР БУДУ РАБІЦЬ

— Што ж ты гэтакі сумны?

— Быў бы і ты сумны, каб і з табою тое сталася, што і са мною!

— Ну, а што?

— Бачыш, ажаніўся я: узяў кабылу і жонку.

— Ну?!

— Ну, кабыла здохла, а жонка жыва. І што ж мне цяпер рабіць?

## 433. ЯК СТАРАЯ ДЗЕЎКА СПАВЯДАЛАСЯ

Раз пайшла старая дзеўка да споведзі. Так, як яна прыступіла, так ксёндз пытае:

— Ці ты жонка?

— Не, — кажа, — дзеўка.

Ну, так давай спавядаць яе, дайшло да таго, пытае, ці яна не займаецца з хлопцамі — ці не грэшыць?

Так яна кажа:

— Даўней бáло, ксянжульку, то кожну ноч была нявольна — грашыла, а цяпер, як пастарэла, то ўжэ мяне і грахі пакінулі.

## 434. КСЁНДЗ І ДЗЯЎЧЫНА

У канцы споведзі ксёндз пытаецца ў дзяўчыны:

— Ці не помніш яшчэ якіх грахоў?

На гэта дзяўчына адказвае:

— Я паслізнулася.

— Ну, дык гэта нічога, — кажа ксёндз. — Трэба хадзіць асцярожна.

— Каб то ж нічога?! — адказвае дзяўчына. — Але што ж я буду рабіць з... дзіцяткам?

## 435. ЦЕСНАЯ ХАТА

Валасны пісар выдае пасведчанне і пытаецца:
— Колькі маеце дзяцей?
— Толькі васьмёра...
— А чаму не маеце болей? — жартуе пісар.
— Бо ў нас хата вельмі цесная.

## 436. РАЗЛІЧЫЛІСЯ

Ішлі лесам два вандроўныя гандляры. Раптам насустрач — разбойнікі.

— Рукі ўгору! Аддавайце грошы!

Паднялі гандляры рукі, а адзін з іх і кажа:

— Паны разбойнікі, дазвольце слова сказаць.

— Гавары, ды хутчэй!

Тады гандляр звяртаецца да таварыша:

— Кум! Я табе яшчэ з вялікадня тысячу рублёў вінен. Дык вось зараз аддаю — мы ў разліку. Паны разбойнікі, будзьце сведкамі.

## 437. ШТО ЗРАБІЎ ДЗЕД?

У селяніна ўкралі каня. Каля хаты сабраліся людзі і кожны даваў параду, як знайсці злодзея. А селянін сказаў:

— Я ведаю, што мне рабіць. Я зраблю тое, што зрабіў мой дзед дваццаць год назад, калі ў яго ўкралі каня. Вось тады злодзей будзе помніць.

Дайшлі гэтыя словы да злодзея, і яго ахапіў страх. Праз некалькі дзён ён прывёў каня назад да селяніна. Ля хаты селяніна зноў сабраліся людзі. Сярод іх быў і злодзей. Яму не цярпелася даведацца, што зрабіў дзед, калі ў яго ўкралі каня. Ён пра гэта і спытаў у селяніна. А той адказаў, што калі ў дзеда ўкралі каня, то ён пайшоў на кірмаш і купіў другога.

## 438. ТЫ ХАВАЙ, ЯК Я ХАВАЮ

На кірмашы, дзе сноўдалася многа цыганоў, дзед з бабаю прадалі карову.

Тут жа пасварыліся і падзялілі напалам грошы. Баба акуратна завязала іх у вузельчык, а дзед паклаў у кішэнь.

На паўдарозе баба хацела пералічыць грошы, палезла па вузельчык і спалохалася:

— Дзеду, а дзе грошы?

Дзед спакойна лезе ў сваю кішэнь і задаволена прыгаворвае:

— Ты хавай, як я хаваю.

Праз момант гаворыць ужо хутчэй:

— Ты хавай, як я хаваю...
І раптам крык:
— Баба, а дзе мае грошы?!

### 439. ЛЕПШАЯ

Едуць з кірмашу мужык з жонкаю.

— Сымоне! Ці праўда — кум казаў, што ў цябе на рынку грошы ўкралі?— Мужык злы адказвае:

— Укралі!

— А каб цябе спрагло, разявака! У мяне, нябось, круцілі-муцілі, круцілі-муцілі, ледзь пад вечар дасталі, — адказала жонка, якую ашукалі.

### 440. КАЛАТНЯ

Была ў аднаго чалавека жонка вельмі языкатая да такая заядлая, што як пачне сварыцца, дак і хаджайства забудзе: кіне работу да ўсё крычыць, зневажае, аж запеніцца, бы кручаны сабака. Няхай толькі хто зачэпіць, дак яна гатова не піць, не есці, а ўсё сварыцца. Гаспадар знаў яе нораў і маўчаў, бы сцяна, або ішоў сабе на работу. Баба пакрычыць-пакрычыць у таком разе, пакуль ёй жывот не забаліць, нарэшце сунімецца. Але от тагды бяда, як шчэпіцца яна сварыцца з суседкамі, тагды хаць вадою разлівай, бы сабак. Ведама, бабы, адно другой не змаўчаць: паднімуць калатню на ўсё сяло. Збягуцца людзі, смяюцца да кпінкі строяць, а бабы да тых час сварацца да зневажаюць адна другую на чом свет стаіць і выдумоўваюць, што было, чаго й не было, покуль так утомяцца і так ахрыпнуць, што голасу няма. От раз шчапілася тая баба сварыцца з суседкаю. Суседка такая ж была языкатая. От як пачалі яны калаціцца, дак забылі, што трэ й у пячах паліць да абед варыць. Учуў гаспадар, што яго баба заўзялася сварыцца, прыбег туды да й кажа сваёй паганай жонцэ:

— Гэй, бабо! Ты ўжэ ўтамілася й ахрыпла. Давай я за цябе буду сварыцца, а ты йдзі абед варыць.

І пачаў тут той чалавек калаціцца з чужою бабаю.

— Да ты такая, як твая сястра... Да й маці твая такая... Да й бацька твой такі... Да й цётка твая такая... Да й дзядзька твой такі... Увесь род твой такі... Усе вы такія...

Паслухала жонка, што яе гаспадар гожэ сварыцца, да й пашла моўчкі варыць абед. Наварыла яна, выняла страву з печы, паставіла на стол да й выбегла на вуліцу паслухаць, як гаспадар зневажае суседку: аж той стаіць да курыць люльку, а суседка палентуе на ўсё сяло да так вычварае, што аж сорам казаць. Тут жонка накінулася на свайго гаспадара, чаму ён не лаецца. От ён скажа слова «такая

твая й матка» да й плюне. А баба крычыць, аж пукаецца. Яна ахрыпла, уся пасінела, а ўсё крычыць да клянецца. Нарэшце, павярнуўся гаспадар к жонцы й кажа:

— Ну, бабо, я ўтаміўся, цяпер пайду абедаць да аддыхаць, а ты сабе сварыся на здаровейка. Усе вы такія! — сказаў ён бабам да й пайшоў да гасподы.

## 441. ПАГАНЫ ЯЗЫК

Мужык з жонкаю штодня сварыліся.

Як толькі мужык на парог, дык жонка коршакам на яго: а ты сякі-такі, а ты гэтакі...

Аднойчы паскардзілася жонка таго мужыка сваім суседкам, што з-за сваркі жыцця няма.

Параілі ёй суседкі наведацца да старога Карпа, маўляў, той зробіць так, што яна не будзе з мужыком сварыцца.

Пайшла да яго жанчына. Дзед выслухаў яе ды і кажа:

— Дам я табе, даражэнькая, бутэльку святой вады. Як толькі твой прыйдзе дадому, дык ты адразу набірай у рот з бутэлькі ваду і рабі тое, што табе мужык твой скажа.

Наліў стары ёй бутэльку вады з вядра. Ваду ён тую, як усе людзі, у студні браў.

Вярнулась яна дадому. А тут якраз і мужык з працы прыйшоў. Жанчына хуценька набрала ў рот вады і чакае, што ж далей будзе. А мужык ёй гаворыць:

— Падавай абед...

Жонка моўчкі налівае боршч і слова не можа сказаць насуперак, бо ў роце вада.

Цэлы тыдзень гэтак яна набірала ваду ў рот і ні разу з мужыком не пасварылася.

Але вось скончылася вада. Пабегла жанчына да Карпа: як далей быць?

Той пытае:

— Ці ж рабіла так, як я раіў?

— Рабіла, рабіла, — сыпала кабета.

— І з мужыком не сварылася?

— Дальбог, не сварылася.

Усміхнуўся дзед:

— Жанчына ты добрая, але язык у цябе паганы, гэта ён з мужыком сварыўся.

## 442. ЦІКАВАЯ ЖОНКА

Прыйшоў адзін пасланец да двара з лістом (а ён быў надта смешны). А ў том дварэ служыла гаспадыня з тае вёскі. Ну, так гэто пазнаўшы яго, пачала вітацца, давай распытвацца, як тое, як другое,

ці жывы, ці здаровы. Нарэшце, кажа:

— А той казёл ці ест яшчэ?

— О, ужо даўно камісарам.

— А я такі казала, што з яго нештось будзе, калі ён усё па платох і па платох! А свіння рабая ест яшчэ?

— Е, ужо даўно ахмістрыняю!

— А я такі казала, што з яе нештось будзе, калі яна ўсё ў варыве, да ў варыве! А сажалка тая не высахла?

— О, ужо даўно выгарала!

— Я такі казала, што нештось яе, калі, бало, улетку шторанку дым з яе ішоў. А камень той каля крыжа ест? Ніхто не забраў?

— А, — кажа, — ужо даўно чэрві растачылі!

— Я думала-такі гэто, калі заўсёды кала яго мухі лятали!

## 443. АДКАЗ ДЗЯЎЧЫНЫ

Ідзе чалавек дарогай, а кала дарогі дзеўка слала лён, ды такая прыгожая.

— Бог помач! Дзень добры! — гаворыць ён.

— Спасіба, — адказваець яна.

А дзень тагды быў такі харошы.

— Дзень харошы ды і лён харошы, а дзеўка яшчэ лучшы — прыгажэй, — гаворыць апяць чалавек.

А яна яму і адказвае:

— Хвалі, — гаворыць, — дзень вечарам, лён вычасаны, а дзеўку замужам...

— Вот такая разумная была дзеўка, — прыбавіў мой расказчык, кучар, вёзшы мяне ў г. Нова-Аляксандраўск Ковенскай губерні.

## 444. ПАМІЖ СЯБРАМІ

— Мая заручніца багатая й харошая, а да таго яшчэ й маладая. Толькі аднаго не ведаю — ці разумная...

— Не бядуй! Аб гэтым даведаешся па шлюбе. Калі выйдзе за цябе, дык пэўне ж не разумная.

## 445. НЕ МЕЎ ЧАСУ

С у д д з я. Жонка ваша кажа, што вы яе пабілі ў нядзелю.

М у ж ы к. Ваша высакародзь, што зробіш, да душы не маю часу ў будні дзень.

## 446. НА СУДЗЕ

С у д д з я. Скажыце, падсудзімы, у якім месцы перш-наперш пачалася бойка?

П а д с у д з і м ы. На маёй, вашаскародзе, галаве.

## 447. АДЗІН ДРУГОМУ НЕ ВЕРЫЦЬ

Прыйшоў вяровачнік да аптэкара купіць аршэніку.

— Не дам, — кажа аптэкар, — атруціцца можна.

Праз колькі дзён прыходзіць аптэкар да гэтага самага чалавека купіць вяровак.

— Не дам, — кажа ён, — павесіцца можаш.

## 448. БОЛЬШ ВАРТА

Калі ў селяніна Юркі здохла маладая млечная карова, то жонка яго так забедавалася, што захварэла і памерла.

Толькі што яе пахавалі, як адзін сусед пачаў яму сватаць сваю сястру, другі — дачку, трэці — унучку.

— Дзіўна рэч! — сказаў Юрка, — калі памерла жонка, то зараз даюць тузін жонак, а як здохла карова, то не знайшоўся ніводзін, каб даць другую.

## 449. ЧЫРВОНЫ НОС

Д з я д з ь к а. Еш, мой каток, больш хлеба, тады будзеш здаравейшы і тварок будзе чырвоны.

П л я м е н н і к. Дзядзя, пэўна, многа еў хлеба, бо нос маеш чырвоны, як бурачок.

## 450. ЧЫРВОНАЙ ФАРБАЙ

М а л а д а я  д з я ў ч ы н а (*да сястры*). Хацела б я сваю светлую блузку пафарбаваць, але не ведаю, якой фарбы на гэта ўзяць.

М а л ы  б р а т о к. А, можа, той, што фарбуеш сабе твар?

## 451. ПАМЫЛА РУКІ

Кум да кумы кажа:

— Дзякуй табе, кумачка, што ты мне хлеб замясіла.

— І табе, кумок, дзякуй, бо пры здарэнні я хоць раз сабе рукі добра абмыла.

## 452. НЕМАЖЛІВАЯ РЭЧ

— Калі гляджу на вас, не інакш, як асла бачу перад сабой.

— Не, гэта не можа быць, бо я ж не люстра.

## 453. АДРЭЗАЎ

Двое выпадковых знаёмых прагульваліся па набярэжнай. Адзін з іх спатыкнуўся і ўпаў у ваду.

— Памажыце! Я не ўмею плаваць! — у жаху закрычаў ён.
— Я таксама не ўмею плаваць, але не крычу аб гэтым на ўсё горла, — заўважыў другі.

## 454. У СУДЗЕ

Суддзя (*да сведкі*). Ці вы чулі, як гэты чалавек назваў абвіняцеля малпай?

Сведка. Прызнацца, то я гэтага і не чуў. Але (глянуўшы на абвініцеля) думаю, што калі ён гэтак і сказаў, дык не абмыліўся.

## 455. У ВАГОНЕ

Мужык пытае жонку:
— А што, Кацярыначка, добра табе сядзець?
— Дужа добра.
— А ці не сцюдзёна?
— Не, зусім не.
— А ці не цягне з вакна?
— Ні-ні.
— Ну, дык пусці мяне туды, а сама сядай на маё месца.

## 456. БЫЎ ПРЫ ПАМЯЦІ

Доктар. Калі хворы быў яшчэ пры памяці?
Удава (*плачучы*). За гадзіну перад смерцю.
Доктар. А па чом ведаеце, што ён быў пры поўнай памяці?
Удава. Ён абляяў вас і вашы лякарства.

## 457. СРОДАК АБАРОНЫ

Суддзя (*да абвінавачанага*). Чаго ж ты прыйшоў сюды з калом?

Абвінавачаны. Мне адвакат той загадаў, каб я забраў у суд «срэдства сваёй абароны».

## 458. МОВЫ НЕ ЗАБЫЎСЯ

Хоць мовы не забыўся, а то Зоська пабыла з месяц у горадзе, прыехала, то ўжо не кажа гузік, а пугалавіца.

## 459. УСЁ РОЎНА

Да старшыні прынесла баба грушак. Ён ёй і кажа:
— І на што было несці? Твае дзеткі зласавалі б.
— Ды ешце, пане начальнік! Я дзеткам скажу, што свінка паела.

## 460. УПІСАНА

— Што гэта ў цябе, Яська, на носе сядзіць?
— Барадаўка.
— Чаму ж ты яе не звядзеш?
— Нельга, яна ў пашпарце ўпісана: за гэта, братка, пападзе!

## 461. СТАРАСВЕЦКІ ГАСПАДАР

Старасвецкі гаспадар накінуўся на свайго сына:
— Сорак гадоў, — кажа, — насіў я гэтыя боты, а ты, гад, за восем месяцаў іх зрэзаў.

## 462. НА СХОДЦЫ

Івана выбралі старшынёй.
— Шкада мне цябе, Іване, — кажа да яго кум.
— Чаму?
— Ды вось ты дагэтуль быў добрым працавітым гаспадаром, а цяпер ты зрабіўся гультаём, п'яніцай і прападзеш за нішто.

## 463. НЕ ДАСТАСАВАЎ

Селянін (*да шаўца*). Якія ж ты мне боты зрабіў? Гэта ж падэшвы яшчэ цэлыя, а халявы разляцеліся.
Шавец (*адказвае*). Выбачайце! Другі раз горшыя падэшвы вазьму, дык разам зносяцца.

## 464. УСЁ ЎМЕЕ

— Адчыні вароты!
— А хто едзе?
— Той, што ўсё ўмее.
— Глядзі, усё ўмее, а трэба яму адчыняць вароты.

## 465. ЦУД

Паляўнічы выхваляецца, што ён вельмі добры стралок. Раптам міма праляцела качка.
— Глядзіце, што будзе, — сказаў ён і стрэліў. Качка паляцела.
— Сябры! — ускрыкнуў паляўнічы. — Вы прысутнічаеце пры цудзе! Гэта ж ляціць мёртвая качка.

## 466. ВЯЛІКІ ШЧУПАК

Было гэта, браце, пры панах. Злавіў я ў панскім возеры шчупака — вялікага, вялікага! Нясу яго дахаты. Галава на плячы, а хвост

па зямлі валачэцца. Гляджу — ідзе насустрач пан. Што рабіць? Не доўга думаючы, сцягнуў з сябе шапку, шчупака ў шапку на галаву... Так нічога пан і не заўважыў.

## 467. НА ДАРОЗЕ

— Сядай, дзядзька, паедзем.
— Няма часу: трэба ісці.

## 468. ПРЫЗНАЛАСЯ...

— Тое малако, што вы нам прыносіце, неяк дужа пахне. Чаму гэта?

— Не ведаю, панечка. Гаспадыня клікала ўжо канавала, каб карову агледзеў, але канавал сказаў, што карова зусім здаровая.

— То мо трэ было б агледзець тую ваду, што вы даліваеце са студні да малака?

— Э-э, панечка, хто б там цягаў ваду са студні! Гаспадыня далівае ваду з сажалкі, у каторай цяпер каноплі мокнуць.

## 469. НА СУДЗЕ

— Стыдна вам так часта пападацца пад суд! — кажа суддзя да падсудзімага.

— Не дзіва, вашаскароддзе, чалавек адзін, як той кол, а ў вас проці яго тысячы ўсялякіх стацей, не шутка, дык за каторую колечы дый зачэпішся! — адказвае падсудзімы.

## 470. СВЕДКА І МІРАВЫ

Аднаго разу запытаў міравы суддзя сведку:
— Ты быў пад судом?
— Быў, — кажа.
А там пад судом карчма была.
— За што? — пытае.
— От так,— кажа,— мгло мне зрабілася, дык пайшоў, выпіў кручок і булку з'еў. То мне траха лепей.
Так людзі ўсе ў смех. Аж пісар кажа:
— Нет, суддзя спрашвае, ці падаваў хто кады цябе на суд? Ці быў каран?
— Э, хавай божа, не!
От і растлумачыў!

## 471. У НАТАРЫУСА

— Дармо вы з сабой сведку прывялі... Сведкі ў нас у канторы заўсёды ёсць...

— Так, але яны мяне мо' і не знаюць?

— Знаюць! У нас такія сведкі, што ўсіх павінны знаць.

## 472. ЗНАЙШЛА ВЫХАД

Муж. Што ты за гаспадыня — у адной сарочцы абдзёрты правы рукаў, а ў другой няма левага.

Жонка. Вялікая важнасць! Надзень абедзве, то і будуць абодва рукавы.

## 473. ГРАШОВАЯ УДЗЯЧНАСЦЬ

Адвакат выбавіў кліента ў вельмі трудным працэсе. Па добрай для яго пастанове суда кліент дзякуе:

— Пане адвакаце! Як жа мне выразіць сваю ўдзячнасць за такое добрае развязанне справы? Чым я вам аддзякую?

Адвакат. Няма аб чым гаварыць, каханы кліенце! Ад таго часу, як выдумалі грошы, такіх пытанняў не ставіцца.

## 474. НЕ ДАРУЕ

Жонка ўцякла ад мужа. Праз кароткі час яна вярнулася назад і просіць мужа, каб ён гэта ёй дараваў. А муж кажа:

— За тое, што ўцякла ад мяне, я магу табе даравацъ, але за тое, што назад вярнулася, я табе не дарую!..

## 475. ДЗЕД І БАБА

Аднойчы пасварыліся дзед ды баба і перасталі размаўляць адзін з другім. Але ж доўга не вытрымалі. Першай пачала баба:

— Стары, ці ты ўчора чхнуў?

— А што? — панура адказвае ён.

— Будзь здароў! — ласкава кажа старая.

— Дзякую.

Гэтак і паміраліся.

## 476. ЗАКЛАД

Мужык у карчме залажыўся:

— Што як мая, — кажа, — жонка сюда ўвойдзе, то ўсім насы пападціраe.

Той кажа:

— Не!

Так гэто пайшоў па жонку. Тая прыходзіць, абсмаркаўшыся. Так усе, глянуўшы, давай насы сабе абціраць. І ён выйграў.

### 477. ШМАТ РАДАСЦІ

— Ну і як з маладой жонкай? — пытаецца задрыпанец шаўца, які ўжо трэці раз ажаніўся.

— Як з жонкай... Калі кіне ў мяне збанком і не трапіць, дык я цешуся. Як зноў я шпурну ў яе капылом і прамахнуся, тады яна цешыцца. Адным словам, шмат радасці і ўцехі.

### 478. ТАКТЫКА

— Узважце мне, калі ласка, самы горшы кавалак мяса, — просіць Кастусь мясніка.

— Чаму?

— Каб жонка больш у краму не пасылала.

### 479. АДЗІНЫ СПОСАБ

— Я чуў, дзядзька Сідар, што вы выдаеце дачку за сына суседа, з якім вы некалькі год не размаўляеце.

— Так. Гэта адзіны спосаб адпомсціць яму.

### 480. ЗАБІЎ БЫ

Прыйшла жонка ад суседкі дамоў і кажа мужу:

— Кастусь пабіў сваю Маню за тое, што сказала яму «брэшаш». А калі б я табе так сказала, што б ты зрабіў?

— Забіў бы!

— Ды брэшаш!

— Вось, ей-богу, забіў бы, — аж падскочыў муж.

### 481. НАВІНА

— Ты чуў, Кастусь са сваёю паміраўся?

— Не чуў. А не брэшаш?

— Ды каб я праваліўся! Учора іду, гляджу: каля клуні дружненька гэтак дровы ўдваіх пілаць. Проста паглядзець люба.

— Дык гэта ж яны мэблю дзялілі!

### 482. ЧАМУ НЕ ЖЭНІЦЦА?

В а с і л ь. Чаму ты, Максіме, не жэнішся?

М а к с і м. Маю на гэта дзве прычыны: першая, што жыццё мне яшчэ міла, а другая, што не хачу з суседзямі сварыцца.

## 483. БЕЗ СОРАМУ

У адзін дом прыехалі сваты. Гаспадыня вучыць дачку сказаць гасцям, каб яны пілі-елі і не саромеліся. Дзяўчына выйшла да гасдей і гаворыць:

— Ешце, піце, госці, няхай у вас сораму не будзе.

## 484. МУЖАВА АРЫФМЕТЫКА

Паслала нейк жонка мужа на кірмаш. Дала яму тысячу злотых, каб той купіў сыну боты, а за рэшту гасцінцаў дзецям. Вечарам вярнуўся муж дамоў добра падпіты і без пакупак.

Вось жонка і пытае:

— Купіў ты, бацьку, тое, што я табе казала?

— Не.

— А грошы дзе?

— Няма.

— А дзе ж ты іх дзеў?

— А вось дзе: за боты прасілі чатырыста, а я даў трыста — гэта семсот; сто злотых туды, сто сюды — гэта дзевяцьсот, а адну сотню мы з кумам прапілі — вось і ўся тысяча.

## 485. ЛІЧЭННЕ

Ідуць з ярмаркі.

— Тпру! Стой! Давай, жынко, грошы лічыць! Кажы, куды падзела?

— Та шчо цэ тобі, чоловічэ, так здалось, шчоб усё грошы лічыць. Ну, от: копу за сіль, копу на сіль, та за копу солы купіла, та копу з кумом прапілі — от, і грошы ўсі!

— Так! А гей, валы!

## 486. ЯК МУЖЫК ВЫВЕРНУЎСЯ

Мужык прыехаў з кірмашу, так пытаецца жонка ў яго, дзе грошы падзеў, а ён кажа:

— Сюды-туды — два злоты, фіту-міту — два злоты, з кумамі — два злоты, за цыбулю — два грошы, дуды — асьмнаццаць грошы — от, і цэлы рубель.

А ёй, дурной, і годзі!

## 487. НА БАЗАРЫ

На базары было. Нясе адзін чалавек петуха, а другі яго пытае:

— Кум, куды панясеш пеўня?

А ён:

— Панясу да зэйгермайстра. Уперад як трэба пеяў, а цяпер пазніцца пачаў.

## 488. ПРОДАЖ

Было гэта за сталом. Сядзім, жуём. Было снеданне, зрабілі засяданне. Сталі гаварыць, што няма чаго рабіць: ні араць, ні баранаваць, павязём свінню прадаваць. Павязём яе ў Вішнява, бо яна ў нас лішняя. Пайшоў рух, браты ўдвух, па слову сказалі, свінню звязалі, на воз паклалі, прывязалі назад галавой, едуць і гавораць самі з сабой. Даязджаюць да Ласта (хутар такі), паправілі каля хваста, яшчэ прывязалі, каб цябе воўк! сказалі. Едуць з гары ніжэй. Падыходзіць да іх Юрэвіч бліжэй.

— Што чуваць?

— Вязём свінню прадаваць. Колькі за яе ўзяць?

— За гэты лыч будзе кішэня грошай і магарыч.

Ля Каралінова злезлі, курылі, аб свінні гаварылі. Прыехалі ў Вішнява. Сталі на рынку. Крычалі:

— Купіце свінку!

Потым старэйшы гаворыць малодшаму:

— Не будзь варонай, прасі паўмільёна, а я прайдуся, сім-тым падзіўлюся. Хадзіў па базару, а як вярнуўся, гаворыць:

— Прадаваць не будзем, няхай пабудзе, падрасце, прыбудзе. Падрасце і ў галаве і ў хвасце. Няхай расце.

Прыехалі дахаты. Злезлі. Свінню прывезлі, у хлеў пусцілі, заперлі, калом дзверы падперлі. А назаўтра рана павезлі ў Крэва. Прывезлі ў Крэва, сталі пад дрэва. Дзень прастаялі, свінні не прадалі. А пад вечар прыйшоў купец.

— Што чуваць? Маеш свінню прадаваць? Скуль пан?

— З Чухнава.

Грахоўскі аж вухнуў.

— Хочаш прадаць? Давай на сена мяняць.

Таргаваліся не менш гадзіны. І памянялі свінню на сенажаць, на адну дзесяціну. Сабралі касцоў, паехалі, скасілі. Накасілі два вазы, як для казы. А кабыле не было чаго даць, мусіла ўсю зіму з голаду здыхаць.

## 489. ДОБРЫ КОНЬ

Адзін селянін прадаваў на ярмарцы свайго каня. А конь той быў худы-худы, ад ветру падаў.

Селянін усё хваліў яго і выгукваў на ўсю ярмарку:

— Купляйце каня, не здзіўляйцеся, што ён такі худы, ён як разбяжыцца, дык бяжыць пятнаццаць вёрст і не спыняецца.

— Я б яго купіў, — кажа адзін чалавек, — але ж мне да дому ўсяго дзесяць вёрст, то ён перабяжыць маю хату.

## 490. ВЯЛІКАЕ ШЧАСЦЕ

Купіў селянін каня на рынку. Наступнай раніцай будзіць яго жонка.

— Пятро, уставай, каня ўкралі...

Той працёр вочы і кажа:

— То яшчэ шчасце, жонка, што я пугі не купіў: былі б і яе свіснулі.

## 491. ЯК ЗЛОДЗЕЙ ЛЕЗ МЁД КРАСЦІ

Адзін злодзей палез на дуб, на якім стаяў вулей з пчоламі, за мёдам. Лезці было вельмі цяжка. Дуб быў высокі. Вось ён і кажа:

— Памажы, божа. Дам і табе палавіну.

Залез злодзей, выдраў мёд, набраў поўнае вядро і лезе назад. Стаміўся, сеў адпачыць на суку і думае: «Гэта ж так папрацаваў, а палавіну аддавай богу. Не дам».

А сук быў сухі, трэснуў, і злодзей паляцеў на зямлю. Добра што было ўжо не вельмі высока і абышлося толькі сінякамі.

Але злодзей кажа:

— Вось, божа, з табою і пажартаваць няможна. Я толькі падумаў, а ты ўжо мяне наказаў, хварэць тваёй мацеры, усё роўна нічога не атрымаеш.

## 492. ВЕЛЬМІ ВЫГОДНА

— Слухай, цыгане, ты прадаў мне сляпую кабылу.

— Табе ж лепей, — адказвае цыган, — бо будзе яна есці салому, а думаць, што сена.

## 493. ДОВАД

С у д д з я. Скуль у вас гэта пэўнасць, што Дзергача падсудны ўтапіў, а не сам ён утапіўся?

С в е д к а. Бо ў кішэні нябожчыка была бутэлька гарэлкі. Каб сам утапіўся, то не змарнаваў бы, а выпіў бы.

## 494. ПАШКАДАВАЎ

Па вясковай вуліцы, ледзь трымаючыся на нагах, ішоў п'яны чалавек.

Дарослыя глядзелі на яго з абурэннем, а шасцігадовы хлопчык сказаў:

— Ох і шкада мне гэтага дзядзькі.

— Чаму? — запыталіся дарослыя.

— Такі вялікі, а хадзіць яшчэ не навучыўся.

## 495. ДАРОГА ДАДОМУ

Вядзе Кастусіха п'янага Кастуся, а Парфеніха з-за плоту:
— Ён што, дарогі дадому не ведае?
А Кастусь на гэта:
— Мне хоць родная жонка дарогу паказвае, а твайго там ззаду чужыя людзі вядуць!..

## 496. ЯК П'ЯНІЦА ДОБРА ВЫПІЎ, ДЫ Й ЯШЧЭ ЛЕПШ ЗАКУСІЎ

Раз сышлося двох кампаніў і добра напіліся, да й то завялі спор. Той кажа: «Ты горш п'яны». А той кажа: «Не, ты горш!» Дзе быўшы, той, што не быў так п'яны, кажа да яго:
— Ну, то хадзем, братко, да другое карчмы — папраўмася!
— Добра.
Выйшлі іці. Той думае сабе: «Пажджы ж, вытну я табе гуранта!» Да й то вядзе яго якраз пад клябаню. Прыйшлі пад акно. Так той кажа:
— Ну, стукай у акно, будзі шэпшаля!
Так той давай гваздзіць кулаком у шыбу. Анно ж ксёндз, калі то ні ўхопіць добрага бізуна, калі ні выскачыць, калі ні стане яго абязвечваць, так ён ледзь апынуўся на дарозе. А той кампан яго даўно ўцёк, да й, пождаўшы на дарозе, кажа:
— А што, цяпер ведаеш, каторы з нас быў п'яны?
— Ведаю, каб ты не ведаў канца свайго!
— Но, але ж бо ты ў карчме ўпіўся, а ў клябані закусіў!

## 497. КАСТУСЬ

— Чаму бяжыш, Кастусь?
— Каб спыніць бойку.
— А хто б'ецца?
— Адзін мой сябар і я.

## 498. ВЕРНАЯ ПРЫКМЕТА

— Манька, гэта не твой гаспадар ляжыць п'яны ля гасподы і песню спявае?
— А што ён спявае?
— «За туманам нічога не бачна».
— Не, гэта не мой. Мой Нікадзім такой песні не ведае.

### 499. ЗАЧАРАВАНАЕ КОЛА

— Чаму ты напіўся?
— Да жонка сварыцца.
— А чаму жонка сварыцца?
— Таму, што напіўся.

### 500. І ЗАРАЗ НЕ БАЧУ

П'юць два кумы і сардэчна паміж сабою размаўляюць. А як добра ўпіліся, дык адзін і кажа:

— Куме! Вып'ем, бо як памрэм, дык і не пабачымся.

— А я цябе, куме, і зараз не бачу, — адказвае кум.

### 501. КОЛЬКІ ВЁРСТ ДА НЕБА?

Ідуць два дабрадзеі з ярмаркі. І як пяць вярстоў праехалі, так і адпачываць трэба: бо як пяць вярстоў, то й карчма стаіць. От ідуць і збалакаліся.

— А шчо, — кажэ, — як бы яго злічыць сколькі то вярстоў да неба?

— А бог яго святы знае, сколькі. Думка така, шчо вярстоў з пяць будзе.

— Цю на цябе, куме! Та як бы туды пяць вярстоў было, то там бы карчма стаяла!

### 502. ПРЫЧЫНА

— Чаму гэта ты, кум, як п'еш гарэлку, заплюшчваеш вочы?

— Бачыш, куме, я прысягнуў жонцы, што на гарэлку ніколі глядзець не буду.

### 503. МОЦНАЕ ВІНО

П'юць сяляне ў карчме віно і крывяцца, бо занадта яно ўжо вадою разбаўлена. Вось адзін селянін, падмаргнуўшы другому, кажа дачцы карчмара:

— Нешта ў вас віно надта моцнае, трохі варта было б яго разрабіць...

— Ды што вы, бацька яшчэ адвячоркам уліў у бочку вядро вады,— адказала дачка.

### 504. РАЗУМНЫ СЫН

Бацька паказвае сыну пяцірублёвы залатнік і пяцірублёвую паперку і пытаецца:

— Каторую хочаш?

Сын паглядзеў, пачухаўся дый кажа:

— Я хачу гэты залатнік, укручаны ў гэтую паперку.

## 505. СЛЕДАМ ЗА ДЗЕДАМ

Ішоў сабе раз мужык да месца на кірмаш. Ішоў ён, ведама, босы, а боты свае з дзеда-прадзеда нанізаў на кій, і нёс на плячах, ды так загледзеўся, разявака, што (трэба ж няшчасце) надта моцна ўдарыўся нагою аб камень, ажно злупіў сабе з пальца на назе кіпаць.

Хоць кроў цячэ і баліць, але ён, узіраючыся на сваю рану, кажа:

— Вось шчасце, што я ішоў босы, а не ў ботах, а то цэлага бота зусім расхвастаў бы!

## 506. ДОБРАЯ ДУМКА

— Ведаеш, сват, добрая думка прыйшла мне ў галаву.

— Ну?

— Я вычытаў у газетах, што ёсць нейкая мазь на ўзрост валосся; куплю сабе, буду мазаць сваю світку, а можа вырастуць на ёй валасы і будзе з світкі кажух.

## 507. СОН

Мужык (*кажа да жонкі*). Ведаеш, Тэкля, вельмі нешта добрае я сягонняшняй ночы прысніў.

Жонка. Я такі дагадалася: праз сон ты крыкнуў: «Дай, Моўша, яшчэ кварту».

## 508. ЯК ЛЕЎ

— Як я выглядаю? — пытаўся ў свайго сябры п'яны, рукі ў бок падпёршы.

— Як леў,— кажа той.

— А дзе ж ты бачыў льва?

— А во, чуеш, як хрукае ў хляве?

— Гэта ж свіння!

— Вось жа і ты так выглядаеш! — адказаў сябра.

## 509. АЖ У ВУХУ ЗАЗВІНЕЛА

Два суседы, выпіўшы чэраз меру, пасварыліся, да адзін аднаго як трэсне па вуху, дак яму аж зазвінела.

— Ты,— кажа, абярнуўшыся да седзячага моўчкі чужога чалавека,— бачыў, як ён мяне ўдарыў па мордзе?

—Не,— кажа,— не бачыў.

— Дак паслухай, як у мяне звініць у вусе.
— Не чую,— кажа, паслухаўшы.
— Значыцца, ты і не бачыў і не чуў?
— А ўжэ ж?
— Дык на ж табе — і пабач, і пачуй! — да трэсь яго па вуху, аж зазвінела.
— А цяпер скажаш праўду?
— Трасца ж тваёй матары ліхая! — крыкнуў чажастаронны чалавек, пакрыўджаны ні за што, ні пра што,— так трэснуў, што аж звініць у вусе.

## 510. ЧОРТ НА ПАГАНАГА НАПАЎ

Прыйшлі да шаўца госці. Пасылае шавец свайго малога памачніка́ і з жбанком купіцці піва.
— Але ж, пане майстра, ваша не даў мне грошы на піва.
— Вось, гэта кожны дурань патрапе прынесці піва за грошы. А ты прынясі без грошай, тады будзе штука...
Хлапец пайшоў. За часіну варочаецца, ставіць супакойна перад шаўцом на стале парожні жбанок і кажа:
— Калі ласка, піце, пане майстра!
— А што я маю піці, калі жбанок пусты?!
— Э, гэта кожны дурань патрапе з поўнага напіцца, а вы напіцеся з парожняга — вось будзе штука.

## 511. ДЗІЎНЫ АБАВЯЗАК

Акцызны кантралёр зайшоў да местачковага крамніка і пачаў за нешта (а мо і без-дай прычыны) пісаць пратакол.
Крамнік запрасіў акцызніка да сябе і пасадзіў яго за стол, багата застаўлены рознымі гарэлкамі й закускамі.
Акцызнік добра насцёбаўся й начаставаўся, дый пачаў ізноў пісаць пратакол. Крамнік усунуў некалькі даляраў яму ў кішэню і пачаў прасіць акцызніка:
— Паночку, даруйце! Вось ваш гасцінчык.
— Усё сваім пожондкем,— адказуе акцызнік,— выпілэм і законсілэм, то своім пожондкем, доляры взенлэм тэж своім пожондкем, а цо тшэба протокул спожондзіць — рувнеж своім пожондкем. Ніц не зробіш — такі наш ценжкі обовёнзэк!

## 512. ДОБРА Б'Е

— Суседзе, ці добра б'е твая новая стрэльба?
— Вельмі добра, учора з паліцы звалілася і пяць гаршкоў пабіла.

## 513. ЯК БАГАЦЕЙ ЗЛОДЗЕЯ ЗА НОС ПАПАВАДЗІЎ

У адной вёсцы былі тры багацеі, ды да таго ж і дурні. Вось яны на спаса паехалі на кірмаш валоў прадаваць. Адзін прадаў адразу за 600 рублёў, і ў яго адразу ж і выцягнулі грошы.

Другі прадаў у абед. Грошы таксама выцягнулі ў абед. А трэці таксама прадаў у абед, а грошы і ў яго ўкралі, але вечарам.

Вось той, што ў яго грошы выцягнулі вечарам, прыязджае дамоў і хваліцца жонцы.

— Вось дурні мае кумы! Яны толькі прадалі, у іх адразу грошы й укралі.

— А ў цябе? — пытае жонка.

— Э, ты думаеш, што я дурны! Я іх папавадзіў за нос! Папамучыў! У кумоў адразу грошы выцягнулі, а ў мяне аж вечарам! Не на такога натрапілі!

## 514. ЯКРАЗ

Сядзяць у турме два задрыпанцы: адзін — за крадзеж каровы, другі — за крадзеж гадзінніка.

Той, што ўкраў карову, вырашыў пасмяяцца над суседам і пытае:

— А ці не скажаш, якая гадзіна?

Той глянуў на руку і адказвае:

— Якраз пара карову даіць.

## 515. У КІЛБАСНІКА

— Ці праўда, што ўчарашняя кілбаса была смачная!

— Гэтага не магу сказаць, але затое была надта свежая: я знайшоў у ёй кавалак учарашняй газеты.

## 516. СРЭБНАЕ ВЯСЕЛЛЕ

Жонка. Заўтра дваццаць пятыя ўгодкі нашага вяселля, ці не належала б на гэта свята зарэзаці курыцу?

Муж. Добра, даражэнькая, але ці ж курыца гэтаму вінна?

## 517. КАЎБАСА

Казаў мне адзін дзядзька, што як бы каўбаса мела скрыдла, тады б пякнейшай птушкі не было б на свеце.

## 518. ДОБРЫ СЫН

— Эй, сынок, не рабі так, а то будзем біцца!

— Тпру!

— А што?
— Што ж: калі біцца, дык біцца!

## 519. ЯК ЛЕПЕЙ

Спаткалі чалавека разбойнікі. Адзін кажа:
— Зарэжам.
Другі кажа:
— Павесім.
А гэты чалавек:
— Рабіце,— кажа,— людзі добрыя, як лепей.

## 520. ПАДЗЯКА ЦЕШЧЫ

— Я чуў, што вы ўжо, залаценькая цешча, хочаце нас пакінуць і выехаць?

— А як жа, мілы зяцёк, а як жа, бывай здароў, дай табе боженька разбагацець, каб у цябе было 60 хат, каб у кожнай хаце было 60 кватэр, каб у кожнай кватэры было 60 ложкаў і каб цябе ў дзень 60 разоў трасца трэсла ды перакідвала з адной пасцелі на другую.

## 521. ДОБРАЯ КУХАРКА

Казала нявестка:
— Чорт яе, мама, ведае гэту свякроўку: яна вара груцу ў такім сагане, як вядро, ды ўсё з'ядуць і яшчэ ім мала; а я звару ў маленькім, ды ўсё ж большая палавіна застаецца.

## 522. МАЧЫХА

Абдзяліла мачыха двох сваіх пасынкаў кожнага цэлым яблыкам, а свайму сыну нічога не дала, ды кажа да пасынкаў:
— А вы ж і майму сыну дайце хоць па палавінцы.

## 523. ЧАМУ ЛЮДЗІ З РОЗНЫМІ ВАЛАСАМІ РОДЗЯЦЦА

— Чаму гэта людзі родзяцца то чорныя, то белыя?
— Бо адны родзяцца ўдзень, а другія — уночы.
— А рудыя калі родзяцца?
— Таксама ўдзень, толькі тады, як сонца дужа паліць.

## 524. АСЦЯРОЖНЫЯ

Ішлі раз лесам глухі, сляпы, крывы дый голы. Аж глухі кажа:
— Слухайце, нешта трэснула.
А сляпы:

— Глядзіце, гэта разбойнікі.
— Скарэй на ўцёкі!— кажа крывы.
А голы:
— Бо нас абдзяруць.

## 525. БАЦЬКІ

— Ці б'юць цябе бацькі?
— Ой б'юць!
— А каторы болей: матка ці бацька?
— Каторы час мае.

## 526. КОЛЬКІ ГОД

— Адкуль мне ведаць, каторы мне год ідзе? Як нарадзіўся — быў без памяці; як рос — розуму не меў; а як ужо да розуму дайшоў, то тады б і лічыў, але ўжо шмат год прайшло.

## 527. АДНО ЦЕЛА

Муж (*да жонкі*). Муж і жонка адно цела?
Жонка. Ведама, што адно.
Муж (*трах жонку кулаком у плечы*). Ну, дык вось табе за тую пяцёрку, што я прапіў учора.

## 528. ВЯЛІКАЕ ГОРА

Мужык (*да жонкі*). Чаго плакаць, я ж не на век іду, а толькі на месяц.
Жонка. Ведаю, ведаю! Кажаш на месяц, а праз два тыдні вернешся.

## 529. У ВОЛАСЦІ

— Чаму ты, Алёкса, хоць такі багаты гаспадар, не пасылаеш свайго сына ў школу?
— І і і... Няхай пан пісар не жартуе... Я маю свайго сына вучыць, каб ён пасля вэксалі падпісваў, як наш паніч? Ці я звар'яцеў?

## 530. НЕ ХОЧА ВЕРЫЦЬ

Двое дзецюкоў сталі пад хатай старшыні, а адзін з іх крычыць:
— Дзядзька, а дзядзька!
— А што так? — пытаецца старшыня, высунуўшы галаву праз вакно.
— Ды вось што: Хвёдар не хоча верыць, што ў вас ад гарэлкі нос пачырванеў.

## 531. НАПІСАЛІ

Просіць мужык пісара, каб ён ліст напісаў да сына. Пісар і пытае:

— Ну, што пісаць?

— Пішыце, што мы жывы і здаровы.

— Ну, ужо напісаў. Больш што?

— Больш нічога: ён хітры, дагадаецца сам.

## 532. НА ПОШЦЕ

— Што ж, дзяўчынка, шлеш ліст без адрасу?

— Бо я так хачу! На што каму ведаць, што я да Ігналі пішу.

## 533. У ДОКТАРА

— Ці вы спіцё, разінуўшыся?

— Не давялося бачыць, прызнацца шаноўнаму пану, як я сплю, але цяпер ужо буду прыглядацца.

## 534. НЕДАГАДЛІВЫ

— Чаму ў цябе, куме, барада чорная, а галава сівая?

— Вось недагадлівы! Бо барада ад галавы гадоў дваццаць маладзей.

## 535. ЧАМУ ЛЮДЗІ ЖЭНЯЦЦА

Адзін жэніцца з кахання, другі — каб прыяцеля мець, трэці — каб грошы дастаць, чацвёрты — каб сірату ашчаслівіць, пяты — каб было каму кашулю залатаць, шосты — каб кавалерам не састарэць, сёмы — бо яму мама загадала, восьмы — дзеля сініх вочак, дзевяты і соты жэняцца, самі не ведаючы нашто.

## 536. БОЛЬШ ПАДАБАЕЦЦА

— Ведаеш, куме, што мне больш месяц падабаецца, як сонца, бо месяц стае чалавеку ў прыгодзе: як ідзе чалавек з карчмы дамоў, то месяц свеце і ўночы відно, а сонца што памагае? Яно больш днём свеце, а днём і без гэтага відна!

## 537. НЯПРАЎДА

— Курэнне табакі шкодзіць здароўю.

— Э, гэта няпраўда! Мой бацька курыць і мае ўжо 80 гадоў!

— Бачыш! А каб не курыў, то меў бы, пэўна, год з 90!

## 538. ПАЛЯЧЫЎ

Матка. Антоська, дзе тваё лякарства на вочы?

Антось. Я даў яго выпіць маломy Янку, бо яму дужа жывот баліць.

## 539. ЛЮДЗІ ПАМАГАЮЦЬ

— Чаму ўночы сабакі брэшуць, як удзень?

— Бо ўдзень ім людзі памагаюць.

## 540. ДАСЦЬ ДЫХТУ

— Ці бачыш? У тваю хату праз вакно лезе злодзей.

— Ціха, ціха... няхай лезе! Жонка падумае, што гэта я. Ну будзе дыхту, зарачэцца ён красці!..

## 541. БАЦЬКОЎСКАЯ РАДА

— Мой сынок, калі ты ведаеш, чаго хочаш, а хочаш таго, што можаш, і калі можаш усё, што хочаш, і ведаеш — што можаш — тады ты мудры чалавек.

## 542. З ПАДСЛУХАНАГА

— А паненцы хто больш даспадобы: Янка Купала ці Якуб Колас?

— А мне што да іх за наўда! Я маю свайго кавалера: пісара ў воласці.

## 543. НІЧОГА ДЗІЎНАГА

— Во, дзіва! Я чуў, што людзі з алею робяць камені. Як гэта яны робяць?

— Што ж тут за дзіва? А як карова робіць малако з сена ды саломы?

## 544. ВЫЙГРЫШНЫ БІЛЕТ

— Купіце выйгрышны білет.

— Не трэба, я не хачу выйграць.

— Ну, я маю і такі білет, што нічога не выйграе.

## 545. НЯВЫГАДНА

— Катора гадзіна?

— Не ведаю.

— Што ж, гадзінніка няма ў вас?

— Ёсць.
— Дык чаму ж не носіце?
— Нявыгадна, бачыце: гіры, махавік (маятнік), шкляная паўкрынка... ну і ўсё такое...

## 546. ШЧЫРАЯ

— Што б ты, Антоля, зрабіла, каб я цябе пацалаваў?
— Крычала б — мама, мама!
— Ну, а тады што было б?
— Нічога: бо нікога ў хаце няма.

## 547. ЧАГО ДЗЕЎКА БАЯЛАСЯ

Адна дзеўка ішла замуж дый вельмі разбедавалася:
— Я,— кажа,— нічога не баюся: ані свёкра, ані свякрові, ані мужа, ані дзяцей вадзіць, бо я ўжэ дванаццаць іх мела, толькі ведаеце, дзяўчаткі, найгорш баюся тае першае ночы!
От бадай яе спруткавала!

## 548. РАСТЛУМАЧЫЎ

— Бацька, а бацька, што яно такое: прысяжны адвакат?
— Гэта, сынок, такі чалавек, катораму верацъ толькі тады, як ён запрысягнецца.

## 549. НА СУДЗЕ

— Што ты ўкраў? — пытае суддзя злодзея.
— Вяроўку,— кажа,— з рагамі.
— З якімі рагамі?
— З кароўімі.
— А дзе ж тая карова?
— Цягнулася і яна за гэтымі рагамі.

## 550. ДОБРАЯ РАДА

— Бабулька, а што каштуе дзірка ад абаранка?
— А нічога не каштуе...
— Дык рабіце яе для мяне большай!

## 551. З ПАСТЫ

Парасяты, уцякаючы дажджом з поля, пішчаць:
— Пагінем, пагінем, пагінем!
А свіння, ідучы за імі, рохкае басам:
— Чорт вас не пабярэ, чорт вас не пабярэ, чорт вас не пабярэ!

## 552. ВАРОНА І ЗЯЗЮЛЯ

Бацька з сынам купілі на кірмашы карову ды вядуць яе дамоў, а варона, лятучы, кракае:

— Кра, кра!

— Брэшаш! — адказвае на тое бацька.— Не краў, а купіў.

На той час і зязюля закукавала: «Ку-ку!»

— А што? Вось і зязюля кажа, што я купіў, а не краў.

## 553. ПУСТАЗЕЛЛЕ

— Мне вельмі цяжка адрозніць маладыя раслінкі ад пустазелля.

— На гэта ёсць вельмі простая рада: вырывай усё разам. Тое, што адрасце, то і будзе пустазеллем.

## 554. МУСІЦЬ БЫЦЬ СПРАВЯДЛІВАСЦЬ

— Гаспадар! Мяне ўкусіла пчала з вашага вулля. Буду дамагацца.

— Маеце поўнае права, скажэце мне толькі, якая пчала ўкусіла вас, і я яе пакараю.

## 555. У ШАЎЦА

— Як ваш інтарэс, куме?

— А нічога сабе, добра. Нядаўна зарабіў трыццаць залатоўкаў.

— Адразу!

— Але.

— Якім жа спосабам?

— Адзін дзяцюк хацеў узяць напавер пару быкоў, а я яму не даў.

## 556. ДАЛІКАТНАСЦЬ

Чалавек, у якога сусед украў сякерку, так яе знаходзіць:

— Куме, добры суседзе, прапала сякерка на тваём седзе; не кажу, што ты ўкраў, а прашу, каб ты аддаў.

## 557. ЗМЯНІЎСЯ

Жонка. Раней ты заўсёды мяне зваў сваёю царыцай, а цяп

Муж. Во бачыш, як пажыў я з табою, дык стаў рэспублік цам.

## 558. АСЦЯРОЖНАСЦЬ

— Язэпка, адыдзі ўбок, бо гэты сабака вельмі злы: чуеш, як брэша?

— Ты ж ведаеш, што сабака, каторы брэша, не кусае.

— Я то ведаю, але баюся таго, што не кожны сабака гэтае правіла знае.

## 559. У СУДЗЕ

С у д д з я. Чаму вы дзвюма бутэлькамі пусцілі ў свайго суседа?

П а д с у д з і м ы. Бо першай не папаў, пане суддзя.

## 560. НЕ РАЗБЯРЭШ

— Скажы мне, чалавеча, дзе тутака жыве Нупрэй Касы?
— Вось хіба: ля Янкі Крывога.
— А дзе Крывы Янка?
— Дык ля Нупрэя Касога.
— А дзе ж яны абодва жывуць!
— Дык гэта ж ведама: каля сябе.

## 561. ЗАДАВОЛЕНЫ

— Ведаеш, Нупрэй, колькі разоў сустракаю тваю жонку, дык заўсёды цешуся.

— З чаго ж ты цешышся?

— Што яна не мая жонка.

## 562. У КАРЧМЕ

Тамаш снедае ў карчме. Уваходзіць прыяцель.
— Як маешся, Тамаш, што п'еш? Каву ці гарбату?
Тамаш кісла пазірае і адказвае:
— Не ведаю. Мне не сказалі.

## 563. ЧАМУ НА КРЭСЛЕ ПЫЛ?

— Марылька! Чаму на гэтым крэсле поўна пылу?
— А гэта, панечка, вельмі даўно як на ім ніхто не сядзеў.

## 564. ЧАМУ АЖАНІЎСЯ?

— Ведаю, ведаю,— кажа абураная жонка,— ты са мною ажаніўся толькі таму, што я мела грошы.

— Але ж не,— адказвае муж,— ажаніўся я з табою дзеля таго, што ў мяне не было грошай.

## 565. ЦІ З ХЛЕБАМ, ЦІ З ЗУБАМІ?

— Як лепей, ці з хлебам, ці з зубамі? Пайду за Янучка — хлеб будзе, зубоў не будзе. Пайду за Івана — зубы будуць, хлеба не будзе, дужа лядачы.

Мама сказала:

— А чорт цябе знае.

## 566. НЕ РАМАН, А ХВЁДАР

— Скажыце, Маня, ці вы кахалі калі-небудзь?

— А ці ж гэта навіна?

— Ну й як жа, быў раман?

— Не, Хвёдар.

## 567. НЕПАРАЗУМЕННЕ

— Паня такая маладая, а ўжо мае такіх выраслых дзяцей. Напэўна, паня рана выйшла замуж?

— Не, у шэсць вечара.

## 568. «ПЕРАВЫХАВАЎ»

— Мушу табе прызнацца, што я была зусім дурною, выходзячы за цябе замуж.

— А цяпер?

— Цяпер я ўжо не такая.

— Ну, дык заўсёды мне дзякуй, што я цябе перайначыў.

## 569. КАХАННЕ НА ДАЛЕЧЫНЮ

Ён. Мілая, калі б я далёка-далёка ад'ехаў, ці любіла б ты мяне?

Яна. Ну, што ты пытаешся? Чым далей ты ад мяне, тым больш я цябе люблю.

## 570. КУЛЬГАЕ, КАЛІ ХОДЗІЦЬ

— Не разумею, як ты можаш выходзіць замуж за кульгавага?

— Ну дык што? Ён жа толькі тады кульгае, як ходзіць.

## 571. ЖЭНІЦЦА

— Куды так ляціш? Памалей!

— Няма часу... жанюся і іду да маладой.

— Ну то ляці, а я пайду памалу, бо я ўжо жанаты і іду да жонкі.

## 572. НЕДАГАДЛІВЫ

— У нас нядаўна радзілася дзіця і на гэтую памятку мы пасадзілі яблынку.

— Вось дурны я! Чаму ж да гэтага не дагадацца мне — да гэтай пары меў бы садок.

## 573. АКУРАТНЫЯ

— Мая жонка вельмі акуратная жанчына... Для каждай дробязі мусіць мець сваё акуратна азначанае месца.

— І мая жонка так жа, толькі што таго месца не можа знайсці.

## 574. ДРУГІ МУЖ

Жонка. Ты кажаш, што мяне любіш. Але ты не адважыўся б на тое, што зрабіў для мяне мой першы муж.

Муж. А што ж ён такое зрабіў?

Жонка. Цераз два тыдні па нашым шлюбе запісаў мне свой маёнтак і... павесіўся.

## 575. ПЕРАСЦЯРОГА

Жонка (*у злосці да мужа*). Надовячы вярнуўся дамоў толькі ўчора. Учора — толькі сягодня. Зазначаю табе, калі сягодня — вернешся дамоў толькі заўтра, то я табе пакажу рускі месяц.

## 576. ПАРАДЗІЛА САБЕ

— Прашу прыняць маё сардэчнае спачуванне з прычыны смерці вашага мужа. Ці хоць крыху паня супакоіла больш свайго сэрца?

— Але: я ўжо выйшла замуж за ягонага брата і цяпер смучуся, як па страце толькі швагра.

## 577. «ДОБРА ВАРЫЦЬ»

— Ці добра ж варыць страву твая маладая жонка?

— Варыць то добра, але мне есці цяжка.

## 578. ХТО ПРА ШТО

Ішла адна баба на базар, другая — з базару. Сустракаюцца яны, аж гэта дзве кумы.

— Дзень добры, кума.

— На рынку была.

— Ты, кума, глуха.

— Купіла петуха.
— Да свідання, кума.
— Трыццаць рублёў аддала.

## 579. РАЗМОВА З ГЛУХІМ

— Здароў, Ісаю!
— Чаек шукаю!
— Ці яшчэ жыў-здароў?
— Ды ўжо чацвёра знайшоў!
— А ці добрая жонка ды дзеткі?
— А чорт іх зловіць падлеткаў!
— Тфу, дурны! Ці вас многа такіх дурняў?
— Ды чатыры дзежкі маці наскрабла!

## 580. ГУТАРКА З ГЛУХІМ

Ішло двух: адзін, глухі, з торгу, а другі, чуючы, да торгу. Чуючы кажа:
— Ці здароў, куме?
— Барана прадаў!
— А дома там ці здаровы?
— Пяць залатовак узяў!
— Дык бывай здароў, куме!
— А што зробіш, калі болей не даюць!

## 581. АБОЕ РОЎНЫЯ

Адзін падышоў да ракі ды заве перавозчыка. А абодва картавыя:
— Пеявязі на той бок!
— Я цябе пеявязу! Чаго д'яжнішся?
— Ды мы абое ёўныя.

## 582. РАЗГАВАРЫЛІСЯ

Стары Клім быў глухаваты і чуў толькі тады, калі яму крычаў хто пад самым вухам. Аднойчы капаў ён гліну. Падышоў да яго сусед і вітае:
— Дзень добры, Кліму.
Клім адказаў:
— Але, але, капаю гліну.
Сусед запытаў:
— Што ты, Клім, ужо аглух?
Клім адказаў:
— Сам капаю, а не ўдвух.
Сусед пытае:

—Чы даўно ты стаў недачуваць?
А ён адказаў:
— Пайду дадому начаваць.
Ізноў сусед пытае:
— Ці не бачыў ты мае казы?
Клім кажа:
— Накапаў ужо тры разы.
Сусед пытае:
— Ці даўно ты стаў не чуць?
Клім адказвае:
— Бывай, суседзе, здароў будзь.

## 583. ГЛУХІ І СЛЯПЫ

Сабраліся ў гарох глухі і сляпы. Сляпы кажа:
— Ах, сілен да стручыст!
А глухі не зразумеў і кажа:
— Бяжыць сіні да стучыць?
Пабеглі ўцякаць. Глухі бачыць разору.
— Мяжа,— кажа.
— Бяжаць?
І яшчэ хутчэй пабеглі.

## 584. СЛЯПОМУ ЎСЁ РОЎНА?

Хлопчык да булачніка:
— Адважце, дзядзька, тры фунты хлеба!
— Якога? Белага ці чорнага?
— Усё роўна,— гэта для сляпога.

## 585. ГРЫНЯ

— Здароў, Грыню.
— Да, капаю гліну.
— Што ты адурэў, не спаў?
— А што ж, ты думаеш, мала накапаў?
— Прашчавай, Грыню!
— Хопіць на ўсю зіму.

## 586. РАЗМОВА

— Індыка бачыў, кум?
— Агум!
— У дварэ, у сяле?
— Але!
— Дык дзе! Скажы!

— Не ржы!
— А ён жа як, прыгож?
— А ўжо ж!
— І, кажуць, важны так?
— А так!

## 587. ЖАРТАЎЛІВЫ ПАРАБАК

Гараў адзін парабак вельмі шутлівы, ажно едзе неякі пан дый пытае ў яго:

— Чалавечку, чый гэта двор?

— Гэта,— кажа,— пане, мой чорны вол!

— Да я пытаюся, чый гэта паліварак?

— Гэта,— кажа,— пане, мая саха і падпалак!

Той пан, няма рады, сеў дый паехаў да таго двара. Прыехаўшы, кажа да таго пана:

— Але ж у пана парабак мудры, як махляваць умее!

А той пан кажа:

— То цо, жэ уме: няхай он мне абшука, то дам сто рублі, але недачакане!

Добра. Паклікаўшы яго, а ён ужо дагадаўся нашто, та прэндзэй злажыў то торбу, да й то, засопшыся, убягае да пакою. Так пан кажа:

— Ну, абмані мяне, то дам сто рублёў.

— Ай,— кажа,— паночку, мне тут няма часу пану махляваць: унь,— кажа,— з таго і з таго возера ўся рыба выйшла наверх, усе з'язджаюцца, бяруць, то і я хоць з торбачку ўхаплю.

І пабег. Пан гэта хутчэй назад закладаць коні, паехалі, прыязджаюць — нічога няма!

І тады пан мусіў заплаціць сто рублёў.

А што, ці не хітры?

## 588. РОЗНІЦА

— Ці вы маеце жонку?

— Ці я маю жонку, на гэта мне трудна адказаць, але што жонка мае мяне —то гэта праўда.

## 589. ГУТАРКА ПРАЗ СОН

А трэцяй гадзіне ночы прачнулася паня Аміля і кажа мужу:

— Каруська, не магу спаць.

— Гэта не,— адказвае абуджаны муж.

— Каруська, а купіш мне новае паліто?

— Куплю.

— Які ты добры, мілы мой Каруська,— цешыцца паня Аміля.

— Не цешся яшчэ.

— А чаму?

— Бо я гутару праз сон,— спакойна адказвае муж.

## 590. КОЛЬКІ УСІХ?

— Ведаеш, Янка, ажэнімся, але адначасна з табою!

— Згода, добра! Але й штука будзе!

— Ну, якая ж тут штука?

— Чаму ж не штука, калі 12 асоб пачнуць гаварыць адно адна-му «ты».

— Як жа гэта ў цябе выходзіць?

— Вельмі проста: ты і твая жонка — дваіх; я і мая жонка — чацвярых; твая жонка і я — шэсць; мая жонка і ты — восем; на-шыя дзве жонкі — дзесяць, ну і мы абодва — вось табе і дванац-цаць!

## 591. КУЗЬМА

*На свеце ўсяго нажывеш*
*й Кузьму бацькам назавеш.*

Яшчэ саўсім дзецюком жаніўся Кузьма, а жонку ўзяў маладую, здаровую ды вельмі ўпраўную. Проста жыткі няма Кузьме: жонка слова не дасць выгаварыць. Што б ён ні зрабіў — усё не так. З кім бы ён ні загаварыў — жонка ўсюды свой язык уткне, насыпле, як бобу. Урадзіўся хлапчук. Няможна і сказаць, чаго не нацярпеўся Кузьма ад жонкі! Падрос трохі хлопец, а жонка і не падпускае к яму блізко бацькі. Расце хлопец і нікого не слухае. Наўчыла яго ма-ці, каб ён не зваў Кузьму бацькам.

— Кузьма, ідзі араць; Кузьма, свінней загані,— кажа сын, а бацькам ніколі не назаве.

Горно Кузьме, але нічого не зробіць. Смяюцца людзі.

— Дурань,— кажуць,— Кузьма. Перш жонка ездзіла на кар-ку, а цяпер падгадаваў сына, дык той сеў на карак.

От адзін раз паехаў Кузьма з сынам па сена. Наклалі яны вя-лікія вазы і едуць да господы. Мароз быў невялікі, дарога харошая, лёгкая. Паўзлазілі яны на вазы да і едуць сабе памаленьку. Пераеха-лі гладкае балота, пад'язджаюць к лесу. Пайшлі ўхабы. Злез Кузь-ма з воза і на выбоінах падтрымоўвае свой воз, а сын ляжыць на возе ды толькі камандуе.

— Кузьма, онь ухаба, падтрымай мой воз; правядзі жарабіну трохі на цаліну, а то воз абернецца.

Падтрымаў Кузьма свой воз на ўхабе, а воз сына нахіліўся і лёг набок. Паляцеў сын Кузьмы з воза і ўпаў у снег. Аблаяў Кузь-

му; паднялі яны воз і паехалі далей. Але вось на растанцах зноў пахіліўся воз дзецюка. Падбег ён збоку і ўпёрся плячом, але не змог і ўпаў у снег, а воз на яго.

— Кузьма! —крычыць з-пад воза,— падымі воз, а то жыў не буду.

Маўчыць Кузьма; дастаў сабе люльку, выняў з кішэні капшук з цюцюном і давай закурваць.

— Ляжы,— думае сабе,— калі не хочаш назваць мяне бацькам.

Зваў, зваў дзяцюк Кузьму, але бачыць, што той не слухае, а сам з-пад воза не можа вылезці, от ён і кажа:

— Бацька, падымі воз.

Рад Кузьма, што сын назваў бацькам, падняў воз і аслабаніў сына. Падняўся дзяцюк, абтрапаў снег, ды і кажа:

— На свеце ўсё нажывеш і Кузьму бацькам назавеш. От з тае пары і пайшла прыказка, што на свеце ўсяго нажывеш і Кузьму бацькам назавеш.

## 592. ШАНУЙ СТАРОГА, ЯК ДЗІЦЯ МАЛЕНЬКАЕ

Быў сабе стары чалавек, а меў ён сына жанатага. Так сын, як бацька ўжэ стаў не спасобны да жаднай работы, купіў яму дзеравяную міску да й кажа:

— Сядзь сабе за печчу, еж, а на хату нігды не вылазь!

Той стары, што рабіць, сядзіць сабе бедны. Анно ж аднаго разу ўнук яго прынёс калодачку да й давай яе даўбсці. Анно ж прыходзіць бацька да й кажа:

— Што ты, сынку, робіш?

— Нічога, татачку, тато ўжэ зараз будзе стары, то я раблю місачку, бо дзедава ўжэ пакалолася.

Той, гэто пачуўшы, спалохаўся,— да бацьку з-за печы да за стол.

— Еш,— ка,— татачку, што хочаш, і рабі, што хочаш.

І ад тае пары глядзеў бацьку, як сам сябе. От гэто бог даў яму на пакаянне, што яго ўласны сын напалохаў.

## 593. ЗЯЛЁНЫ ДУБ

Сівы бацько з двума сынамі абедалі ў лесе. Узяліся да гарачага баршчу. Пакаштаваў адзін сын — пячэ.

— Та й дуб жэ! — кажа.

І другі сын пакаштаваў:

— Та шчэ й зялёненькі! — кажа.

А бацько заслухаўся, пра шчо воны балакаюць, та як сербане тады поўным ротам таго баршчу, як падскочыць!

— А шчо б жэ вы, сынкі, на том дубе павіслі!

## 594. А САРОЧЦЫ ЦІ МЁД БЫЎ?

Крыў мужык гумно. Сарваўся якся і паляцеў уніз па кроквах. Чыста ўсе бокі пазбіў аб гвоздзі. Упаў далоў і плача. Прыбегла баба, ён ёй і жаліцца. От, яна слухала, слухала да й кажа:

— А сарочцы ж то ці мёд быў?!..

## 595. ЖЫВЫ КАЖУХ

— Скажыце, суседзе, што гэта за крык быў у вас учора?

— Нічога... Мая жонка кажух выбівала.

— Дык гэта кажух так галасіў?

— Не, гэта я крычаў, бо я ў тым кажуху быў.

## 596. ДЗЯЛІЛІ СПАДЧЫНУ

— Адкуль гэта ідзяцё, суседзе?

— З хаўтураў.

— Але ж у вас разбітая галава, падзёрты твар і парваная вопратка.

— Ну, гэта ад таго, што зараз жа па хаўтурах пачалі дзяліць спадчыну.

## 597. ЯК ЛЕПШ ДЗЯЛІЦЦА?

Два браты вадзіліся за спадак на бацьку. Прыйшлі яны да старшыні і просяць пагадзіць іх. А старшыня і кажа:

— Ты, старэйшы, маеш права падзяліць спадчыну на дзве роўныя часткі, а малодшы мае права выбраць сабе частку, якую захоча.

Браты паслухалі гэтай рады і старэйшы брат пастараўся як найлепей раздзяліць спадчыну на дзве роўныя часткі.

## 598. ПРЫЧЫНА

Адзін падарожнік бачыць, як яго сябра падарожжа кладзе ў канверт чыстую ліставую паперу, заклейвае канверт, прыкладае значок і піша адрас.

— Чаму ты гэта робіш? — пытаецца зацікаўлены ў сябра.

— Бачыш,— кажа той,— перад выездам я пасварыўся з жонкаю і цяпер не гаворым.

## 599. ВОСЬ ЯК!

— Ты ж мне пры алтары прысягала вернасць,— кажа муж жонцы.

— Бо, відзіш, пры алтары не выпадала спрачацца,— адказвае жонка.

## 600. ШЧЫРЫ АДКАЗ

— Татачка! Пан Паўла просіць мае рукі. Што яму сказаць?
— Скажы яму, што ў тваю руку я нічога не ўлажу.

## 601. НА МОСЦЕ

— Скажы, хлопча, куды я зайду гэтым мастом?
— Як-то куды? На другі бок.

## 602. СУСЕДКІ

— Кажаце, што вашы куры раптам перасталі несціся? А як жа гэта?
— Як? А мы іх парэзалі!

## 603. СУЧАСНЫЯ НЯНЬКІ

Нянька купае дзіця, якое пры гэтым плача. Пачуўшы плач, маці звяртаецца да нянькі:
— Хто ж гэтак купае дзіця! Раней трэба змерыць тэмпературу, каб вада не была гарачаю!
— Э,— адказвае нянька,— навошта такі клопат! Я маю свой спосаб: дзіця чырвонае — вада гарачая, дзіця белае — вада якраз!

## 604. НА КУХНІ

— Што ж гэта, Анелька, у цябе гашэльнік — а ты ж казала, што не маеш знаёмых...
— Выбачайце, панечка, ён незнаёмы, але толькі што прыйшоў пазнаёміцца.

## 605. КУМКІ

— Кума, колькі ж гэта гадоў Марылі Гамзовай?
— А гэта лёгка вылічыць: тры гады ёй было па 28, два — па 29, сем гадоў ёй было па 30, а цяпер чацвёрты год, як мае — 31,— дык разам— 48.

## 606. ЗУБ

— Вам баліць зуб? Каб гэта быў мой, я зараз яго вырваў бы.
— І я гэтак зрабіў бы, каб гэта быў ваш.

## 607. НА ПОШЦЕ

— Гэтае пісьмо зацяжкае, мусіце прыклеіць яшчэ адну марку.
С я л я н к а. Тады яшчэ больш пацяжэе! — Што ж мне, беднай, рабіць?!

## 608. ДЗЯЦЕЙ НЯМА...

— Сведка, як ваша імя і прозвішча?
— Мікола Касаты.
— Колькі гадоў?
— Восемдзесят два.
— Дзеці ёсць?
— Нямашака.
— Сакратар, запішыце, што дзяцей няма. Ну, расказвайце, Касаты, што вам вядома ў гэтай справе.
— Іду я, значыцца, са сваім сынам Гаўрылам...
— Пачакайце. Вы ж казалі, што ў вас дзяцей няма.
— Але, няма...
— Ну, кажыце далей.
— Іду я з сынам Гаўрылам праз поле...
— З сынам Гаўрылам? Вы ж кажаце, што ў вас дзяцей няма.
— Ну, няма.
— А Гаўрыла?
— Якое ж гэта дзіця? Яму ўжо пяцьдзесят гадоў стукнула.

## 609. У СУДЗЕ

Суддзя (*да селяніна*). Ну, як жа там было ў вас?

Абвінавачаны. А так, пане. Ён — у лес, і я — у лес. Ён — за вяз, і я — за вяз. «Ты,— кажа,— так», «а ты,— кажу,— як». Ён — за галіну, я — за кол. Ён — да мяне, а я — ад яго. Я — на воз, і ён на воз. Ён — па мне, я — па ім. Ён — пад воз, я — з воза, і паехаў. А цяпер тут. Дык судзіце, пане.

## 610. БОТЫ

— Як непрыемна насіць боты першыя тры дні.
— Дык вы абувайце толькі на чацвёрты.

## 611. У РЭСТАРАНЕ

Госць, павячэраўшы, да гаспадара:
— Што вы робіце з тымі, каторыя не плацяць за з'едзеныя стравы?
— Што раблю? А проста выкідаю іх за дзверы.
— У такім выпадку прашу не турбавацца: я ўжо сам выйду.

## 612. ЗДОЛЬНЫ ПАМОЧНІК

Машыністы. Што гэта сёння з цягніком? Ледзьве, ледзьве праехалі першы пад'ём!

Новы качагар. І каб я ўвесь час не трымаў тармазоў, дык мы бы скаціліся назад.

## 613. ПАДАЗРОНАСЦЬ

У доме аднае пані толькі што пачалі працаваць маляры. Увайшла гаспадыня і, падазрона глянуўшы на іх, кліча наймітку.

— Анелька, схавай гэты партман у шафу і дай мне ключы.

Тады адзін з маляроў вымае з кішэні гадзіннік і папяросніцу і, аддаючы хлопцу, кажа:

— На, занясі гэта дамоў, бо тутака, здаецца, няпэўнае месца.

## 614. ПАМІЖ РАЗНІКОЎ

— Учора быў вельмі добры кірмаш!

— А што ж ты купіў?

— Свінню. Але ж свіння, свіння! Чуць не такая, як я!

## 615. ЖАРТ ПА-СУСЕДСКУ

Антось і Ёська жылі па-суседску, недалёка. Ёська да яго і частавата прыходзіў. От аднаго разу прыходзіць Ёська, а гэты глытае лякарства, парашок. Ён кажа:

— Чаго ты глытаеш гэты парашок?

— О, гэта,— кажа,— парашок маладосці.

— Што ты,— кажа,— гаворыш?

— Да,— кажа,— гэта парашок маладосці. Ён дорага каштуе.

— Каб гэта мне як-небудзь дастаць?

А гэты Ёська быў багаты, ён грошай не шкадаваў. Антось кажа:

— Добра. Можна. Як па-суседску; я пастараюся. Але гэта,— кажа,— дорага будзе каштаваць.

— Ну,— кажа,— я заплачу, колькі там трэба будзе.

Ну, той кажа:

— Добра, заўтра прыйдзеш, будзе парашок.

От пайшоў Антось у аптэку і сказаў, каб яму далі парашкоў — такіх, што на развальніцельныя. От яму і далі гэтых парашкоў. От ён і прыносіць. Прыходзіць Ёська да яго. Ён кажа:

— Ну, вот, парашкі каштуюць столькі і столькі.

Той яму заплаціў.

— А як іх,— пытаецца,— ужываць?

— Гэта,— кажа,— трэба ўжываць іх на вадзе.

Ёська добра не разразумеў, што гэта значыць: на вадзе. Што гэта проста запіць. Ён скеміў, што гэта трэба ўзяць лодку, сесці і паехаць. Яшчэ падгаварыў сабе і таварышча. І той захацеў адмаладзіцца. І ўдвух паехалі. Выехалі на возера на сярэдзіну. Сталі і прынялі парашок. Прынялі парашок і едуць памаленьку. Тады Ёська ў сябра пытаецца:

— Ну, як ты, чуствуеш?
— Я,— кажа,— чуствую ўжо. А ты як?
— А я ўжо,—кажа,— як маленькі дзяцёнак.

### 616. З ПІСЬМАЎ ГАНДЛЯРОЎ ЖЫВЁЛАЮ

Адзін піша свайму сябру: «Рагатая жывёла паднялася ў цане — сцеражыцеся. Калі вам будуць патрэбны быкі — успомніце аба мне».

На гэта сябра адказвае:

«Усе свінні адасланы на чыгунку. Чакаю вас. Я прыеду толькі заўтра, бо пасажырскі цягнік не прымае быкоў».

### 617. НА БАЛЕ

— Як мала тутака выдатных людзей!
— Дзеля таго іх і мала, што яны выдатныя, а калі б было шмат, дык і не выдаваліся б яны.

### 618. КУПЛЯ СВІННЕЙ

Свінабой старгаваў у сялянкі свінню і зажадаў ад яе пісьменнай згоды мужа, каторага ў гэты час не было дома.

Назаўтра свінабой атрымаў ад мужа картачку гэткага зместу:

«Продаж маёй жонкі ёсць правамоцная і гэтую свінню можаце прыйсці забраць».

### 619. УДОВЫ ЖЫВУЦЬ ДАЎЖЭЙ ЗА МУЖЧЫН

— Ці праўда, што жанчыны жывуць даўжэй за мужчын?
— Добра не ведаю, можа, не ўсе, але што ўдовы, то жывуць даўжэй.

### 620. ЁН ЯГО ЗНАЕ

— Слухай, Андрэю, ці ты знаеш Алеся?
— Чаму не, добра знаю. Нават пазычаў яму залатоўку.
— Што, пазычаў яму грошы? Ну, то ты яго яшчэ не знаеш.

### 621. ПАЗНАЎ

— Я дзіўлюсь, дзіўлюсь: батца, ты — Церахоў сын, Мяллян?
— Батца, ён калісь быў!
— А матары тваёй трасца: я цябе не пазнаў. Зірнуў — батца, знакомы від, да прыбраўся, як панюга які: чаботы новыя, світа белая, козыр новы. Якраз панюга. Ледзьве пазнаў.

## 622. КАЛЯ МАГАЗІНА

— Што так прыглядаешся на выставу, Амілька?
— Аглядаю панчохі і не ведаю, які сабе выбраць колер.
— Вось дурная, вазьмі чорныя, бо як зробіцца дзірка, дык не будзе відаць ног.

## 623. ПАВОДЛЕ РЭЦЭПТУ

— А сёння вы выглядаеце значна лепей!
— Гэта таму, пане доктар, што заўсёды трымаў бутэлечку з лякарствам, і так, як на ёй было напісана.
— А як там было напісана?
— Бутэлечку трымаць моцна закаркаванай.

## 624. НА ВУЛІЦЫ

Прахожага сустрэў жабрак і кажа:
— Прашу вас на хлеб.
А той:
— Еш, браце, сам, бо я запрошаны на пячэню.

## 625. УЧОРА І СЁННЯ

— Але ж гэтае малако зусім кіслае.
— Ну, вы ўжо зашмат вымагаеце. Учора гэтае малако ўсе хвалілі.

## 626. МІЛЫ ГОСЦЬ

— Гаспада́ру, нейкі госць чакае ў пакоі.
— Дык падай яму крэсла, няхай прысядзе.
— Калі ж ён хоча забраць усе крэслы.

## 627. ФАТАЛІСТ

— Шмат бы я даў за тое, каб ведаць месца, дзе мне прыдзецца памерці.
— Нашто гэта?
— Проста,— ніколі туды не пайшоў бы.

## 628. КЛАПАТЛІВЫ

— Паверце, маю гэтулькі клопатаў, што аж уночы не магу спаць.
— Як жа вы трываеце?
— Сплю ўдзень.

## 629. ПРАЦАВІТАЯ ДАЧКА

Дачка цыруе панчохі. Падыходзіць маці і пытаецца:
— Яшчэ шмат маеш зрабіць?
— Мамачка, ужо другую панчоху канчаю.
— Праўда? — дзівіцца маці.— Пакажы ж першую!

## 630. КАРЫСЦЬ З ПЧОЛАЎ

— Трахім! Як твой пчальнік? Маеш карысць?
— О, яшчэ колькі!
— Так шмат мёду было?
— Мёду то не, але пчолы разоў з пяць пакусалі цешчу, дык цяпер, брат, маю хату за вярсту абходзіць.

## 631. БЯСПЕЧНАЯ РЭЧКА

— І шмат загінула ў гэтай рэчцы людзей?
— Э, яшчэ ў ёй ніхто не загінуў,— кажа праваднік.— Часамі хто і ўтопіцца, але заўсёды яго знойдзем, хоць бы і па двух тыднях.

## 632. ТАКСАМА ХІРУРГ

Разніцкі майстар да доктара:
— Пане доктар, няўжо сапраўды вам трэба заплаціць 100 залатовак за аперацыю — адразанне малога пальца на маёй руцэ?
— Але, дарагі майстру.
— Але ж гэта немагчыма,— кажа абураны разнік,— няхай пан доктар прыйдзе да мяне ў краму, дык я вам за 5 залатовак адрэжу цэлую руку.

## 633. ТОЕ, ДА НЕ ТОЕ

Мабыць, вы яшчэ не памятаеце, да й куды вам, блазнам, памятаць! От тут, за грэбелькаю, было сяльцо; дак у том сяльцы жыў сабе адзін чалавек. Дак ён, бачыце, хоць быў нехлямяжы, але маў вельмі ўпраўны язык: бывала як скажэ, дак бы звяжэ. Зваўся ён Зміцер. Зміцер такі здатны быў на прысказкі, так ён гожэ гаварыў, што яго й паны слухалі. Наш пан добрэ знаў Змітра і часто зваў яго ў двор, каб ён пагаварыў да павесяліў гасцей, як яны збяруцца, усё перагавораць і не ведаюць, аб чом жупіць. Зміцер скажэ да прыскажэ, а паны толькі за бокі хватаюцца да аж пукаюцца ад смеху. А то часам Зміцер як скажа, дак таго цэлы век не забудзеш. Але от калі схочэ накпіць з каго, дак ужэ так накпіць, што таму сорам будзе не толькі людзям ачу паказаць, але і самому на сябе паглядзець. Нашы людзі зналі Змітра і ніхто ўжэ яго не чапаў; усе

берагліся яго, як агню. Толькі ось прыехаў у двор к пану якісь начальнік. Кажуць, ён быў татарын. Дак от схацеў той татарын агледзець панскі маёнтак. От і вялеў пан таму Змітру запрагці кабылілу да й абвезці татарына па маёнтку. Пасадзіў Зміцер татарына да й павёз. От толькі выехалі яны з двара, аж на расстанцох стаіць крыж. От Зміцер супыніў кабылку, зняў шапку да й перахрысціўся. Паехалі яны далей, але от стаіць пры дарозе слуп. Моо там быў капец, ці што. Зміцер без усякае ўвагі мінае той слуп.

— Чаму ж ты не перахрысціўся? — пытае Змітра татарын.

— Чаго ж я буду хрысціцца, калі гэста дзерава?

— Дак і то ж было дзерава, а ты хрысціўся.

— Тое, да не тое.

— Чаму ж не тое? Сераўно ж дзерава.

— Я б табе сказаў, да баюся, што ты будзеш лаяцца.

— Кажы, не буду.

— У цябе жонка е?

— Е.

— Дак, пэўна, ты, як прашчаўся з ёю, та й пацалаваў мо ў самыя губы.

— Аджэ ж пацалаваў.

— Чаму ж ты, шануючы гэстага дзянька святога й яснага сонейка, не пацалаваў яе ў сарамаценне? Сераўно ж цела. Але, мабыць, тое, да не тое.

## 634. РОЗНІЦА

У адной таварыскай грамадзе гімназіст захацеў пасмяяцца над сваім старэйшым сябрам, не вучоным, але паважаным чалавекам.

— Якая розніца паміж разумным і дурным? — пытае гімназіст.

— А такая,— спакойна адказаў запытаны,— што разумны ведае розніцу і ніколі аб ёй не пытае.

## 635. СПОСАБ

— І не напалі на цябе разбойнікі, калі праходзіў праз такі вялілі лес?

— Не. Маю на іх добры спосаб: як толькі спаткаю каго падазронага, адразу скідаю шапку і прашу ахвяраваць што-небудзь.

## 636. САМО САБОЙ ЯСНА

А д в а к а т *(да вязня)*. Уперад, чым узяцца бараніць вашу справу ў судзе, я мушу ведаць, ці вы вінаватыя, ці не.

В я з е н ь. Ці я вінаваты? А што ж гэта, маеце мяне за дурня ці што, каб я выбіраў найдаражэйшага адваката, не будучы вінаватым.

## 637. ЗАРАБІЛА

Малола баба, нанятая, у гаспадара цэлы дзень муку. Прыйшоў вечар, дык гаспадар кажа:

— Што табе, бабка, заплаціць за гэта?

— Ці я ведаю, сакалок...

— Забяры сабе гэтую муку, што намалола.

А баба на тое:

— Эй, саколіку, мне крыўда будзе за цэлы дзень; далажы яшчэ столькі!..

## 638. НА МОРЫ

— Як там на моры — мусіць, дужа цікава?

— Якое там ліха цікава. Вада балтаецца, хата ківаецца, з'ясі хвігу і... «паедзеш у рыгу».

## 639. У ВОЙСКУ

Сержант тлумачыць рэкрутам, што значыць войска і вайсковы парадак, і, між іншым, кажа:

— Ты, Карусю! І гэты той другі, трэці і г. д. аж да канца. Вы ўжо не цывільныя! Вы мусіце цвёрда запамятаць, што тутака ўсякая цывілізацыя ідзе далоў!

## 640. «ПРАЎДЗІВЫХ» ГРОШАЙ НЕ ЗРОБІШ

Ураднік. Як ты асмеліўся, шэльма, рабіць фальшывыя грошы?

Вінаваты. Бо бачыце, пане ураднік, праўдзівых аніяк не зробіш...

## 641. «ХВОРЫ»

— Чаго ты кульгаеш?

— Зуб баліць.

— Чаго ты плачаш?

— К доктару хадзіў.

— Што? Жонка памірае?

— Не!

— Дзіця?

— Не!

— Сам хворы?

— Сам. Але я прыйшоў к доктару ды забыўся, што ў мяне баліць.

## 642. НА ПОШЦЕ

Кабета кладзе на стол грошы.
— Як тваё імя? — пытае чыноўнік.
— Куліна.
— А як водчаства?
— Нешта цёмна, дзядзька, кажыце?!
— Ну, як цябе па бацьку завуць?
— А ў мяне бацькі няма: пяць год як ён памёр.

## 643. НЕ РАК, А ЛЯГА

— Цімох, Цімох, хадзі рака церабіць!
— А дзе ты яго ўзяў?
— Ён сам ка мне прыскакаў!
— То ж не рак, а ляга!
— Ну, ляга не ляга — засталася адна нага.

## 644. «БЛІЗКІ» СВАЯК

— Ці Янка блізкі вам сваяк? — папытаўся адзін у свайго знаёмага.

— Блізкі,— адказаў той,— бо дзядзька майго бацькі меў бабку цёткі майго дзеда, якая пайшла замуж за брата сястры мае маціры і мела першага сына таго Янкі, пра каторага вы пытаеце.

## 645. БЕЗ АПОШНЯГА СЛОВА

Суддзя. Якія былі апошнія словы вашага мужа?

Удава. Выбачайце, пане суддзя, але мой муж ніколі не меў апошняга слова.

## 646. ЯКАЯ Ў МЯНЕ БЫЛА ХВАРОБА

Вы ж хоць і бачыце, але ж не пазнаёце, чый я сын, скуль я родам і хто я такі. Я не ўрода — прычына таму худоба. А ад чаго худоба? Хвароба. Мая байка без канца, як кабыла без хваста. Але лепш недаказаць, чым лішняе сказаць. А было гэта так (хоць расказваць я невялікі мастак).

Я, красаўчык, выпіў у чарнабрывай Дашкі гарэлачкі стаканчык; патрымаў яго за вуха і стала ў стаканчыку суха. Гарэлка весяліць, але ад яе галава баліць. І калі пазваў раз мяне мой дзядзька да сябе ў госці грызці косці,— пайшоў я. А дзе чарка, так і сварка. Паставіў ён мне добры абед. Падаў першую страву, а потым як дасць

мяне носам аб лаву! Не схацеў я таго есці, думаў у куточак сесці. Паставіў мне другу страву — кажамяцкага дуба. А я таго не еў і не буду. Ён мяне скурчыў нібы, ды як ударыць капылом у зубы. Паставіў мне трэцюю страву — крэпкі тытунец, а як паеў я яго, дык думаў, што мне будзе канец.

Дзядзіна стала мяне ратаваць да за каўтуны з хаты выцягаць. А дзядзька такую міласць маў, што на спіне ўсю кацюбу (качаргу) паламаў.

От ад таго ўсяго я і захварэў. А як у хваробе ляжаў — на ўсю хату стагнаў, чатыры буханкі хлеба сажраў. От якая ў мяне была хвароба, што з'еў я хлеба тры кароба, ад гэтага і худоба. Ведайце, хто будзе гарэлку піць, таго заўсёды будуць біць.

## 647. БАЧЫЎ

— Ці не бачыў, васпан, бягучага зайца? — пытае паляўнічы аратая.

— Ага, бачыў.

— Ці даўно бег?

— А ўжо, пэўна, тыдні два будзе.

## 648. ТО ДРЭННА, А ТО ДОБРА

Устаў зранку і знайшоў таляр.

— То добра.

— Не очэнь добра, бо оба дзюравыя.

— То дрэнна.

— Не очэнь дрэнна, бо купіў два вепры.

— То добра.

— Не очэнь добра, бо да двару іх забралі.

— То дрэнна.

— Не очэнь дрэнна, бо зато з паней выспаўся.

— То добра.

— Не очэнь добра, бо пан застаў.

— То дрэнна!

— Не очэнь дрэнна, бо праз вакно ўцёк.

— То добра!

— Не очэнь добра, бо майткі забыў.

— То дрэнна!

— Не очэнь дрэнна, бо пані дамысліла і праз вакно выкінула.

— То добра.

## 649. ГАВОРКА НА СМЕХ...

Здзелаў спорку да маладзіцы, што няма ў вядрэ вадзіцы. Яна атвесціла:

— Я ж табе не запрэсціла, вазьмі да й схадзі!

Надзеў я шапку, уклаў у рукавіцы рукі, там уклаў у рукавіцу карбованец, у вялікі палец. Толькі ўзяўся за крук, як карбованец у ваду пук. Упаў я ў такую яму, што пайшоў у пазыкі к Адаму. Адам кажа:

— Не дам!

— Я к Барысу — ён мяне ў пысу. Я к Лявону — ён мяне з хаты гоня. У мяне слёзы, як вясной з бярозы. Аж Сцяпан на парог — уцёр мне слёзы.

— Хадзем,— кажа,— на кут, сто рублей у мяне тут!

Я да куту дайшоў, казаў, бы іх знайшоў. Ён у карман — аж карман прадран; ён у кісет — іх саўсім нет! Бачу я: з дзіраваго кармана ніколі не будзе дано... Пісано на смех, а праўды цэль. І мех і кайстра ад Кузьмы майстра.

## 650. ІШОЎ Я ДАРОГАЮ...

Ішоў я дарогаю, ішоў я шырокаю, знайшоў я кніжачку, ні бальшую, ні малую. У тую кніжачку дзяк піша і чытае, а сам нічога не знае. Адкуль узяліся осы, уплуталіся дзяку ў косы, паднялі пад самае сукаленца, дзе састроена цэркаўка з паленца, бараначкам замкнута, папранічкам заперта, калачыкам падперта. Я бараначак перакусіў, папранічкам закусіў, а калачык у запазуху. Увайшоў я ў цэркву, аж там папок, як аўсяны снапок, панамары, як хвенары, дзякі, як штыхі. Я дзяка за кудры.

— Ня руш мяне,— я дзяк прамудры: аднаму даў сто рублей, а другому — двесце, штоб я не ўцяраў етага места!

## 651. ХРЫСЦЯ

— Хрысця! Гані валоў дамоў!
— Нашто?
— Бацька ўмёр!
— Трында-брында, бацька ўмёр! Трында-брында, бацька ўмёр!
— Хрысця! Гані валоў дамоў!
— Нашто?
— Сучка здохла!
— А хто ж маю ху-до-бач-ку бу-дзя па-а-сціць!..

## 652. СМЕЛЫ

Сабраліся раз мужчыны й пачалі спрачацца, хто з іх смялейшы. Доўго яны спрачаліся й расказвалі, якія з імі былі страхі і што яны не палохаліся. Сядзеў тут адзін чалавек: ён моўчкі курыў люльку да слухаў, як выхваляюцца смельчакі. Чаго толькі яны не расказвалі. Адзін кажа, што яго як апанавалі чэрці ў лесе, дак ён адбіваўся ад іх усю ноч, аж да свету. Другі расказвае, што яго раз апанавала ў Піліпаўку воўчая гання і што гэто, мабыць, былі ваўкалакі. То вось якісь смяльчак расказвае, як за ім ганяўся нябожчык на могліцах. Слухаў, слухаў той чалавек, маўчаў, маўчаў да й кажа:

— Годзі вам хлусіць, годзі выхваляцца, бо ўсе вы аднолькава баязлівыя й не то, каб што, але ніхто з вас не асмеліцца пайсці цяпер на могліцы і ўбіць кол у магілу ведзьмара.

Пачалі тут хлусы выхваляцца, адзін перад другім гаварыць, што не баяцца ведзьмара і смела заб'юць у яго магілу кол, але як прыйшлося гэтае зрабіць, то ўсе пачалі ўвільваць, толькі адзін самы смелы вызваўся тады ж пайсці на могліцы поўначы да й забіць кол. От і пайшлі тут дзецюкі ў заклад на гарнец гарэлкі. Дзело было аб восені. Ночы цёмныя, хоць воко выкаль — нічого не бачно. Узяў той смелы чалавек кол да й пайшоў адзін на могліцы. Могліцы былі недалёка ад сяла, на ўзгорачку каля ракі. Пайшоў ён, а мужчыны ўзялі зубленку да ціхенько за ім следам да назіркам. Ідзе сабе той смяльчак, калом размахвае да, каб было смялей, бурчыць пад нос песню. Падышоў к могліцам, пастаяў трохі, паслухаў, а потым пералез цераз плот да й пайшоў шукаць магілы ведзьмара. Яна была каля самаго таго дуба, што на ім завесіўся адзін чалавек. Падышоў смелы дзяцюк к самай магіле, прысеў на кортачкі, абмацаў капец і давай убіваць у зямлю кол. Забіў ён моцно кол і хацеў устаць да ісці к дзецюкам, але не можа падняцца. От ён тузацца туды-сюды — няма рады: вядзьмар трымае бы зубамі. Спалохаўся наш смяльчак і давай крычаць немым голасам, быццам хто рэжа. Пачулі тое дзецюкі, засвяцілі зубленку да туды. Бачаць яны: аж смяльчак прыбіў калом к зямлі палу свае світы да й качаецца каля капца. Убачыў ён дзецюкоў да й не верыць, што гэта людзі, так ён спалохаўся. Насілу дзецюкі ўгаварылі яго да прывялі да гасподы. Але ён так спалохаўся, што чуць не памёр. Так от якія мы смелыя. Можа, і ўсе гэтакія? Што вы скажаце?

## 653. НЕ ТРЭБА

Жонка будзіць Кастуся:

— Уставай, стары, пеўні ўжо крычаць!

— Не трэба нам у гэту справу ўмешвацца,— прабурчаў Кастусь і перавярнуўся на другі бок.

## 654. ХТО МІЛЕЙШЫ

— Ой, пагана, суседзі: мая жонка парася больш шануе, чым мяне.

— Адкуль ты гэта ўзяў?

— Калі парася есць, дык Ганка стаіць каля яго ды ўсё прымаўляе: «Паглядзі толькі, як яно хораша есць, а як хорашанька п'е, любае маё парасятка». А як толькі я вып'ю хоць сто грамаў, дык адразу крычыць: «О, ужо нажорся, бы свіння».

## 655. ПАСТАРАУСЯ

— Кумок, прыйдзі папраў дзверы. Каты лазяць.

Кум як паправіў, сталі сабакі лазіць.

## 656. А ДЗІРКУ ЗАТКНУЎ?

Бацька, лежачы з сынам на печы, пытае:

— Васіль, ты стайню замкнуў?

— Замкнуў.

— А дзірку заткнуў, каб часам кабыла не вылезла?

## 657. АДКУЛЬ ВЕЦЕР

— Дзядзька Фама, у вашага суседа хата гарыць! — крыкнуў з парога хлопчык.

— Адкуль вецер? — спытаў дзядзька, паволі злазячы з печы.

## 658. ЗНАЙШОЎ ВЫЙСЦЕ

У адной вёсцы жылі вельмі лянівыя муж да жонка. Гаспадыня спала на пячы, гаспадар — на лаўцы, каля дзвярэй. Аднойчы раненька яна кажа:

— Стары, дождж на двары ці што?

Той схапіў рукою кацюбу, што стаяла ў галавах, ударыў ёю аб дзверы, адчыніў іх і паклікаў:

— Бобік, Бобік!

Калі сабака стаў на парозе, ён і кажа жонцы:

— Відаць, няма дажджу, бо Бобік сухі.

## 659. МУДРАЯ ПАРАДА

Сустрэла маці дачку, якую аддавала замуж у вялікую працавітую сям'ю.

— Ну як, дачка, жывецца замужам,— пытае.

— Ды нічога, мама, толькі заўсёды мокрым ручніком даводзіцца ўціраццa, як устану.

— А ты, дачуся, раненька ўставай, то і ручнік будзе сухенькі.

## 660. ХІТРЫ ХЛОПЕЦ

— Мама, дайце мне гароху.

— Добра, вазьмі сабе поўную жменю.

— Аж поўную жменю? То вы, мама, дайце самі, бо ваша жменя большая.

## 661. ВУЧЫСЯ

Прыходзіць Максім з вечарынкі а шостай гадзіне раніцы. Убачыўшы яго, суседка пачала крычаць на свайго Грышку:

— Вось людскія дзеці даўно ўжо гаспадараць, а ты ўсё спіш да спіш!

## 662. ХТО СТАРЭЙШЫ

— Хто з вас старэйшы — ты ці твой брат? — спыталі ў маленькага Міколкі.

— У мінулым годзе мама казала, што брат на год старэйшы за мяне. Так што сёлета я з ім зраўняўся,— адказаў Міколка.

## 663. ЗРАЗУМЕЎ

Маці корпаецца каля печы і гаворыць сыну:

— Сяргейка! Збегай у краму па соль. Ды хуценька, каб адна нага тут, а другая — там! У мяне боршч дакіпае.

Сынок апрануў кажушок, шапку, адзін валёнак і кінуўся ў дзверы. Маці яго спыніла:

— Ці ты з глузду з'ехаў? У адным валёнку бегчы думаеш?

— Дык вы ж самі сказалі, каб адна нага там, а другая — тут. Навошта ж абуваць тую, якая ў хаце застаецца?

## 664. РАЗУМНЫ СЫН

Вярнуўся хлопец з гулянкі позна дамоў, запаліў свечку, сеў каля стала і задумаўся. Так ён сядзеў, пакуль дагарэла свечка. Маці ўбачыла гэта і запаліла яшчэ адну свечку — можа ж такі сын нешта добра надумае. Ужо і развіднела, а ён ўсё сядзіць і думае.

— Пра што ж ты, сынку, думаў цалюсеньку ноч? — пытае маці.
— А дзе будуць нашы вераб'і хавацца, калі клуня згарыць,— адказаў сын.

## 665. РУКІ ЗАНЯТЫ

Крычыць Кастусь з печы:
— А ну, падай, жонка, пірог!
— Да ты хоць вочы прадзяры!
— Дык рукі ж заняты: якраз чарку наліваю!

## 666. САЛДАТ І ПЁТР І

Гэта было ў Пецярбургу. Ішоў салдат па вуліцы і пеў: «Грошай няма, а выпіць хочацца». Ідзе насустрач Пётр І і кажа:
— Пойдзем, салдат, са мной у кабак і вып'ем.
Салдат не ведаў, што перад ім цар, бо быў Пётр надзеўшыся ў простую адзежу.
Зайшлі яны ў кабак і селі за стол. Цар захацеў даведацца, што з сябе прадстаўляе гэты рускі мужык. Перш ён даведаўся, якое яго прозвішча і дзе ён служыць. Салдат захмялеў ужо трошку, а цар пытае:
— Скажы, салдат, як глыбока наша мора?
А салдат і адказвае:
— Мой бацька сорак год як утапіўся ў моры, і яшчэ невядома, ці дайшоў да дна.
Падзівіўся цар і пытае:
— А скажы, салдат, як вяліка наша матушка Расія.
Салдат і адказвае:
— Бачыш, дзе ўзыходзіць сонца і дзе яно заходзіць, гэта і ёсць наша матушка Расія.
Але салдат ужо зусім зап'янеў. Прыйшоў гаспадар кабака, каб яму заплацілі. Пётр парыўся ў кішэнях і кажа, што ў яго не хапае грошай. Тады ён прапануе салдату, каб ён залажыў сваю шпагу. Але салдат не згаджаецца. Ён гаворыць, што як гэта можна, каб рускі салдат абмануў цара-бацюшку і сваю Радзіму. Але цар угаварыў яго. Сказаў, што дастане раніцай грошы і выкупіць шпагу. На тым і парашылі. Салдат заклаў шпагу і зусім п'яны пайшоў.
Раніцай, не паспеў ён прачнуцца, як затрубілі збор. Салдат хутка сабраўся і выйшаў. Тут толькі ён даведаўся, што прыедзе на асмотр сам цар. Салдат вельмі спалохаўся, бо ўспомніў, што няма шпагі. Ён пазычыў грошай і пайшоў у кабак, каб выкупіць шпагу. Але гаспадар адказаў, што шпагу ўжо выкупіў той чалавек, які быў з ім учора. Салдат зусім разгубіўся. Але, вяртаючыся, ён падумаў абхітрыць цара. Купіў ножны для шпагі і заказаў столяру зрабіць драў-

ляную шпагу з добрай рукаяткай. Калі «шпага» была гатова, ён вярнуўся назад. Тым часам прыехаў цар. Салдаты выстраіліся. Стаў у строй салдат Іваноў. Цар пахадзіў перад салдатамі і пазнаў учарашняга знаёмага, потым сказаў, як трэба захоўваць сваю чэсць і царскую зброю. Потым, сказаўшы гэта, ён гаворыць:

— Салдат Пятроў, выйдзі са строю.

Другі салдат выйшаў. Тады цар загадаў:

— Салдат Іваноў, сякі галаву салдату Пятрову.

Але і тут растаропны розум дапамог нашаму салдату. Ён стаў на калені і пачаў маліцца:

— Божа, калі ты ёсць, то ператвары маю шпагу з жалезнай у драўляную. Не хачу я забіваць ні ў чым не павіннага чалавека Пятрова.

Ускочыў з зямлі, хутка выхапіў драўляную шпагу і паламаў яе над галавой. Усе вельмі здзівіліся. Здзівіўся і цар хітрасці рускага салдата.

Падышоў да яго, аддаў яму шпагу і два рублі на водку, але сказаў, каб сваёй шпагі больш у кабак не закладаў.

## 667. ПАКВАПІЎСЯ

Жылі два браты: бедны і багаты. У беднага быў сын. Вось аднойчы багаты брат з сынам беднага брата паехалі на млын. Папрацавалі яны і селі палуднаваць. Багаты дзядзька і пытае ў пляменніка:

— Што ў цябе ёсць есці?

А той і кажа:

— Хлеб сыры ды салодкі.

Але хлопчык быў картавы, і дзядзьку пачулася: «Хлеб, сыры ды сялёдкі».

А дзядзькаў полудзень быў хлеб з салам. Ён і думае: «У пляменніка полудзень лепшы. Трэба спачатку мой хлеб з салам з'есці, а потым будзем яго сыры і сялёдку есці».

Яны так і зрабілі: з'елі дзядзькава, ну а тады пляменнік і паказаў дзядзьку свой полудзень.

## 668. ПРА ЖМІНДУ-КУЛАКА

Пайшоў неяк парабак да кулака рабіць. А кулак скупы быў надта: нават есці шкадаваў даць. Вот прыйшоў вечар, сеў есці парабак. Глядзіць на яго кулак, зыркае, а той нават вокам не вядзе, есць і ўсё. Надта кулаку хлеба шкада стала. Ён і гаворыць:

— Янусь, Янусь, ты з бульбай саладуху еш, смачней будзе.

А той адказвае:

— Нічога, мне і з хлебам добра.

## 669. ПАНСКАЯ «КВАКТУХА»

От адна пані шукала, каб дзе курчатку-курыцу знайсці, якая б многа выседзела яек. От прыходзіць адзін мужычок ды кажа:

— Пані! Я магу хоць і дзвесце выседзець!

— Ну, добра,— згадзілася пані.

От гэтага мужычка завялі ў восець, насыпалі там многа яек, і гэта ён ужо выседжвае яйкі. Носяць яму есці. А ён сабе гэтыя яйкі п'е патрошку і сядзіць. Ну, але падышоў той час, што ўжо пара, каб кураняты былі. Што ж яму рабіць? Вот ён узяў ды запаліў гэту восець і кругом лётае.

— Ку-ку-дах-дах-дах! Ку-ку-дах-дах-дах!

Ды скарэй да агня, ды ў агонь. Пані сядзіць на верандзе і кажа слугам:

— Ляціце скарэй, бараніце, каб ён часам не ўляцеў у агонь. Гэта ж матка! Матка можа за куранятамі і ў агонь уляцець.

Тут прыбеглі слугі, а ён усё рвецца ў агонь і ку-ку-дахча і ку-ку-дахча. Ну, нарэшце, і адвялі і прывялі да пані. Ну, дык пані гаворыць:

— Ну, ну, што зробіш, згарэла ж. Але добра, што ў агонь не ўляцеў.

— Ай, панечка,— кажа,— я і уляцеў бы, каб мяне не затрымалі.

## 670. ЦІ НЕ ЎСЁ РОЎНА ЯК?

Жыў пан. І вельмі ж ён любіў хваліцца. І коні ў яго самыя лепшыя, і сабакі самыя лютыя, і пакоі самыя багатыя, і дзяўчаты-прыслужніцы самыя прыгожыя.

Была аднойчы ў пана бяседа. І загадаў ён, каб пад кожную страву чыстыя талеркі падавалі. А так як гасцей было шмат, то талеркі трэба было ўвесь час мыць. А гасцявалі паны ўжо некалькі дзён. Кухонныя дзеўкі з ног збіліся, посуд мыючы.

Быў у пана лакей. Даволі кемлівы малы, як лічыў пан. Якраз гэтаму лакею ён і загадаў прынесці чыстую талерку. Пабег той на кухню, аж там бяда. Дзеўка адна кіпятком абварылася. Крычыць яна, галосіць, а ўсе астатнія абступілі яе, усхліпваюць спачувальна, і ніхто нічога не робіць. Крычаў ён, крычаў, бачыць, што не даб'ецца толку, схапіў брудную талерку, а памыць няма дзе. Каля балеі дзеўкі галосяць — не падысці, і рушніка нідзе няма. А тут якраз конюхаў сабака падвярнуўся. А ў сабакі таго хвост пушысты, вялізны. Плюнуў лакей на талерку, хвастом сабачым выцер, рукавом падправіў. «Ці не ўсё роўна як, абы чыста»,— сказаў так і панёс талерку пану.

## 671. БЕЗ ЗЛОСЦІ

Слуга. Не злуйцеся, паночку, але я ўжо два месяцы ад вас пенсіі не браў...

Пан. Нічога, нічога, я не злуюся і далей злавацца не буду.

## 672. ДЗЯДЫ

*Стары, як малы. Усе людзі па старасці дзяцінеюць.*

*І сабака на старасці не брэша. Пастарэў, та й сапсеў.*

Ведама, у самае жніво ўсе пайшлі на работу, асталіся ў сяле толькі старыя да малыя. Малыя перасыпаюць пясочак, або з яго аладкі пякуць, ці ямачкі капаюць, а старыя сядзяць у кажушках на прызбах да грэюцца на сонейку, бо, ведама, на старасці дак і ўлетку холадна.

От высунуліся сабе два старэнькія дзяды-суседзі, грэюцца на сонейку да глядзяць, як дзеці гуляюць. Напрыкрала ім сядзець без работы, от адзін і кажа:

— Павядзём коней на пашу.

— Добра,— кажа другі,— толькі давай мы будзем гаварыць, бы дзеці, мо яшчэ й памаладзеем.

— Добле,— кажа другі дзед.

Узялі яны коней, вывелі за сяло ў хмызняк і пусцілі на пашу, а самі селі й давай перасыпаць пясочак.

— Дай злобім жыжу. Злобім да спяком яеценьку.

— Добле, спяком.

Наклалі яны агню й давай пекці яечню. Спяклася яечня. От адзін і кажа:

— Збегай ты паглядзі, гдзе косі.

Пабег адзін дзед за кусты глядзець коней, а другі тым часам і з'еў яечню. Прыходзіць потым і пытае:

— А гдзе ж яеценька?

— Зіжа з'ела,— кажа другі дзед.

Прамаўчаў той, а потым кажа:

— Збегай паглядзі, гдзе косі.

Другі дзед скінуў свой кажух і пацёгся за кусты глядзець коней. Гэты дзед тым часам ускінуў кажух другога дзеда на агонь і дроў падлажыў. Згарэў кажух, як пяро. Прыходзіць той дзед і пытае:

— А гдзе ж мой казусок?

— Зіжа з'ела,— кажа дзед.

Тут давай яны тузацца за каўтуны да лаяцца на чом свет стаіць. Забыліся, што й гаварылі, бы дзеці. Пабіліся дзяды й пайшлі на суд. Суддзі пытаюцца, за што яны біліся. Расказваюць дзяды, як было.

### 673. У ДЗІЦЯЦІ, ШТО Ў ДВАРЭ, ТОЕ І ПАН

Аднаго разу маці хлопца выправіла, каб бацьку есці занёс на поле, а на поле трэба было ісці цераз двор, а ён яшчэ ніколі не быў у дварэ і паноў не бачыў, вядома, блазян. Ну, так ён увайшоў у двор, аж індыкі проціў яго ідуць, так ён думаў, што гэто паны. Яны падышлі, дый крычаць:

— Шульду-бульду!

А ён, думаючы, што пытаюць: куды ідзеш? — кажа:

— На поле іду.

Потым індыкі бліжай падышлі, дый зноў:

— Шульду-бульду!

А ён кажа:

— Тату есці нясу!

Індыкі яшчэ бліжай, дый:

— Шульду-бульду!

А хлопец:

— Ну то,— кажа,—дахаты пайду, калі не пушчаеце.

І вярнуўся дахаты. Так маці кажа:

— Ля, чаму ж ты есці не занёс?

А ён кажа:

— Ляньцеся! Як увайшоў у двор, так паны запынілі, зачалі крычаць і не пусцілі.

### 674. ДЗІЦЯТКА

Аднаго разу сядзелі купцы ў заезджым дварэ. Гаспадыня выйшла з хаты, а хлопчык яе пачаў крычаць па матцы. Крычаў, покуль не замарыўся, а тады змоўк.

— Ну, дзякуй богу, перастаў,— кажа адзін купец.

А хлопчык, пачуўшы гэта, адказвае:

— Ага, перастаў, адпачну ды зноў буду.

### 675. РАЗУМНЫ ХЛОПЕЦ

— Чаго плачаш, Янук?

— Капейку згубіў.

— Вось табе дзве, толькі не плач.

Янук узяў дзве капейкі, схаваў ды і зноў плача!

— Да чаго ж ты плачаш?

— Як жа мне не плакаць? Як бы не згубіў гэтай капейкі, дык меў бы ўжо тры.

## 676. НАСТАЎНІЦА МАЛА ВУЧЫЛАСЯ

— А што, Янук, спадабалася табе твая новая настаўніца?
— Ды яна, мамачка, нічога сабе, пекненькая і не старая. Але, мусіць, яна мала вучылася, бо ўсё і аб усім мяне пытаецца.

## 677. ІНСПЕКТАР І ХЛАПЕЦ

Школьны інспектар, едучы праз вёску, запытаў хлапца-школьніка, дзе дарога ў школу?
Той дарогу паказаў.
На другі дзень інспектар запытаў яго ў школе, выклікаўшы да карты, як вядзе дарога ў Варшаву?
Хлапец доўга пазіраў на карту, нарэшце сказаў:
— Пан інспектар не ведаў дарогі ў школу, а хоча, каб я ведаў дарогу ў Варшаву.

## 678. НАШТО ВУШЫ?

Настаўнік. Слухай, Янук, нашто ты маеш вушы?!
Вучань (*глянуўшы спадылба на настаўніка*). Каб вы мелі за што дзерці, пан настаўнік.

## 679. НАШ НАСТАЎНІК

Бацька. Хочаш, Пранук, я табе загадаю загадку. Скажы мне, што гэта: не есць, не п'ець, а ходзіць і б'ець? (Насценны гадзіннік).
Пранук. А хто ж, як не наш настаўнік.

## 680. ПРЫ ЛІЧЭННІ

Настаўнік (*папраўляючы сына карчмаровага*). Лічыць можам толькі рэчы аднаго гатунку. Напрыклад: яблык і бульбіна не будуць ані яблыкі, ані дзве бульбы.
Вучань (*усміхаючыся*). А чаму літар віна і літар вады разам два літры віна?

## 681. ДОБРАЕ ПЫТАННЕ

Малы Янучок у грамадзе згубіў бацьку. Плача, шукае. Нарэшце звяртаецца да паліцыянта:
— Ці вы часам не бачылі аднаго пана без гэткага хлопчыка, як я?

## 682. У ЦЫРКУ

Сын. Глянь, татуля, во леў. Кажуць, што гэта вельмі страшны звер,— ён есць людзей.

Б а ц ь к а. Ат, гэта, можа, дзесь там у цёплых краёх, а ў нас людзей з'ядае падатак.

## 683. ПАД СТАРАСЦЬ АДГУКНЕЦЦА

Пачула маці, што Антук яе плача. Хлопчык быў ужо сямігодка, крумяненькі. Выскачыла на задвор'е і пытае:

— Чаго ты, сынок?

— Певень на нагу наступіў.

— То што ж за бяда, певень не конь, нагі табе не скалечыў.

— Ага, не скалечыў, а як пад старасць, то і гэта адгукнецца.

## 684. БАБА НЕ БЯДНЯЧКА

Ідзе вуліцаю вёскі бабуля, а пад рукою боты нясе.

— Чаму, бабуню, басанож ідзеце? — пытаюць людзі.

— Не люблю абутаю хадзіць.

— А боты навошта пад рукою?

Каб людзі не падумалі, што я бядначка.

## 685. ДЗЕ Ж ВЫГАДА?

Ехаў Грыц на кірмаш. На вузлавой станцыі поезд спыніўся. Грыц і пытае ў пасажыраў:

— Што здарылася? Чаму не едзем?

— Паравоз мяняюць,— адказалі яму.

— Як гэта мяняюць?

— Паравоз на паравоз.

— І што — абмяняюць так на так? — шчыра здзівіўся Грыц.— Без ніякай выгады?

## 686. ЧУЖОЕ І СВАЁ

На вуліцы балакаюць жанчыны. Раптам з-за плоту выбегла свіння.

— Ой, людванькі, чыя ж гэта такая вялікая свіння? Ды яшчэ і рые. Чаго добрага, маю хату падрые! Каб ёй у рыла сем цыганскіх іголак, праклятай!

— Соня, дык гэта ж твая.

— Ой, горанька! І сапраўды маё парасятка. І як яно, малюсенькае, вылезла з хлява?

## 687. АРАТЫ І ПРАХОЖЫ

На лаўцы ля дарогі аддыхаў араты, уплятаў падабедак, замарыўся ж. А тут праходзіў нейкі дзядзька. І тожа, наверна, прачухаўся, раней жа далёка хадзілі пешшу. Стаў гэты чалавек ля аратага, а той і не глядзіць на яго, есць. А прахожы пытае:

— А й дзе ж, добры чалавек, тваё «просім-ядзім?»

— А там, дзе ваш «добры дзень». Які прывет, так і атвет. Есць сабе!

## 688. НА ЛУЗЕ

— Чаму мы мала скасілі? — пытаецца бацька ў сына, збіраючыся абедаць.

— Ты — стары, я — малы, каму ж было касіць,— адказаў сын.

— Чаму мы многа з'елі? — пытаецца бацька ў сына, паабедаўшы.

— Ты — мужчына, я — мужчына, чаму ж многа не з'есці?

## 689. ДАМАЛОТКІ

Малаціў адзін дзядзька з сынам жыта. Два дні малацілі дзень і ноч, ды стаміліся. Пазваў суседа дапамагчы. Малацілі, малацілі, ды трэба ўжо дамалоткі спраўляць. От пайшоў ён у лаўку, купіў чакушку, гаспадыня паставіла таго-сяго на стол...

Паставіў гаспадар чаркі, сабе і сыну наліў поўныя, а таму, суседу,— што асталося, грам з дваццаць. Той і вочы вылупіў.

Выпілі, дык гаспадар і кажа:

— Хоць і патраціўся, але дамалаціў.

## 690. У ЦАРКВЕ

Д з я к. Што гэта ты, айцец, гарэлку п'еш? Яна ж вораг чалавека.

П о п. Гарэлку я п'ю, бо ў евангеліі сказана: «Палюбі ворага свайго!».

## 691. КАРАСЬ

Памерла ў адной вёсцы жанчына ў пост. Сталі спраўляць памінкі. Рашылі купіць рыбы. Кінуліся сюды, туды, а рыбы няма. Што рабіць? Закалолі парася, паставілі на стол, запрасілі папа на вячэру. Прыйшоў поп і давай яны прасіць літасці, што не посная страва. А поп сам рад у пост свежанінкі з'есці. Ён рукой махнуў, падышоў да парася ды кажа:

—Ператвары, гасподзь, парася ў карася.

А потым звярнуўся да іх і кажа:

— Ешце на здароўе. Карась добры.

І сам прыняўся есці.

## 692. АБЕДНЯ

Поп спраўляў абедню, казаў, што на небе дужа добра жыць. Адна баба слухала, слухала, дый пытае ў бацюшкі:

— Паслухай, бацюшка, хай я ўжо дурная баба, а ты? Ну, навошта ты спусціўся на зямлю, раз у раю так добра? Немаведама за чым? А цяпер ты наўрад ці пападзеш туды зноў...

## 693. СВЯТЫ ДУХ

Быў у нас такі выпадак. Адна жанчына ўбачыла на могілках чалавека ў белым балахоне і затрымала яго. А ён як закрычыць:

— Што ты, баба, робіш? Не чапай мяне! Я нячысцік, я дух святы!

А яна, не доўга чакаўшы, агрэла гэтага «духа» палкай так, што ён пакаціўся.

Аказаўся ён шпіёнам з-за мяжы. Хітры ён, але ўсё ж такі дурны. Думаў, што нашы бабы вераць яшчэ ў нячыстую сілу. Ажно не.

## 694. АМІН КАРОЎЦЫ, АМІН!

Украў поп у адной жанчыны карову і завёў к сабе ў хлеў. Не ведаючы, што рабіць, пайшла жанчына да папа, дала яму грошай і папрасіла адслужыць малебен, каб знайшлася яе кароўка.

А пра ўсё гэта знаў дзяк. Яму стала завідна, што поп адзін забраў карову ды яшчэ бярэць і грошы. У час малебна ў царкві дзяк рашыў напужаць папа і запеў:

Маладзіца — маладая,
Твая кароўка палавая
У папа на прывязі ста-я-ла-а-а!

Бачыць поп, што нікуды не дзецца, трэба дзяліцца з дзякам, і запеў у адказ:

Дзякан ты, дзякан,
Не ўсё б ты вякаў —
Палавіну каравіны, фаску масла-а!

Тады дзяк закончыў:

Амін кароўцы, амі-і-і-ін!

## 695. ПОП І КСЁНДЗ

Аднойчы поп і ксёндз пайшлі на прагулку. Хадзілі і не маглі налюбавацца, як разумна бог сатварыў свет. Усялякая мушка, мошка, букашка знае сваё месца. Але раптам пралятаўшая птушка абмазала сваім памётам ксяндзу капялюш. Ксёндз падняў галаву, убачыў, што паляцела вельмі прыгожая птушка, і кажа папу:

— А ўсё ж, поп, цудоўны свет, цудоўная і птушка, што праляцела, але ж пабачце, што яна мне нарабіла. Яна сапсавала мне капялюш.

Поп адказвае ксяндзу:

— Гэта вельмі рэдкі выпадак. Бог міласцівы. Магло б жа быць горш. Добра, што каровы не лятаюць. Што было б тады?

## 696. «СВЯНЦОНАЯ» ВАДЗІЦА

Захварэла ў вёсцы баба да паслала ўнука свайго у сяло да папа, каб поп даў ёй святой вады. Паслала яму курачку і яечак, а гэта было якраз вясной, а ў нас вясной Копцеў равок перайсці ніяк немагчыма. Што рабіць? Як вярнуцца з пустой бутэлькай назад да бабы? Хлопец апусціў бутэльку ў ваду, набраў вады з раўчака і сказаў:

Вадзіца, вадзіца,
Будзь памачніца.

Курачка і яечкі асталіся ў гаспадарцы. Прынёс бутэльку вады і сказаў бабе: «Поп сказаў памачыць вадой грудзі і трошкі з бутэлькі выпіць». Памачыла баба грудзі, напілася і ад радасці павесялела. Але вада дык з балота разліўнога была.

Балотная вада тое ж, што і «свянцоная». Адна карысць.

## 697. ДЗЕЦІ ВІНАВАТЫЯ

Адна непісьменная жанчына прыйшла ў касцёл, узяла ў рукі кантычку і пачала «чытаць».

— У вас жа дагары кніжка,— сказаў ёй сусед.

— Гэта ж дома дзеці, каб іх чэрці пабралі, перавярнулі, а я і забыла.

## 698. ПОП І ШАВЕЦ

П о п. Я такога дурня не бачыў, каб спачатку на кускі рэзаў, а потым іх зноў сшываў.

Ш а в е ц. А сустракалі вы, ойча, такога дурня, што калі хто-небудзь памрэ і ўсе плачуць, ён адзін ідзе і спявае?

## 699. НЕ ПАМЫЛІЎСЯ

Сустрэліся на кірмашы два чалавекі. Абодва ў капелюшах і ў плашчах.

— Вы, відаць, поп? — пытаецца адзін у другога.

— Так, так. Скажыце, а як вы здагадаліся?

— Ды вельмі пуза ўжо ў вас вялікае. Да таго ж і вочы нахабныя.

— Сам ты нахабны!

— А вы не памыліліся — я таксама поп.

## 700. ЛІПАВЫ МЁД

Прыехаў селянін на базар мёд прадаваць. Падышоў да яго поп і пытаецца:

— Які мёд?

— Ліпавы,— адказвае селянін.
— А колькі просіш за кілаграм?
— Тры рублі...
— Усяго тры рублі? Хлус! У цябе не ліпавы мёд...
І пацягнуўся поп далей па базары. А хітры селянін падхапіў бочку з мёдам і непрыкметна забег яму наперад.
— У цябе які мёд? — зноў пытаецца ў селяніна поп.
— Ліпавы,— адказвае той.
— Колькі за кілаграм просіш?
— Пяць рублёў...
— Во гэта сапраўдны ліпавы! — задаволена кажа поп і лезе ў кішэню па грошы.

## 701. АПРАЎДАЎСЯ

Поп праехаў на веласіпедзе скрыжаванне вуліц пры чырвоным святле. Яго спыніў рэгуліроўшчык:
— Я павінен аштрафаваць вас за парушэнне правілаў дарожнага руху.
— Сын мой, са мною заўсёды бог і таму, зразумела, ён кіраваў маім веласіпедам.
— У такім выпадку прыйдзецца вам заплаціць яшчэ штраф і за язду ўдвух на адным веласіпедзе.

## 702. ПОП І БАРОМЕТР

Бывае так, што стане табе засуха і няўрод. Людзі ў гэтакі час немаведама што робяць, каб гэта дождж пайшоў, а каторыя дык і да папа ідуць, каб малебен адслужыў. Вядома, што даўней табе і навука не кожнаму дадзена была, і зямля наша бядняцкая, як каўтуном, каменнем пабіта была.
Прыйшлі сяляне да папа, каб малебен адслужыў, можа, дасць бог дажджу. А поп не прымае сёння, кажа, ён хворы. А сонца смаліць і няма паратунку.
Пайшлі на другі дзень. Ізноў поп хворы.
Пайшлі праз два дні. Тады ён і кажа:
— Сёння я магу адслужыць малебен, падрыхтуйце ўсё, што трэба.— Пайшлі небаракі з іконамі. Хто што можа цягне, апошняе папу аддаюць, каб хаця дождж з неба пайшоў.
Моліцца поп, вочы ўгару ўставіўшы, аж нá табе, увечары сыпне дождж як па заказу.
— Гэтакая сіла бога,— людзі сабе думалі.— Добра маліся — усё ад яго будзе.
Але ж яно ўсякая табе няпраўда наверх выходзіць. Парабак быў у папа, такі хлапец хітраваты, ён з пакояў папа ўзяў штуку такую

са стрэлкамі, што ў кніжках барометрам называецца, ды ўсім людзям паказаў:

— Вось глядзіце,— кажа,— заўтра дождж і без паповай малітвы будзе.

Ажно праўда. Сыпануў дождж як трэба.

Поп пакуль да бога, так раней у механізм гэты заглядваў. Так і адкрылася папова хітрасць.

## 703. АСЛЫ

Старэнькі попік папракаў дзячка:

— Як табе не сорам на матаролеры раскатваць. Сам Хрыстос на асле ездзіў і нам завяшчаў.

— Бяда, святы айцец,— апраўдваўся дзяк,— аслоў з кожным годам усё меншае.

## 704. ПАМЯРКОЎНАСЦЬ

Пайшлі два яўрэі да рабіна жаліцца адзін на другога. Першы прыйшоў раней і прынёс з сабой гусака. Выслухаўшы скаргу, рабін заключыў:

— Твая праўда.

Усцешаны яўрэй выйшаў.

Неўзабаве прыходзіць другі і таксама прыносіць гусака. І яму рабін кажа:

— Твая праўда.

Калі «пакрыўджаны» пакінуў хату, жонка рабіна пачала ўшчуваць мужа, што не можна так рабіць. Супакойваючы яе, рабін сказаў:

— Ша, жонка, ша, і твая праўда!

## 705. ДЗЕ ТОЙ ЧАРАПОК, ШТО КОТ ЕЎ

Цяпер, калі чалавек захварэе, выклікаюць доктара або вязуць хворага ў бальніцу. Раней жа, бывала, урачоў было мала. Цёмныя непісьменныя сяляне лячыліся вадою, малітвамі, травамі. Здаралася і так, што на кватэру прыязджаў поп. Маліўся. Гаспадары ў такім выпадку былі вельмі ўдзячны папу, стараліся дагадзіць бацюшку, пачаставаць яго мёдам, гарэлкаю, смятанкаю, салам. Прыязджае аднойчы бацюшка да адной такой сялянкі. Дачка ў яе хворая была. Памаліўся бацюшка. Пасадзілі яго за стол. Налілі шклянку гарэлкі. Сыру паклалі. Успомніла гаспадыня нешта і крычыць на малодшую дачку:

— Маня! А, Маня! Дзе той чарапок, што кот еў?

— Навошта чарапок? — пытаецца дачка аднекуль з каморы.

— Бацюшку смятаны ўліць! — адказвае маці.

— Не, не! — гаворыць поп.— З мяне даволі. Няхай вам бог памагае!

Выпіў шклянку гарэлкі і пайшоў.

## 706. НОВАЯ БАГАМОЛКА

— Кумачка, чаго гэта Настуля ў царкву да папа зачасціла? — дапытвалася суседка ў суседкі каля калодзежа.

— Ды і поп пачаў чамусьці часта да яе наведвацца,— падсыпала другая.

## 707. «БОЖА СІЛА»

Быў у адным калгасе набожны чалавек. Цэлае лета маліўся, а ўвосень у яго ўжо сена не было. Мукае кароўка — есці хоча. Пайшоў гэты чалавек з посцілкаю па саломку да калгаснай сцірты. Ноч была цёмная, вераб'іная. Грыміць, бліскае. Скубе ён саломку, а стораж у яго ўжо за спіною стаіць. У руках вілкі трымае — драўляныя, двухраговыя. Стой, думае, зараз я цябе навучу маліцца. Аж вось і грымнула з неба, і бліснула. Зажмурыў злодзей вочы і гаворыць:

— О божа сіла!

А стораж вілкамі яго па спіне — трах!.. двума рагамі! Схапіўся злодзей рукамі за спіну і енчыць:

— О божа сіла, раз вутне, а два — сіне.

А з неба — гр-р-р! Стораж зноў яго па спіне — трах! Енчыць злодзей, корчыцца ад болю:

— О божа сіла! Два вутне, а чатыры сіне.

Потым схапіў сваю посцілку ды дадому. Грэх, думае, красці калгасную саломку. Пакараў мяне божа. І не ходзіць з тых пор па саломку.

## 708. «СВЯТАЯ» КНІЖКА

У Гарбацэвічах быў фэст, з'ехалася папоў больш як дзесяць. Тут жа побач ля царквы прадавалі кніжкі святыя — за 25 капеек, 50 капеек і за рубель. Хто купіць кнігу за 25 капеек, таму меней грахоў адпусціцца; за 50 капеек — ужо грахоў палову будзе адпушчана, а хто купіць за адзін рубель, таму сто працэнтаў грахоў адпушчана будзе.

Людзі кніжкі купляюць, шукаюць сабе збаўлення ад грахоў. Адзін поп, што кніжкамі гандляваў, прадаў свой тавар і едзе дамоў. А адзін хлапчына за ім услед выйшаў дый кажа:

— Давай грошы!

Поп і кажа:

— Што ты робіш? Гэта ж грэх!

А той хлапец дастае кніжку за адзін рубель і кажа:

— А во, бачыў, кніжку маю за рубель — па ёй усе грахі зямныя прошчаны.

Забраў грошы і ўсё.

## 709. НАВАРАЖЫЛА

— Ну, што табе цыганка наваражыла?

— Што хутка буду мець непрыемнасць.

— Не вер гэтаму.

— Дзіва,— не вер! Як толькі яна выйшла, я адразу ж спахапілася, што няма гадзінніка.

## 710. СВЯТАЯ АРЫФМЕТЫКА

Спавядаецца ў царкве злодзей: украў 100 снапоў жыта.

— А як ты ўкраў? — пытаецца поп.— Адразу ці паасобку?

— Ды не, за чатыры разы па дваццаць снапоў.

— Дык гэта ж будзе восемдзесят снапоў, а не сто.

— Гэта так, але ж я хачу сёння ўзяць яшчэ дваццаць снапоў.

## 711. КАРЧМА ЦІ РАЙ?

Сядзяць каля царквы дзве кумы і размаўляюць:

— Ох, кума, як бы мне ў рай патрапіць,— кажа адна.

— А мне — у карчму,— адказвае другая.

— Ого, кума, якая ж ты хітрая, заўсёды чагосьці лепшага хочаш.

## 712. НАГРАШЫЛА

Аднойчы ў пост набожнай бабульцы захацелася каўбасы. «З'ем крышачку, каб ніхто не бачыў»,— падумала яна і пачала есці. Свежая свіная каўбаса такая смачная, што бабулька нават пальцы аблізвае. І раптам пачалася навальніца. Заблiскала маланка, загрымеў гром. Бабулька паклала на стол каўбасу і зашаптала:

— О божа, навошта праз такі маленькі кавалачак каўбасы ты столькі шуму нарабіў?

## 713. ПАПОВА РЭШТА

Адна жанчына часта хадзіла ў храм боскі. Аднойчы яна зайшла да суседкі:

— Пазыч мне рубель на царкву.

Тая дастала з куфра 10 рублёў.
— На,— кажа,— гэтыя, бо другіх няма.
Жанчына ўзяла грошы і пайшла. Назаўтра прыносіць суседцы адзін рубель. А тая:
— Я ж табе давала дзесяць!
— А хіба ты не ведаеш,— гаворыць жанчына,— што поп рэшты не дае?

## 714. ХІБА ТРЭЦІ КУМ ПАТРЭБЕН?

— Ты адукаваны чалавек, а дзіця хрысціў з двума кумамі.
— А хіба трэці патрэбен?

## 715. СЛУШНАЯ ПАРАДА

Бацька кажа да свайго сына, якога пасадзілі ў турму за кражу:
— Шануйся там, сынок, каб цябе назад не выгналі.

## 716. ЗЛОДЗЕЙ

Аднаму дзядзьку ўдалося заняць пасаду загадчыка харчовага склада. І калі яму бухгалтар прапанаваў атрымаць зарплату, дык той здзіўлена адказаў:
— Як?! Хіба мне яшчэ грошы плаціць за пасаду?

## 717. НАПАЛОХАЎ

Ляснік злавіў браканьера на месцы злачынства.
— Ты што гэта сячэш тут? — грозна спытаў вартаўнік лесу.
— Бярозу,— спакойна адказаў браканьер.

## 718. КАРЫСНЫЯ МУХІ

Малады і дужы хлапец Лявонаў Сымон ляжыць у цяньку пад дубам і адганяе ад сябе мух. Стары Лявон дагроб сена і таксама сеў адпачыць.

Сымон. Тата, а для чаго гэта мухі на свеце? Якую яны карысць даюць?

Стары Лявон. Прыносяць, сынку, ды яшчэ якую! Яны такім гультаям, як ты, удзень спаць не даюць.

## 719. СЫНЫ І БАЦЬКА

Сыны дужа не любілі старога бацьку, які толькі тое і рабіў, што ляжаў на печы. Селі яны есці і не клічуць старога. Тады адзін павярнуўся да печы і кажа:

— Ну, ідзі за стол, чаго ж ляжыш.

Стары злез, сеў з краю і кажа:

— Ну, што ж вы, дзеткі, на мяне злуецеся. Колькі тут мне жыць засталося. Ад сілы гадоў пятнаццаць, а то, можа, і таго не працягну.

## 720. ЧОРТ ПРЫНЁС

Нявестка ўбачыла праз акно, што ў хату свёкар ідзе. Яна і кажа сама сабе:

— Зноў яго чорт прынёс...

Свёкар зайшоў у хату, а маленькі Гаўрылка і пытаецца:

— Раскажы, дзедзя, як ты да нас дабіраўся?

— Ды вось ішоў памаленьку, ішоў...

Гаўрылка ў неўразуменні:

— Мамка ж казала, што цябе чорт прынёс...

## 721. ЗВЫЧКА

П а к у п н і к. Што гэта вы, таварыш прадавец, націскаеце пальцамі на вагі?

П р а д а в е ц. Прабачце, калі ласка, але я да гэтага працаваў музыкантам у духавым аркестры.

## 722. ЗРУЧНА

Аднойчы спыталі ў лайдака:

— Што лепей: есці або ляжаць?

— Лепей за ўсё есці лежачы, — адказаў той.

## 723. ПАШКАДАВАЛІ

Бацька і дарослы сын былі вялікімі гультаямі. Неяк ляжаць яны і назіраюць, як маці носіць мяшкі з бульбаю. Бацька і кажа:

— Не бяры, Алеся, многа, на плечы не закінеш.

А сын падбадзёрвае:

— Нічога, мама, бяры, я паддам.

## 724. РАШЭННЕ ПА-ГУЛЬТАЙСКУ

Двое гультаёў спалі ў капе сена. Міма праходзіў чалавек і забраў іхнія вілы. Першы гультай сказаў другому:

— Дагані і адбяры.

Другі адказаў:

— Пачакай, калі ён прыйдзе забіраць сена, мы яго схопім разам.

## 725. «ХВОРАЯ» ГАННА

— Ганна!
— Га!
— На лекцыю пойдзеш?
— Баліць нага.
— А вечарам на танцы?
— Ага!!!

## 726. ЗМАГАР

— Усё жыццё змагаюся, — скардзіўся гультай. — Да абеду змагаюся з голадам, а пасля абеду — са сном.

## 727. ПРЫХОДЗІЦЬ

Аднойчы звярнуліся да гультая:
— Табе ніколі не прыходзіць у галаву думка пайсці на работу?
— Прыходзіць.
— Ну і што?
— Прыйдзе на мінутку і тут жа адыходзіць.

## 728. НА СУДЗЕ

Суддзя да падсуднага:
— Назавіце хоць адзін выпадак, калі вы выконвалі грамадскую работу?
— Калі ласка! За дзесятку быў на Новы год Дзедам Марозам у дзіцячым садзе.

## 729. ПАГАВАРЫЛІ

Ідуць двое.
Адзін гаворыць:
— Значыць, іду я ўчора па гэтай вуліцы і бачу: ляжыць яйка. Вялізнае-вялізнае! Бадай з двухпавярховы дом.
Другі маўчыць.
Ідуць далей.
Потым другі гаворыць:
— Ведаеш, іду я ўчора па гэтай вуліцы і бачу: чорная хмара ўсё неба засланіла. Прыглядзеўся... Ажно гэта вялізная-вялізная птушка. Дзюба — метраў на сто...
— Не можа быць! — не стрымаўся першы.
— Дык гэта ж была тая птушка, якая знесла тое яйка, што ты ўчора бачыў на гэтай вуліцы, — адказаў другі.

### 730. СПАЗНІЎСЯ

Чалавек заседзеўся ў гасцях. Гаспадар выйшаў яго праводзіць:

— Пачакай, я табе пасвячу, а то ў мяне ганак высокі і дрэнны.

— Дзякуй, — адказаў госць з зямлі. — Я ўжо і без асвятлення гэта адчуў.

### 731. СЦІПЛАСЦЬ

Адзін чалавек быў вельмі сціплы. Аднойчы ў яго сабраліся госці. Яны сядзелі ў садзе пад ігрушай, і ў гэты час на небе з'явіўся месяц. Нехта з гасцей усклікнуў:

— Які прыгожы сёння месяц!

Гаспадар пачырванеў, сумеўся і, сціпла апусціўшы вочы, заўважыў:

— Што вы, што вы? Які ў мяне месяц? Так сабе!..

### 732. ПАГУТАРЫЎ

Дырэктар, якога папракалі за чэрствыя адносіны да рабочых, назаўтра ж з'явіўся ў цэху:

— Ну, як? — пытае ў рабочага.

— Ды так, — адказвае той.

— Добра, вельмі добра, — паківаў галавой дырэктар і накіраваўся ў свой кабінет.

### 733. УСЛУЖЫЎ

Першы. Пабудзі мяне, калі ласка, у шэсць гадзін раніцы.

Другі. Добра, толькі, калі ласка, напомні мне аб гэтым яшчэ раз без 15 шэсць.

### 734. У ЗААЛАГІЧНЫМ САДЗЕ

Наведвальнік. Вы добра ведаеце пароды птушак?

Экскурсавод. А як жа!

Наведвальнік. Скажыце, калі ласка, якая з гэтых дзвюх птушак няёст і якая шчыгол?

Экскурсавод. А вось тая, што сядзіць побач з няёстам, і ёсць шчыгол.

### 735. ПІЛЬНЫ

Пакупнік набыў у магазіне фотапаперу і пачаў яе распакоўваць.

— Што вы робіце?! — закрычала прадаўшчыца.

— Але! У мінулы раз я ўзяў і добра не паглядзеў, а папера была сапсаваная, — адказаў пакупнік.

### 736. НА ВУЛІЦЫ

Міліцыянер. Грамадзянін, тут нельга пераходзіць, вы парушаеце правілы вулічнага руху.

Грамадзянін. Я! Вы тут цэлы дзень стаіцё, і ніхто вам слова не скажа, а я толькі раз перайшоў і ўжо рух парушыў.

### 737. МАЕ РАЦЫЮ

— Ты, Мар'я, у печы паліла?
— А як жа, паліла.
— Чаму ж яна халодная?
— Астыла за тры дні.

### 738. ПАДЗЯКА

— Паважаны грамадзянін, ваш сабака ўкраў у мяне цэлы кілаграм мяса.

— Дзякую, што вы мне гэта паведамілі. Я сёння яму не дам есці.

### 739. РАСТЛУМАЧЫЎ

У шафёра, які пацярпеў аварыю, спыталі:

— Чаму вы так хутка ехалі, вы ж зналі, што тармазы сапсаваныя.

— Як гэта чаму? — адказвае той. — Хацеў яшчэ перад катастрофай у гараж паспець.

### 740. ДАГАДЗІЛА

— Учора я амаль дзве гадзіны спявала ў суседзяў.
— Добра зрабіла, я таксама іх не люблю.

### 741. ПАМЫЛКА

Кіраўнік адной установы раніцою з'еў снеданне і пачаў чытаць газеты. Раптам жонка пытае:

— Што гэта ты сёння не ідзеш на працу?

— Няхай яго... — вылаяўся муж. — Мне здавалася, што я ўжо там.

### 742. «УДАЛЫ» ПЯЧНІК

Адзін пячнік клаў печ. Паложыць цагліну, пастукае па ёй кулаком і кажа:

— Вось як і была тут.

Паложыць другую, пастукае кулаком і зноў:

— Як і была тут...

Назаўтра прыходзіць — печ развалілася. Пячнік пачухаў патыліцу і прамармытаў:

— Гм... Як і не было!..

## 743. ПАСЛЯ ДАКЛАДА

— Ну, як мой даклад? Верыш, пакуль чытаў, аж у горле перасохла.

— Перасохла? Дзіўна, мне здаецца, што ў дакладзе было шмат вады.

## 744. НА ЛЕКЦЫІ

— Што, табе лектар не падабаецца?

— Лектар нішто, добры, а вось крэслы нязручныя, — ніяк заснуць не магу.

## 745. НА ПАЖАРЫ

Прыбеглі людзі на пажар і бачаць: стаіць рукі ў бокі стары Антось каля гумна са збожжам і хоць бы што. А гумно гарыць — ужо і страха абвалілася.

Крычаць мужыкі:

— Чаго ты стаіш? Дабро ж тваё прападзе.

— Ага. Але ж тут і мышэй ляснула.

## 746. КАДУШКА ПАД АГУРКІ

Стары Пятрок быў вядомы ў вёсцы як славуты майстар рабіць розныя кадушкі, дзежкі, бочкі і іншае драўлянае начынне.

Зрабіў неяк Пятрок кадушку пад агуркі і гарластай удаве Язэпісе.

І вось праз некалькі дзён прыбягае ў хату да бондара раз'юшаная, як вяпрук, Язэпіха і давай лямантаваць:

— Ты што ж гэта здзекваешся з беднай удавы! Засаліла агуркі на зіму, а з іх расол праз два дні выцек!

Пятрок, спакойна пыхкаючы люлькай, запытаў у разгарачанай жанчыны:

— Ты мяне прасіла зрабіць пасудзіну пад агуркі?

— Пад агуркі, а то як жа, не помніш хіба! — крыху спакайней адказала ўдава.

— Ну, дык я і зрабіў пад агуркі, — яны ж, бач, не высыпаліся.

## 747. УГАДАЎ

— Скажу табе навіну. Учора я стаў бацькам.
— Віншую, віншую. Каго ж бог даў, сына?
— Не.
— Ну, дык дачку.
— А ты адкуль гэта ведаеш?

## 748. ЧЫТАЦЬ УМЕЕ

— Умееш чытаць?
— Умею, але толькі ўвечары.
— А ўдзень?
— Не... бо я вучыўся ў вячэрняй школе.

## 749. НА ЎСЕ СТО

— Ну, хлопцы, як з планам?
— На ўсе сто!
— А казалі ж, быццам недавыкананне ёсць...
— Мы ж і кажам: уся прадукцыя забракавана.

## 750. ЁСЦЬ ВЫЙСЦЕ...

— Рашэнне аб павышаных абавязацельствах, Ягор Пятровіч, мы прынялі, а што як не выканаем?
— Не турбуйцеся! Прымем новае.

## 751. БЯСПЛОДНАЕ ДРЭВА

— І чаму так доўга на гэтым дрэве няма груш? — пытае ў суседа Фама. — Я ж яго пешчу колькі год.
— А таму, што на вярбе грушы не растуць, — адказаў сусед.

## 752. НЕ БАЧЫЎ

— Сымон, ці не бачыў ты нашага брыгадзіра? — пытае калгасніца.
— Бачыў, — адказвае той.
— А куды ён пайшоў?
— Учора я з ім разам піва піў.

## 753. ЛОГІКА

Брыгадзір. Чаму ты на пашу цялят выганяеш на цэлую гадзіну пазней, як належыць?
Пастух. Дык я ж прыганяю іх на цэлую гадзіну раней, як належыць.

## 754. МІГАМ ЗРОБІЦЬ

Майстар (*прымаючы ў кліента гарнітур*). Вам гузікі перашыць трэба? Гэта мы мігам зробім, прыходзьце праз тыдзень.

## 755. ЗАПРАШЭННЕ

Разам з марозным паветрам у хату ўскочыла дзяўчынка і, хукаючы на далоні, сказала:

— Добры дзень. Маці і тата казалі, каб вы прыходзілі сёння ўвечары да нас у госці.

— Дзякуем, шчыра дзякуем, — адказала гаспадыня, — а мо яшчэ што казалі?

— Казалі.

— Што?

— Запрасі, кажа, цётку да нас у госці, ды ці ліха панясе яе ў такое надвор'е.

## 756. РАЗМОВА З БАЦЬКАМ

— Вы балуеце сына. Расце хлопец гультаяватым, фанабэрыстым, нават, скажу вам па сакрэту, б'е слабейшых...

— Увесь у мяне, шэльма.

## 757. ПА ПРЫВЫЧЦЫ

Адзін чалавек браў у чыгуначнай касе білет. Калі касірка сказала, што ў яе няма дробязі, каб даць рэшту, ён папрасіў:

— Тады дайце на рэшту запалак.

## 758. ВЫКРУЦІЎСЯ

— Грамадзяне пасажыры! Хто зайшоў у пярэднія дзверы, аплачвайце, калі ласка, за праезд, — сказала кандуктарка аўтобуса.

— А вы, малады чалавек, чаму не бярэце білет? — спытала яна ў аднаго з пасажыраў.

— Дык я ж зайшоў у заднія дзверы.

## 759. ЗАЙЦЫ

Двое сяброў увайшлі ў аўтобус.

Праз некалькі секунд адзін кажа другому:

— Паслухай, гэта ж не наш аўтобус.

— Чаму? — здзіўлена запытаўся той. — Мы ж гэтым нумарам заўсёды ездзілі.

— Э-э-э, сёння ж ён з кандуктарам.

## 760. НЕЗВЫЧАЙНАЯ СПЕШКА

Кандуктарка трамвая звярнулася да пасажыра:
— Вазьміце, калі ласка, білецік.
— Выбачайце, але я не маю часу, бо вельмі спяшаюся.

## 761. НЕ РАЗГЛЕДЗЕЎ

— У вас вельмі добрая кватэра!
— Цудоўная. Другі год жыву ў ёй.
— І ванна, мусіць, ёсць?
— Ванна? Аленка, у нас ёсць ванна?

## 762. РАСТЛУМАЧЫЎ

— Дзядзька, чаго ты спіш ля магазіна?
— А я тут начны вартаўнік.

## 763. ЛАЎРОВЫ ЛІСТ

Максім працаваў поварам у чайной. Як зрабілася недастача, да яго прыехалі рабіць вобыск і знайшлі цэлы мяшок лаўровага лісця.

— Чаму ты гэты ліст у страву не клаў? — пытаюцца ў Максіма.

— А я клаў, клаў, гляджу — ніхто яго не есць, кожны на беражок талеркі выкладае, дык я і класці перастаў.

## 764. ШЧЫРАЕ ПРЫЗНАННЕ

Суддзя. Вы прызнаяце сябе вінаватым у тым, што ўкралі ў сваёй суседкі мокрую бялізну, якую яна павесіла сушыць?

Падсудны. Так, украў мокрую, бо не мог жа я чакаць, пакуль яна высахне.

## 765. САМ ВЕДАЮ

Едзе шафёр. Адной рукою трымае руль, а другою абдымае дзяўчыну. Раптам міліцыянер.

— Што ты робіш? Двума рукамі трэба!

— Сам ведаю, што двума трэба, — адказвае шафёр. — А машынаю хто кіраваць будзе?

## 766. ШТО НОВАЕ Ў КАЛГАСЕ

— Што ў вас новае ў калгасе? — пытае карэспандэнт у калгаснікаў сельгасарцелі «Новы шлях».

— Усё новае, — адказваюць калгаснікі. — Старшыня новы, брыгадзіры новыя, аграном новы.

## 767. ХОЦЬ ДЗЯЦЕЛ, ХОЦЬ МІНІСТР

Прыехаў студэнт ляснога тэхнікума на практыку. Пайшлі яны з леснікам у лес. Ідуць, гавораць.

— Бяда, — гаворыць ляснік, — тут у нас амаль кожны дзень самавольна сякуць усё, што трапляе на вочы. Сягоння, бачыш, дуб стаіць, а заўтра пень ад дуба застаўся, а то і пень яшчэ схаваюць. Быццам нічога і не было.

— Ціха! — раптам захваляваўся студэнт. — Чуеш? Сякуць!..

Прыслухаліся. Тук-тук-тук! — гучэла на ўвесь лес.

— Гэта дзяцел! — усміхнуўся, нарэшце, ляснік.

— Хоць дзяцел, хоць сам міністр, але сякеру мы павінны ў яго адабраць...

## 768. КАЛГАСНІКІ НІЧОГА НЕ РОБЯЦЬ

Магазін? О, магазін! Паспрабуй. Гэта толькі здаецца, што мы тут нічога не робім. Гуляем сабе за прылаўкамі. Паспрабуй, забяспеч, дагадзі кожнаму. А што калгаснікі... Галава ў калгаснікаў не баліць. У турму іх за растрату не садзяць. Што калгасніку — ары, мялі, еш. Больш нічога ад іх не патрабуецца.

## 769. ТРАКТАР З ХАРАКТАРАМ

— Чаго твой трактар у канаве ляжыць?

— Характар такі.

— Які характар?

— Такі, што кіруй яго ўправа — ён улева, кіруй улева — ён управа. Вадзіў мяне і давадзіўся. Няхай цяпер паляжыць, сукін сын.

## 770. КОЛЬКІ ГОД

— Бабка, ці жадаеце Вы ў даным выпадку выступаць у ролі сведкі?

— Жадаю, мае дзеткі.

— Дазвольце тады задаць Вам некалькі пытанняў.

— Калі ласка, мае дзеткі.

— Колькі Вам год, бабуля?

— Хоць дваццаць, хоць семнаццаць.

— ???

— Пытайце, мае дзеткі.

— Пытанняў больш няма, бабуля. Можаце ісці дахаты.

## 771. ПРЫНЦЫПОВАЯ

У жанчыны пытаюцца:
— Колькі вам год?
— Трыццаць.
— Але ж вы і год таму назад тое ж гаварылі.
— Я ад сваіх слоў ніколі не адмаўляюся.

## 772. СТАЖОР І МАШЫНА

Прыйшоў стажор да старшыні калгаса і гаворыць:
— Разбілі, таварыш старшыня, машыну.
— Як разбілі, што разбілі?
— Разбілі тое, што свеціць.
— Яшчэ што?
— Тое, што ваду наліваюць.
— Яшчэ?
— Тое, што людзі садзяцца.
— Дык што ж у вас там засталося?
— Тое, дзе мой начальнік сядзіць, шафёр.

## 773. ВЫТРЫМАЎ

Чатыры разы прыходзіў студэнт да прафесара на экзамен. На пяты раз прафесар, не задаючы больш пытанняў, сказаў студэнту:

— Давайце вашу заліковую кніжку.

— Вытрымаў, нарэшце, я гэты цяжкі экзамен! — абрадаваўся студэнт.

— Вы вытрымалі, але я не вытрымаў! — адказаў яму прафесар.

## 774. КАБ СПРАЎДЗІЎСЯ СОН

— Бачыў я ў сне, што стаў прафесарам. Што мне рабіць, каб сон спраўдзіўся?

— Меней спаць.

## 775. НА ЭКЗАМЕНЕ

Прафесар пытае ў студэнта:
— Чаму так хвалюецеся? Хіба вы баіцеся маіх пытанняў?
— Ды не, таварыш прафесар, я баюся сваіх адказаў...

## 776. ТРАПНЫ АДКАЗ

— На якой мове чытаў і пісаў Чынгіс-хан? — задаў прафесар дадатковае пытанне студэнту.

— Не ведаю, — шчыра прызнаўся студэнт.
— Абсалютна правільна! Малайчына! Я таксама не ведаю такой мовы, бо ён быў непісьменны.

## 777. ВЕДАЎ, ДА ЗАБЫЎСЯ

Выцягнуў студэнт білет на экзамене. У ім тры пытанні.
— Што Вы можаце адказаць на першае пытанне? — пытае прафесар.
— Ведаў, ды забыўся, не памятаю, — адказвае студэнт.
— Адказвайце на другое пытанне! — загадаў прафесар.
— Ведаў, ды забыўся,— збянтэжана гаворыць студэнт.
— Як там у Вас трэцяе пытанне сфармулявана? — звяртаецца да студэнта экзаменатар-прафесар.
— Ці ёсць жыццё на Марсе?
— Во, во! Ці ёсць жыццё на Марсе? Адказвайце, — падбадзёрвае прафесар.
— Ведаў, нядаўна яшчэ ведаў. Цяпер нічога не памятаю, — гаворыць студэнт.
— Давайце вашу заліковую кніжку — «пяць».
— Як «пяць»? — здзіўляюцца члены экзаменацыйнай камісіі. — Ён жа нічога не ведае.
— Гэта не важна, што не ведае. Чалавек усё-такі ведаў, а мы і цяпер яшчэ не ўсё ведаем, — адказвае прафесар. — «Пяць» ён, безумоўна, заслугоўвае.

## 778. УДАКЛАДНІЎ

— Скажыце, калі ласка, у які час адбываліся падзеі, пра якія вы павінны расказаць, адказваючы на першае пытанне білета? — запытаў экзаменатар у студэнта.
— Даўно, — адказаў той.
— А дакладней?
— Вельмі даўно.
— А яшчэ больш дакладна?
— Яшчэ даўней.

## 779. ХІТРЫ СУСЕД

Завітаў сусед да суседа якраз у час абеду. Пасадзілі таго за стол, налілі супу. Спадабаўся суп суседу. Не заўважыў, як амаль усё з'еў. А гаспадыня не далівае. Тады госць сам знайшоў выйсце: узяў паўлыжкі солі, размяшаў на дне міскі, паспытаў і кажа:
— Ёлкі-палкі! Перасаліў я, гаспадынька, далі яшчэ супу!

## 780. АДВЕДКІ

Нарадзіла адна жанчына дзіця. От яе сястра, з другой вёскі, сабралася да яе ў адведкі. Паклала ў сумку мяса, бутэльку, там яшчэ чаго і пайшла.

Прыйшла да сястры, паставіла сумку, а сама села ля сястры і гамоняць.

А той, муж ужо, выбраў усё з сумкі і паклаў у шафку.

Вот сядзіць сястра, сядзіць, ды ўжо трэба абедаць. Пачала радзіху штурхаць, а тая ўсё цягне. Нарэшце, кажа на мужа:

— Ну, то, можа, ўжо абедаць будзем?

А ён нібы і не чуе. Тады ўжо сястра напамінае.

Той раззлаваўся і кажа:

— Знаеш, цётка, ідзі дахаты і не бунтуй сям'ю.

## 781. НАТЫРКНУЎСЯ, ЯК ТРАХІМ НА ЗАГАРАДКУ

Трахім, цяпер ужо стары чалавек, як быў маладым, вельмі любіў выхваляцца перад іншымі. Каб прыдаць сабе больш салідны выгляд, ён купіў акуляры. Вядома, калі акуляры не падходзяць, то ў іх чалавек нічога не бачыць. Так атрымалася і з Трахімам. Ідучы каля хлява, ён зачапіўся штанінай за загарадку для гусей, паваліўся, разбіў акуляры і падрапаў твар.

## 782. СЯБРЫ

— А, сябры: на адным слонцу анучы сушылі!
— Як жа вы пасябравалі — ці дзе пчолы асачылі?
— Сачылі мы, як аказалася, удваіх за адной дзяўчынай.
— А я думаў, што дзе разам працаваць прысталі.
— Ды стаў ён цяпер да маёй жонкі прыставаць.

## 783. РАЗМОВА

— Адкуль ты?
— З Барысава.
— Чыя ж ты?
— Дзянісава.
— Замуж хочаш?
— А няўжо ж!
— А рабіць умееш?
— Ну і што ж!

## 784. АПРАЎДАЎСЯ

— Заўсёды ты бярэш тое, што людзі не бяруць, — папракнула жонка мужа, выходзячы з ім з магазіна.

— Калі б не меў уласнага густу, то, мусіць, і ты не была б маёй жонкай, — прамовіў ён у адказ.

## 785. ДАБРАЧЫННЫ

Жонка пытае ў мужа:

— Ці зрабіў ты ў сваім жыцці хоць адзін добры ўчынак?

— Вядома, ды яшчэ які, — адказвае муж.

— Які ж?

— Выратаваў цябе ад таго, каб ты ў старых дзеўках не засталася.

## 786. ПАСЛЯ ВЯСЕЛЛЯ

— Ведаеш, любы, у мяне ёсць невялікі недахоп: не ўмею эканоміць грошы, — кажа маладая жонка.

— Нічога, даражэнькая. Навучышся, бо я яшчэ не навучыўся іх зарабляць.

## 787. ВЯСЁЛАЕ ЖЫЦЦЁ

— Ну, як жывяцё, маладажоны?

— Жывём весела: яна ў мяне чыгуном, а я ў яе кніжкаю.

— Што ж тут вясёлае? Хваліцца у такім выпадку няма чым.

— Як не вясёлае?! Кідаем, кідаем, а папасці не ўмеем. І я радуюся, і яна радуецца. Кожны дзень радасці. Горай будзе тады, як навучымся пападаць з першага разу.

## 788. ШУМЕЎ КАМЫШ

Выйшла дачка замуж недзе на будоўлі і прыязджае дадому ў госці. Сеў зяць за стол. Цешча яму хутчэй бліны, смятану, бульбу, кефірчык. Сядзіць зяць і пальцам не паварухне. Ні да чаго не дакранаецца. Бачыць цешча — нешта не тое. Падрыхтавала і паставіла на стол яешню. Пацёр зяць рукамі ад прыемнасці і гаворыць:

— Ш-ш-ш-ш-ш...

Здзіўляецца цешча. Бачыць, нешта не тое, не падабаецца зяцю ўгашчэнне. Паставіла на стол салацік.

— Ш-шу-у-у... — гаворыць зяць.

Паставіла чыстыя стаканы. Бутэль кефіру.

— Ш-шу-у! — гаворыць зяць.

Паставіла бутэльку крэм-соды.

— Шу-ш-шу!

Потым прыйшла аднекуль дачка, гуляла ў суседзяў недзе. Маці да яе са слязамі, з перапалохам: «Што гэта з зяцем, дачка: «Ш-ш-ш»? Не есць нічога. Можа, здарылася што?» А дачка смяецца: «Якая ж ты нездагадлівая, маці. Бутэльку пастаў». Паставіла цешча бутэльку чыстага спірту. Выпіў зяць, закусіў, зашумеў:

— Ш-шумеў камыш-ш!..

## 789. НЯЎДЗЯЧНЫ

Няздатная жонка трапілася Герасіму. Памыцца ды пафарбавацца, сукенку адпрасаваць ды валасы расчасаць толькі і ўмее. А страву варыць — ані-ні. Рукі не туды ходзяць. Адну зацірку калоціць. Зацірка ўранні, зацірка днём, зацірка ўвечары.

Памізарнеў Герасім. Быў як яблычак, а стаў як зярнятка. Просіць аднойчы:

— Спякла б ты, даражэнькая, пірог. Пакуль касіў ды сена сушыў — занядужаў.

Давялося жонцы знімаць з гарышча дзяжу ды расчыняць рошчыну. Месіць яна цеста ды прыгаворвае:

— Спяку я табе, мужычок, мой першы хлябок. Кругленькі, цёпленькі, румяненькі...

Цеста ад рук нажом адскрэбла, пасадзіла камячком на лапату і вухнула ў печ.

Што з гэтага атрымалася — казаць не будзем. Толькі пасля жонка скардзілася сваёй суседцы:

— Спякла я сягоння пірог свайму чалавеку. Ды які кругленькі, румяненькі, як яблычак. А ён як ударыць мяне гэтым пірагом у плечы, усё роўна як каменем. Аж цяпер баліць. Во няўдзячны!

## 790. ЛІХАЯ ЖОНКА

Была ў чалавека ліхая жонка, ды такая ўжо ліхая!.. Як толькі не здзекавалася з яго. Раз зімою, у завею, у холад, у глыбокі снег пасылае дзеда ў лес па грыбы.

— Што ты, баба, здурнела? Якія зімою грыбы?

— Ідзі і ўсё, кажу табе!

Паплёўся той дзед у лес. Але дзе ж ты знойдзеш у снезе грыбы?

А баба ў тое ўрэмя надумалася адзецца ва ўсё белае, легла на стол і ўжо ляжыць, нібы памерла. Думае, што ён рабіць будзе?

А ён прыйшоў, глядзіць — баба ляжыць мёртвая. Ён туды, сюды, не знае, што дзелаць. А яна цішком пазірае на яго, цікуе, значыць.

Угледзеў тое дзед, узяў таўкач ды трах ёй па лобе:
— Дужа не люблю, як мерцвякі глядзяць на людзей.
І ўсё. Па бабе той.

### 791. ЧУЛАЕ СЭРЦА

— І ў вас хапіла сумлення пакінуць жонку зусім адзінокай?
— Ды што вы? У яе ж засталося наша трохгадовае дзіця.

### 792. ДЗЕД І БАБА

Баба дзеду:
— То ты сёння на базары быў?
— Быў.
— Карову прадаў?
— Прадаў.
— А дзе ж грошы?
— Спаць, старая, спаць!

### 793. МАЙСТАР НА ЎСЕ РУКІ

— Ой, людацькі, здольны ж ад мяне муж пайшоў! Печы клаў, бочкі рабіў, хаты крыў, падлогу мазаў, коней каваў, галушкі мясіў, таўканіцу тоўк, пампушкі пёк і мяне біў.
— А за што?
— Хацеў, каб і я ўсё гэта ўмела рабіць.

### 794. У КУРСЕ СПРАВЫ

Бацька. Думаю, што, беручы маю дачку, вы ведаеце, што бераце?
Зяць. Добра не ведаю, але казалі, што пяць тысяч рублёў.

### 795. НЕ МОЖА БЫЦЬ

Цешча ніяк не нахваліцца зяцем:
— Праўду сказаць, дачка мая не вельмі, каб... А зяць папаўся добры. Ён жа такі разумны! Кожнага наскрозь бачыць. Што ні кажы, а два інстытуты скончыў.
— Не можа быць! — запярэчыла суседка.— Калі б ён быў такі разумны, то ніколі не ажаніўся б з вашай Зоськай.

### 796. У ГАСЦЯХ

— Трахім, скажы, чаго гэта твая жонка ўсё кашляе ды кашляе?
— Ат, не кажы! Апранула новую сукенку, дык хоча, каб на яе ўсе глядзелі.

## 797. ВЯРНУЛАСЯ

— Жонка ад вас пайшла, але не сумуйце: можа, яна яшчэ вернецца...
— Як жа не сумаваць, калі яна ўжо вярнулася.

## 798. МІЖ ПРЫЯЦЕЛЬКАМІ

— Як табе падабаецца мая новая сукенка?
— Цудоўная! Твая швачка шые так, што і на калодзе ляжыць добра.

## 799. СУМНЫ

— Чаму ты такі сумны? — пытае адзін прыяцель у другога.
— Ды вось жонка едзе на месяц да бацькоў.
— Хіба цябе гэта так устрывожыла?
— Ды не. Калі ў мяне будзе вясёлы твар, яна нікуды не паедзе.

## 800. КЛАПАТЛІВАЯ ЖОНКА

— Што б ты рабіла, калі б не трэба было мыць падлогу і выбіваць дываны?
— Прыдумала б што-небудзь іншае.
— Для каго?
— Вядома, для мужа.

## 801. АНІ СЛОВА!

— Хуткая дапамога! Прыязджайце хутчэй, маёй жонцы кепска.
— Колькі ёй год?
— Ані слова пра гэта! Яна адразу памрэ, калі пачуе, што я сказаў праўду.

## 802. СКНАРА

— Мой муж аказаўся такім скнарам! — скардзілася адна маладзіца сваёй сяброўцы. — Ён вельмі раз'юшыўся, калі я ўсыпала ў яго талерку лішнюю дробку солі.

## 803. ЁСЦЬ РОЗНІЦА

Муж сустракае на вакзале жонку з адпачынку.
— Ты нават не абдымаеш мяне, — скардзіцца тая. — Бачыш, які ўважлівы вунь той мужчына да сваёй жонкі.
— Але ж яна, відаць, ад'язджае.

## 804. НЕ ЗРАЗУМЕЎ

— Я ўсё саромелася табе сказаць, любы мой, што нас хутка будзе трое.

— О, вельмі добра!

— Я рада, што ты гэта так прымаеш. Я ўжо напісала ёй. Мама хутка прыедзе.

## 805. ПАМЫЛКА

— Сёння спаткаў вашу жонку.

— Што яна сказала?

— Нічога.

— Гэта была не мая жонка, бо мая не можа маўчаць.

## 806. АБОЕ СТАМІЛІСЯ

Ж о н к а. Ох, як я стамілася, пакуль учора ў лесе назбірала столькі грыбоў!

М у ж. А каб ты ведала, як я намучыўся, пакуль іх сёння паеў!

## 807. УЗАЕМНАЕ КАХАННЕ

Жонка да мужа:

— Ты мяне дужа кахаеш?

— Так, любая, як і ты мяне.

— Ну, ведаеш...

## 808. «ВЫЯСНІЎ»

— Чаму дзяцюк, як заручаецца з дзяўчынаю, звычайна просіць рукі прыкленчыўшы?

— Даражэнькая, вярблюд таксама, як бярэ цяжар на свой хрыбет, заўсёды кленчыць.

## 809. ПРЫКЛАДНЫ МУЖ

— Абдымі мяне, — сказала жонка.

Абняў.

— Пацалуй.

Пацалаваў.

— А мне здалося, што ты мяне не любіш.

— Што ты! Для цябе я гатовы на любыя ахвяры.

## 810. ВО, БЯДА!

— Ты ведаеш, я са сваім Пятром ні разу не пасварылася.

— Няўжо так добра жывяце?

— Дзе там! Прыходзіць вечарам — я сплю. Ідзе раніцою на працу — я сплю. Не дабяру часу пасварыцца...

## 811. СУПАКОІЛА

Устрывожаны мужчына ўбег у хату да суседкі і, заікаючыся, сказаў:

— Твой Алесь сядзіць у абдымках маёй жонкі.

— І вас гэта турбуе? Дык давайце мы не толькі абдымемся, але пацалуемся, — адказала суседка.

## 812. БІЛЕТЫ Ў ТЭАТР

Муж прыходзіць з работы і кажа жонцы:

— Я купіў білеты ў тэатр.

— Малайчына, тады я пачынаю ўжо збірацца.

— Так, пачынай, бо гэта трэба хутка — білеты я ўзяў на заўтра.

## 813. КРЫХУ ЛОЎКАСЦІ

Андрэй задумаў памірыць суседа Нупрэя з яго жонкаю. Восьмага сакавіка зайшоў на работу да Нупрэя і кажа:

— Твая жонка панесла дамоў поўны кошык пачастункаў і віна, мусіць, думае зрабіць сямейны вечар. Трэба і табе падумаць пра падарунак.

Зайшоўшы да Нупрэевай жонкі, сказаў:

— Я іду з крамы і бачу, як твой Нупрэй купляў прыгожы падарунак для цябе. Глядзі, каб і ты ў даўгу не асталася!

Вечарам за сталом у Нупрэя Андрэй распіваў міравую.

## 814. РОЗНАЯ ЗАЙЗДРАСЦЬ

Жонка гаворыць мужу:

— Я зайздрошчу Вользе. Яе Іван заўсёды купляе ёй модныя сукенкі, абутак.

— А я зайздрошчу Адаму, таму што яго жонка была адзіная жанчына, і ёй не было каму зайздросціць, — адказаў муж.

## 815. ТАДЫ ПАБАЧЫШ...

— Што ты будзеш, бедненькая, рабіць, калі я памру? — пытаўся мужык у сваёй маладой жонкі. — Ты ж такая маладая...

— А вось ты памры, тады і пабачыш.

## 816. УСЁ Ў ПАРАДКУ

Жонка з мужам едуць на ўласнай машыне. Раптам жонка гаворыць:

— Хутчэй вяртайся дадому — я забылася прас выключыць!

— Не трэба!

— Дык жа пажар будзе!

— Не будзе, я забыўся на кухні краны закрыць.

## 817. КАНДЫДАТУРА АДПАДАЕ

— Чаму ты не жэнішся?

— Нявесты няма.

— А Волечка чым дрэнная дзяўчына?

— Справа ў тым, што яна ўжо адзін раз выходзіла за мяне замуж.

## 818. ЗДАГАДЛІВАЯ ЖОНКА

Сустрэліся суседкі ў магазіне. Адна пытаецца ў другой:

— У вас, пэўна, госці, што ты паўлітэрку і свежую рыбу бярэш?

— Ды не, заўтра муж на рыбалку едзе...

## 819. НАСТЫРНЫ ЖАНІХ

Бацька дзяўчыны з раздражненнем гаворыць маладому чалавеку:

— Вы чулі, што я сказаў?

— Добра, калі вы не хочаце аддаць мне руку дачкі, то дайце хоць даглядзець матч па тэлевізару.

## 820. СУР'ЁЗНАЯ ПАМЫЛКА

— Кажуць, ты жаніўся?

— Ну і што? Не памыляецца толькі той, хто нічога не робіць.

## 821. ЗДАГАДАЎСЯ

Муж узлез у ботах на стол і выкручвае перагарэўшую лямпачку. Жонка дакарае:

— Васіль, ты б хоць газету пад ногі падклаў!

— Нічога, не хвалюйся, я і так дастану.

## 822. РАНА ПРЫЙШОЎ

— Чаму ты так позна прыйшоў з пасяджэння? — пытаецца жонка ў мужа.

— Як позна? Яшчэ толькі сонца пачало ўзыходзіць.

## 823. ВЕЧАРЭЕ

— Добры вечар, даражэнькая цешча!
— Што ты, зяцёк, дзень з ноччу зблытаў?
— Ды не, не зблытаў... Гэта як цябе пабачу, дык уваччу цямнее.

## 824. ПЕРАКАНАЎ...

— Як справы, Хвядос? Казалі, што ўчора ты зноў з жонкаю пасварыўся.
— Няпраўда, хлусяць... Мы з ёю ўжо другі тыдзень не размаўляем.

## 825. АБРАДАВАЎ

Жонка згатавала мужу смачную вячэру. З апетытам пад'еўшы, муж вырашыў зрабіць ёй штосьці прыемнае.
— Любая,— сказаў муж,— заўтра я сам згатую табе такі ж смачны сняданак.
— Які? —здзівілася жонка.
— Падагрэю суп, што застаўся ад вячэры.

## 826. ПРЫ АБЕДЗЕ

— Сёння я чытала ў газеце, што чалавек у год павінен з'есці больш трох кілаграмаў солі,— сказала пры абедзе свайму мужу маладая жонка.
— Так, так, любая,— адказаў муж, сёрбаючы перасолены суп,— толькі ж не за адзін раз.

## 827. БЕЗ АБВЯРЖЭННЯ

Муж. Твая рэўнасць, Алеся, беспадстаўная. Я ўчора вярнуўся са сходу позна і быў усхваляваны, таму што дакладчык на сходзе адпусціў па майму адрасу некалькі шпілек...
Жонка. Роўна дзве.
Муж. Адкуль ты ведаеш?
Жонка. Бо я іх знайшла прыколатымі да твайго світара.

## 828. ЛЮБЯЧЫ МУЖ

Жонка. Ах, Коля, калі ты быў жаніхом, дык абяцаў насіць мяне на руках...
Муж. Ты забываешся, Ганна, што калі ты была нявестаю, дык важыла напалову менш.

## 829. САЎДЗЕЛЬНІЦА

Мужа судзяць за тое, што ён гнаў і піў самагонку, а жонка выступае сведкай.

— Ці бачылі вы, як ваш муж гнаў самагон, або можа ведалі аб тым, што ён збіраецца гнаць?

— Хрыстом богам клянуся, што не бачыла. Нашто ж яна, гэта зараза, у хаце. Я нават паху гэтай атруты не пераношу. Каб жа я ведала, то ці ж я б дазволіла яму гнаць?

— А дзе ж ён муку браў? — пытае суддзя.

— У сенях, у скрыні,— выпаліла жонка.— Я яму і насыпаць памагала...

## 830. ДАПАМОГ

П'яніца пісаў неяк у лісце да жонкі:

«Былі грошы, хацеў выслаць, будуць яшчэ — вышлю».

## 831. О, ГЭТА ТВАЯ СПРАВА!

Ідзе міліцыянер па вуліцы. Насустрач п'яны.

— Нягоднік! Зноў налізаўся,— гаворыць міліцыянер.

— Не твая справа,— адказвае п'яны.

— Усё да капейкі прапіў? — пытае далей міліцыянер.

— Не твая справа,— адказвае п'яны.

— А дома дзеці, жонка — грошай ні капейкі,— павучае міліцыянер.

— Не твая справа! — настойвае п'яны.

— Дык пойдзем, сякі-такі, у міліцыю. Атрымаеш сутак пятнаццаць адпачынку.

— О, гэта твая справа! — згаджаецца п'яны.— Вядзі. Мне ўжо ўсё роўна.

## 832. НЕПІТУШЧЫ

Сустрэліся Іван са Сцяпанам.

— Давай вып'ем па кілішку,— кажа Сцяпан.

— Не магу, браце, па трох прычынах,— адказвае Іван.— Па-першае, гарэлка шкодзіць здароўю, па-другое, мне доктар забараніў, а па-трэцяе, я п'яны ўжо...

## 833. ПРАГАВАРЫЎСЯ

— Як табе спадабалася падарожжа па гарадах? Мо не хапала часу на знаёмства з кожным горадам?

— Ды не. Я ў адным толькі Полацку на пятнаццаць сутак затрымаўся.

## 834. ПАЧАСТАВАЎ

— Сёння я вас, госцейкі, буду частаваць, як у іншых народаў частуюць,— кажа гаспадар гасцям.

— Як гэта? — не разумеюць госці.

— Чокацца адзін з адным будзем.

Але ў доме гаспадара... знайшлося ўсяго два кубкі.

Наліў ён у гэтыя кубкі віна, адзін узяў сам, другі падаў госцю. Чокнуліся, выпілі. Гэтак выпіў і з другім, і з трэцім, і з чацвёртым...

Раніцою гасцінны гаспадар сяк-так выбраўся з-пад стала і кажа сам сабе:

— О, д'ябал! Нават я напіўся, а як... госці ап'янелі!

## 835. ПРЫЗНАЎСЯ

— Чаму ты з жонкаю развёўся?

— А таму, што яна амаль кожны дзень па рэстаранах бадзяецца.

— П'янствуе?

— Ды не, мяне шукае.

## 836. ДАГАВАРЫЛІСЯ

Сустрэўшы на вуліцы сябра свайго мужа, жанчына спыталася:

— Вы з рэстарана?

— З рэстарана.

— А майго мужа там няма?

— Гэтага я не магу сказаць.

— Чаму?

— Ён вельмі прасіў не гаварыць.

## 837. МАЎКЛІВАЯ ЖОНКА

Размаўляюць два сябры-сабутэльнікі.

— Мінулы раз, у дзень палучкі, я дзесяць рублёў прапіў і, ўяві сабе, жонка мне ні слова не сказала.

— Не можа быць!

— Праўда, вось ужо другі тыдзень са мной не размаўляе.

## 838. ЗАКУСКУ НЕ ПАДРЫХТАВАЛА

Суседка пытаецца ў суседкі:

— Чаму ты так рана прыбралася?

— Муж жа сёння зарплату прынясе — у тэатр пойдзем.

— Ах, божа мой, я і забылася, што ў іх палучка. А я ж яшчэ і закуску не падрыхтавала.

## 839. УГАВАРЫЛА

Прыйшоў муж дадому п'яны-п'яны. Жонка схапіла качалку ды давай яго біць:

— Будзеш яшчэ піць, будзеш яшчэ піць?

— Угаварыла. Налівай.

## 840. БОЛЬШ НЕ ЛЕЗЕ

Два п'яныя мужчыны сядзяць за сталом. Перад імі талерка з агуркамі.

— Ты чаго па два агуркі на відэлец бярэш? — пытае першы.

— А таму, што болей не лезе,— апраўдваецца другі.

## 841. СУЦЕШЫЎ

— Ну і жыццё пайшло,— скардзіўся падвыпіўшы Пятрок сваму сябру.— Жонка як завялася, дак цэлы тыдзень не супыняецца, лаецца.

— Не сумуй, калі гэтак сур'ёзна завялася, дык хутка так, як і мая, кіне цябе.

## 842. ДАПІЎСЯ

— Здароў, Савось! Чаму ўчора на працы не быў?

— Жаніўся.

— А каго ж узяў?

— Ганну з плёсаў.

— Гэта тую старую і кульгавую?

— Ну, але ж.

— Самагоншчыцу і спекулянтку?

— Яе.

— А хто ж сватаў?

— Чорт мяне сватаў: пяршак дужа моцны быў, трасца яму ў бок.

## 843. КОЖНАМУ ПА ЗАСЛУГАХ

— Ну, як жывеш, Хрысцінка? Як муж?

— Ведаеш, даражэнькая, я такая шчаслівая — муж мяне на руках носіць.

— А ў мяне якраз наадварот: я п'янага мужа на руках нашу... з вуліцы ў кватэру...

## 844. ПІЛЬНЫ ВАРТАВЫ

Раніца. Каля сельскага магазіна, на ганачку, спіць вартаўнік. Прыйшоў загадчык магазіна на працу і будзіць вартаўніка.

— Макар Ягоравіч, уставай, твая варта ўжо скончылася.

Вартаўнік працірае вочы, яшчэ не зусім прачнуўшыся, здзіўляецца:

— Як скончылася? Толькі ж нядаўна была цэлая паўлітэрка...

## 845. ЛАГІЧНЫ ДОВАД

— З якой гэта нагоды ты сёння выпіў?

— Зарплата была.

— І абавязкова з зарплаты трэба выпіць?

— Чаму абавязкова? Не абавязкова. Але калі б я не выпіў з выпадку зарплаты, жонка нізашто б не паверыла.

## 846. ГУТАРКА ПОЗНЯЙ НОЧЧУ

— Чаму не ідзеш дамоў?

— Не магу, жонка з хаты выгнала.

— За што?

— За тое, што дахаты не прыходжу.

## 847. ЖАРТЫ БЫВАЮЦЬ РОЗНЫЯ

П'яніца, ледзь пераваліўшыся цераз парог сваёй кватэры, сказаў жонцы:

— Усё! Больш піць не буду!

Узрадаваная жонка распранула яго, разула і нават спаць паклала.

— Ляжыць ён, уздыхае, а пасля і кажа жонцы:

— Але і менш піць таксама не буду!

## 848. ШТО БУДЗЕ РАБІЦЬ?

З міліцыі пазванілі маці, што яе сын начуе ў выцвярэзніку.

— Зараз жа пусціце яго дамоў,— закрычала маці.— Што ён там будзе рабіць адзін сярод п'яных?!

## 849. ЗНАХОДЛІВЫ ГРЫБНІК

— Паўлітэрку, бачу, у лес захапіў. Ці не дужа многа на аднаго?

— Ды не. Калі ўсю вып'ю, больш грыбоў назбіраю — дваіцца будуць...

## 850. НЕ Ў ТЫМ ГАТУЕ

Жонка гаворыць п'янаму мужу, які збіраецца гатаваць абед:

— Навошта ты бярэшся гатаваць страву, у цябе ж галава не варыць.

— А я ў каструльцы буду варыць, а не ў галаве.

## 851. ДАВЕДАЎСЯ

Адзін чалавек напаткаў свайго знаёмага і запытаўся:

— Дзе ты цяпер працуеш?

Працую пакуль што ў міліцыі. Пяць сутак адпрацаваў, засталося яшчэ дзесяць.

## 852. І ТАК БЫВАЕ

Зайшоў наведвальнік у рэстаран і папрасіў афіцыянтку прынесці яму пяцьдзесят грамаў гарэлкі.

— Чаму так мала? — запыталася афіцыянтка.

— А мне толькі для паху, а дурасці ў мяне і сваёй хопіць.

## 853. НААДВАРОТ

— Калі вам так цяжка піць горкія лекі, думайце, што гэта піва, — гаворыць хвораму ўрач.

— А ці не лепей, паважаны доктар, зрабіць наадварот: піць піва і думаць, што гэта лекі? — запытаў хворы.

## 854. А НАВОШТА?

Сустрэўшы аднойчы свайго знаёмага, лазеншчык пытаецца:

— Ты чаму перастаў у лазню хадзіць?

— А навошта? — адказвае той.— Мяне зараз два разы на месяц у выцвярэзніку мыюць...

## 855. ДЫ ЎСЁ ГЭТАЯ ХІМІЯ!

Знайшоў міліцыянер у самагоншчыцы змеявік:

— Што ж, грамадзянка, акт складаць будзем!

— Які акт, грамадзянін міліцыянер? Гэта ж наш Вася на гэтай машыне доследы па хіміі робіць!..

## 856. СВАЯ ЛОГІКА

Добра падпіўшы, грамадзянін чакае трамвая ў дзве гадзіны ночы. Да яго падыходзіць міліцыянер.

— Грамадзянін!.. Трамваі ўжо не ходзяць.

— А ч-чаму тады р-рэйкі ляжаць?..

## 857. МАЕ РАЦЫЮ

— Чаму ты сёння крычыш, каб яны паміры́ліся, учора ж сам падбухторваў іх пасварыцца?

— Але вы забыліся, штоміравая не абыходзіцца без бутэлькі.

## 858. НЕ ВЕДАЕ

— Скажы, што цяпер — ноч або дзень? — запыталі два п'яніцы ў прахожага чалавека.

— Не ведаю, браткі, я не тутэйшы,— адказаў той.

## 859. НОВАЕ ВЫНАХОДСТВА

— Я не паеду цераз гэты мост,— заявіў шафёр свайму начальніку.

— А што, няспраўны мост?

— Не, у мяне ў вачах дваіцца,— адказаў той,— дык не ведаю, па якім ехаць.

## 860. АБАРОНЦА

— Ільін пасля свята прыйшоў на працу выпіўшы.

— А ты адкуль ведаеш?

— Ды ён сам прызнаўся.

— Ну, мала што можа нагаварыць нецвярозы чалавек.

## 861. КОРАК

Аднойчы, калі муж з'явіўся дадому п'яны, жонка сказала з дакорам:

— Зноў на корак наступіў?

Праз некаторы час, з выпадку дня нараджэння жонкі, муж адкаркаваў бутэльку шампанскага. Корак паляцеў на падлогу. Маленькі сын сказаў маці:

— Мамка, падымі корак, бо тата зноў на яго наступіць...

## 862. РАЗУМНАЯ ГАЛАВА

— Кажуць, ты, Іван, гарэлку п'еш дужа часта.

— Частавата,— прызнаўся Іван і дадаў: — Я ўжо даўно хацеў кінуць піць, але няможна ніяк. Вось і ўчора іду каля закусачнай, а галава баліць, аж разламваецца. «Нізашто не пайду»,— сказаў я сам сабе. Затым прайшоў і падумаў: «Глядзі, якая у мяне галава харошая. Сказаў «не пайду» і не пайшоў. Як не палячыць такую галаву». Вярнуўся да закусачнай і выпіў дзвесце грамаў.

## 863. ПРЫЧЫНА

Адзін чалавек кажа другому:

— Сямён, дай мне, калі ласка, свайго пінжака.

— Навошта ён табе? У цябе ж свой ёсць.

— Мы ж пойдзем з табою на вяселле. Ісці трэба цераз раку, а я плаваць не ўмею. Дык вось, калі я буду тапіцца, ты мяне ахватней будзеш ратаваць.

## 864. СКЕМІЎ

Прыносіць бацька пірог і падае старэйшаму сыну.

— Падзяліся з малодшым па-брацку,— гаворыць ён.

— А як гэта? — не разумее той.

— Вельмі проста: сабе меншую частку вазьмі, а брацiку — большую.

— Тата, дык няхай лепш брацік падзеліць,— скеміў старэйшы.

## 865. СЯСТРА НАВУЧЫЛАСЯ ВАРЫЦЬ

— Гэта праўда, што твая сястра навучылася варыць?

— Так, праўда. Цяпер мы мусім навучыцца есці тое, што яна варыць.

## 866. ЯК ЗЛОДЗЕЙ УКРАЎ КАНЯ

Дапрашываюць злодзея на судзе:

— Як вы ўкралі каня?

— Я, граждане суддзі, пракурор і следавацель, не краў. Ішоў гэта я па цёмнай і вузкай вуліцы, і вось пасярэдзіне ляжыць конь, а мне трэба было скора ісці. Я хацеў каня абысці, дзе галава — кусаецца, хацеў там, дзе хвост — брыкаецца. Я хацеў яго пераступіць пасярэдзіне, перанёс толькі адну нагу, другая нага на тым баку каня яшчэ была, а ён як падхопіцца, як панясе мяне.— І злодзей, звярнуўшыся да міліцыянера, які ахраняў яго, кажа:

— Дзякуй гэтаму начальніку, што злавіў мяне, а то не знаю, куды б ён мяне занёс.

## 867. У СТАЛОЎЦЫ

— Чаму ў вас чай не салодкі?

— А вы яго памяшалі?

— Памяшаў.

— У які бок мяшалі?

— Якое гэта мае значэнне? Ну, управа.

— А цукар пайшоў налева.

## 868. У РЭСТАРАНЕ

— А што вы маеце з'есці?
— Ёсць кілбаса з капустаю.
— А болей што?
— Можа быць кілбаса без капусты.
— А яшчэ?
— Можа быць капуста без кілбасы.

## 869. У РЭСТАРАНЕ

Афіцыянт. Раю вам заказаць гуляш! Гэта пробны камень нашага новага кухара.

Кліент. Дзякую, але камення я не ем, нават пробнага.

## 870. У АДНОЙ СТАЛОВАЙ

Наведвальнік. Кажу сур'ёзна — дайце кнігу скаргаў.

Дырэктар (*спакойна*). А ў нас самаабслугоўванне.

## 871. У КАФЭ

У кафэ было шмат наведвальнікаў. Адзін з іх скончыў есці першае і другое і пайшоў па шклянку кавы. Калі ён вярнуўся, яго месца было ўжо занята.

— Грамадзянін, вы занялі маё месца.
— А чым вы дакажаце?
— Вельмі проста. Пад вамі павінна быць маё пірожнае.

## 872. У РЭСТАРАНЕ

Наведвальнік. Першы раз ем у вас такі смачны біфштэкс.

Афіцыянтка. Што я нарабіла! Я ж памылкова падала вам біфштэкс, засмажаны для нашага дырэктара.

## 873. ЯЙКА І КУРАНЯ

Чалавек заказаў у сталоўцы яйка. Афіцыянтка прынесла. Калі той аблупіў яго і пачаў есці, у сярэдзіне аказалася кураня. (Яйка было заседлым.)

— Што гэта вы мне кураня ў яйку падалі,— напусціўся чалавек на повара.

— А што ж вы хацелі, каб за 10 капеек вам цэлую курыцу засмажылі, — адказаў повар.

### 874. ПАСПЯШАЎСЯ

— Далучаюся да думкі Івана Іванавіча.
— Але ж Іван Іванавіч яшчэ не выступаў.
— Прабачце. Тады я выкажуся пасля яго выступлення.

### 875. АТЭСТАЦЫЯ НА СТАЛАСЦЬ

Дырэктар магазіна. Вы знаёмы з «марской бухгалтэрыяй»?

Бухгалтар. А як жа! Дзесяць — вам, палавіну — нам, і канцы ў ваду.

### 876. СЮРПРЫЗ

— Дазвольце вас пад руку ўзяць?
— Не трэба. Так мяне заўсёды муж водзіць, надакучыла.
— Тады дазвольце гаспадарчую сумку паднесці.
— Вось гэта для мяне сюрпрыз.

### 877. ПАЧАСТАВАЎ

Зайшоў неяк Мікіта да свайго сябра, з якім даўно не бачыўся. Пагаварылі пра тое-сёе, час і развітвацца.

— Як ты не ў час прыйшоў, дружа! — паспачуваў гаспадар госцю.— Каб раней, дык паснедаў бы, пазней — абедаць у пару. А так — прабач.

### 878. ЗАДАВОЛЕНАЯ ЦІКАВАСЦЬ

Госць, убачыўшы засмажаную курыцу, не без далікатнасці спытаўся ў гаспадыні:

— Скажыце, калі ласка, на колькі дзён вам хапае курыцы?
— На два дні.
— А калі ў вас госці?
— Ну, калі госці, дык усё залежыць ад таго, колькі дзён яны прабудуць. Прабудуць тыдзень, дык курыцы хапае на тыдзень і яшчэ на два дні,— адказала гаспадыня, хаваючы курыцу ў халадзільнік.

### 879. ХТО САЛІЎ?

Радзівон прыйшоў у госці да Саўкі. Той, вядома, не мог адпусціць дамоў сябра без пачастунку. Саўка кіўнуў жонцы сваёй Вользе, і тая хуценька выслізнула за дзверы.

Пакуль Саўкава жонка бегала па гарэлку, гаспадар мо ў соты раз скардзіўся Радзівону на сваё гора:

— Эх, каб ты ведаў, як аднаму ў гэтым жаночым акружэнні жыць. Жонка — раз,— Саўка пачаў загінаць пальцы.— Цешча — два, дзве швагрэні, чацвёра сваіх дачок...

Тым часам на стале з'явіўся пачастунак. Выпіўшы па кілішку, сябры злёгку закусілі салам, потым Саўка гукнуў:

— Гэй, Вольга, дай нам баршчу.

Жанчына паставіла на стол ладную міску наварыстага баршчу.

Радзівон зачэрпнуў, сербануў і... выпусціў лыжку з рук. Здзіўлены гаспадар паспрабаваў сам — боршч быў перасолены. Саўка павольна павярнуўся і злосна паглядзеў на жанчын.

— Вольга, саліла?

— Саліла.

— Цешча, саліла?

— Саліла.

— Нюрка, Аксіня, салілі?

— Салілі.

— Дочкі, салілі?

— Салілі, татачка.

— Ну, дык і я пасалю!

З гэтымі словамі Саўка схапіў салянку і бухнуў усё, што ў ёй было, у міску.

## 880. ГАСЦІННЫЯ ЛЮДЗІ

Знаёмы хваліўся знаёмаму:

— Вось у мяне суседзі гасцінныя: зайду да іх, дык яны не ведаюць, куды мяне пасадзіць. Пастаю, пастаю, ды так і пайду дадому.

## 881. ДАЛІКАТНЫ ГОСЦЬ

Аднойчы Івана паклікаў у госці яго сваяк Кузьма.

Пачаставаліся чаркай і пачалі закусваць яечняй. Іван праглынуў кавалачак, другі і скрывіўся. А сваяк Кузьма пытаецца:

— Няўжо вугалёчак трапіўся?

Іван супакоіў сваяка:

— Не, братачка, яечня таксама трапляецца...

## 882. КАНАЛ ІНФАРМАЦЫІ

— Адкуль ты ўсё ведаеш? Пытанне ж абмяркоўвалася пры зачыненых дзвярах.

— Так, але вокны былі адкрытыя.

### 883. НЕЗВЫЧАЙНАЯ ПРЫЧЫНА

— Чаму ў вас не купаюцца? — запытаўся незнаёмы ў мясцовага жыхара.

— У нас няма выратавальнай каманды,— адказаў той.

### 884. НУ І ЛЮДЗІ!

— Тут жыве Іваноў? У вашай ванне труба працякае.

— Іваноў выехаў з гэтай кватэры тры месяцы назад.

— Ну і людзі! Выклікаюць спецыяліста, а самі выязджаюць.

### 885. ДЗЕ НАПІЦЦА?

Пасажыр да правадніка поезда:

— Паслухайце, дзе ў вас можна напіцца?

— На наступнай станцыі,— ветліва адказаў той.

### 886. У ЦЯГНІКУ

Кантралёр да пасажыра:

— Добра, не шукайце білет. Я вам веру.

— Дык што, хіба я праз гэта буду ведаць, куды еду? — узлаваўся той.

### 887. ТРЫМАЕ САКРЭТЫ

Жанчына, убачыўшы, што сябры пра нешта шэпчуцца, сказала:

— Дарэмна вы шэпчацеся, я ўмею трымаць сакрэты, як ніхто. Яшчэ з учарашняга ведаю, што наш начальнік пасварыўся з жонкаю, але нікому не гавару.

### 888. ІНШЫЯ НЕ ЗАХОЎВАЮЦЬ

У адной жанчыны запыталі, ці ўмее яна захоўваць сакрэты.

— Вядома,— адказала тая.— Але ўся бяда ў тым, што тыя, якім я іх расказваю, не ўмеюць іх захоўваць.

### 889. СЯРОД ЛЕКТАРАЎ

— Калега, для таго, каб добра гаварыць, трэба мець вялікі запас слоў, а таму неабходна многа чытаць.

— Памыляешся, браце. Мая жонка зусім нічога не чытае, але калі пачне гаварыць, дык супыніць нельга.

## 890. ВАРТАЎНІК-НАДОМНІК

— Ты чаму на працу не ходзіш?
— А я зараз начным вартаўніком працую.
— Дык цябе ж і ноччу на месцы не відно.
— А я бяру работу дадому.

## 891. СТАРЫ ПАЛІГЛОТ

Стары хваліўся перад сваёй старою, што ведае нямецкую мову. Неяк ён прыйшоў з работы і сказаў:

— Копел мопел.

— Што ты кажаш? — не зразумела старая.

— А тое, цёмная баба, што па-нямецку гэта азначае — здымі з мяне валёнкі і пастаў сушыцца ў печ.

Раніцай стары прачнуўся, а жонка і кажа яму:

— Копел попел.

— Гэта яшчэ што?!. — здзівіўся стары.

— А тое, што твае валёнкі згарэлі.

## 892. МУЖЫК ВІНАВАТЫ

Паставіла жонка ў печ валёнкі сушыць. А жар з печы добра не выграбла, дык у адным валёнку ўся падэшва выгарала.

— Што ж я нарабіла,— спалохалася жонка,— будзе мне цяпер ад мужыка. Ат, што будзе, то будзе,— рашыла яна і назад у печ валёнкі паставіла.

А неўзабаве сусед паклікаў іх на святочную вячэру.

За сталом жонка шэпча мужыку:

— Хадзем хутчэй дадому, а то валёнкі згараць.

— Няхай гараць,— адказаў мужык, бо хацеў яшчэ выпіць.

А жонцы гэта толькі і трэба было.

Прыйшлі дадому. Жонка — адразу ў печ, дастала прапалены валёнак і тыц ім у самы твар мужыку:

— Я ж табе казала, што валёнкі згараць.

## 893. АБЫ ХУТЧЭЙ

Сабраліся муж з жонкаю на кірмаш ехаць. Папярэдне снедаць селі. Жонка і кажа мужу:

— Каб хутчэй было, дык ты юшку сёрбай, а я курацінку з'ем...

Выйшлі на панадворак — муж раіць жонцы:

— Каб хутчэй было, дык ты на воз уладкоўвайся, а я каня буду запрагаць...

Жонка села на воз, а муж ускочыў верхам на каня і паехаў.

## 894. ДЫК

Прыехаў да нас загатоўшчык скот скупляць у людзей.

Яму паказалі на аднаго дзядзьку, у каго быў прадажны бычок. А звалі таго дзядзьку па-вулічнаму Дык (усё гаварыў — дык, дык). Вот той загатоўшчык прыходзіць да яго і пытае:

— Пане Дык, кажуць, у вас прадаецца бык...

Той як усхопіцца, дык загатоўшчык ледва ўцёк.

## 895. АБЫ ДАПЯЧЫ

— Сыграйце што-небудзь,— просіць гаспадыня госця-музыканта.

— Калі ласка. Але што?

— Што хочаце, абы суседзям дапячы.

## 896. МАЕ РАЦЫЮ

— Паслухай, суседка, ужо цэлы год мінуў, як ты правы шафёра атрымала, а я цябе яшчэ ні разу за рулём не бачыла.

— А я з такой цяжкасцю атрымлівала гэтыя правы, што не хачу іх так хутка аддаваць.

## 897. ДРОБЯЗЬ

Пасажыр, сеўшы ў машыну, гаворыць шафёру:

— Ну, паехалі!

— Дык машына не заводзіцца.

— Дробязь, паехалі, потым завядзеш.

## 898. АПРАЎДАЎСЯ

Аўтаінспектар, праверыўшы машыну, гаворыць шафёру:

— Вы ў нецвярозым стане, ды яшчэ селі за руль няспраўнай машыны...

— Я таму і выпіў, што баюся цвярозым садзіцца за гэтую развaліну.

## 899. АПРАЎДАЎСЯ

Жонка гаворыць мужу-шафёру:

— Няўжо табе невядома, што піць за рулём забаронена?

— А я калі п'ю, дык вылажу з машыны.

## 900. СУПАКОІЎ

Бацька выгаварвае сыну:
— І да якога часу ты будзеш сядзець у мяне на карку?
— Не хвалюйся, татка, я заўтра жонку прывяду.

## 901. ЯК ТУТ СКАЗАЦЬ

— Тваё дзеці яшчэ вучацца, ці ўжо пайшлі на свой хлеб?
— Ды як сказаць. На свой хлеб пайшлі, але ад бацькоўскіх грошай не адмаўляюцца.

## 902. ПОСПЕХ

— Дзіўна, чаму гэта сёння я карыстаюся такім поспехам у жанчын? Нават дзяўчаты пры сустрэчы ўсміхаюцца мне. Не ведаеш, што яны сёння знаходзяць у ва мне асаблівага?
— Нічога, апрача таго, што ў цябе нос у чарніла выпэцканы.

## 903. ЛЯ ВОГНІШЧА

Сцяпан. Мікалай, ты дыміш!
Мікалай. На́ люльку, падымі і ты!
Сцяпан. Ды не, твая вопратка дыміцца!
Мікалай. Дык якога ж д'ябла ты раней не сказаў!

## 904. НІЧОГА АСАБЛІВАГА

У аднаго бацькі запыталіся, як ён вытрымлівае плач сваіх трайнятак.
— Нічога асаблівага,— адказаў той,— адзін з іх крычыць так моцна, што двух другіх я ўжо не чую.

## 905. МАГЛО Ж БЫЦЬ І ТАК...

У скверы нейкі мужчына падыходзіць да жанчыны, якая сядзіць на лаўцы і чытае часопіс.
— Гэта ваш хлопчык?
— Мой.
— Ён толькі што з рагаткі ледзь мне ў вока не патрапіў.
— Я вам у жывот патрапіў, а не ў вока,— папраўвіў мужчыну хлопчык.
— Яно то так, але ж я ў тую мінуту мог і прыгнуцца...

## 906. ПЕРАТАМІЛАСЯ

Вядомая пляткарка зайшла да мясцовага ўрача:
— Доктар, нешта мне млосна, ці неператамілася я?
— Зараз паглядзім: пакажыце язык.

## 907. ЗАХВАРЭЎ

— Чаго ты кульгаеш, Сымонка, ці, можа, захварэў?
— Але, штосьці зубы баляць.

## 908. САМ ВІНАВАТЫ

— Доктар, сёння я ўсю ноч не мог заснуць, нават ні разу вочы не заплюшчыў...
— Сам вінаваты: ніхто з незаплюшчанымі вачыма не спіць.

## 909. ДЗІЎНАЯ ХВАРОБА

Доктар (*да пацыента*). Ну, якая ў вас хвароба?
— Дзіўная, доктар, нічога не баліць.

## 910. ВІСЯЧАЯ РАБОТА

— Мала рухаецеся,— гаворыць урач пацыенту.— Відаць, работа ў вас сядзячая...
— Вісячая,— адказаў пацыент.— Цэлымі днямі вішу на тэлефоне.

## 911. ЗАГАДАЎ ЗАГАДКУ

Акуліст паказвае пацыенту табліцу з літарамі рознай велічыні.
— Вы зможаце прачытаць гэты радок?
— Не.
— А гэты?
— Таксама.
— Неверагодна! Няўжо цяжка адрозніць такія вялікія літары?
— Літары я адрозніваю, але не магу выгаварыць гэта слова.

## 912. ЯШЧЭ ЗМАЛКУ

Прыйшоў у амбулаторыю мужчына і звяртаецца да ўрача:
— Скажыце, калі ласка, што рабіць, каб нос не быў чырвоны?
— Не піце на працягу года ніякіх спіртных напіткаў, а толькі малако,— адказвае ўрач.
— Гэта я рабіў... Яшчэ ў дзяцінстве.

## 913. НАПАЛОХАЎ

Доктар. Эх, чалавеча, з гэтаю хваробаю можаце жыць яшчэ шэсцьдзесят гадоў!

Хворы. О-о-о! Дык, значыць, мне пагоршала?

Доктар. Чаму?

Хворы. А летась жа вы казалі, што з маёю хваробаю можна жыць сто гадоў.

## 914. НЕ ВІНАВАТЫ

— Хворы, чаму вы парушаеце санаторны рэжым? Учора ўсю ноч у прэферанс гулялі.

— Гэта праўда, але я гуляў пад наглядам і пры ўдзеле дзяжурнага ўрача.

## 915. СУПАКОІЎ

Хворы ўсхвалявана гаворыць урачу:

— Ведаеце, я вельмі баюся, гэта першая аперацыя ў маім жыцці...

— Нічога, не хвалюйцеся,— супакойвае хворага ўрач, — гэта мая таксама першая аперацыя...

## 916. АДПЛАТА

Сусед выцягнуў з рэчкі зубнога ўрача, які пачаў тануць.

— Дарагі чалавеча, як жа табе аддзякаваць за тваю дабрату? Прыходзь да мяне, я табе ўсе зубы без чаргі павырываю.

## 917. ЗАДУЖА ДОБРАЯ П'ЕСА

Драматург звяртаецца да рэжысёра:

— Скажыце, у маёй п'есе чаго-небудзь не хапае?

— Наадварот,— адказаў рэжысёр,— у ёй многа лішняга.

## 918. АДНА ЗАГАНА

Прачытаў крытык рукапіс ды і кажа:

— Добра напісана, свежа і арыгінальна. Але вось бяда — зусім невядомым імем падпісана.

## 919. НУ І КНІЖКА!

— Спадабался мая кніжка? — пытаецца аўтар новага рамана ў свайго сябра.

— Што ты! Так захапіўся чытаннем, што нават не заўважыў, як заснуў.

### 920. НЕ ЗРАЗУМЕЎ

Рэдактар вяртае рукапіс маладому аўтару і гаворыць:
— Прабачце, але не відаць уласнага почырку.
— То я магу перапісаць нанава,— ахвотна згадзіўся аўтар.

### 921. ВОСЬ І ДОБРА

— Над гэтымі вершамі заснуць можна,— гаворыць рэдактар аўтару.
— Вось і добра,— не разгубіўся той.— Надрукуйце іх у якасці калыханкі.

### 922. У БІБЛІЯТЭЦЫ

— Што вы мне параіце пачытаць? Я люблю кнігі невялікія па аб'ёму, але багатыя па зместу.
— У такім разе чытайце сваю ашчадную кніжку.

### 923. НАЧЫТАНЫ

— Вы чыталі «Авадня»?
— Не. Я не люблю чытаць кнігі пра насякомых.
— А «Цэмент»?
— Таксама не. Я чытаю толькі мастацкую літаратуру.

### 924. У БІБЛІЯТЭЦЫ

Першы наведвальнік (*да другога, які чытае ўголас*). Чытайце пра сябе.
Другі наведвальнік (*разгублена*). А пра мяне тут нічога не пішуць.

### 925. ЦІКАВАЯ КНІГА

Адзін аўтар па сваёй няўважлівасці паслаў свайму сябру ў другі раз адну і тую ж кнігу. Сябра яму адказаў:
— Твая другая кніга яшчэ цікавей за першую.

### 926. НЕДАГЛЯДЗЕЛІ

— Апанас Іванавіч, бяда... Маланка барана забіла!
— Вось няшчасце! А дзе ж пастухі былі?!. — усклікнуў заатэхнік.

## 927. НУ І КУКУРУЗА

Старшыня калгаса хваліўся суседзям:

— Кукуруза так палюбіла нашу зямлю, што вылазіць з яе не хоча.

## 928. ЧЫСТЫЯ СВІННІ

— Чаму знізілася вага свіней на вашай ферме? — запытаўся прадстаўнік з раёна ў калгаснага заатэхніка.

— А мы іх сёння перад узважваннем памылі.

## 929. ДАРЭМНАЕ ХВАЛЯВАННЕ

Сусед да суседа:

— Ты чуў, хутка зацьменне сонца будзе?

— Чаго хвалявацца? Да нас жа даўно электрычнасць правялі.

## 930. АДНОЙЧЫ Ў АЎТОБУСЕ

— Калі ласка, сядайце! — прапанавалі адной жанчыне.

— Няма калі расседжвацца,— дзелавіта адказала тая,— і так на работу спазняюся.

## 931. ЗНАЙШОЎ ВЫЙСЦЕ

Настаўніку музыкі, прыватніку, здалося, што ён мала бярэ за навучанне. Ён пачаў патрабаваць болей. Маці хлопчыка спытала:

— Прабачце, але спачатку за навучанне Віці вы бралі па сем рублёў у месяц, а зараз патрабуеце чатырнаццаць.

— Правільна,— адказвае той.— Але вы не ўлічылі, што спачатку я вучыў Віцю іграць на баяне адною рукой, а зараз ужо дзвюма.

## 932. АСВЕЧАНАЯ АСОБА

У вясковым клубе закончыўся даклад прыезджага лектара. Два дзядулі выходзяць на панадворак, выцягваюць люлькі.

— Вось лектар дык лектар. Вучоны, адно слова... І як гаворыць... — уздыхае адзін.

— Гэта так... — згаджаецца другі.— Не тое, што ў нас ў вёсцы. Што ні скажуць — усё ясна. А тут дзве гадзіны слухаў, аж сапрэў, а нічагусенькі не зразумеў. Адразу відаць асвечаную асобу.

## 933. СУМЛЕННАСЦЬ

— Ну ці не злыдні ж гэтыя спекулянты? Ні сумлення, ні сораму: па дзве скуры дзяруць з чалавека.

— Дык навошта ты ў іх купляў?
— Як гэта навошта? Мне ж суседзі за гэтую рэч у тры разы больш дадуць.

## 934. НЕБЯСПЕЧНАЕ СУСЕДСТВА

Жыхар камунальнага дома звяртаецца да суседа, сустрэўшы яго ў калідоры:
— Хачу скардзіцца. Ваша радыёла кожны вечар так грыміць, быццам стаіць у маім пакоі.
— Паслухай, даражэнькі, на тваім месцы я лепш маўчаў бы. Калі аб гэтым даведаецца мая жонка, то прымусіць цябе плаціць грошы за карыстанне радыёлаю.

## 935. РАЗУМОВАЯ ЗАРАДКА

— Кожную раніцу я раблю разумовую зарадку.
— Рашаеш матэматычныя задачкі?
— Ды не. Я раблю зарадку, але толькі ва ўяўленні.

## 936. РАЗУМНЫЯ СЫНЫ

Адзін бацька хваліўся сваімі сынамі:
— Разумееце, ну і сыны ў мяне! Такія разумныя! Калі адзін з іх скажа, што будзе дождж, а другі — добрае надвор'е, то абавязкова што-небудзь ды будзе.

## 937. ШТО РОБІЦЕ?

На базары пытае сусед суседа:
— А што вы робіце, калі не сакрэт, што ў вас харошыя яблыкі? А ў мяне то чарвівыя, то гнілыя...
— Ёсць і ў нас і чарвівыя, і гнілыя, але мы іх самі ямо...

## 938. ЗУСІМ МАЛА

— Грамадзянін, чаму вы лезеце без чаргі?
— Ды мне толькі папяросы.
— Ну, калі ласка.
— І яшчэ дзве бутэлькі віна, кілаграм селядцоў, тры кавалкі мыла і карабок запалак.

## 939. НЕ ВІНАВАТЫ

— Вы абяцалі адрамантаваць электрычны званок,— гавораць электраманцёру.
— Я прыходзіў да вас некалькі разоў, але ж да вас нельга дазваніцца.

## 940. НЕ НАБІВАЙЦЕ СТОЛЬКІ

На будоўлі прараб падышоў да цесляроў, паглядзеў на іх работу ды кажа:

— Не набівайце столькі цвікоў у дошкі! Эканоміць трэба.

Адзін з цесляроў адказвае:

— Ды вы лепш паглядзіце, мы і так эканомім: поўнасцю цвік не забіваем — палавіну загінаем.

## 941. ДОЎГАЯ МІНУТА

Падначалены звяртаецца да свайго начальніка, які выходзіць з кабінета:

— У мяне да вас невялічкая справа...

— Пачакайце мінутачку, я праз гадзіну вярнуся...

## 942. ДОБРАЯ ПАРАДА

— Не ведаю, што і рабіць,— скардзіцца суседка сваёй знаёмай.— Куры перасталі несці яйкі.

— А ты іх парэж,— параіла знаёмая.

— А хіба гэта дапаможа?

## 943. ДАВЕРЫЎ

Чаму гэта наш дырэктар прызначыў загадчыкам гаспадаркі сваяка?

— Каб гаспадарка была ў сваіх руках.

## 944. З КАБІНЕТА НЕ ВЫЛАЗІЦЬ

Сустрэліся дзве старыя ля студні.

— Людзі кажуць, што твой сынок у вялікіх начальніках ходзіць?

— Што ты, ёсць яму калі хадзіць — ён з кабінета не вылазіць.

## 945. САМ ВІНАВАТЫ

Ноччу пастукалі ў шыбу і запыталіся:

— Гаспадар, табе дровы трэба?

— Не, не трэба,— адказаў гаспадар.

Раніцай гаспадар за галаву хапіўся: дровы з падпаветкі зніклі...

## 946. СУЧАСНАЯ ВАРОНА

Вароне недзе бог паслаў кавалак сыру. Сыр варона есць, а ліса яе ўсё падхвальвае.

З'ела варона сыр, аблізнулася, а тады і кажа лісе:

— Ты што? Думаеш, баек Крылова я не ведаю?

18, Зак. 109

## 947. СУР'ЁЗНЫ ДОКАЗ

— Вы майму сыну ўчора паставілі двойку. Гэта памылка!
— Чаму памылка? — здзівілася настаўніца.
— Калі я вучылася, у мяне ніколі не было двойкі.

## 948. ДАКЛАДНА ПАКАЗАЎ

У раённым цэнтры прыезджы чалавек пытаецца ў стрэчнага мужчыны:
— Дзе у вас тут сярэдняя школа?
— Насупраць прамтаварнага магазіна.

## 949. У ПІНСКУ, ЯК У МІНСКУ

Адзін дзядзька з Мінска пайшоў пешшу ў Пінск. Па дарозе заспела яго ноч. Ён збочыў з дарогі, лёг пад сасною, а чаравікі, каб назаўтра не зблытаць, у які бок ісці, наскамі паставіў у напрамку да Пінска.

Калі дзядзька спаў, нейкі прахожы павярнуў чаравікі — паставіў наскамі ў напрамку да Мінска.

Прачнуўся дзядзька назаўтра. Куды паказвалі наскі чаравіка, туды і пайшоў.

Якраз надвячоркам ён вярнуўся ў Мінск.

Бачыць знаёмыя вуліцы і разважае:

— У гэтым Пінску і вуліцы, як у Мінску.

Бачыць знаёмыя дамы і задаволена ўсміхаецца:

— Дык у Пінску і дамы, як у Мінску.

Прыйшоў да свайго ўласнага дома і рот разявіў:

— І ў Пінску ёсць такі дом, як у мяне ў Мінску?

Пачынае змяркацца. Трэба ж недзе начаваць.

Стукаецца ён у свой дом. Яму адчыняе жонка. Глянуў на яе мужык і яшчэ больш здзівіўся: і жанчыны ў Пінску, як у Мінску.

— Цётачка, пусціце пераначаваць,— просіцца мужык.

Жанчына падумала, што яе мужык п'яны вярнуўся і здзекуецца з яе.

Схапіла яна качаргу — і качаргою, качаргою па мужыку...

— О-ё-ё-й! Гэтая баба ў Пінску, як мая жонка ў Мінску...

## 950. ПРЫНЦЫПОВЫ

— Мы вас возьмем на работу, але ведайце, што нам патрэбны прынцыповыя работнікі.

— Што вы! Я —прынцыповы! Мяне і з апошняй работы знялі за прынцыповасць!..

## 951. ПАХВАЛІЛАСЯ

Суседка прыйшла да суседкі ў госці і кажа:

— А ты хвалілася, што табе вельмі добра кватэру адрамантавалі. Вунь, бачыш, столь працякае...

— Ай, даражэнькая! Яна зусім не працякае. Толькі калі дождж надарыцца, то тады...

## 952. КАМУ ГОРШ?

Сядзелі за сталом муж, жонка, маці мужа. Налівае жонка ежу ў міскі, а муж хлеб рэжа. Адрэзаў ён маці тоненечкую лусціцу хлеба, працягнуў праз стол і кажа:

— Хапай, матачка, хапай даражэнькая, а то пераломіцца.

А жонцы адрэзаў лусту на паўбулкі і груба крыкнуў:

— На, еш, чаго разявілася!

## 953. ЗНАХОДЛІВЫ

У дырэктара школы запыталіся:

— У вас у школе заўсёды так холадна?

— Не, толькі зімой.

— А чаму ў класах цёмна?

— Дык жа ў нас вячэрняя школа.

## 954. ПРАЛІЧЫЎСЯ

— Ахрэм, твой конь капусту есць!

— Няўжо ж не будзе есці — яна ж салодкая!

— Ахрэм, зараз усю з'есць!

— А то пакіне.

— Ахрэм, дык гэта ж твая капуста!

— Ай, ліха на цябе, чаму ж ты раней не сказаў?

## 955. АДПЛАТА

Сусед зайшоў у хату да суседа і кажа:

— Ведаеш, браце, калі я ішоў да цябе, дык твой сабака мяне за нагу ўкусіў. Мне яму трэба адпомсціць.

— Дык ты і адпомсці — таксама ўкусі яго за нагу.

## 956. НЕ АПЛАЧАНЫ

— Дарагі майстра, не прайшло і тыдня, як я ўзяў ад вас гэтыя боты, а яны пачалі ўжо крывіцца.

— Крывіцца! Нічога дзіўнага, бо не аплачаны.

## 957. АХВЯРЫ МОДЫ

Зайчыха гаворыць сваёй сяброўцы:

— У гэтым сезоне модным будзе воўчае футра. Я сказала свайму зайцу, каб ён сёння ж прыдбаў мне такое футра.

— Бедная ты ўдава,— паківала галавою зайчыха-сяброўка.— Цяпер я ведаю, чаго суседняя ваўчыха ходзіць у футры з заечых шкурак.

## 958. МОДНЫ МУЖ

— Пятрок, кажуць, што цяпер мода пайшла насіць пінжак без гузікаў,— кажа жонка мужу.

— Ты глядзі, аказваецца, я ўжо пяць гадоў хаджу модным.

## 959. ДРАПЕЖНАЯ КАЧКА

Мікола і Цімох пайшлі на паляванне. Мікола першым выстраліў. На дол упала качка. Мікола хапіўся за галаву:

— Ай-я-я-яй! Што я нарабіў!

— Качку шкадуеш? — здзівіўся Цімох.

— Згарыць яна, гэтая качка! Яна, драпежніца, ваўчанят паела...

— Ты што?

— Мне прэмію за ваўчыны вывадак далі, дык грошы я ад жонкі ў рулю стрэльбы засунуў, а дастаць забыўся...

## 960. РАЗЛІЧЫЛІСЯ

У кватэры сапсаваўся вадаправод. Гаспадар пазваніў у домакіраўніцтва і папрасіў прыслаць майстра. Майстар прыйшоў, за пяць мінут паправіў, што трэба, і, намякаючы на чарку, пачаў хваліць сваю работу:

— Я вельмі акуратна ўсё зрабіў. Для добрых людзей і працы лішняй не шкада...

А гаспадар кажа:

— Дзякую за добрыя словы. Прыходзь заўтра, дык я табе лішні раз скажу «дзякуй».

## 961. ЁСЦЬ ПАДСТАВЫ

— Асудзяць цябе, Іван, за растрату,— гаворыць жонка мужу, загадчыку прамтаварнага магазіна.

— Не асудзяць,— упэўнена гаворыць муж.— Мой начальнік абяцаў мне: «Выдам табе такую характарыстыку, што ні адзін суд не возьмецца цябе судзіць».

## 962. ЗУСІМ ЛЁГКА

— Як гэта табе ўдаецца сумяшчаць сваю асноўную работу з абавязкамі кладаўшчыка? — спыталі ў загадчыка клуба.

— Зусім лёгка,— адказаў той.— Клуб жа выкарыстоўваецца ў якасці кладоўкі.

## 963. ЧЫЕ ЧАРАВІКІ?

Жанчына прыйшла на работу ў новых чаравіках.

— Ну і чаравікі! — заўважылі сяброўкі.— Гэта нашы ці замежныя?

— Гэта мае чаравікі!

## 964. У КНІГАРНІ

Абураны пакупнік да прадаўшчыцы:

— Дайце, калі ласка, кнігу скаргаў.

— Выбачайце, мы гандлюем толькі мастацкай літаратурай.

## 965. ЗНАЙШОЎ ВЫХАД

— Чаму кніга скаргаў і прапаноў парваная? — пытаецца старшыня праўлення сельпо ў заўмага.

— Учора адзін пакупнік абурыўся, што абгортачнай паперы няма, таму кнігу скаргаў папрасіў.

— Ну, дык і даў бы!

— Дык я даў, а ён вырваў дзве старонкі і селядзец загарнуў.

## 966. ЛЕПШЫХ НЕ ЗДАЮЦЬ

Работніку нарыхтоўчай канторы ўтыльсыравіны прапанавалі:

— Кінь ты дзіравую шапку насіць. Дастань сабе лепшую.

— А лепшых нам не здаюць.

## 967. АБЯЦАННЕ

— Ну і дадуць жа мне, сынок, прыкурыць на сходзе,— уздыхнуў брыгадзір.

— А ўчора ж ты казаў маме, што кінеш курыць,— адказаў сын.

## 968. АДВАРОТНАЯ ДЗЕЙНАСЦЬ

Таварыш дырэктар, мы падвялі вынікі за год.

— Што мы падвялі, дык гэта добра. А вось дрэнна, што ў сваю чаргу вынікі падвялі нас.

## 969. ПАПРАСІЎ

— Фёдар, дай мне сваю сякеру.
— Ты маёй сякерай не будзеш секчы.
— Чаму?
— Вельмі проста: я табе яе не дам.

## 970. ЗГУБІЎ СЯБРА

— Чаму гэта Міша пры сустрэчы з табою пераходзіць на другі бок вуліцы? Ці не пакрыўдзіў ты яго? — пытаецца жонка ў мужа.
— Наадварот, я яму грошай пазычыў.

## 971. СУПАКОІЎ

— Паслухайце, ваш чамадан ледзь трымаецца на паліцы, ён зараз зваліцца на мяне.
— Не хвалюйцеся. У ім ніякіх шкляных рэчаў няма.

## 972. СКАРГА

— Калі ж вы разгледзіце маю скаргу? Я хаджу да вас кожны дзень.
— Кожны дзень? Няпраўда. Па нядзелях мы не працуем.

## 973. ЗНАЙШОЎСЯ

З кінатэатра гледачы выходзілі праз цёмны і брудны двор. Адзін з гледачоў паскардзіўся дырэктару кінатэатра:
— Гэта ж непавага да людзей! Уваход як уваход, а пры выхадзе людзі па калені ў гразі прабіраюцца.
Дырэктар адказаў:
— Дарагі таварыш, грошы з гледачоў мы бяром за ўваход, а не за выхад.

## 974. «ПРАВІЛЬНЫЯ» РАЗЛІКІ

— Таварыш старшыня! У вас пад пагрозай зрыву выкананне плана па малаку.
— Але ж мы яго выканаем.
— Якім чынам?
— Замест малака здадзім масла.
— Дзе ж вы яго возьмеце?
— Зробім з малака.

### 975. У ВАГОНЕ

П р а в а д н і к. Тут не можна курыць.
П а с а ж ы р. Чаму?
П р а в а д н і к. Вагон для тых, хто не курыць. Вунь жа напісана.
П а с а ж ы р. У вагоне такі дым, што нельга прачытаць.

### 976. НЕШЧАСЛІВЫ ЧАЛАВЕК

— Я самы нешчаслівы чалавек на свеце,— скардзіўся дзядзька свайму субяседніку.

— А чаму?

— Ды таму, што ўсе людзі бываюць імяніннікамі кожны год, а я адзначаю свой дзень нараджэння адзін раз у чатыры гады, бо нарадзіўся 29 лютага,— растлумачвае дзядзька.

### 977. АМАТАР МУЗЫКІ

Спазніўшыся на канцэрт, чалавек займае сваё месца і хуценька пытаецца ў суседа:

— Што выконваюць?

— Пятую сімфонію Бетховена.

— Пятую ўжо? Здорава ж я спазніўся!

### 978. НЕ ПА АДРАСЕ

Г а с п а д а р к в а т э р ы. Вось ужо другі дзень ідзе дождж і ў маёй кватэры ўсё плавае. Калі ж гэта скончыцца?

Д о м а к і р а ў н і к. Не ведаю, я не метэаролаг, звярніцеся ў бюро прагнозаў надвор'я.

### 979. РАЗМОВА НА АСТРАНАМІЧНУЮ ТЭМУ

— Што гэта сёння месяц не ўзыходзіць? — пытаецца сусед у суседа.

— Мусіць, за спадарожнік недзе зачапіўся, — быў адказ.

### 980. У ПРАЛЬНІ

Н а в е д в а л ь н і к. Якую вы мне кашулю аддаяцё? Яна ж брудная.

С у п р а ц о ў н і к. Супакойцеся, грамадзянін, яна такая і была.

## 981. ДАСТОЙНЫ АДКАЗ

Жыў у вёсцы дужа скупы чалавек. Ён любіў пазычаць, але не любіў аддаваць.

Аднойчы ён прыйшоў да свайго суседа і папрасіў:

— Братачка Антон, пазыч пару рублёў. Трэба ў магазін наведацца. Як намацаю ў кішэні твае грошы — адразу і цябе ўспомню.

А сусед яму ў адказ:

— А ты мяне і без пазыкі ўспомніш. Калі не намацаеш у кішэні пазычаных грошай, то і скажаш: «Ліха яму, гэтаму Антону, — не пазычыў».

## 982. УСЁ ПРАВІЛЬНА

— Вазьміце з мяне грошы за месяц карыстання радыёкропкай.

— Вы памыліліся. Вы даеце толькі плату за палову месяца.

— А я слухаю перадачы толькі адным вухам.

## 983. ШКАДА, ШТО ПРАЧНУЎСЯ

Адзін скнарны чалавек сасніў, што прадае гуся і просіць за яго пяць рублёў, а яму даюць толькі два. З-за гэтага ён прачнуўся, але хуценька зноў зажмурыў вочы і сказаў:

— Добра, дайце хоць рубель, толькі хутчэй...

## 984. СЫМОН-ЖМАК

Сымон быў вельмі скупы чалавек. Гаварылі, што ў яго нават снегу зімой нельга было выпрасіць. Не толькі людзям, але і сабе ён усяго шкадаваў. Каб меней расходаваць на харчы, клаўся Сымон спаць завідна, а ўставаў апоўдні. Устане і смяецца — рады чалавек: збярог і вячэру, і снеданне. Паволі апранаецца, паходзіць сюды-туды каля хаты, нарэшце памыецца, перахопіць чаго-небудзь і зноў кладзецца на ложак. Кпілі з яго, канешне, людзі: і радня, і суседзі, і знаёмыя, і незнаёмыя.

— Вам у Стайкі? У тыя, што ля Кандратовіч, ці ў тыя, дзе Сымон-жмак жыве?

Так і жыў чалавек пад гэтым двайным імем — Сымон-жмак.

Аднойчы раніцою чуе Сымон, як жонка яго пытае: «Сымон, га, Сымон, як табе яешню рабіць: біць усё яйка ці толькі палавіну?»

Завагаўся Сымон, аднак успомніў, як аднавяскоўцы кпяць з яго за сквапнасць, і рашыўся:

— Бі ўсё!

Падумаў крыху і працадзіў скрозь зубы:

— Хай ведаюць, як Сымон-жмак жыве!

Сказаў і прачнуўся. Перапалохаўся, ускочыў ды як закрычыць:

— Стой, стой, жонка, бі палавіну. Цэлае мы і на вялікдзень паспеем з'есці.

## 985. ПАГАВАРЫЛІ

— На пустым полі і трава не расце, — заўважыў кучаравы лысаму.

— Затое на дрэнным полі чартапалох буяе, — адказаў лысы.

## 986. ЗРАЗУМЕЎ

Пры сустрэчы чалавек захацеў падкузьміць свайго суседа. Гаворка была такая:

— Ну і дуб жа ты, Віктар Адамавіч...

— Але, брат, я моцны яшчэ!

## 987. ДЗЕ Ж ЛОГІКА?

Селянін прыехаў у горад і заўважыў на дзвярах аднаго дома надпіс: «Уваход забаронены».

— Вось мне разумнікі гэтыя гараджане, — сказаў селянін. — Спачатку робяць дзверы, а пасля пішуць на іх, што праз іх хадзіць не можна.

## 988. НАВУКОВАЕ АДКРЫЦЦЁ

Старэнькая бабулька наракае на вельмі снежны сакавік:

— Напускалі гэтых сваіх спадарожнікаў, нарабілі ў небе дзірак, дык снег ідзе і ідзе!

## 989. ЖЫЦЦЁВАЯ ПРЫКАЗКА

— Цікавая прыказка: «У каровы малако на языку».

— Вось дзіва! У нашага старшыні калгаса ўсе дасягненні на языку.

## 990. ВЫГАДНАЯ ЗАБАРОНА

— Дай, братачка, закурыць.

— Чаму ж ты ніколі свайго курыва не маеш?

— А мне ўрачы забаранілі курыць.

## 991. ДОБРЫ ЧАЛАВЕК

Калгасны конюх дзядзька Апанас любіць размаўляць сам з сабою. Аднойчы ў яго запыталіся:

— Чаму вы размаўляеце самі з сабою?

— З добрым чалавекам добра і пагаварыць, — адказаў дзядзька.

## 992. ДОБРЫ СТРАЛОК

— Васіль цаляе са стрэльбы ў муху з адлегласці дзесяць метраў.
— Ну, гэтага не можа быць!
— Далібог! Толькі ён муху малюе на ўсю сцяну.

## 993. У ЦІРЫ

— Таварыш, калі вы цэліцеся, дык заплюшчвайце адно вока.
— Я, таварыш інструктар, спрабаваў і абодва заплюшчваць і ўсё роўна не пападаю.

## 994. ГАРАНТЫЯ

Навёўшы парадак у пакоі сына, маці нарэшце сказала:
— За табой і ложак засцілай, і пакой падмятай, і штаны табе прасуй... Дакуль гэта будзе?
— Абяцаю, мама: да таго дня, калі я ажанюся!

## 995. АПРАЎДАННЕ

Майстар неяк заўважыў рабочаму:
— Нешта, браце, ты позна пачынаеш работу.
— Нічога, — апраўдваецца той. — Затое я рана пакідаю яе.

## 996. РАЗВАЖЛІВЫ ГУЛЬТАЙ

— Кепска быць падначаленым, — гаварыў гультай. — Адзін пасылае туды, другі — сюды... Добра, што я нікуды, а то зусім заганялі б.

## 997. СКАРГА ГУЛЬТАЯ

— Чаму гэта, доктар, іншыя і днём бачаць сны, а я ніколі?
— Хто напрацуецца як трэба, таму не да сноў!
— О, хоць адзін чалавек ды праўду сказаў, — усклікнуў узрадаваны гультай.

## 998. ЛОГІКА ГУЛЬТАЯ

— Слухайце, чаму вы носіце толькі па дзве цагліны? Усе носяць па чатыры.
— Таму што ўсе яны гультаі. Яны лянуюцца лішні раз ступіць.

## 999. КАЛІ МНОГА, КАЛІ МАЛА

— Скажы, дзвесце грамаў цукерак — гэта многа ці мала?
— Гледзячы калі. Калі частуюць мяне — гэта мала...
— А калі частуеш ты?
— Гэта шмат.

## 1000. ПЕВЕНЬ-БАЯВІК

Купіў мужык на базары пеўня. Ды такога ўжо баявога! Зараз жа ўсіх курэй раскалашмаціў. Перабраўся на другі двор — і там тое самае. І на трэці. І зусім ужо схуднеў, адны косці засталіся. Пералез ледзьве цераз плот на свой двор, лёг на сметніку і ўжо падыхае.

От ляціць варона, пачуяла спажыву, пачала зваць варон, гракаць.

Тады певень расплюшчыў адно вока і кажа:

— Пачакай, я й да цябе дабяруся.

## 1001. РАЗБЯРОМСЯ ПОТЫМ

Прыйшлі аднойчы вечарам з лесу мядзведзь, мядзведзіца і маленькі мядзведзік.

— Хто з маёй талеркі еў? — закрычаў стары ўзлаваны мядзведзь.

— Хто з маёй талеркі еў? — закрычала старая ўзлаваная мядзведзіца.

— Хто з маёй талеркі еў? — закрычаў узлаваны маленькі мядзведзік.

Пайшлі спаць.

— Хто на маёй пасцелі валяўся? — закрычаў стары ўзлаваны мядзведзь.

— Хто на маёй пасцелі валяўся? — зараўла старая мядзведзіца.

— Выключайце свет, — закрычаў малады мядзведзік, — разбяромся заўтра.

## 1002. ЛІСА І РАК

Ішла галодная ліса і трапіла на рака. Захацела яго спеч, але дзе ж?

Знайшла прашлагодняе вогнішча і паклала яго туды. Але рак папоўз паціху. Тады ліса і кажа сама сабе: «Спячэцца не спячэцца, яшчэ куды звалачэцца. Лепей я яго з'ем». І з'ела яго.

## 1003. ЛЯКАРСТВА АД БЛОХ

Аб'явілі конкурс на лепшую рацыянальную прапанову. Прыходзіць член аднаго такога камітэта да студэнтаў-медыкаў і гаворыць ім:

— Ну, сябры, думайце, шукайце, выносьце прапановы. Можа, яшчэ і прэмію атрымаеце. Што-небудзь такое... новенькае прыдумайце.

Думалі, думалі — ніхто нічога не прыдумаў. Прыходзіць гэты член камітэта назаўтра. «Ну, як,— пытае,— прыдумалі што-небудзь новенькае?»

— Прыдумалі, — адказваюць студэнты.

Выходзіць стараста групы з бутэлечкай у руках і гаворыць:

— Вось, — гаворыць, — новае лякарства ад блох! Ніводная блыха не вытрымае.

— О-о-о! — гаворыць член камітэта. — Гэта ж вялікае вынаходства. Аб гэтым можна цэлую дысертацыю напісаць. Сёння ж раскажу аб гэтым па радыё. — Схапіў лякарства і хацеў ужо ісці некуды дакладваць, а потым успомніў і пытае:

— А як жа гэтым лякарствам карыстацца? Інструкцыю, відаць, трэба напісаць?

— Э, не, — адказваюць студэнты, — ніякай інструкцыі. Можна і без інструкцыі, лякарства універсальнае, ніводная блыха не вытрымае.

— Дык гэта лякарства ўнутранае ці якое? — пытае член камітэта.

— Унутранае, — адказваюць студэнты. — Бяры і сып прама ў тое, чым кусае.

— У рот, значыць, сыпаць, а калі не разявіць роту? Тады што?

— Тады трэба пад пахамі пашчыкатаць. Рассмяецца. Разявіць рот — вось тады і сып, не зявай. І абавязкова здохне!

## 1004. БЫЛО Б ДОБРА, КАЛІ Б НЕ ДРЭННА

— Во, брат, я нядаўна рыбы налавіў!
— Ну і добра...
— Каб жа добра: рыбы пуды тры было.
— То добра ж...
— Дзе ж яно добра, калі за рыбу мне сто рублёў далі.
— Ого, гэтак выгадна прадаў?
— Не прадаў, а штрафу за браканьерства далі.

## 1005. МАРА РЫБАЛОВА

— Вось бы мне ўладкавацца на працу ў лазні.
— І што б ты там рабіў?
— Адкрыў бы сушыльны цэх для падлешчыкаў.

## 1006. САМ ЗЛАВІЎСЯ

— Колькі ты злавіў рыбін на мінулым тыдні? — запытала жонка ў мужа.

— Дзесяць, мая даражэнькая.

— Я так і ведала, што загадчык рыбнага магазіна ашуканец. Ён патрабуе ў мяне грошы за пятнаццаць.

## 1007. НЕ ЗЛАВІЎ

— А сняданне было б такое добрае! — гаварыў рыбак, дрыжачымі рукамі чапляючы другі кручок.

## 1008. НІЧОГА МУДРАГА

— Хадзем, Пятро, на рыбалку!
— Ды я ж не ўмею лавіць рыбу.
— А што там умець? Налівай ды выпівай.

## 1009. СПРАКТЫКАВАНЫ РЫБАК

Пытаюцца ў рыбака:
— Ты многа рыбы ўчора налавіў у нашым возеры?
— Кілаграмаў дзесяць.
— Не хлусі, у гэтым возеры няма рыбы.
— Дык я ж апошнюю і вылавіў.

## 1010. РАСЧАРАВАННЕ

З няўдачніка-рыбака ўсе смяяліся. І вось аднойчы пашанцавала: ён злавіў вялізнага шчупака. Але, падумаўшы, кінуў назад у ваду.
— Чаму? — спытаўся ў яго сябар.
— Усё роўна не паверацъ: скажуць, што купіў.

## 1011. РЫБАЛОВЫ

Стрэліся глухія, абодва з вудамі.
— Ты куды ідзеш, рыбу лавіць?
— Ды не, іду рыбу лавіць.
— А-а, я думаў, ты ідзеш рыбу лавіць.

## 1012. ДВОЕ ПАЛЯЎНІЧЫХ

— Ведаеш, Янка, я ўчора падстрэліў зайца на дзесяць кілаграмаў...
— А я забіў у нядзелю зайца на цэлы пуд...
Першы паляўнічы пачухаў патыліцу:
— Шкада, што я першы пачаў размову.

## 1013. ПРАЎДЗІВЫ ПАЛЯЎНІЧЫ

— Зірні, жонка, якога зайца я забіў!
— Але ж гэты заяц зусім не мае шкуры.
— Але! Як я стрэліў, дык заяц са страху выскачыў з шкуры.

## 1014. СУМЛЕННЕ

Двое дзеляць зайца.
— Каб не крыўдна было, бяры сабе, Іване, шкуру і галаву.
— Братка, а ці гожа так ужо сябе ўшчамляць? Бяры лепш ты шкуру і галаву, мне ж і мяса хопіць.

## 1015. ПОЗНА ЎСПОМНІЎ

— Уяві сабе, учора я пайшоў на паляванне і забыў стрэльбу.
— І калі ты аб гэтым успомніў?
— На жаль, толькі тады, калі аддаў жонцы ўпаляванага зайца.

## 1016. ЗАЯЦ ПАДВЁЎ

— Як прайшло паляванне?
— Упяцёх аднаго зайца падстрэлілі.
— І як вы яго дзялілі?
— А мы яго не знайшлі.

## 1017. СВОЙ ПУНКТ ГЛЕДЖАННЯ

— Што такое паляўнічае шчасце? — спыталі аднойчы ў браканьера.
— Гэта ўменне добра замесці сляды, упаляваўшы буйнога звера без ліцэнзіі, — адказаў той.

## 1018. «ГУМАННЫ» ПАЛЯЎНІЧЫ

— Ці бывае вам шкада забітых звяроў?
— Вельмі шкада, калі іх забіваю не я, а хтосьці іншы.

## 1019. НЕ ЗГУБІЎ

Хлопчык пайшоў у магазін і падае прадаўцу бідончык:

— Мама прасіла, каб вы адпусцілі поўную пасудзіну малака.

— Які разумны хлопчык, ужо памагае маці, — хваліць прадавец. — Вось табе малако. Мама, відаць, дала табе і грошы на малако?

— Дала, я паклаў іх на дно бідончыка, каб не згубіць.

## 1020. ДЗЕД І ЎНУК

— Дзядуля, а ты быў калісьці маленькім? — пытаецца ўнук.

— Быў, унучак, быў...

— Вось ты смешным быў тады са сваёй лысінай і барадой.

## 1021. ЦЯБЕ ТАКСАМА БУСЕЛ ПРЫНЁС?

— Слухай, дзедку, — пытаецца Міхаська ў свайго даволі тоўстага дзядулі. — Цябе таксама бусел прынёс?

— Вядома, — адказвае дзядуля.

Міхаська недаверліва круціць галавой:

— Але, мабыць, не ўсяго адразу?

## 1022. КАЛІ ПАЧАЎ ХЛУСІЦЬ?

— Я, як быў у тваім узросце, так не хлусіў, — павучае дзядуля Янку.

— А калі ты пачаў гэта, дзедку?

## 1023. ІМЖАЧКА

Панёс хлопчык снеданне бацьку на поле. Той пусціў кабылу паскубсці і давай снедаць. А тут неба цёмнае стала, аблога, і сыпануў імжачка. Хлопчык глядзеў, глядзеў па баках дый пытае бацьку:

— Татка, татка, зірні, хтой-та ідзе?

А бацька есць ды гавора:

— Імжачка.

А тады хлопчык як закрычаў:

— Татка, імжачка жарабёначка павалок!

Падняў бацька галаву — бацюхны родныя! — воўк цягне жарабёнка.

## 1024. ЗДЗІЎЛЕННЕ

Дзеці падбеглі да бацькі, каб нешта цікавае яму паведаміць.

— Ціха вы, сарачаняты! Няхай хто з вас адзін гаворыць, а то ж я не магу адразу дваіх слухаць.
— А хіба ты, татка, на адно вуха дрэнна чуеш?

### 1025. ЦІКАЎНЫ

Маці гаворыць сыну:
— Сынок, табе ўжо пайшоў трэці годзік.
— А куды ён пайшоў?

### 1026. ЦЯЖКАЯ ЗАДАЧКА

Бацька купіў першакласніку прыгожы ранец і кажа:
— Глядзі, Міколка, каб ты кожны дзень прыносіў поўны гэты ранец пяцёрак.
— А куды ж я буду кніжкі класці?

### 1027. ЗАСПАКОІЎ

— Пеця, я купіла табе новы падручнік. Глядзі не запэцкай яго.
— Не хвалюйся, мама, я да яго нават і не дакрануся.

### 1028. РАМОНТ

— Мама, я цяпер ведаю, чаму называецца капрамонт. Наш дом адрамантавалі, а са столі капае.

### 1029. НАСТАЎНІЦА ВІНАВАТА

Вова прыйшоў са школы раней тэрміну.
— Што, зноў правініўся? — пытае маці.
— Настаўніца сама вінавата. Яна сказала: паводзьце сябе як дома. Я так і паводзіў сябе. І яна адправіла мяне дамоў.

### 1030. СУЦЕШЫЎ

— Што ты, татка, такі хмуры? — спытаўся ў бацькі першакласнік Грыша.
— Справы на рабоце расклейваюцца, сынку.
— Не вялікая бяда, я сёння прынёс бутэлечку клею.

### 1031. АСТРАНОМІЯ ВІНАВАТА

— Як мой сын вучыцца? — пытаецца бацька ў выкладчыка тэхнікума.
— Нішто сабе, зорак з неба не хапае.
— Я так і ведаў: ён і ў школе не паспяваў па астраноміі.

## 1032. УСЕМАГУТНЫЯ СІНОПТЫКІ

— Мама, якое будзе заўтра надвор'е?
— А гэта, сынок, залежыць ад сіноптыкаў.

## 1033. СВАЯКІ

Летам да бабулі прыехаў унук. Паселі яны на снапах, гутараць, а ўнук круціцца і потым пытае:
— Бабуля, цябе асцюкі кусаюць?
— Не.
— А чаму ж кусаюць мяне? Няўжо яны не ведаюць, што мы сваякі?

## 1034. НАЙДУЖЭЙШЫ

— Як у цябе справы з геаграфіяй?
— Я найдужэйшы ў класе.
— Няўжо?
— Безумоўна. Я ж заўжды з настаўніцкай прыношу ў клас вялікі глобус.

## 1035. СУЦЕШЫЎ

— Пошта сёння была? — спытаў бацька ў сынка.
— Была.
— А дзе ж свежыя газеты?
— Я парэзаў іх на карабельчэкі... Але, татка, ты не хвалюйся. Заўтра ж лістаносец прынясе яшчэ больш свежыя газеты.

## 1036. ЧАМУ ВЯЛІКАЯ ГАЛАВА?

Дзеці аглядаюць звярынец.
Н а с т а ў н і к. Дзеці! Хто скажа, чаму ў льва такая вялікая галава?
Д з е ц і. Каб не вылез з клеткі.

## 1037. СПРАВА Ў ХУТКАСЦІ

— Хто скажа, чаму бывае раса? — пытаецца настаўнік.
— Я ведаю! — паднімае руку Вася. — Зямля круціцца так хутка, што ажно пацее.

19. Зак. 109

## 1038. ХТО КАГО?

Маленькі Віця не хоча спаць. Бацька садзіцца ля яго ложка і пачынае расказваць яму казкі. Расказвае гадзіну, другую. Нарэшце ў пакоі становіцца ціха. Маці асцярожна прыадчыняе дзверы і пытаецца:

— Ён заснуў?

— Так, мама, заснуў, — шэптам адказвае сын.

## 1039. СУЦЕШЫЎ

У аўтобусе маладая жанчына дакарала падлетка, які не ўступіў месца старому.

— Нічога, не лайце хлапчука, — суцешыў дзядуля, — стане ён старым, таксама настаіцца.

## 1040. У ВОЛЬНУЮ ХВІЛІНУ

— Вова, калі ў цябе тата правярае дзённік?

— Калі псуецца тэлевізар.

## 1041. АШУКАЛА

— Мама, ты сказала, што ў яблыках шмат вітамінаў. Я іх парэзаў, а вітамінаў не знайшоў.

## 1042. ПАЛАХЛІВЫ ТАТА

— Мой тата вельмі палахлівы.

— Чаму ты так думаеш?

— Калі мы ідзём па вуліцы, ён заўсёды трымаецца за маю руку. Баіцца, што заблудзіцца!

## 1043. ЗДАГАДАЎСЯ

Маленькі Рыгорка пытаецца ў свайго сябрука:

— Васька, а ты ведаеш, чаму ў зайца вушы доўгія?

Васька доўга думаў, а потым сказаў:

— А-а, здагадаўся! Заяц, калі быў маленькі, не слухаўся свайго таты.

## 1044. НЕШТА ПАДОБНАЕ

Настаўнік рашыў праверыць вучняў на знаходлівасць і звярнуўся да аднаго з іх:

— Хто раз апячэцца, баіцца агню. Скажы што-небудзь падобнае, Пецця.
— Каго раз памылі, той баіцца вады, — адразу ж выпаліў Пецця і сеў на месца.

## 1045. ПРАТЭСТ

Маці выварвае бялізну. У хату ўваходзіць шасцігадовы Васёк і пытаецца:
— Што ты, мама, варыш?
— Бялізну.
— І мая кашуля таксама варыцца?
— Так, сынок.
Васёк трошкі падумаў і заяўляе:
— Вары не вары, мама, а сваю кашулю я ўсё роўна не буду есці.

## 1046. КАБ ЖА ВЕДАЎ

— Ты смелы? — пытае Цішка ў Колі.
— Смелы, — адказвае той.
— То чаму ж ты зайца спалохаўся, калі мы ў лес хадзілі?
— Дык я ж не ведаў, што гэта заяц.

## 1047. ЗДАГАДЛІВЫ ХЛОПЧЫК

— Мама, я ведаю, чаму падкоўваюць каня.
— Чаму, сынок?
— Каб ногі ў яго не мерзлі.

## 1048. ДЗЕ ПРАЦУЕ ЦЁТКА?

У пакоі паставілі новы буфет. Чатырохгадовы Ваня зазірнуў у адно аддзяленне, у другое.
— А дзе ж цётка Нюра? Яна ж у буфеце працуе.

## 1049. ЧАМУ РЫБЫ НЕ ГАВОРАЦЬ

На ўроку біялогіі настаўніца спытала:
— Чаму рыбы не гавораць?
Каця аж здзівілася:
— Як жа ж яны могуць гаварыць, калі ў іх увесь час галава ў вадзе!

### 1050. НАМАЛЯВАЎ КАНЯ

— Тата, наш настаўнік не ведае, як конь выглядае!
— Адкуль ты гэта ўзяў?
— У нас сёння быў урок малявання. Я намаляваў каня, а настаўнік пытаецца, што гэта.

### 1051. БРУДНАЯ ЖЫВЁЛІНА

Настаўнік. Ты пералічыў усе хатнія жывёлы, апрача адной. Мае яна шорсткія валасы, ненавідзіць ваду, бывае заўсёды брудная... Ну, Петрык, згадаў?
Петрык (*засаромеўшыся*). Гэта я...

### 1052. ПРАЧЫТАЎ

У першым класе ідзе ўрок чытання. Пятрок чытае подпіс пад малюнкам па літарах:
— Сы-у-мы-кы-а...
— Ну і што атрымаецца?
— Торбачка!

### 1053. ЭКЗАМЕН

— Ну, як там, сынок, з экзаменам?
— А нічога, раз-два і пайшоў, толькі трэба будзе яшчэ раз паўтарыць.

### 1054. ЗАПЫТАЛАСЯ

Настаўніца (*да вучня*). Коля, як трэба напісаць слова «невысока»?
Вучань. Нізка.

### 1055. У ШКОЛЕ

Настаўнік, выясніўшы асаблівасці люстра і для чаго яно служыць, пытаецца ў аднаго з вучняў:
— На што мусіш глянуць, каб пераканацца, ці чыста вымыўся, ды ці чысты твой твар?
— На ручнік, — не думаючы, адказвае вучань.

### 1056. УДАЛЫ ПРЫКЛАД

Настаўнік. Усе целы ад цяпла расшыраюцца, а ад холаду сціскаюцца. Ці не прывядзеш, Сцёпка, прыклад?
Сцёпка. Зімой дні карацейшыя, таму што холадна, а летам даўжэйшыя, таму што горача.

## 1057. ВАЖНАЯ ПРЫЧЫНА

Настаўніца. Чаму ты спазніўся на ўрок?

Вучань. У майго бацькі на гадзінніку цыферблат з памылкамі.

## 1058. КОЖНАМУ СВАЁ

На ўроку гісторыі настаўнік звяртаецца да вучня:

— Раскажы пра Аляксандра Македонскага.

— Не ведаю.

— А хто такі Актавіян Аўгуст? А Юлій Цэзар?

— Не ведаю.

— Двойка.

— Пачакайце, — гаворыць вучань, — а вы Мішку Сідарава ведаеце?

— Не ведаю.

— А Жору Каплюхіна? Таксама не? Ну, дык за што ж мне двойка? У вас — свая кампанія, у мяне — свая.

## 1059. ЗАГАВАРЫЎ

— Ну і загаварыў ты сёння настаўніцы зубы. Мінулы раз табе за такі адказ двойку паставіла, а сёння чамусьці пяць.

— А хіба ты не заўважыў? У яе сёння сапраўды балелі зубы.

## 1060. ЭКЗАМЕН НА НОСЕ

— Што ты ўвесь час глядзіш на мой нос? — звярнуўся старэйшы брат да малодшага.

— Я шукаю там экзамены, — пачуўся ціхі нясмелы адказ.

— Якія экзамены?!

— А я чуў, як бабулька гаварыла маці, што ў цябе на носе экзамены.

## 1061. НА ЭКЗАМЕНЕ

Настаўнік. На якім току працуе трамвай?

Вучань. Вядома, на пераменным. На пастаянным ён бы хадзіў толькі ў адзін бок.

## 1062. КАБ НЕ ПАВАЛІЦЦА

Маленькая Ніна ідзе па сходках з кубкам у руках.

— Асцярожна, Ніначка, не паваліся, — гаворыць ёй мама.

— Не, не павалюся — я ж за кубак трымаюся, — супакойвае яе дзяўчынка.

## 1063. ДВОЙКА

— Тата, а ты можаш пісаць у цемры?
— Думаю, што змагу.
— Тады патушы святло і падпішы мой дзённік.

## 1064. СЯСТРА «ПАГАВАРЫЛА Б»

Да тэлефона падышоў маленькі хлопчык.
— Бацькі дома? — спыталі ў яго.
— Не.
— А ёсць хто-небудзь яшчэ, з кім бы я мог пагутарыць?
— Мая сястра.
— Перадай ёй трубку.
Прайшло даволі многа часу, і затым хлопчык зноў узяў трубку.
— Я не магу выцягнуць яе з калыскі.

## 1065. ЯШЧЭ НЕ ВЫПІЛІ

Маці. Ты змяніла ваду рыбкам у акварыуме?
Дачка. Не, яны яшчэ не выпілі тую, што я ім учора наліла.

## 1066. ЦІ ТРЭБА БЫЛО ІСЦІ?

— Не бойся, маленькі, дзядзя доктар нічога табе не зробіць.
— Тады навошта ж мы да яго прыйшлі?

## 1067. ЗЛАДЗЕІ?

Стук у дзверы. Маленькая дзяўчынка, што засталася адна дома, пытаецца:
— Гэта хто? Зладзеі?

## 1068. ХТО ЗАБЛУДЗІЎ?

— Што здарылася, хлопчык? — спачувальна запытаў чалавек. — Ты заблудзіў?
— Не, — пачуўся мужны адказ, — я не заблудзіў, я тут. Толькі не ведаю, дзе заблудзілі мае тата з матуляй.

## 1069. ДАСЦІПНЫ

— Дзед, а дзед, ты маеш зубы? — пытаецца Андрэйка ў свайго дзядулі.
— О, унучак, ужо пятнаццаць год, як яны павывальваліся.
— Тады трымай мае арэхі, а я пабягу яшчэ нарву.

## 1070. ГАСПАДАРЛІВЫЯ ДЗЕЦІ

Адна жанчына хвалілася:

— У мяне дзеці з трох год са стала посуд убіраюць.

— А куды вы чарапкі дзяваеце? — запытала другая.

## 1071. ПАМЫЛКА

— Які мурзаты хлопчык! Сёння я магу сказаць, што ты еў учора.

— Ну, што?

— Кісель.

— А от і не. Кісель я еў яшчэ заўчора!

## 1072. ПЕРАД ПАЧАТКАМ КІНАСЕАНСА

— Колькі каштуе білет у кіно? — пытае хлопчык у касіра.

— Дзесяць капеек.

— Дык пусціце за пяць, я буду адным вокам глядзець.

## 1073. ЕЎ ЦІ НЕ ЕЎ?

— Ты, Янка, смятану еў?

— Барані божа.

— Чаму ж губы ў смятане?

— А можа...

## 1074. ПАЎЛЮЧОК І ПЕТРУЧОК

— Паўлючок, чаго плачаш?

— А бо гэты Петручок паўложка заняў!

— Другая ж палова астаецца табе!

— Але... Ён сярэднюю палову займае, а мне дае дзве чвэрці па баках...

## 1075. ЦІКАВАЯ

— Мамка, ці людзі ў зямлі родзяцца?

— Чаму так пытаешся, дзіцятка?

— Бо ўчора дзядзька Нупрэй пытаўся аб табе ў таты: «А дзе ж ты выкапаў такую бабу?»

## 1076. ШКАДА

Дзве дзяўчынкі забаўляюцца лялькамі з паперы і нешта да іх прыклейваюць.

Адна з іх кажа да другой:

— Пазыч мне твае сліны; шкада мне мае, бо я з'ела цукерку.

## 1077. ТАТА-ПАДАРОЖНІК

Па радыё перадавалі аб палёце спадарожніка. Пяцігадовая Ліза ўсклікнула:

— Мама! Дык гэта ж наш тата!

— Чаму, дачушка?

— А наш тата ўвесь час падарожнічае...

## 1078. ВОЎЧЫЯ ЯГАДЫ

Малое дзяўчо збірае ягады з куста воўчага лыка ля дарогі.

— Што ты робіш, дурніца? — пытаецца прахожы. — Гэта ж воўчыя ягады.

— Нічога, дзядзечка. Для ваўка яшчэ нарастуць.

## 1079. АБЛЯГЧЭННЕ

— Ведаеш, бабуля, некаторыя вучоныя даводзяць, што сонца пагасне праз 80 мільярдаў год...

— Як ты сказаў? Праз колькі год?

— Праз восемдзесят мільярдаў год.

— Ах ты, блазнюк, як напужаў! Мне здалося, што праз восем мільёнаў...

## 1080. ПАСПАЧУВАЎ

Фотарэпарцёр увечары ўзяўся праяўляць плёнку.

— Што гэта я на ёй нічога не бачу?

Маленькі сынок, які прысутнічаў пры гэтым, сказаў:

—А я яшчэ днём глядзеў гэтую плёнку і таксама нічога не бачыў.

## 1081. КРЫЎДА

Раніцай маці гаварыла бацьку:

— Які я цікавы сон сёння бачыла! — І пачала расказваць.

Маленькая дачушка, пачуўшы гэтыя словы, у сваю чаргу запыталася:

— Мама, а чаму ты мне яго не паказала?

## 1082. ПАРАДАВАЎ

Малы Пеця прыбег у хату і гаворыць маці:

— Мама, а сёння табе парсючка не трэба карміць.

— А чаму не трэба?

— Я зрабіў дзірачку ў плоце і пусціў яго ў гарод, няхай папасецца.

## 1083. НЕ ВІНАВАТЫ

— Калі ты, нарэшце, Коля, выправіш сваю двойку па арыфметыцы? — запытаўся бацька ў сына.

— А як я магу выправіць, калі журнал знаходзіцца ў настаўніцы?

## 1084. СЛОВА МАЙСТРА

— Гадзіннік сапсаваўся. Панясу рамантаваць майстру.

— Тата, не варта несці. Я яго ўчора ўвесь дзень разбіраў, і то нічога не паправіў.

## 1085. У ДЗІЦЯЧЫМ САДЗЕ

У дзіцячым садзе Валя хваліцца Пецю:

— Мая мама купіла нядаўна прыгожую сястрычку.

— А мы ў гэтым годзе не будзем купляць, бо грошай яшчэ не сабралі.

## 1086. ЦЯЖКАЯ ЗАДАЧКА

Настаўніца. Грыша, чаму ты не садзішся за парту?

Вучань. Не магу сесці — учора тата растлумачваў мне задачку.

## 1087. ТАТАВА ПРЫВІТАННЕ

— Васілёк, табе тата прывітанне прыслаў.

— А чаму ты мне яго не аддаеш?

## 1088. ВЕДАЕ ДАРОГУ

Настаўніца пытае ў вучня, які правінаваціўся:

— Ты чаму прыйшоў у школу адзін? Я ж казала табе без бацькоў не прыходзіць.

— Я не маленькі,— адказаў вучань,— і без бацькоў дарогу ведаю.

## 1089. УДАКЛАДНІЎ

Настаўніца. Віця, скажы, колькі будзе адзін плюс адзін?

Віця. Не ведаю.

Настаўніца. Ну, вось, напрыклад, твой бацька прыйшоў з работы. У адной кішэні ён прынёс табе адну цукерку, а ў другой кішэні яшчэ адну... Колькі будзе?

Віця. Мой бацька працуе на мясакамбінаце, ён цукерак не прыносіць. Ён прыносіць мяса.

Настаўніца. Віця, слухай уважліва. У адной кішэні твой бацька прынёс адзін кавалачак мяса, а ў другой — яшчэ адзін кавалачак. Колькі будзе?

Віця. Мой бацька кавалачкамі не носіць. Ён учора прывёз цэлае сцягно.

## 1090. ДЫПЛАМАТЫЧНЫ ПАДЫХОД

— Тата, дай мне, калі ласка, грошай, каб купіць сшыткаў і алоўкаў,— звярнуўся сын да бацькі.

— З задавальненнем,— адказаў бацька, падаючы трыццаць капеек.

— А без задавальнення ты можаш даць мне яшчэ дзесяць капеек? — папрасіў сын.

## 1091. ЗНАХОДЛІВЫ

На ўроку фізікі настаўнік спытаў вучня:

— Колькі законаў адкрыў Архімед?

— Сем,— адразу адказаў той.

— Калі ласка, пералічы іх.

— Першы, другі, трэці...

## 1092. САМА ВІНАВАТАЯ

— Ніколі не думала, што ты будзеш такім дрэнным хлопчыкам, — дакарае маці пяцігадовага сына.

— Сама вінаватая,— адказвае той.— Калі мяне купляла, трэба было больш уважліва глядзець на этыкетку, там было напісана, што я не надта паслухмяны.

## 1093. ПАМОЧНІК

Па вуліцы ідзе мужчына. У адной руцэ нясе гаспадарчую сумку, другою трымае за руку сына. Раптам малы спыніўся:

— Тата,— сказаў ён,— ты, мусіць, стаміўся. Давай цяпер буду я сумку несці. Толькі ты вазьмі мяне на рукі.

## 1094. КЕМЛІВЫ СЫН

— Што трэба зрабіць, каб малако не закісла ў цёплым памяшканні? — спытаў бацька ў сына.

— Яго трэба хуценька выпіць,— адказаў сын.

## 1095. ДАРАГІ ПАДАРУНАК

Дзед Рыгор, стары вясковы рыбак, пытаецца ўнука, які толькі што прыехаў з райцэнтра ў госці:

— Ну як, дзякавала мама за рыбу, што мінулы раз я пераслаў табою?

— О, яшчэ як! У яе знаёмай ёсць ажно чатыры каты!

## 1096. МАТРЫЯРХАТ

Малыя, гуляючы ў пясочніцы:
Я н а. Давай гуляць у тату і маму!
Ё н. Давай!
Я н а. Ты будзеш гатаваць абед...
Ё н. А ты?
Я н а. А я пайшла ў кіно.

## 1097. ХТО СПЯВАЕ?

— Мама, хто гэта спявае? — пытае пяцігадовы Вова ў маці.
— Певень,— адказвае маці.
— Значыць, у яго няма цешчы,— упэўнена гаворыць хлопчык.
— Чаму ты так думаеш? — здзівілася маці.
— А тата гаварыў, што пяе толькі той, у каго няма цешчы.

## 1098. ЁСЦЬ РОЗНІЦА

— Чаго гэта ты падрапаны? — пытаецца ў Цімоха Юрась.
Цімох яму адказвае:
— Дык я ж ката купаў!
— А я вось не падрапаны, хоць таксама купаў свайго...
— Э, дык ты ж не выкручваў яго і не сушыў!

## 1099. ХОЧА ВЕДАЦЬ

Па радыё ідзе перадача «Дарослым аб дзецях». Пяцігадовы Віця крычыць бабулі:

— Размаўляй цішэй! Перашкаджаеш мне слухаць перадачу.

— Гэта перадача для дарослых,— адказвае бабуля,— а ці ты ўжо дарослы?

— Але я хачу ведаць, ці правільна вы мяне выхоўваеце?

### 1100. БУДУЧЫ ШАФЁР

— Міша, кім ты хочаш быць, як вырасцеш? — запытала маці ў сына.

— Шафёрам!

— Чаму?

— Каб ты купіла мне сапраўдную машыну.

### 1101. НАВОШТА ВУЧЫЦЦА?

— Ты ж разумны хлопец, а не хочаш далей вучыцца,— папракнуў бацька сына.

— Калі я разумны, дык навошта вучыцца?

### 1102. ПАЦІКАВІЎСЯ

Пасля наведвання музея маленькі хлопчык пацікавіўся:

— Тата, а чаму ўсе славутыя людзі жылі ў музеях?

### 1103. ХТО БУДЗЕ ДОМА

Ці ты, бацька, у лес ідзі, а я буду дома, ці я буду дома, а ты ў лес ідзі.

### 1104. НА ДАРОЗЕ

— Дзядзечка, падвязі майго сына ў Плешчаніцы. Я вам за гэта заплачу там 10 капеек.

— А дзе я вас там знайду?

— А нашто шукаць? Каб лепей мяне было знайсці, то я сяду ззаду.

### 1105. ХІТРЫ ХЛАПЧУК

У кузню ўбег хлапчук. Убачыў, што каваль трымае ў шчыпцах гарачае жалеза, і кажа яму:

— Дзядзька, дай рубель — і я лізну.

Каваль, доўга не думаючы, дастаў з кішэні металічны рубель і падаў хлапчуку.

Той лізнуў рубель, а не жалеза, і пабег з кузні.

### 1106. СКЕМІЎ

Раніцай маці заўважыла, што Рыгорка спаў з бруднымі нагамі.

— Як жа табе не сорамна,— пачала яна дакараць малога.

— А гэта я ў сне па балоце хадзіў,— не міргнуўшы вокам, адказаў сын.

## 1107. НЯЎДАЛЫЯ ПОШУКІ

Пеця прыйшоў са школы і плача — дрэнную адзнаку атрымаў. Бацька пытаецца:

— А завошта атрымаў двойку?

— Не змог знайсці найбольшы агульны дзельнік двух лікаў...

Бацька пачухаў патыліцу:

— Глядзі ты: да гэтага часу не знайшлі. Дваццаць гадоў назад у мяне аб гэтым жа пыталі ў школе.

## 1108. ПРАБЛЕМА

— Тата, гэта праўда, што вялікія рыбы харчуюцца сардзінамі?

— Праўда, сынок.

— Дык а як жа яны адкрываюць бляшанкі?

## 1109. САМЫ СТАРЭЙШЫ

— Пятрусь, колькі вас усяго ў мамы?

— Дзевяць.

— Дык ты не самы старэйшы?

— Не, самы старэйшы дзядуля.

## 1110. ПАСКАРДЗІЎСЯ

— Дзядзька Міхась, ваш Іван — разява. Я стаяў на дарозе, а ён ехаў на калёсах і мне аглобляю ў рот трапіў.

## 1111. АДНА І ТАЯ Ж МАМА

— Вова,— сказала настаўніца,— тваё сачыненне «Наша мама» слова ў слова супадае з сачыненнем твайго брата.

— Вядома,— адказаў Вова.— У нас з братам адна і тая ж мама.

## 1112. АДНА ГАЛАВА

Малы Янка, вучань пачатковай школы, задумваецца над нейкаю задачаю і, не могучы даць рады, пачынае лічыць на пальцах.

— Сынок,— звяртаецца да яго з увагаю маці,— табе ўжо брыдка лічыць на пальцах — мусіш лічыць галавою...

— Але як, матулечка, калі я маю толькі адну галаву.

### 1113. У ШКОЛЕ

Настаўнік. Ну, дзеці, калі я вам расказаў, з чаго робяцца матэрыялы на вопратку, няхай мне Зося скажа, з чаго яна мае сукенку.

Зося. Са старой мамінай спадніцы.

### 1114. У ШКОЛЕ

— Калі найлепей збіраць яблыкі?

— Рваць найлепей тады, як няма нікога ў садзе.

### 1115. У ШКОЛЕ

Вясковы настаўнік пытаецца ў малога вучня, як ён завецца. Той не ведае, як адказаць.

— Ну, як маці кліча твайго бацьку на вячэру? — спрабуе высніць настаўнік.

— Сідару, хадзі есці!

— А як бацька матку?

— Марыля, крупнік давай.

— Ну, а як жа цябе?

— Мяне не трэба клікаць есці, я заўсёды першы пры місе.

### 1116. У ШКОЛЕ

— Што гэта такое — вада?

— Гэта такая цякоміна, якая робіцца чорнай, як у ёй патрымаеш рукі.

### 1117. У ШКОЛЕ

Настаўнік. Скажы мне, чаго не было 100 год назад?

Пятрук. Тэлефону, радыё, аэрапланаў.

Настаўнік. Вельмі добра, а яшчэ чаго не было?

Пятрук. Мяне і вас.

### 1118. ДАЎНЕЙШЫЯ ГІСТОРЫІ

— Дык, значыць, ваш хлопец і не здаў экзаменаў?

— Не, але чаму? Вы толькі падумайце... Настаўнік пытаўся ў хлопца такія гісторыі, якія тварыліся, як яшчэ не было яго на свеце.

### 1119. КОЛЬКІ Ў ЧАЛАВЕКА ВАЛАСОЎ НА ГАЛАВЕ

— Хто з вас адкажа мне на адно пытанне, той з лічэння дастане добрую адзнаку. Колькі чалавек мае валасоў на галаве?

— Пятнаццаць тысяч,— адказвае нейкі вучань.
— Адкуль жа ты гэта ведаеш?
— О, гэта ўжо другое пытанне, а мела быць толькі адно.

### 1120. РАСТУЦЬ, АЛЕ...

Малы Яначка быў у гасцях у цёткі. Яна яго частавала кіслымі гуркамі, якія яму вельмі спадабаліся.
— А ці ў вашым гародзе растуць гуркі? — пытае цётка.
— Растуць, але не кіслыя.

### 1121. МІХАСЬКА

Маці дакарае сына:
— Глянь, Міхаська, ты ж увесь у балоце, якое ты парасё!
Міхаська смяецца.
— Чаго ж ты смяешся? Ці ведаеш ты, што такое парасё?
— Ведаю,— кажа сынок.— Парасё — гэта дзіця вялікай свінні.

### 1122. «ДЗЯКУЙ БОГУ!»

— Ну, Яначка, развітайся з цёткаю! Што кажуць, калі цётка адходзіць?
— Дзякуй богу!

### 1123. НЕ ЦІКАВЫ

Раз пастушок недагледзеў і пусціў каровы ў збажыну. Раптам убачыў гаспадара, які як раз нарваўся, і... наўцёкі. А гаспадар, даганяючы, крычыць:
— Пачакай, пачакай, нешта скажу!
Пастушок жа толькі і ведае, што ўцякаць, і, не азіраючыся, адказвае:
— Я не цікаўны! Я не цікаўны!

### 1124. ЧАМУ МАЛАДЫ Ў ЧОРНЫМ?

— Мама! Чаму маладая мае такую белую сукенку?
— Бо сёння ёй вельмі радасны дзень.
— А чаму малады ўбраўся ў чорнае?
— Ах, не задавай такіх дурных пытанняў, смаркач...

### 1125. ДЗЕЦІ

— Чаго хочаш?
— Яшчэ есці.
— Я ж цябе толькі накарміла.
— Ну дык што... Яшчэ мне жывот не баліць.

## 1126. НА ВУЛІЦЫ

—Смаркач!.. А ўжо курыць папяросы!.. Пачакай жа, пайду да твайго настаўніка і скажу.

— Не турбуйцеся, я яшчэ не хаджу ў школу.

## 1127. ЖЫВОТ І ГАЛАВА

— Мамачка, мне жывот баліць,— скардзіцца падростак.

— А гэта ад таго, што ў цябе пусты жывот. Каб у ім што-небудзь было, табе было б лепей,— сказала жартуючы маці.

У той жа вечар прыйшоў у госці знаёмы настаўнік і ў гутарцы сказаў, што ў яго сягоння ўвесь дзень баліць галава.

Падростак на гэта і кажа:

— А гэта ад таго, што ў вас пустая галава. Вам было б лепей, каб у ёй што-небудзь было.

Анекдоты колькасна пераважаюць сярод іншых жанраў вуснай народнай прозы ва ўсіх народаў свету. Шасцітомны міжнародны паказальнік анекдотаў, складзены С. Томпсанам [1], няпоўнасцю ахоплівае апублікаваны фальклорны матэрыял, асабліва ўсходнеславянскі. У міжнародным паказальніку казачных сюжэтаў Аарнэ—Томпсана [2], а таксама ў рускім [3], беларускім [4] і параўнальным усходнеславянскім [5] паказальніках казачных сюжэтаў адзначаны ў абмежаванай ступені толькі анекдоты, якія маюць пэўную сюжэтную аснову і вядомы ў варыянтах казачнага характару, галоўным чынам анекдоты, напоўненыя падрабязнасцямі, матывамі, што нагадваюць казкі або з'яўляюцца традыцыйнымі для іх, кантамінуюцца з казачнымі сюжэтамі. Разам з тым да анекдотаў непасрэдна прымыкаюць разнастайныя гумарэскі, жарты, досціпы, гутаркі, лаканічныя дасціпныя пытанні і камічныя адказы, гумарыстычныя былічкі. Гэты матэрыял вельмі багаты, аднак недастаткова ўлічаны, не сістэматызаваны. Яго вельмі цяжка дыферэнцыраваць на ўласна фальклорны і пайфальклорны. Няма звестак аб вусным бытаванні мноства анекдотаў, апублікаваных без адпаведнай пашпартызацыі і вядомых фальклорных варыянтаў.

Каменціруюцца толькі тыя тэксты анекдотаў гэтага тома, якія адпавядаюць (дакладна або часткова, прыблізна) сюжэтным тыпам, улічаным ва ўсходнеславянскім і міжнародным паказальніках СУС, АТ. Звяртаецца пры гэтым увага на геаграфічнае распаўсюджанне і літаратурную гісторыю таго ці іншага сюжэта, колькасць беларускіх, рускіх яго варыянтаў (даныя СУС з улікам самых апошніх публікацый) і на асаблівасці, характэрныя для ўсходнеславянскіх або толькі для беларускіх варыянтаў, а таксама на пэўныя асаблівасці публікуемага тэксту. У першую чаргу ўказваецца нумар сюжэтнага тыпу па паказальніку СУС і ў тым выпадку, калі ён не супадае з нумарам па паказальніку АА, даецца спасылка на яго. Знак «мінус» пасля кароткага абазначэння ўсходнеславянскага паказальніка (СУС—) азначае, што даны нумар адсутнічае ў міжнародным паказальніку АТ і ўведзены ва ўсходнеславянскі паказальнік на аснове рэгіянальнага фальклорнага матэрыялу.

---

[1] Tompson Stith. Motif-Index of Folk-Literature. Copenhagen and Bloomington, 1955—1958; vol. 1—6.

[2] The Types of the Folktale. A Classification and Bibliography. Antti Aarne's Verzeichnis der Marchentypen. Translated and enlarged by Stith Thompson. Second Revision.— Helsinki, 1961 (1964, 1973). Агульнапрынятае абазначэнне паказальніка — АТ.

[3] Андреев Н. П. Указатель сказочных сюжетов по системе А. Аарне.— Л., 1929. Агульнапрынятае абазначэнне паказальніка — АА.

[4] Бараг Л. Р. Сюжэты і матывы беларускіх народных казак. Сістэматычны паказальнік.— Мн.: Навука і тэхніка, 1978.

[5] Сравнительный указатель сюжетов. Восточнославянская сказка / Составители Л. Г. Бараг, И. П. Березовский, К. П. Кабашников, Н. В. Новиков.— Л.: Наука, 1979. Далей скарочана: СУС.

Звесткі аб архіўнай або друкаванай крыніцы паведамляюцца адносна кожнага публікуемага тэксту. Разам з тым паведамляюцца наяўныя (не заўсёды поўныя) даныя: дзе, ад каго, кім і калі запісаны тэкст.

## АСНОЎНЫЯ СКАРАЧЭННІ

Андреев — Н. П. Андреев. К характеристике украинского сказочного материала.— У зб.: С. Ф. Ольденбургу. М.; Л., 1934, с. 60—72.

Афанасьев — Народные русские сказки А. Н. Афанасьева / Подготовка текста и примечания В. Я. Проппа.— М., 1957, т. 1—3.

Бараг — Л. Бараг. Народные сказки, легенды, предания и были Башкирии.— Уфа, 1969.

Бессараба — И. В. Бессараба. Материалы для этнографии Херсонской губернии. Сборник ОРЯС АН.— Пг., 1916, т. 94, № 4.

БНТ, 1971 — Казкі пра жывёл і чарадзейныя казкі / Склад. К. П. Кабашнікаў.— Мн.: Навука і тэхніка, 1971.

БНТ, 1976 — Сацыяльна-бытавыя казкі / Склад. А. С. Фядосік.— Мн.: Навука і тэхніка, 1976.

Гнедич — П. Гнедич. Материалы по народной словесности Полтавской губ.— Полтава, 1916, вып. 4.

Гринченко — Б. Гринченко. Этнографические материалы, собранные в Черниговской и соседних с нею губерниях.— Чернигов, 1895, 1897, вып. 1—2.

Гринченко, Вес. Оповідач — Б. Грінченко. Веселий Оповідач.— Чернігов, 1913.

Добровольский — В. Н. Добровольский. Смоленский этнографический сборник.— СПб, 1891, ч. 1.

Драгоманов — Малорусские народные предания и рассказы. Свод М. Драгоманова.— Киев, 1876.

Левченко — Казки та оповідання з Поділля / Упорядкував М. Левченко.— Київ, 1928, вип. 1—2.

ЛМЯК — Літаратурны музей Якуба Коласа.

Романов — Е. Р. Романов. Белорусский сборник.— Витебск, 1887, вып. 3.

Романов, Материалы — Е. Р. Романов. Материалы по этнографии Гродненской губернии.— Вильно, 1912, вып. 2.

Сержпутовский — А. К. Сержпутовский. Сказки и рассказы белорусов-полешуков.— СПб, 1911.

Сержпутоўскі, Казкі — А. К. Сержпутоўскі. Казкі і апавяданні беларусаў з Слуцкага павета.— Л., 1926.

Шейн — П. В. Шейн. Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края.— СПб, 1893, т. 2.

Federowski — M. Federowski. Lud białoruski na Rusi Litewskiej.— Kraków, 1897—1903, t. 1—3.

Moszyńska — Moszyńska. Bajki i zagadki ludu ukraińskiego.— Zbiór wiadomości do antropologii krajowej, 1895, N 9.

Weryha — Podania białoruskie, zebrane przez Władysława Weryhę.— Lwów, 1889.

ZWAK — Zbiór wiadomości do antropologii krajowej.

Pietkiewicz — Czeslaw Pietkiewicz. Kultura duchowa Polesia Rzeczyckiego.— Warszawa, 1938.

# ЖАРТЫ, АНЕКДОТЫ, ГУМАРЭСКІ ДАРЭВАЛЮЦЫЙНАГА ЧАСУ

### 1. Сцізорык згубіўся

СУС 2040. АА *2014. ЛМЯК. Рукапісны фонд. Зап. Я. Колас у 1899—1900 гадах на Беларусі.

Кумулятыўныя (цэпныя) казкі, анекдоты тыпу «Усё добра..., але сцізорык зламаўся» распаўсюджаны ў розных краінах Еўропы, вядомы ў Амерыцы, Індыі і на Блізкім Усходзе, дзе сюжэт звязаны з вобразам Хаджы Насрэддзіна. Літаратурная гісторыя гэтага сюжэта пачынаецца з XIII ст. («Exempla» Жака дэ Вітры). Ва ўсходнеславянскіх анекдотах і рускім народным фарсе «Голы пан» ён атрымаў вострую антыпанскую сатырычную накіраванасць. Бел. вар.— 4, рус.—13, укр.—Грінченко, Вес. Оповідач, № 41. Параўн. больш поўны тэкст у кн.: Сацыяльна-бытавыя казкі, № 80, с. 182—186.

### 2. Асцярожны дакладчык

СУС 2040. АА *2014. Шейн, № 158, с. 321. Зап. А. Ганус у канцы XIX ст. у Мсціжскай вол. Барысаўскага п. Мінскай губ. ад Я. Бузы. Ад яго ж запісаны № 4.

Гл. камент. 1.

### 3. Віншаванне

СУС1698С*. Шейн, № 150, с. 315. Зап. І. Дрэлінг у канцы XIX ст. у г. Барысаве Мінскай губ.

Анекдоты гэтага тыпу пашыраны пераважна ва Усходняй Еўропе. Бел. вар.— 2, рус.— Анисимова А. П. Песни и сказки Поимского района.— Пенза, 1948, с. 90; укр.— 3.

Набытак — маёмасць.

### 4. Забыўся фамілію

СУС1687**. АА *2081. Шейн, № 151, с. 320. Зап. А. Ганус у канцы XIX ст. у Мсціжскай вол. Барысаўскага п. Мінскай губ. ад Я. Бузы. Ад яго ж запісаны № 2. Укр. вар.— Афанасьев, № 467.

### 5. Кісель

СУС 1687=АА 1687*. Шейн, № 146, с. 312. Зап. П. В. Шэйн у канцы XIX ст. у м. Чашнікі Лепельскага п. Віцебскай губ. ад М. Каткевічоўны.

Сюжэтны тып «Чалавек забывае засвоенае слова» адзначаны ў паказальніку СУС, рус. вар.— 6, укр. — 5, бел.— 3.

### 6. Мя не руш

СУС 1700. АА **1701. З архіва сектара этнаграфіі і народнай творчасці Інстытута гісторыі АН БССР. Зап. у 1964 г. у в. Чырвонае возера Старобінскага р-на Мінскай вобл.

Анекдоты тыпу «Мя не руш» («Няхай», «Я, Нікога, Каравул» і г. д.) адзначаны ў міжнародным паказальніку АТ у фінскім, эстонскім, сербахарвацкім, грэчаскім, афрыканскім і амерыканскім (негрыцянскім) фальклорным матэрыяле, але яны сустракаюцца ў латышскім (Паказальнік Арайса і Медне, с. 218), беларускім (4 вар.), украінскім (2 вар.) і рускім (Ончуков Н. Северные русские сказки, 1908, № 251).

### 7. Як паляшук пана сабакаю зрабіў

Federowski, 3, 426, с. 215. Зап. М. Федароўскі ў канцы XIX ст. у Дварчанах Ваўкавыскага п. Гродзенскай губ. ад Магдусі Крэўчыкавай.

### 8. Адказы мужыка

СУС 1698. АА 2008*. Шейн. № 163, с. 324—325. Зап. І. Дрэлінг у канцы XIX ст. у Барысаўскім п. Мінскай губ. ад сялянкі Тадоры.

Анекдоты гэтага тыпу распаўсюджаны па ўсёй Еўропе і ў іншых частках свету. Бел. вар.— 18, рус.— 3, укр. — 22. Параўн. тэкст 10.

Торчыць — нястругáныя доўгія дошкі.

Зюканне — сяброўская размова.

### 9. Трапіла каса на камень

СУС 1698. АА 2008*. Federowski, 3, № 14, с. 6—7. Зап. М. Федароўскі ў канцы XIX ст. у в. Дварчаны Ваўкавыскага п. Гродзенскай губ. ад К. Данільчыкавай.

Гл. камент. да тэксту 8.

### 10. Мужык і пан

СУС 1698. АА 2008*. Шейн, № 164, с. 325—327. Зап. І. Купрашэвіч у канцы XIX ст. у в. Драгічын Ізабелінскай вол. Ваўкавыскага п. Гродзенскай губ.

**Параўн. тэкст 8.**

Лісіцы — прыстасаванне для ўмацавання драўляных сцен.

### 11. Ідзе мужык дарогаю...

СУС 1698. АА 2008*. Романов, № 35, с. 433. Зап. Е. Р. Раманаў у 80-х гадах XIX ст. у Гомельскім п. Магілёўскай губ.

Гл. камент. да тэкстаў 8—10.

### 12. Дагадзіў

Ніва (Беласток), 1974, 17 лют.

### 13. Гутарка пана з селянінам

СУС 1702 С*. АА *2014 II. Беларуская літаратура XIX стагоддзя. — Мн., 1950, с. 49—51.

Гэты камічны дыялог дурнога пана з разумным, іранічным мужыком — ананімны літаратурны твор, у якім выкарыстаны фальклорныя сатырычныя матывы. Ён атрымаў часткова вуснае распаўсюджанне. Фальклорныя варыянты адзначаны ў параўнальным паказальніку сюжэтаў усходнеславянскіх казак: бел. — 11, рус. — 7, укр. — 12. Параўн. 282.

Васпане — міласцівы пан, ваша міласць.

Хлопец — тут прыслужнік пры набажэнстве.

Траксім, непіраксім, піраксім — перакручаныя словы лацінскай малітвы.

### 14. Адказ мужыка

Шейн, № 162, с. 323—324. Зап. П. В. Шэйн у канцы XIX ст.

### 15. Хто пра што

СУС 1702С* = АА*2014 II. Шейн, № 155, с. 319. Зап. Д. Лапотка ў в. Мажэвічы Слуцкага п. Мінскай губ.

### 16. Як разумеюць «панскую гутарку»

СУС 1699В. АА *2140. Вожык, 1967, № 3, с. 11. Анекдоты-гутаркі гэтага тыпу («Не зразумелі адзін аднаго») адзначаны ў міжнародным паказальніку АТ у ліўскім, нямецкім, французскім, сербахарвацкім, індыйскім і амерыканскім матэрыялах. Бел. вар. — 10, укр. — 9; яны вылучаюцца сацыяльнай антыпанскай накіраванасцю. Параўн. тэкст 82.

Зврунь — звярні, павярні.

Сконт — скуль.

З якей ты всі? — З якой ты вёскі?

### 17. Абхітрылі пані

Ніва, 1983, 10 крас.

### 18. Як хлоп каня вучыў

СУС 1675 А*. Federowski, 3, № 275, с. 154. Зап. М. Федароўскі ў канцы XIX ст. у в. Лыскава Пружанскага п. Гродзенскай губ. ад Ф. Кулеша.

Сюжэт анекдота блізкі да тыпу «Мужык бярэцца навучыць асла гаварыць: за 20 гадоў або ён здохне, або пан памрэ». Вядомы ва ўкраінскім фальклоры.

### 19. «А мне — толькі вуха!»

Ніва, 1975, 30 сак.

### 20. Вушы ў нагах

Беларускія жарты. — Мн., 1915, с. 23.

### 21. Паны і мужык

АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, спр. 8, сш. 1, с. 16. Зап. П. К. Палякоў у 1964 г. у в. Іллінка Магілёўскага р-на і вобласці ад С. Куляшовай.

### 22. Даведаўся

Ніва, 1975, 23 чэрв.

### 23. Мужык і пан

Ніва, 1975, 14 верас.

## 24. Расказваць ці слухаць?

Ніва, 1975, 21 снеж.

## 25. Знаходка мужыка

ЛМЯК. Рукапісны фонд. Зап. Я. Колас у 1899—1900 гадах на Беларусі.

Часткова нагадвае анекдоты пра дурных і прасцякоў тыпу 1314 («Бочку прымаюць за смерць»).

## 26. Ганарысты пан

ЛМЯК. Рукапісны фонд. Зап. Я. Колас у 1899—1900 гадах на Беларусі.

## 27. Як лёкай пана ашукаў

СУС 1423=АА *1563 III. Federowski, 3, № 227, с. 127—128. Зап. М. Федароўскі ў канцы XIX ст. у в. Дрыга Сакольскага п. Гродзенскай губ. ад Я. Дзежкі.

Сюжэтны тып «Цудадзейнае вакно: муж бачыць праз вакно, як слуга цалуе яго жонку, апошні апраўдваецца тым, што так, быццам, відаць пры дапамозе чарадзейнага шкла» — вядомы ў рускім і ўкраінскім фальклоры (рус. вар. — 1, укр. — 3).

## 28. «Дваранін»

ЛМЯК. Рукапісны фонд. Зап. Я. Колас у 1899—1900 гадах на Беларусі.

## 29. Абы не пан

Ніва, 1974, 9 чэрв.

## 30. Лепшых паслалі да лепшых

ЛМЯК. Рукапісны фонд. Зап. Я. Колас у 1899—1900 гадах на Беларусі.

## 31. Мужык разумнейшы за пана

СУС 875 (часткова: адказы абаронцы чалавека, на якога падала ў суд, вельмі нагадваюць адказы на пытанні-загадкі дзяўчыны-сямігодкі ў казках тыпу «Мудрая дзяўчына»). Federowski, 3, № 117, с. 152. Зап. М. Федароўскі ў канцы XIX ст. у в. Хадакоўцы Гнезненскай вол. Гродзенскай губ. ад Юрака Бучылкі.

Матывы казак тыпу 875 адзначаны ў старажытных усходніх літаратурных помніках («Махабхарата», «Ятака»), у заходнееўрапейскай літаратуры (зб. «Dolopotos», «Gesta Romanorum», апакрыфічныя дыялогі Саламона і Марольфа) і ў рускіх аповесцях XI—XVI стст. пра Пятра і Фяўронню, Дзмітрыя Басаргу і сына яго Борзамысла. Бел. вар. — 10, рус. — 36, укр. — 28. Параўн. поўныя казачныя тэксты ў кн.: Сацыяльна-бытавыя казкі, № 6, 7, с. 30—35. У адрозненне ад іх тэкст, запісаны ў в. Хадакоўцы Федароўскім, не навелістычны, а анекдатычны.

Вынадгарадзіў — апраўдаў, вызваліў.

## 32. Мужык, пан і Спас

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 44, сш. 3, с. 22. Зап. А. С. Фядосік у 1959 г. у в. Кашэвічы Капаткевіцкага р-на Гомельскай вобл. ад А. Е. Коржыц, 55 г.

